

АПОВЕСЦЬ
ПРА ЦІКАЎНУЮ
ЎНУЧКУ І
ДЗЕДА-ЎСЯВЕДА

ПАЭМА
АБ МАТЧЫНАЙ
ЛЮБВІ

РАСКАЗ
ВЯЗНЯ
ТРАСЦЯНЦА

НАРЫС ПРА
ГАСПАДАРА ЛЕСУ

ДРУЖБА
СТУДЭНТАЎ
БЕЛАРУСІ І
ЧЭХАСЛАВАКІІ

ТЭАТРАЛЬНЫЯ
ПРЭМ'ЕРЫ ГОДА

У ВЯНОК
МАКСІМУ
БАГДАНОВІЧУ

ІНТЭРВ'Ю
З УЛАДЗІМІРАМ
ДУБОЎКАМ

12

СНЕЖАНЬ

МІНСК, 1966

Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА



# ЖЫТА



Прапрадзед Нёман
Змогся сярод лугу —
Касец у поўдзень дрэмле пры капе.
Пад шорхат сена слухаў бы і слухаў
Спрадвечны твой
Цягуча-сціщны спеў.
Увесь сусвет ад спёкі парыжэў.
Спакой і ціша.
Праца — на вякі.
Навокала — духмяныя валкі,
А конік мурагі стрыжэ,
стрыжэ.
А стрыглі ж кулі стрэхі, сенажаці.
Зямля маўчала, чорная, як цень.
Як здолела ты зберагчы нам, Маці,
Жыццё лугоў, і рэчак, і дзяцей?
Ды прыхаваць за пазухай
у горы
Кавалак чэрствы
на галодны рот,
Ды пасму лёну, каб прыкрыць чым сорам,
Ды світку чыстую — адну на цэлы род.
Ды песню-байку, што замест хлеба
На сон дзіцяці з даўніны ўзялі.

Мал. П. Драчовай.



Світанку-песню,
што будзіла неба,
Застаючыся ў глыбіні зямлі.
Паходню,
Што ўздымала неўміручых
З сякерамі, цапамі Кастусёў.
Што білася, нібыта стрыж, аб кручы,
Ажно стагнала наваколле ўсё.
На вуснах захлыналася
у петлях,
Жыўцом ішла ў магілу — на гады —
Ды прабівала выйсце з таго свету,
Каб зноў бурліць у сэрцах маладых.

■

— А дзе ж мая доля? —
Пытаюся ў поля.
Маўчыць зямліца,
Сказаць баіцца.

— Дзе ж мой гаспадарык?
Ці бачылі, хмары?
Цягуча, нема
Грыміць маё неба.

— Дарогі-мілі,
Дзе мой кармілец?
Гукаю, еду —
Нідзе ні следу.





— Вятрыска гарачы,
А дзе ж мой дарадчык?
Віхор на дарозе
Разбіўся вобзем.
*Удовіна песня.*

На аднаселлі воддаль ад гасцінца
Жыла-была Марыля-маладзіца
І мела трох хлапцоў і чалавека.
І гаспадар быў не старога веку.
А маладзіца — проста што агонь.
Такой увішнай не было другой.
Як возьмецца, па пожні пройдзе раз —
Цяжкія бабкі выстраены ў рад:
— Хадзі, Ігналька,
Прынімай парад.
Так і гарэла
дома і на нівах,
У свята й то не выспаўшыся ўволю.
Цяжкая праца — толькі для лянівых.
Марыля за яе не папракала долю,
Наадварот, шчаслівую была,
Пакуль над хатаю вайна не загула.
Бамбілі, кажуць, горад тую ноч.
Спалохалася маці за сыноў:
Малыя ўсе яны, яе сыны,
А што ім напрарочыў лёс вайны:
Ці перанесці гора, перажыць?
Ці безбародыя галованькі зламыць?
І першы раз за ўсе свае гады
А ні да чога не прыклала рук.
Па хаце сноўдала туды-сюды,
Хадзіла то ў гумно, то на гару
Ды ўсё карміла, гладзіла дзяцей.



І так стамілася за цэлы дзень,
Што пад сабой зусім не чула ног...
Праз пару дзён паспакайнела зноў.
За працу прынялася, як заўсёды,
Ды ўжо не мела з працы асалоды.

Стаў дзецюком Сымон
да той часіны.
І пры спадніцы не трымала сына.
Да сэрца прыгарнула малышоў.
Прамовіла:
— Ідзі.
...Сымон пайшоў.

■

Ён прыходзіў дадому ўпоцем.
Ён прыносіў дадому
Стому
Ды бялізну ў крыві і поце.
З ім прыходзілі хлопцы —
Сябры па бары,
Пры цяжкой, бязлітаснай зброі,
Трое.
Затыкала рыззём аканіцу.
Запальвала ў кухні газніцу.
Чатырох распранала.
Чатырох разувала.
Чатыром памагала
памыцца.



Разамлелых, чыстых, вясёлых,
Частавала бульбай без солі,
Ды з сяменя мачанкай
Ды маўчанкай.
Дзе хто ўпаў,
Там і спаў.
А яна
Мыла-латала да відна,
Адганяючы страх упарта,
Стаяла над імі, як варта.
Уздыхаючы, на дасвецці
Тармашыла:
— Збірайцеся, дзеці.
Дадала, налiваючы есці:
— На світанку пахкалі дзесьці.
Беражыце галовы, дзеці.

Аднойчы з'явілася шмат.
Пэўна, цэлы атрад.
Перад ёю пасталі самотна
Без Сымона.
На месцы яго за сталом
Зазеўраў халодным дулам
Аўтамат.
Суровыя, ўсе прыселі
З прымкнутымі штыкамі.
Здалося,
Не бульбу елі —
Камень.
Яна сама скамянела,
Счарсцвела раптам ад гора.
Маці спытаць не пасмела:
— А дзе той пагорак?





■

Як помсту,
Сынаў аўтамат
У рукі мужу аддала сама.
Пагладзіўшы дрыготка малышоў,
Ігналь у ноч з мужчынамі пайшоў.
А на гасцінцы — камяні гудуць.
А па гасцінцы — ворагі ідуць.
Галосіць, вые ў лесе сухастой,
Маўчыць у хаце баба сіратой.
Зноў паншчына вярнулася назад.
Завылі згаладала, як ваўкі,
Сабраўшыся у зграю, бандзюкі:
— Папартызанім супраць партызан.
Штоноч
 пад Ігналёвымі платамі,
Шалёныя, зубамі лескаталі.
Удзень таксама па чарзе
Здаля
Сачылі за сядзібай Ігналя.
Упэўнены былі, што хоць аднойчы
Ігналь да жонкі і дзяцей заскочыць.
Так, гаспадар пастукаў у акно.
Таропка, прыглушана засоп
Цяжкі засоў.
І цішыня сцялася зноў.

А праз гадзіну грукнулі яны —
У хаце засвісталі бізуны.
Па-зверску, дзіка, люта катавалі —







Да непрытомнасці,
 вадою адлівалі...
Паставілі навокал, каб глядзелі,
Марылю, Міхася, Фадзея.

Сыны!
Высока галаву трымайце!
Замрыце перад ворагам, як маці.

Бясконца вылі, вылі бізуны.
Ён толькі, непрытомны, енчыў.
Прыставілі пры дзецях да сцяны.
Бабахнулі ў абвугленыя плечы.
Ды выслізнулі ў сені,
Як вужы.

Пасярод хаты гаспадар ляжыць.
А ты, нібы распятая на крыж,
Натруджаныя рукі заламаўшы,
Над ім,
Над непакораным,
Над паўшым,
Закамянела,
Сцялася,
Маўчыш.
Толькі як на двор яго панеслі
Суседзі, блізкія
 ў апошні шлях,
Аж захлынулася той страшнай песняй,
Якую не асіліла б зямля.



■

Не дубцом, а дудою
Гоніць статак дадому.
Шмыг суседка з-за вугла:
— Мышка, Мышка,
Дзе была?
— Не была я ані дзе.
Дай сыграю на дудзе.
— У цябе ж у носе
Свой свісток завёўся.
Ці ты гадуеш там казу?
— Затое нестацка сказу.
— Не падласвайся, ліска,
Мне і слухаць не ахвота.
Ты дуду абслініш пыскай.
Гэта тонкая работа.

Зварухнуў праменне ў чубе
Ды дамоў сабе панёс.

— Ты, Фадзей, напэўна любіс
Толькі свой задраны нос.
— Не, яшчэ люблю дуду
Ды каровак чараду,
Ды адну малую Мышку —
Толькі крышку,
Толькі крышку.
А тых, што вострацъ язычкі
Ды цікуюць праз ваўчкі,
Як стракозы, скачуць полькі,—
Ані колькі, ані колькі.
— А яны казалі мне:
Сам ты скачаш у гумне,
Абхапіўшы за бок,
Нібы дзеўку, снапок.
— Я хлапец — не ўломак,
Лепей куль саломы
Пацягаю за палу,
Чым якую чапялу.

У сваіх семнаццаць сумных зім
Ты наіўным быў яшчэ зусім.
Думаў, што бандыты з воўчымі зубамі,
Як вавёркі, жывяцца грыбамі.
Што яны, зашыліўшыся ў норы,
Як зайцы, задралі лапкі ўгору.
А яны ў бярлогах не драмалі,
Дзверы ў душы да людзей ламалі.
Пасылалі полымя і дым
Замятаць крывавыя сляды.
Ды у смертаноснай той сяўбе
Помнілі таксама пра цябе.
А вясновай хмельнаю нядзелькай
Нацкавалі дурняў маладзенькіх.
Счубіліся.
Пачалі вайну.
Нехта з-за вугла як пекануў...
Зразу нават болю не адчуў.





Толькі сэрца сцяў пякельны сум.
Ціха-ціха падаў на расу —
Неба калыхнулася ў ваччу.
Глуха-глуха рэха пацякло
Праз усё аглохлае сяло —
За сады, за гумны,
На прастор.
— Мама!
Уратуй!
Заступі! —
Крыкнуў, а пачуўся млявы стогн:
— Пі-і-ць...
Не ўтрымала конаўку рука.
Уся зямля ў прадонне паплыла.
Дзе ж ты, Мышка, ў гэты час была,
Што не зберагла сябрука?

А праз дзень
Тых контраў звязаных,
Што білі сыноў партызанскіх,
Прывялі да Марылінай хаты:
— Пазнаеш таго ка́та?

Знявечаная ў горы рука
Паказала на Шчупака:
— Бацьку ён застрэліў...
І сыну гразіў...

Быў Шчупак увесь у рыззі.
Быў Шчупак увесь у гразі.
На далонях, на шыі, на носе
Парасло, як у звера, валоссе.
На ўпадзінах шчок выспеў мох.
На сэрцы, відаць, не меней
Той брыды, што расце на камені.
Як ён дыхаць паветрам мог
Столькі ціхіх год на вайне
У балотным тым будане?
Як корч не струхлеў,
Не прагніў.
Не падпражыўся, сонны, ў агні.
Не павесіўся сам на асіне.
Дзе ён кулю бярог
Для сваіх гвалтоўніцкіх спраў?
Чаму ён яе не паслаў
У мяне,
У мяне — не ў сына?

■

На балоце лозы
Пабілі марозы.
Не плач, маці, не ўбівайся —
Беражы слёзы.
Заламаўшы горкія асіны,
Беражы слёзы апошняму сыну.





Бо ў яго таксама долі не будзе.
Жоўтыя сухоты душаць грудзі.

**Ён ад страху тады як збялеў,**
**Так і вырас белы, як соль.**
**Піў гаркоту-гароту і лекі,**
**Ды, нібы сухастоіна, сох.**
**На выгляд васковае цела**
**Загараць, як усе, не хацела.**
**Нібы яйка, на сонцы свіцілася,**
**За сабой не давала ценю.**
**Перад холадам вечным грэў**
**Ён сябе.**
**Чуў, што хутка памрэ.**
**Засопшыся, чэрвень босы**
**Не яго выклікаў на пракосы.**
**Тарпоў яму ўжо не мяці.**
**Вінавата глядзеў на маці:**
**Як яе, арабіну горкую,**
**Пакідаць з пясчанымі ўзгоркамі,**
**На якіх распласталіся цені**
**Мацярынскай яе пацехі?**



**Ды прысніла ноччу сон дзявочы**
**Сірата-маці:**
**Прывыкайце, мае сіні вочы,**
**Адны начаваці.**









**У поле выйшла,**
**Дзе хадзіў Міша,**
**На раллю прысела.**
**Бяжыць Мышка,**
**Дачка суседа.**
**— Цётка Марыля,**
**Чаму ты адна?**
**Цётка Марыля,**
**Хадзі да нас.—**
**Скроні сівыя**
**Ручкамі песціць.**
**— Покуль мы жывыя,**
**Трэба нам паесці.**

**— Дзе** ***галосяць гэта?***
**— Пяюць «лета».**

**Жыта-жытцо,**
**Дай ёй жыццё.**

**Жывым рукам заўсёды працы трэба.**
**У працы рукі акрыялі зноў.**
**Ды шмат яшчэ навыпякалі хлеба**
**Для жней, аратых,**
**Для людскіх сыноў.**
**Маршчыністыя,**
**Крышачку дрыжалі,**
**Ды не кідалі гнуткага сярпа.**
**I колькі** ***перавяслаў навязалі...***
**Не кончылі апошняга снапа...**





Што смерць?!
Марыля й так канала тройчы.
Чатыры разы
          жыўцом сышла у дол.
Чужыя людзі ёй закрылі вочы.

Палын і блёкат заглушылі двор.



Пузаты смехунок,
Сама даброта,
Уласнай ножкай цягнецца да рота.
Гумоваму казлу казыча ў носе.
А колькі радасці бацькам прыносіць!
Яму пакуль няма турбот ля маці.
Утульна, як у коласе зярняці.
Хварэе маці, калі ён не спаў.
Дрыжыць, каб волас з галавы яго не ўпаў.
Ёй лыжка кашы супакою не дае,
Калі ён гэтай лыжкі не даеў.
А ўжо жартуе дзядзька барадаты:
— Таўсцей!
Патрэбны дужыя салдаты...
Мяне аж скаланула згадкаю нямой:
О, сын! Яшчэ грудны, а ўжо не мой.
Мацней за ўсё ў жыцці шкадую сына.





Шаную сцежкі, па якіх яго насіла.
Па сцежках сын на ножках пабяжыць
Лавіць са стрэх прадвеснем капяжы.
Вітаю я лагодную зіму,
Што першы пухавік дала яму.
Гару — гарэзу-цётку ў белай хусце,
Што сына стрымгалоў на санках спусціць;
І цётку асцярожную — нізіну,
Што свой прыпол у час падставіць сыну.
І неглыбокую раку. Яна
На пругкую руку пасадзіць скакуна,
З шаўковых кудзеркаў пыліны абмахне,
На жвір пясчаны падапхне
Да мяне.
І малады барок —
Рахманы наш звярок —
Баравіка для хлопца прыбярог,
Ды хітра пасадзіў у пульхны мох
Каля ног.

Зямля, усемагутны чарадзей,
Скіруй яго да неблагіх людзей,
Непрагавітых,
Да працавітых!
Люблю цябе, Зямля!
Бо тут мой сын расце.
Ступае першы крок.
А будзе гойсаць
Па бураломах,
Па платах,
Па плёсах.
Праводзіць снегапад,
Вітаць паводкі.
Бо тут яго сябры і аднагодкі
Растуць,
Сціраюць штонікі на партах.
Шукаюць землі, неадкрытыя
На картах.

Як многа ў мяне сыноў —
Зацесных паўзуноў!
Гарластых пузаноў!
Адзін дзіцячы сад — уся Зямля.
Іх трэба накарміць,
І залюляць,
І звонка ранкам на руках пагушкаць:
Ім падабаецца успырхнуць птушкай
І, зноўператварыўшыся ў дзіця,
Папесціцца пры матчыных грудзях.

Я мыю, шыю, думаю, чытаю.
Тады мае сыны мяне чакаюць.
Трывожуся за іх у гэты час.
Яны адны. Яны не на вачах.
Хаця б не глянулі на іх ліхія вочы,
Хаця б ніхто не скрыўдзіў, не сурочыў
Маёй душы балесную часцінку —
Цябе, мой сынку!



А недзе на паўвостраве далёкім
Смяртэльны град спадае на далоні
І косіць, косіць, нібы град калоссе,
Людскія лёсы.
Там кракадзілы, двуногія, з рукамі,
Сыноў маіх сясцёр жыўцом глытаюць.
Навечна глушаць соннае дзіця.
На сэрцах матак высякаюць мету...

Я заклінаю мудрую планету —
Радзіцельку Кахання і Жыцця —
Няхай Марылін лёс яе міне!
Няхай мой сын пераражыве мяне.



Кастусь КІРЭНКА



# СУМ І РАДАСЦЬ ДЗЕДА РЭПКІ

Аповесць у навелах

Дзед Рэпка згубіў іголку. Добрая была іголка. «Такая іголка!—бедавала бабуля, дакараючы Рэпку. — Доўганькая, тоўсценькая, і вушка вялікае... Як я цяпер нітку ўздзену ў другую іголку?!.»

Добрая была іголка. Гэта Рэпка ведаў: сам яе купіў пасля вайны ў мястэчку... Ды што ж ты зробіш — прапала іголка. Падшываў Рэпка стары валёнак, нітка скончылася, дзед сунуў іголку ў вугал хаты, бервяно там адно вытыркаецца, і пайшоў па нітку... А тут бабулі вельмі на нешта спатрэбілася іголка.

— Дзе іголка, Рэпка?

— У вугле, у доўгім бервяне, — адказвае дзед.

Пайшла бабуля — няма іголкі. Гукнула Рэпку — няма іголкі. Пачалі шукаць. Няма. І там шукалі і сям, — няма, дзе ж ты знойдзеш іголку, калі яна прапала?

— Ты можа забыўся? Можа не тут пакінуў? — злуецца бабуля.

— У вугле пакінуў!..

— Дык дзе ж яна?..

— Сам не ведаю...

Плюнула бабуля, пайшла ў краму, новую іголку купіла, не гэткую, праўда, — горшую, гэткай ужо не купіш... А дзед Рэпка? Дзед Рэпка засумаваў. «Усё роўна знайду іголку, — хадзіў-мармытаў дзед. — Не можа быць, каб я забыўся... У бервяне я пакінуў іголку!..» Шукаў Рэпка дзень, шукаў два, увесь жоўты пясочак перабраў каля прызбы, усе травінкі перамацаў... Няма іголкі... «Няўжо і дапраўды памяці забракавала?» — сумна думаў дзед.

А тою іголкаю шыла сабе ляльку малая дзедава ўнучка Алёнка. Хітрая гэтая Алёнка! — чуе, што дзедка з бабуляй іголку шукаюць, дык яна — тэп-тэп, топ-топ — занесла сваю ляльку далей ад хаты, за вішнякі ў высокі бульбоўнік. Туды зойдзе і шые сабе.

Але нарэшце надакучыла Алёнцы хавацца. Бачыць Алёнка — дзед усё корпаецца, падышла і так пяшчотна пытае:

— Дзядуля, а дзядуля, не тая іголка?

— Тая, унучачка, тая! — аж закалаціўся дзед. — Адкуль яна ў цябе?

— А ты ж мне яе сам даў!

— Не можа быць такога! Я яе ў вугле пакінуў!

— Сам мне даў, дзеду, сам! Сам даў! — горача, каб пераканаць дзеда, кажа Алёнка.

Узяў дзед Рэпка іголку і задумаўся. Няўжо сам?.. А можа і сам... Стаў Рэпка

Мал. А. Волкава

ўспамінаць. Усё перабраў у памяці. І стала дзеду Рэпку яшчэ больш сумна. Падышоў ён да ўнучкі, пагладзіў яе па светлай галоўцы і сказаў:

— Дурны я, дурны... Гэта ж так забывацца. Стары стаў. Перастаў помніць. Значыць, скора памру...

І выпаўзла з правага дзедавага вока буйная і мутная, як рудая крапінка на Алёнчынай сукенцы, слязіна. Памаўчала слязіна пад вокам, а потым хуценька — мільк! — пакацілася па маршчыністай шчацэ дзеда Рэпкі і прапала ў сівой барадзе.

Спалохалася Алёнка, стала ёй шкада дзядулі.

— Дзядулечка, гэта я так сабе сказала, гэта я сама ўзяла!.. Ты пойшоў, а я ўзяла! — сказала Алёнка і заплакала.

— Дзе ўзяла? У вугле ўзяла?..

— У вугле ўзяла...

— Бабуля! Маланка! — радасна закрычаў дзед, падхапіўся, расчыніў дзверы і, паказваючы іголку, шчасліва паведаміў: — Ага! Я ж казаў, у вугле! Так і ёсць — у вугле!

Потым дзед Рэпка доўга песціў сваю ўнучку, хоць яна гэтага і не заслужыла. Але ў дзеда была радасць — не таму, што знайшлася іголка, а таму, што памяць яго яшчэ добрая, значыць, памрэ ён яшчэ не скора... Алёнка гэтага не разумела, але яна помніла мутную слязіну на дзедавай шчацэ і сказала, што ніколі больш не будзе маніць дзеду...

# ХТО ТАКІЯ ДЗЕД РЭПКА, БАБКА МАЛАНКА І АЛЁНКА

Хто такія дзед Рэпка, бабка Маланка і Алёнка? — пытаць так трохі дзіўнавата. Калі б такое пытанне пачулі дзед і бабка, то пацiснулі б плячыма і пераглянуліся:

— Дзіва дый годзе... Ну, хто ж мы такія... Вядома — людзі...

І Алёнка б іх падтрымала. Хоць яна яшчэ мала чаго разумее, ды яна — угу, якая кемная! Па вачах бачыць, што думаюць дзед і бабка. І ўжо ж яна добра ведае, што ўсе людзі ў іхняй вёсцы — людзі...

Дзед Рэпка і бабка Маланка жывуць на свеце даўно. Так даўно, што не заўсёды і ўспомняць, калі дзеда празвалі Рэпкай, а бабку Маланкай...

Сапраўднае імя дзеда Рэпкі — Ахрэм... Так звалі яго ў маленстве. Дзеду яшчэ і цяпер іншы раз пачуецца ў сне голас ягонай маці: «Ахрэм, Ахрэмка...» Але дзед Рэпка рана застаўся сіратой. Бацьку яго забілі на царскай вайне, а маці памерла ад тыфусу. Дзеду Рэпку было тады дзесяць гадоў.

Калі дзед Рэпка — Ахрэмка — застаўся сіратой, яго ўзяў да сябе сусед — вясковы багацей. Ён казаў усім вяскоўцам:

— Ахрэмка будзе ў мяне як сын. Я яго выгадую...

Ахрэмка не ведаў, што яму рабіць, паверыў суседу і перайшоў жыць да яго. Багацей-сусед забраў з Ахрэмкам усё, што засталося пасля смерці Ахрэмкавай маці: шнурок зямлі і першагодка-падцёлка. А хату і пуньку разабраў і перавёз у свой двор.

У таго суседа Ахрэмка пражыў доўга — да самай рэвалюцыі. Толькі жыў ён у багацея не як сын, а як парабак. З ранняй вясны да позняй восені Ахрэмка пасвіў коней, даглядаў быдла, рабіў у полі.



Працаваў ён цяжка, а сытым ніколі не быў. Сусед, як і ўсе багацеі, не любіў раскідацца лішнім кавалкам. Ахрэмка схуднеў, заўсёды яму дужа хацелася есці. Дык ён, бывала, хоць летам адводзіў душу: крадком нарве на вялізным гаспадаровым агародзе бручкі ці рэпы і, схаваўшыся, уволю наесца.

Хоць не часта рабіў так Ахрэмка, ды аднойчы ўбачыў гэта багацей. Тое здарылася ў час жніва. У адзін дзень Ахрэмка дужа натаміўся: ён перавёз з поля ў вялізнае гаспадарова гумно аж сем вазоў жыта. Пачаў працаваць да сонца, а скончыў перад цёмным. Ды і то яшчэ рана скончыў, бо наляцела навальніца і снапы намачыла. За ўвесь дзень Ахрэмка еў толькі адзін раз, у полі. Адніціла яму гаспадыня скібачку хлеба ды наліла карэц сыраквашы. Праўда, па дарозе з поля да гумна Ахрэмка яшчэ еў жытнія зерні, выціраючы з каласоў. Але пасля такога наедку Ахрэмку яшчэ больш мучыў голад. Вечарам жа Ахрэмка заўсёды клаўся спаць на пусты жывот.

— Так чалавеку здаравей, — любіў казаць гаспадар...

Адпрогшы коней і паставіўшы іх пад павець, Ахрэмка, змучаны голадам, не ўтрымаўся і, хоць быў увесь змакрэлы і яго трохі калаціла, скіраваўся на гаспадаровы грады. Ён вырваў сабе дзве рэпкі. Абмыў іх дажджавой вадою, што сабралася ў баразне, прытуліўся спіною да сухога вугла павеці і прагна стаў есці. Ён паспеў з'есці адну рэпку, а другую толькі надкусіў, калі раптам яго тузанула грубая гаспадарова рука.

Ахрэмка ад нечаканасці так разгубіўся, ажно выпусціў з рук рэпку. Гаспадар, як жалезнымі абцугамі, сціснуў ахрэмкава плячо, павярнуў Ахрэмку тварам да сябе, хрыпла загадаў:

— Падымі...

Ахрэмка, пахаладзелы ад страху, падняў рэпку.

— Што гэта, га? — ціха, але раз'юшана запытаў гаспадар. — Га... Што гэта?..

— Рэпка... — ледзь чутна вымавіў збялелымі губамі Ахрэмка і праглынуў слязу...

— Рэпка?!. А... рэпка!.. — крыкнуў гаспадар і ўсёй сілай сваіх валасатых рук грымнуў Ахрэмку на бярозавыя плашкі пад страхой. — Рэпка?!. Вось табе рэпка!.. — і страшны ўдар па галаве аглушыў Ахрэмку і кінуў у непрытомнасць. Далей Ахрэмка нічога не адчуваў і не цяміў. Яму здавалася толькі, што ён, раз-пораз торгаючыся, ляціць у нейкае прадонне, а над ім гучыць адно балючае слова: рэпка... рэпка...

Пасля таго вечара Ахрэмка доўга хварэў... Багацей баяўся людзей, якія бачылі, як ён біў Ахрэмку. Ды і, мусіць, шкада было яму страціць дармавога парабка. Таму багацей нават вазіў Ахрэмку па дактарах... Ахрэмка выжыў, але потым аж тры гады быў як бы ў нейкай задуме і як бы развучыўся гаварыць. Ён умеў казаць адно толькі слова — рэпка...

— Як цябе завуць, дзетка? — бывала, спытае хто-небудзь чужы, не з гэтае вёскі, па справе завітаўшы да гаспадара і ўбачыўшы сумнага, насцярожанага Ахрэмку. Ахрэмка пакутлівымі вачамі доўга глядзеў на чалавека, як бы нешта ўспамінаючы, але, нічога не ўспомніўшы, казаў адно і тое:

— Рэп-п-ка...

Багацею ў такіх выпадках было не па сабе.

— Чаго прыставаць да дзіцяці!.. — злосна перапыняў ён чужога чалавека.— Як завуць, так і завуць!..— І ён піхаў Ахрэмку ў плячо, пасылаў куды-небудзь з людскіх вачэй...

— І што ж ён, душагуб, зрабіў з табою!.. Бедненькі ты, дзетка... Хай яму зямля колам, ліхадзею!.. — шкадавалі Ахрэмку на вуліцы вясковыя кабеты. І ім Ахрэмка адказваў адным сваім балючым словам:

— Рэп-п-ка...

Рэпка і рэпка...

Ніхто ніколі не пасмяяўся з ахрэмкавага няшчасця — ні старыя, ні малыя. Але паступова сапраўднае імя яго — Ахрэмка — пачало забывацца. Усе сталі яго зваць — Рэпка... Рэпка і Рэпка...

З цягам часу вярнулася да Ахрэмкі яго памяць, вырас Ахрэмка, стаў юнаком, а потым і мужчынам, а новае імя — Рэпка — так за ім і засталося. Ахрэмка ні на кога не крыўдзіўся за гэта сваё другое імя і сам пры сустрэчы з людзьмі называў сябе не Ахрэмка, а Рэпка...

А бабка Маланка?

Бабка Маланка тады, калі яна сустрэлася дзеду Рэпку і стала яго сяброўкай, была вясёлай маладой дзяўчынаю, а звалі яе Маланеяй. Дзеду Рэпку дужа падабалася гэтае імя.

— Малане-е-я, Малане-я... — бывала, нават і без прычыны, задумна прамаўляў ён сам сабе.

— Чаго табе, Рэпка?.. — пачуўшы, адгукнецца Маланея.

— А-а... Нічога... Гэта я так... — адкажа Рэпка і засароміцца, замітусіцца, шукаючы якога-небудзь занятку...

Маланея была родам з суседняй вёскі і таксама, як і Рэпка, вырасла сіратою. Яна дужа шкадавала Рэпку. Калі Маланея і Рэпка сталі жыць разам, савецкая ўлада дала ім кавалак зямлі. Маланея, як і Рэпка, змалку прывыкла многа працаваць. Але яна была не толькі працавітай, а яшчэ і дужа рупатлівай. Яна ні хвіліны не магла пасядзець на месцы. І ўсё рабіла хутка і весела. Бывала, яшчэ сонца не ўзыдзе, а Маланея ўжо на нагах. І ўсё вакол яе ажывае, уся вуліца ведае, што дзень працы настаў. Адчыняліся ў дварах брамкі, рыпалі вароты, чулася, як цыргоніць аб даёнкі малако. Цёткі выганялі скаціну, беглі па ваду, а мужчыны кляпалі косы ці запрагалі коней — куды-небудзь да снядання паехаць, нешта зрабіць. Нават вясковы пастух і той ніколі не мог апярэдзіць Маланею. Бывала, ідзе ён світанкам па вуліцы з пугаю, праціраючы вочы, а Маланея ўжо ўправілася, чакае яго, каб выгнаць з двара сваю кароўку.

Вясковыя кабеты, асабліва суседзі, вельмі любілі Маланею. І, мусіць, за тое, што была яна такой рупатлівай ды няўседлівай, пачалі ўсе зваць яе па-новаму — Маланка. А можа, і пяшчоту сваю людзі выказвалі...

— Маланка... Маланка...— чула цяпер часта Маланея і ад Рэпкі. І радасна ўсміхалася, глядзела з любасцю на свайго сябра. І ўсе, хто іх бачыў і ведаў, казалі, што Рэпка і Маланка — самыя шчаслівыя людзі на свеце... Гэта і на самай справе было так...

Вось хто такія дзед Рэпка і бабка Маланка.

А хто ж такая Алёнка?

А Алёнка — іхняя ўнучка.

Хоць і нялёгка было жыць дзеду Рэпку і бабцы Маланцы — і нястача гняла, і гарэлі аднойчы, і нярэдка хваробы насядалі, — але ўсё ж здаровымі і дужымі вырасцілі яны чацвёра добрых сыноў. Калі пачалася вайна супраць самых лютых ворагаў на свеце — фашыстаў, — рэпкавы дзеці пайшлі на фронт. Двох прызвалі, а адзін сам пайшоў — дабравольцам папрасіўся... Паўлік... Ён, праўда, адзін толькі і меў шчасце застацца жывым... Хоць і быў аж тры разы паранены... Двое старэйшых не вярнуліся з вайны, загінулі. Адзін,





Ціхан, прапаў, Польшчу вызваляючы. А другі — Міша — каля Львова пахаваны... Пакінуў бацькоў і самы меншы іх сынок, Васілька... У дзень вайны яму ішоў толькі дзесяты гадочак. Берaглі. Хавалі. Адной надзеяй быў. Ды неяк жа здарылася — трапіў Васілька пад агонь нямецкай засады, калі ішоў да партызан з важным паведамленнем. Дацягнуўся Васілька да ляснога лагера і на руках партызан памёр...

Паўлік Перамогу сустрэў ужо афіцэрам. Танкавай ротай камандаваў. У Нямеччыне, ля Берліна, закончыў ён свае паходы і там застаўся на баявой варце. І па сённяшні дзень там. Палкоўнікам ужо служыць... Сем год таму назад Паўлік прыехаў дахаты на пабыўку. Тады і з'явілася ў дзеда Рэпкі і бабкі Маланкі іхняя ўнучка Алёнка... Была яна зусім маленечкая, нічога не ўмела... Тры месяцы як нарадзілася... Маці Алёнкі, жонку Паўліка, дзеду і бабцы ўбачыць не давялося. Бо яна памерла ад запалення лёгкіх. Там, у Нямеччыне...

Дзед Рэпка і бабка Маланка колькі пахваляваліся, начэй не спалі, пакуль выхадзілі Алёнку. Але затое якая слаўная дзяўчынка ўдалася! Вось ужо восьмы пайшоў ёй гадок. Кожны год прыязджае яе бацька ў госці. І не нарадуецца на сваю дачушку. Дзякуе Паўлік бацьку і маці, а Алёнка слухае і заўсёды здзіўляецца: чаму тата кажа дзеду і бабцы «дзякуй вам за Алёнку»? Чаму «дзякуй за Алёнку»? А чаму не кажа: «дзякуй за дзеда і бабку»? Хіба яны не былі заўсёды адно ля аднаго? І хіба яны могуць быць адно без другога?..

Вось хто такія дзед Рэпка, бабка Маланка і Алёнка. І вось як жывуць яны сёння, калі мы пазнаёміліся з імі.

# ГАСПАДЫНЯ

Жыццё ў хаце дзеда Рэпкі кожны дзень пачынаецца рана. Яшчэ сонейка недзе толькі мыецца ў Сажы за лясамі, а ўжо дзед і бабка на нагах. Першая ўстае бабка Маланка. Праўда, і дзед у гэтыя хвіліны ўжо не спіць. Але, пакуль падняцца, ён набівае піпку самасадам, нешта думае, мармыча сабе пад нос. Гэта так дзед складае на дзень план свае працы. І потым, устаўшы, дзед Рэпка ўжо ні хвіліны не спачывае да самага вечара. Бабка Маланка ведае такую працавітую дбайнасць дзеда Рэпкі, таму і стараецца, каб ён ранічкаю паляжаў трошкі больш.

Бабка Маланка, падняўшыся, першым чынам палівае хатняй вадою кветкі на вокнах. Потым дастае з куфэрка чыстыя ручнікі. А тады бяжыць даіць карову Чарнушку. А дзед Рэпка, склаўшы свой план, падцягвае ланцужок ходзікаў на сцяне і, узяўшы чобаты, босы выходзіць на двор абувацца. Так ён робіць, каб не разбудзіць Алёнку.

Але ўсё роўна Алёнка зараз жа падымаецца. Яна б адразу ўстала ўслед за дзядулем, але чакае, пакуль зойдзе ў хату бабка Маланка. Звычайна гэта бывае якраз тады, калі ў хату заглядае першы праменьчык сонца. Праменьчык толькі-толькі пачне казытаць Алёнцы правае вока, і тою ж хвілінаю ўжо цурчыць праз марлечку надоенае бабкай малако.

— Бабулька! А я тут! — любіць выгукнуць Алёнка, скочыўшы босымі ножкамі на падлогу.

— Авой! — гаворыць бабуля.— Напалохала мяне знячэўку.— І ласкава запрашае: — Ну, хадзі, унучачка, гаспадынька мая, памагай бабцы...

Бабка Маланка бярэ кубак, налівае цёплага, пахучага сырадою. Алёнка жмурыць вочы ад асалоды, задыхаючыся, п'е малако. У гэты момант уваходзіць дзед Рэпка з вёдрамі свежай вады.

— Сонейка ў хату і гаспадынька на нагі,— кажа дзед і, паставіўшы вёдры, бярэ ўнучку на рукі. — Ну, што будзем рабіць сёння, зязюлька-кукулька? Багата ў нас працы, га?

— Угу,— адказвае Алёнка, прагна дапіваючы малако і аблізваючы белыя пузырыстыя вусікі.

Дзед Рэпка і бабка Маланка не адвучваюць Алёнку ўставаць рана. Няхай устае, няхай прывыкае. Гэта добра, калі чалавек змалку прывучаецца на нагах сустракаць сонца.

Памыўшыся сцюдзёнай вадою, Алёнка прымаецца за працу. У яе шмат цікавых і добрых спраў.

— Спачатку — пакарміць курку з куранятамі.

— Курачкі-кураняткі, ціпачкі-пісклядкі, сюды, сюды, да мяне бяжыце!.. — звонка кліча Алёнка. А тады падыходзіць да бабулі і ціха кажа:

— Бабулечка, а яны ўжо сабраліся...

Бабка Маланка ведае: гэта так Алёнка просіць крупак. Ах, Алёнка, Алёнка! Хіба можна крупамі раскідацца? — хочацца сказаць бабулі. Але ўсё ж такі кожны раз бабка Маланка развязвае мяшэчак і дастае сыпкае нятоўчанае проса.

— Гэта, унучка, для маленькіх. А большыя хай бульбы пад'ядуць.

Алёнка насыпае проса ў разбітую шчарбатую місу, адводзіць пісклятак убок. А старым курам і беламу чубатаму пеўню выносіць учарашняй тоўчанай бульбы. Хвіліну стаіць, глядзіць. Усё добра. І пісклядкі і куры весела накінуліся на яду.

— Глядзі ж, не крыўдзі маленькіх, — кажа Алёнка высокаму пеўню, задзірыстаму забіяку, і бяжыць да пуні паглядзець козліка. Пуню адчыняць Алёнка яшчэ не ўмее, ды і баіцца, бо там заўсёды нешта шапоча і шорхаецца па кутках. А яна вітаецца з козлікам праз шчыліну між бярвеннямі, у якую разам з ёю заглядае і зыркі сонечны зайчык. Алёнка зрывае некалькі бацвінінак, працягвае козліку. «Дзякую, дзякую, дзякую», — мармыча праз шчылінку козлік. Алёнка рада, ёй хацелася б яшчэ пабыць з козлікам, але ў гэту хвіліну чуецца, як бразкаціць па каменю міса. «Авой!» — злуецца Алёнка. Кожны раз адно і тое ж! Забіяка-певень, адагнаўшы пісклят, ласуецца каля місы. Міса перакулена. Проса на зямлі. Ну, што ты з ім зробіш? Хай есць. Алёнка потым пачастуе куранят асобна. Але яна ўсё ж кажа пеўню:

— І не брыдка табе так рабіць? Задавака...

Певень, быццам разумеючы, ніжэй схіляе галаву, і грэбень яго чубаты, здаецца, яшчэ больш чырванее. Але ён не пакідае жвава выдзёўбваць проса з пяску, як бы навучаючы гэтаму пісклят.

Алёнка з усмешкай пакідае шумлівую курыную брыгаду, успомніўшы, што яна ж яшчэ не была на градах.

Між зялёнымі бабулінымі градамі ёсць мурожыстая сценка-сцежка. І на гэтую сцежку, што ты з імі ні рабі, за ноч выпаўзаюць зіркастыя вусы гарбузоўніка. Калі не прыняць іх са сцежкі, то за дзень абавязкова хто-небудзь іх стопча. Алёнка не хоча, каб вусы стапталі. Яны такія мілыя, свежыя, цікаўныя. І кволыя. Алёнка акуратненька, як паказвала бабуля, паперакідвае вусы са сцежкі на граду. Зага-

родзіць іх ад сцежкі бярозавымі кійкамі. Але заўжды здзіўляецца: чаму кожнай раніцы вусы абавязкова спаўзаюць з грады зноў на сцежку? Можа, таму, што на сцежцы мурог і ён шторанку ў сцюдзёнай расе?

Управіўшыся з гарбузамі, Алёнка бяжыць да стройных мальваў і мяты, што цэлай сценкаю растуць пад вокнамі. Чырвоныя, белыя, ружова-светлыя бухматыя мальвы прывязаны да падпорак, каб іх не зламала ліўнямі і вятрамі. Алёнка папраўляе падпоркі. Як пчолка, зазірае ў бухматыя кветкі, забіраючы на нос і шчокі пахучы пылок. А тады зрывае каліўца мяты і заглядае ў адчыненае акно. Алёнка сама любіць мяту і ведае, што яе любіць і бабуля. Алёнка кладзе каліўца мяты на падаконнік і ціха барабаніць пальчыкам па шкле.

— От дзякуй, гаспадынька мая, — улюбёна кажа бабка Маланка, падышоўшы. — Пацешыла, унучачка. Але ж хутчэй канчай свае справы. Бо паслухай, як блінам запахла...

Толькі Алёнка не чуе ўжо гэтых бабуліных слоў. Бо з усіх ранішніх спраў засталася ў яе адна між важнейшых — пабыць з кветкамі. Далей за мальвамі, пад самую вуліцу, у Алёнкі з бабуляю дзвюма градкамі размясцілася цэлае царства кветак. Дзед Рэпка нават бурчэў часам, што столькі зямлі прападае дарэмна. Ну, не зусім дарэмна, — вінавата апраўдваўся ён, — але навошта гэтулькі кветак пад вокнамі, калі іх — хоць касою касі вакол двара, у садзе, у полі, на беразе ракі? Але бабуля не слухала дзядулю і кожную восень і вясну папаўняла на градах кветкістую сямейку. І дзед Рэпка, пабурчэўшы ў вус, усё ж прыносіў вёдры вады, памагаў паліваць кветкі і радаваўся, калі яны добра раслі і расцвіталі.

Тут, на градках, Алёнка трапляе ў кола сваіх цудоўных сяброў.

— Дзень добры, дзень добры, — ківаюць ёй чырвонымі і белымі галоўкамі стройныя кучомістыя макі. Бледна-фіялетавыя мацейкі, невысокія і дробныя, баючыся, што Алёнка іх не заўважыць, кідаюць ёй насустрач моцны, як бы салодкі пах. Яны так прыемна пахнуць, што Алёнка апускаецца на каленкі і цалуе расяныя мацейкавы пялёсткі. Але пяшчотным нарцысам, мусіць, крыўдна ад няўвагі да іх, і яны труцца сваімі бухматымі аранжавымі песцікамі аб алёнчыну шчочку.

Алёнка ўстае, трохі закружаная чароўнымі пахамі, і замілавана глядзіць на жоўтыя, сінія, пунцовыя, ружовыя, белыя, фіялетавыя, ліловыя колеры сваіх град.Як дружна жывуць яе кветкі! Колькі ў іх ласкі! Вунь жоўтыя наготкі як бы абняліся з настуркамі, а пахучы гарошак пускае паўзункі-ўюночкі паміж стройнымі сцяблінкамі шматкалёрых ляўконій. Садовыя рамонкі перапляліся з сінімі касачамі.

«Трэба паліць нарцысы, яны так любяць піць», — заўважыла сабе Алёнка. Пашчыпала пальчыкамі зямлю каля касачоў, каб вельмі не зачарсцвела. А вунь адламалася галінка аднае ружы: «І як жа магло гэта стацца, вось бяда!» — заклапочана думае Алёнка.

Гаспадыні многа летам усякіх клопатаў, усюды трэба справіцца. Яшчэ не выйшла Алёнка ад сваіх кветак, а думка ляціць на іншае. Сёння яна з дзядулем і бабкай ідзе на луг. Ужо некалькі дзён за Сажом завіхаюцца касцы. Паўлуга перавярнулі ў пахучыя пракосы. Ідзе руплівая касьба. Дзед Рэпка і бабка Маланка таксама рашылі хоць трохі памагаць маладзейшым. Пакуль стаіць пагода, трэба спяшацца. Учора вечарам яны доўга думалі: браць з сабою Алёнку ці не браць. Дзядуля сказаў: трэба ўзяць, хай да ўсяго прыглядаецца. І бабка згадзілася. Алёнка ляжала, прыжмурыўшы вочы,— як быццам спіць. А ёй так хацелася ўскочыць і пацалаваць дзедку і бабку.



Успомніўшы пра ўсё гэта, Алёнка ад сваіх градак з кветкамі хуценька пабегла да прыбітага на шуле ўмывальніка: абмыць з рук зямлю. Трэба хутчэй снедаць, бо дзядуля вунь ужо дакляпаў касу.

## ЛУГІ ЗЯЛЁНЫЯ

— Дзядуля, а можна скасіць луг, каб красачкі засталіся? — пытала Алёнка, наглядаючы, як дзед папраўляе касільна.

— Не, унучачка, — адказаў дзед Рэпка, задумна пыхкаючы піпкай. — Каб усяго ў лузе не касілі, то і красак столькі б не было. Здзічэў бы луг. Ды і сена стала б не тое. Ты ж любіш паляжаць на духмяным сене?

— Ага, дзядулечка. Ой, люблю! — Яна ўспомніла сваю пасцель з пахучага свежага сена і ад прыемнасці аж зажмурыла вочы. Добра там паляжаць днём у спякоту! Такую ж пасцелю заўчора паслаў ёй дзед і ў садзе ў будане, які зрабіў, каб Алёнка хавалася ад дажджу.

— А сена таму і пахучае, што ў ім краскі ёсць. І жывёла яго есць лепей. Трава з краскамі — як хлеб мёдам памазаны... — Дзед Рэпка скончыў папраўляць касільна.— Ну, от і ўсё. Зноў будзе касіць, нідзе не дзенецца. — І прыхінуў да сябе ўнучку, падставіў бараду. — Ну, паклыч дзедава касмылле.

Алёнка адной ручкай абшчапіла дзядулю за шыю, а другою са смехам заклычыла сівую яго бараду. Яна ўсім сэрцам любіла свайго дзеда. Ён быў для яе самы ласкавы і самы справядлівы на свеце.

За сваё доўгае жыццё дзед Рэпка многа чаго парабіў. Колькі ён пераараў поля — калі б усё скласці, паўсвета было б. І сеяў Рэпка, і жаў, і скасіў не адну пожню. Маладыя лясы даглядаў і сады садзіў. У калгасе дзед Рэпка доўгі час быў старшым будаўніком. Сам па лясных дзялянках выбіраў на бярвенні і шулы магутныя дрэвы. Потым з брыгадаю абсклюдоўваў, ставіў з іх хаты, калгасныя свірны, пуні. Пазней, калі трохі аслабеў, то конюхам рабіў.

А цяпер дзед Рэпка стаў зусім стары. Хоць ён яшчэ за ўсё бярэцца, ды сілы не тыя. Алёнка часта чуе, як бабуля шкадуе дзеда Рэпку. Падкасілі яго хваробы ўсякія. Асабліва ў той год, калі ўпаў дзед Рэпка з высокай сцяны зруба. Алёнка гэтага не памятае, але яна ведае, што ў дзядулі баліць левы бок. Бабуля часта націрае дзедку шкіпінарам. А ўпаў дзед Рэпка, як будавау калгасны свіран. Бервяно падымалі на апошні вянец, і абмахнуўся дзед Рэпка.

Вось таму, калі прызначалі ў калгасе пенсіі старым, дык дзеду Рэпку далі самаму першаму.

Але дзед Рэпка не такі, каб сядзець дома.

— Як гэта я буду адлежвацца, калі яшчэ рабіць магу? Хоць нечым ды буду займацца, — гаварыў ён бабулі.

Бабуля яго падахвочвала:

— І праўда, Рэпка. Толькі засядзь, дык адкуль тое што возьмецца. Хвароб не абярэшся...

У калгасе былі рады, што дзед Рэпка не пайшоў зусім на адпачынак. І прызначылі алёнчынага дзядулю вартаўніком на лузе.

Дзеду Рэпку вельмі падабалася яго новая работа. Усе дні быць з кветкамі і травамі, з птушыным шчэбетам і плёскатам хваль. Лугі

зялёныя, галасістыя лугі за Сажом, як на далоні, відаць нават з акна вартаўніковай хаты. Бо двор дзеда Рэпкі стаіць на высокім беразе ракі. Налева ад хаты ідзе вясковая вуліца. А справа пачынаецца прыволле, цягнецца так званая гара да самага лесу за полем. Унізе на драўляным прыколе стаяць у дзеда Рэпкі лодка-пласкадонка і душагубка-човен. Нямала было ў дзеда розных клопатаў, але ён заўсёды знаходзіў хвіліну, каб праехаць па рацэ.

Амаль штодня па раніцы дзед Рэпка спіхаў на ваду свой хісткі чаўнок. Алёнка падносіла дзеду пачыну (так на Сажы завуць вясло), ды ніколі не прасілася, каб узяў з сабою. Бо ведала, што ў такі чаўнок дзядуля нікога не бярэ. Калі трэба было з'ездзіць з бабуляй па траву ці па лазу, ці нарваць шчаўя, дзед адвязваў вялікую дашчаную лодку. А ў чаўнок садзіўся толькі сам. Як лёгкі лісток, ляцеў чаўнок па рацэ. Дзядуля, здавалася, і не варушыў пачынай, а чаўнок ляцеў туды, куды хацеў дзядуля.

Алёнка ўзбягала на гару, станавілася ля бярозы і сачыла за дзедам. Чаўнок часамі знікаў за паваротам ракі, часамі ныраў за лазнякамі ў сінюю бухту на тым баку. Гэта дзед Рэпка рабіў аб'езд калгасных лугоў. Алёнка ішла гуляць у свой сад. Але яна заўсёды адчувала, калі дзядуля будзе вяртацца. Тады яна ад той жа бярозы махала дзеду белай хусцінкаю.

Цяпер Алёнка была шчаслівая, што і ёй дазволілі ісці на тыя дзедавы лугі. А якія грабелькі зрабіў ёй дзядуля! Алёнка ведала, што ні ў кога з яе сяброў і сябровак няма такіх грабелек. Маленькія, лёгенькія, з роўнымі белымі зубамі, яны самі прасіліся ў работу. І падахвочвалі Алёнку: хутчэй, хутчэй на луг!

Дзед Рэпка спусціўся да Сажа першы. Ён, як і звычайна, надумаўся ехаць на сваім чаўнаку. «Мала што якое спатрэбіцца,—сказаў ён,— дык я на чаўнок і гайда». А бабуля з Алёнкай пайшлі на паром, які быў недалёка, там дзе за шырокай маўклівай затокаю пачынаецца балонне.

На бабулі і на Алёнцы былі белыя паркалёвыя хусцінкі і такія ж кофтачкі. На ногі Алёнка надзела скураныя лёгкія тэпцікі, а бабуля лазовыя лапці, якія сплёў дзед Рэпка спецыяльна для касьбы. Дзядуля плёў гэтыя лапці і смяяўся: ну, і бабка, і чаравікі новыя ў яе ёсць, і сандалі, і боты блішчастыя сын прыслаў, а яна—спляці ды спляці ёй лапці. Бабуля таксама смяялася. Але яна ўсё роўна стаяла на сваім: у лапцях лягчэй і ямчэй хадзіць па лузе.

Бабуля з Алёнкай трапілі якраз на першы паром. Тут сабралася ўжо многа цётак з граблямі ды віламі і касцоў з косамі. Жанчыны, як на свята, панадзявалі прыгожыя сукенкі, хусткі. Адны весела пра нешта гаманілі, другія смяяліся, трэція спрачаліся. Але бабку Маланку ўсе заўважылі і спаткалі яе з павагаю. Адусюль чулася:

— Глядзіце — бабка Маланка!

— Добрай раніцы вам, бабка Маланка!

— І ўнучку з сабою ўзяла. От малайчына, дзяўчынка!

— А грабелькі ж якія ў яе! Хто ж гэта зрабіў табе такія?

— Дзядуля...— шчасліва адказала Алёнка, упершыню падняўшы вочы сярод такога мноства людзей.

— От дзетка!.. Вось ужо будзе памочніца ў бабкі Маланкі!

Бабка Маланка з усімі загаварыла шчыра і весела. І Алёнка, спачатку трохі забаяўшыся, хутка асвоілася і ўсім адказвала, як яе завуць.

Паром забразгацеў жалезнымі чапамі і адчаліў ад мосціка. Алёнка здзівілася: ніхто не грабе ніводным вяслом, а паром плыве.



Праўда, многа дзядзькоў і цётак абляпілі рукамі канат і, як бы гуляючы, раз-пораз перакідвалі рукі ўсё ўперад і ўперад. Ехалі вельмі доўга. Алёнка з бабуляю стаяла ў самым гурце людзей і не магла бачыць, дзе плыве паром. Яна толькі чула, як пляскоча ўнізе пад паромам быстрая поўная вада. І ўжо шкадавала, што не ўпрасіла дзядулю, каб паехаў з ёю і бабкаю ў лодцы-дашчанцы.

Нарэшце, паром тыцнуўся ў прыпарамак на лугавым баку. Зноў забразгацеў чэп, і людзі павалілі на бераг. Хутка сышла з парома і Алёнка з бабуляй. І якое ж было ёй дзіва, калі яна ўбачыла на беразе свайго дзядулю. Хіба ўжо тут і будзе касьба?

— Тут, унучачка, тут,—сказаў дзед Рэпка.— Іншыя трошкі далей пойдуць, а нас тут пакідаюць. А хіба дрэнна? Глядзі-тка, увесь луг, усе касцы перад намі. Як быццам войска вялікае, а мы ў іх падмога.

Але яшчэ больш здзівілася Алёнка, калі ўбачыла адсюль, як на далоні, сваю хату, бярозу, вяз, свой сад. Нават градкі з кветкамі, здавалася ёй, яна бачыць. Гэта было трохі нават не цікава. Алёнцы хацелася, каб касілі дзе-небудзь далей, каб можна было доўга ісці па лузе, убачыць азярыны, ручаіны, дарожкі, многа красак, птушак, усю лугавую красу.

Бабуля ж думала зусім інакш.

— Ото ж добра, от добра,— падтрымала яна дзеда Рэпку.— І хата — рукой падаць, і места такое вясёлае.

Места, прыгледзелася Алёнка, і напраўду было вясёлае. Зусім блізка хлюпаў у аеры Сож. І смагу прагнаць і абмыць пот — вось яна, пад рукамі вадзіца. І быструю ракету рачную, падумала Алёнка, таксама можна не празяваць паглядзець. Для Алёнкі гэта самае цікавае.

Ад парома на лугавыя грывы, якія звалі Кавычай, ідзе ў лазовых зараслях дарога. Справа дарогі, якраз тут, дзе спыніліся касцы, цягнулася доўгая азярына з гонкімі сітнягамі. Алёнцы нават як бы пачулася адтуль перагукванне дзікіх качак.

Дзялянка, на якой яшчэ ўчора пачаў касіць дзед Рэпка, была якраз ля гэтай азярыны. Дзед Рэпка ўжо не мог спраўляцца з маладзейшымі касцамі. Дык яму брыгадзір адбіў асобную пожню.

Пракосы, скошаныя ўчора, трохі падсохлі, і бабуля з Алёнкаю адразу пачалі варушыць іх граблямі. Дзед жа дастаў з торбачкі трапышку, каб павайстрыць касу. Па ўсім лузе рассыпаліся дзядзькі і цёткі. «Жуіх-жых, жуіх-жых»,— пачулася песня кос. Сонца падымалася над лугам. Хоць яно добра пачынала прыпякаць, ды раса на траве яшчэ не высахла. І касцам, як растлумачыў Алёнцы дзядуля, гэта самы час касіць.

Дзед Рэпка, павайстрыўшы касу, пачаў свежы пракос. «Жуіх-жых, жуіх-жых!» — заспявала і яго каса. Трава рослая, густая валілася набок тугім валам. Яе, мусіць, доўга не магло б прабіць сонца сваімі праменнямі, калі б не бабуля з Алёнкай. Яны ішлі ўслед за дзедам, разбівалі граблямі густыя і цяжкія пракосы. Вецер абвяваў травы, і сонцу было лёгка дастаць і абсушыць кожную сцяблінку. Абамлелая, абвялая на сенажаці, трава пачынала ўжо востра пахнуць усімі душнымі пахамі лугавога сена. Вось тут і ўбачыла Алёнка, як патрэбны сену розныя зёлкі і краскі. Гэта ж каб не краскі, дык не было б такога салодкага паху ў лузе. І яна з радасцю падумала, як смачна будзе зімою з'есці такога сянца Чарнушцы і козліку.

Раптам дзядуля спыніўся. З-пад касы выпырхнула невялікая шэрая птушка. Яна адляцела зусім недалёка і, як падбітая, плюхнулася ў траву.

— Дзядуля, міленькі! — закрычала Алёнка.— Што ж цяпер будзе? Упала птушачка!

Дзядуля закінуў касу за плячо, прысеў, прыглядаючыся да азярыны.

— А вот і не...— сказаў ён.— Хадзі сюды, зязюлька... Паглядзі. Хутчэй толькі. Бачыш, як захісталіся травінкі? А яшчэ — бачыш?..

— Бачу... А што гэта, дзядуля?

— А гэта птушкі разбягаюцца. Ведаеш, якія гэта птушкі?

Алёнка паглядзела на дзеда.

— Драчы. Яны больш ходзяць, чым лётаюць. Нават восенню ў вырай ідуць пешкі. І з выраю дадому таксама.

— А ты не заўважыла, як ляцела гэтая птушка? Як нейкая няўмека. Ногі вісяць, крыллі, бы тыя анучы. Бо ў яе ногі доўгія і дужыя. А крыллі слабыя. Вось таму птушка і ўпала ў траву адразу, ледзь паднялася. А другая і не падымалася. Так уцякла.

— Дзядуля, а яны спяваюць, птушачкі гэтыя?

— А як жа. Чула ноччу ў лузе — як бы нехта дзяругу на кавалкі дзярэ? Вось гэта і пяе драч. Непрыгожая песня. Ды і яна мілая сэрцу. Бо то песня лета. Праўда, ты ж любіш, засынаючы, слухаць, як дзярэцца драч?

— Праўда, дзядулечка,— шэптам адказала Алёнка, гледзячы ў бок азярыны: а, можа, пакажацца там дзіўная птушка драч.

Пакуль Алёнка з дзядулем наглядала за птушкамі, у лузе развінулася вялікая праца. Цяпер, здавалася, уся вёска была на сенажаці. Чуліся дзявочыя песні, гамана. Як з-пад зямлі выраcталі копы, а за імі стагі. Побач з тымі, якія пасталі ў мінулыя дні і ўжо трохі парыжэлі, сённяшнія стагі выглядалі зялёнымі, маладымі.

Пачала зграбаць сена ў копы і бабуля. Алёнка брала ахапкі сена і падносіла да бабулі. Помач была невялікая, але бабуля гаварыла:

— Насі, унучачка, насі. От так удвох і зграбом сянцо. А то ж адной як управіцца...

Бабуліна ўхвала вельмі падахвочвала Алёнку. Ці бачыць толькі дзядуля, як яна ўмее зграбаць сена?

Дзядуля, вядома, усё бачыў. Бо ён не раз ужо спыняўся на пракосе і з усмешкаю глядзеў на яе. І хоць каса ўсё цяжэй хадзіла ў яго руках, ён адганяў стому і ўсё далей вёў касьбовую песню: «Жыіх-жых, жыіх-жых, жыіх-жых!..»

Нечакана з боку вёскі, з гары, пачуліся навальнічныя грымоты. Толькі цяпер усе ўбачылі, што на неба насунулася, хоць і невялікая, але цёмная хмара. Сонца пякло, хмара да яго яшчэ не дайшла. Але свяціла сонца неяк бліскотна-трывожна, і ўсё ў прыродзе раптам стаілася. Змоўклі птушкі. Не крычалі конікі. Паветра стала душнацяжкім, нават ліпкім.

Хмара быстра расла. Дзед Рэпка паглядзеў, як яна вылівае з аднаго крыла дождж, а другім усё хутчэй і хутчэй падбіраецца да сонца, і сказаў:

— Трэба канчаць. Навальніца прыйшла, мусіць, ненадоўга. Але на лузе цяпер няма чаго рабіць...

І бабуля, і дзедка кінуліся сабраць у капу тое сенца, якое паспела падсохнуць. За імі ўслед і Алёнка. У дзядулеву бараду налезла сухіх дробных травінак, красак. Начапляліся іх за хусткі, за кофтачкі і ў Алёнкі і бабулі. Але вось ужо апошняя копка гатова. З неба пасыпалі першыя сцюдзёныя кроплі. Бабуля схапіла Алёнку за руку.

— Ды што ж мы чакаем? На паром трэба. Папраў тут, Рэпка, капу, а мы пабяжым.



Але дзед Рэпка спыніў іх:

— Не трэба на паром. Дашчанка тут. Хацеў ехаць у чаўнаку, ды перадумаў: мала што можа здарыцца...

І бабуля, і Алёнка з удзячнасцю паглядзелі на дзядулю. Схапіўшы граблі, патрухалі да берагу. За імі хутка патэпаў і дзед Рэпка, несучы ахапак сена, каб прыкрыць ад дажджу малую ўнучку.

Калі яны дабеглі да лодкі, грымоты каціліся над самаю галавою. Ужо не асобныя кроплі, а густыя дажджыны прабіваліся да цела праз тонкі паркаль. Дзед Рэпка хуценька спіхнуў дашчанку, а бабуля ўзяла сена і засланіла ім унучку, прыхінуўшы яе да сябе. Праз гэта сена алёнчыны вочы мала чаго бачылі перад сабою. Але яна ўсё ж заўважыла, як на доўгіх тонкіх ножках скачуць дажджынкі па вадзе, як імкліва набліжаецца родны іхні бераг з гарою і хатай.

Сена, змочанае дажджом, запахла яшчэ мацней, пах, часам гаркаваты, казытаў у носе, роце. Па целе разлівалася санлівая млявасць. Алёнка расхінула рукамі сена, каб дыхнуць свежым паветрам, і ажно войкнула ад захаплення. Ад саменькай іхняй гары, ад берагу, куды приставала дзядулева лодка, пачыналася яркая-яркая шматкалёрая вясёлка. Адзін яе канец акунаецца ў Сож — ну, вось жа, пад самымі рукамі ў Алёнкі. А другі хаваецца недзе далёка за лугам над лесам. Алёнка да болю ў вачах углядаецца ў той бок. Дзе ж спускаецца другі канец радугі? Адкуль ён п'е ваду? А, можа, гэта з Сажа вось па той зыркай шматкалёрай дарожцы перавозіць навальніца ваду ў лугавыя затокі і азярыны? Поіць лугі, каб былі яны зялёныя, прывольныя?

Не зважаючы на дождж, дзед Рэпка і бабка Маланка таксама стаялі, дзівіліся на радугу. Нарэшце дзядуля сказаў:

— Шчаслівая твая радуга, зязюлька. Амаль з рук вырастае... Але хадзем хутчэй дахаты. Вунь змокла ўся. З гары паглядзіш. Станеш пад стрэшку і паглядзіш...

Алёнка паслухалася дзядулю і палезла на гару. І вунь яна ўжо стаіць на самым версе і крычыць, ажно спалохала дзеда і бабулю. Чаго яна так крычыць?

— Дзядулечка, бабка! Родненькія! Глядзіце, што там робіцца! На Сож глядзіце, на Сож, хутчэй!

Азірнуліся дзед і бабка і самі ахнулі. Ляціць крылатая «Ракета» па Сажы, ляціць пад самую радугу. Быццам вот-вот адарвецца ад хваляў, надзене на сябе радугу, як залатую дугу, і так паляціць, паімчыцца над цэлым светам. Ніколі дзед і бабка не бачылі такога цуда. Дзіва што ўсхвалявалася маленькае сэрца Алёнкі!

«Ракета» праскочыла пад радугавай вясёлкаю і схавалася за рачным паваротам. Дзед і бабка падняліся на гару, гукнулі Алёнку.

— Іду! Іду-у! — крычала Алёнка, а сама ўсё ніяк не магла адарваць позірку ад ракі з «Ракетаю», ад застожаных лугоў, над якімі гайдалася і трымцела вясёлая, звонкая вясёлка.

# БАСАНОГАЯ КАМАНДА

Буйныя кроплі дажджу яшчэ б'юць па шыбах. Рэзка шамаціць лісце пад цяжкімі срабрыстымі кроплямі. А басаногай камандзе ўсё хоць бы што. Ужо чуваць яе гвалт і смех. Пазадзіраўшы мокрыя сукеначкі, дзяўчаткі гарэзліва шлёпаюць па калюжынах. Вада мутная, пасыпаная пузыркамі дажджавых кропель. Пузыркі

танцуюць, як вострыя таўкачыкі, і з цмоканнем лопаюцца, зліваюцца з вадой. Гэтая гульня вясёлых дажджын яшчэ больш паддае ахвоты басаногай камандзе. Дзяўчаткі з асалодай узбіваюць дымныя калюгі, з задзірлівым запалам стараюцца ўзняць вакол сябе як мага больш пырскаў.

Уперадзе бяжыць бялявая Святланка. Адна каса яе распушчана, б'е па худзенькіх плечыках. Другая з выцвілай стужкаю неяк смешна тырчком глядзіць убок. Сукенка мокрая, прыліпла да цела.

— Глядзіце сюды! — крычыць Святланка.— Вясёлка адно крыло забірае. Вунь, вунь, за Сож панесла. Гайда на гару, затрымаем вясёлку!

— Паклічам Алёнку! Паклічам Алёнку! — Гэта звініць галасок Любашкі, самай блізкай Алёнчынай сяброўкі.

Дзеці з шумам уварваліся на двор дзеда Рэпкі. Куры з перапуду шарахнуліся хто куды. Певень ускочыў на шула, крыкнуў прарэзліва «кукарэку», нібы хацеў абараніць курыную сям'ю. Але столькі тут было крыку і смеху, што і ён спалохаўся, сігануў уніз і збег у сад.

— Алёнка! Выходзь! Пабеглі на бераг! — наперабой клікаюць сяброўкі.

— Зараз! Зараз! — адказвае Алёнка, насустрач сяброўкам расчыняючы дзверы хаты. Алёнка толькі што скінула ўсё мокрае. Зашпільвае на хаду белую сукеначку.— Ідзіце сюды! Усе заходзьце!

Дзяўчатак не трэба доўга запрашаць. Яны любяць Алёнку, бабку Маланку і дзядулю. Бабка ніколі не выпусціць іх са двара, не пачаставаўшы якімі-небудзь ласункамі. Вось і зараз яна ўжо стаіць ля Алёнкі. Пляснула рукамі:

— Авоечкі! А ліхачка ж маё! Дзе ж гэта вас так насіла? На каго вы падобны? Няўжо ўвесь час пад дажджом?

— Ды не. Мы толькі трошкі па калюгах пабегалі...— адказвае Святланка.

— А вада цё-оплая... Нібы хто знарок падаграваe... на комінку грэе...— са смехам пахвалілася чарнявая Галінка. Яна сярод усіх самая весялушка і пявушка.

— Падагрэюць вам сёння матузамі, ой, падагрэюць вашыя мамы!..— Бабка Маланка гаворыць з усмешкай, ласкава аглядаючы загарэлыя, замурзаныя твары дзяўчынак.— Ну ж, заходзьце, заходзьце. Пагуляйце ў нас. А там, глядзіш, і зямля падсохне...

Бабуля пасадзіла сяброўак Алёнкі за стол. І не паспелі тыя апамятацца, як перад імі ўжо дымілася вялізная гліняная міса з бліндамі, мачанымі ў масле з мёдам. Такі смачны пах пайшоў па хаце! Нікога не трэба было лішне запрашаць частавацца. Дзяўчаткі, сарамліва падпіхаючы адна адну, спачатку пацiснуліся бліжэй да місы. А потым, як па камандзе, дружна накінуліся на бліндцы. Алёнка разам з імі. Яна рада, што ў яе такая добрая і здагадлівая бабуля. І ёй прыемна з сяброўкамі ўвіхацца ля місы.

У весялушкі Галінкі вочкі-вішанькі весела зіркалі то на бабулю, то на сяброўак. Ёй, мусіць, даўно карцела неяк пасмяшыць застолле. Яе мілы з ямачкамі тварык пасылаў на ўсіх мноства смяшынак. Нарэшце, дзяўчынка, мабыць, надумалася. Даела блінец, аблізала языком пальцы, губы. І, падняўшы падол мокрай сукенкі, выцерла ім твар.

— Во як добра! Тут табе і ўмывальнік, тут і выціральнік!

Але ніхто не засмяяўся. Бо ўсе раптам пачулі, як за сцяною нехта шкрабаецца. Зірнулі на дзверы — клямка варушыцца. «Няўжо кот дабраўся ажно да клямкі?» — падумала бабка Маланка і пайшла да дзвярэй. Адчыніла — а там Васілёк. Малодшы брацік Полькі. Штонікі мокрыя, з іх брудныя струменьчыкі сцякаюць па ножках. Віхрасты чуб пучкамі тырчыць у бакі.

— А ты чаго тут?! — накінулася на яго Полька.— Я ж казала, каб ты сядзеў дома. А ну, кыш адсюль!

— Хай застаецца! Хай застаецца! — закрычалі дзяўчаткі.

— На блінец, Васілёк! — сказала Алёнка.

Васілёк шмаргануў носам, пацёр яго кулаком і ўзяў блінец.

— Хай спярша нос падатрэ! — смяецца Полька. Але тут жа зрываецца з месца, падбягае да брацiка, пяшчотна прыгладжвае яго чуб, папраўляе на ім кашулю, штонікі. Васілёк гучна сапе ад такое ўвагі да сваe персоны, прагна есць блінец. Ён пільна паглядае то на бабку Маланку, то на старэйшых сяброўак, якія хоць зараз прынялі яго ў сваю каманду.

Нарэшце, міса апусцела. Хто падзякаваў, а хто сабе і так — усе з шумам выскачылі з-за стала. Хутчэй на двор! Хутчэй на двор! Вунь як ужо залiваецца там сонейка!

— Алёнка, вазьмі мячык! На выгане ў лапту пагуляем. Гайда! Гайда! — камандуе Святланка.

— А дзе ж ён, гэты мячык? Вось бяда!

— А от ён тут, у сенцах,— гаворыць бабуля, ідучы за малымі, і выносіць мячык. Дзеці гоняць мячык перад сабою, а бабка Маланка стаіць, усміхаецца. Ніяк не можа ўспомніць, што ёй нагадвае гэты няўрымслівы смех дзетвары, які ўсё далей імкне па гары.

— Што з табою, Маланка? Аб чым ты? — пытаецца ў яе дзед Рэпка, выходзячы з саду з цэлай шапкай пазбіваных яблыкаў. Ён ставіў новыя падпоркі пад яблыні. Бо адзін сук ад навальніцы нават абламіўся.

— А ты паслухай...— адказвае бабка Маланка.— Чуеш?.. Дзеці...— Яна цяпер нарэшце ўспомніла, што ёй нагадаў такі мілы, бесклапотны дзіцячы смех. Яна ўспомніла свае маладыя гады і любых сваіх сыноў.— Як птушаняты...— з тужлівым роздумам гаворыць бабуля дзеду Рэпку.— Сабяруцца, пашчабечуць, пашумяць і паразлятаюцца...

А дзіцячыя крыкі, звонкія, задорныя, ужо чутны ля Сажа. Уніз, уніз! — бяжыць вясёлая каманда. Абхопяць з усіх бакоў бярозку, трасянуць, буйныя кроплі пасыплюцца з прамяністым звонам на лоб, на губы, на шыю,— і яшчэ смяшней і весялей дзетвары ад гэтых забаў.

На Сажы, як лёгкія парасоны, гайдаюцца па вадзе шырокія лісты лілей. Вада гоніць уніз сухія сцяблінкі, кару, мох, сена. Пасля дажджу заўсёды тут багата гэткага дабра. Вір круціць яго, круціць, а потым прыбівае да берагу. Вось гэты сур заўсёды чамусьці прываблівае хлапчукоў. Яны заграбаюць яго прыгаршчамі, выкідаюць на бераг.

— Мянёк! Мянёк!.. Вунь які ладны!.. Яшчэ!.. Трымай!.. Ды не бойся ж ты! — чуваць іхнія крыкі.

Калі дзяўчаткі, як гарох, пасыпаліся з гары, хлапчукі прыпынілі свой занятак. Убачылі мячык — і хутчэй з вады. Лапта ўсё ж мілей любой іншай прыгоды. Бягуць да дзяўчатак, зморшчанымі ад вады рукамі на хаду нацягваюць запырсканыя кашулі.

— Алёнка, Святланка! Мы выразалі для лапты добры кій. Будзем гуляць разам. Бяжым да лазы!

— Гайда! Гайда! — адказвае Святланка.

Алёнка гарэзліва падхоплівае Святланчыну руку, дзяўчынкі пазмоўніцку смяюцца. Ну, вядома ж, яны будуць гуляць разам. Што за цікавасць гуляць адным? Але яны не супраць згаварыцца, каб як-небудзь абыграць задавакаў-хлапчукоў.

Дзед Рэпка і бабка Маланка не стрымліваюць Алёнку ў яе вясёлых забавах. Дзе тут стрымаеш! Для дзяцей смех і прыволле — тое ж, што для дарослых радасць і шчасце. Цэлы дзень малыя на нагах, нешта сабе выдумляюць, майструюць, шукаюць, то рупліва-задаволеныя, то задумныя, то такія бесклапотныя, як ніхто на свеце. Ну і што ж, няхай сабе, гэта іх здароўе. Але пад самы вечар дзед Рэпка заўсёды стараецца быць дома. Бо не было яшчэ таго дня, каб пасля лапты дзеці не прыбеглі да яго — ці паслухаць казку, ці нечым пахваліцца, ці спытаць пра штось невядомае. Іх цікавіць усё на свеце. А што там у курганах — ну, вунь у тых, што дрэмлюць над Сажом? Скуль яны з'явіліся ў іхнім лесе? А куды цячэ Сож? Адкуль выплывае? А чаму хлапчукоў бяруць у армію, а дзяўчынак — не? Дзе хаваюцца зоркі раніцай, адкуль вынырае сонца, дзе спіць?

Не адзін раз дзед Рэпка прыпаліць сваю піпку, пакуль раскажа ўсё сваім дапытлівым слухачам. Што і казаць, народ хоць малы, але такі патрабавальны і цікаўны. Хіба дзед Рэпка ў свой час, калі быў вось такі малы, ведаў столькі ці бачыў? Го! Скажы яму тады пра ракету ці спутнік. Ды што спутнік! Самалёта ці нават машыны звычайнай і то не бачыў. А яны? Сам вучоны і то не адказаў бы другі раз на іх пытанні. У дзядулі ў такіх выпадках ёсць маленькая хітрасць. Усміхнецца, пагладзіць сівую бараду. Дзеці ўжо ведаюць: раз дзядуля ўзяўся за бараду — то нешта цікавае раскажа. А дзед Рэпка памаўчыць, папыхае піпкай, а тады пачне гаворку. Дзяўчаткі блізка падсоўваюцца да дзядулі і слухаюць. Бабка Маланка ўлюбёна глядзіць на іх твары, вочы, на іх схіленыя галовы — бялявыя, чарнявыя, русыя. Такія яны ўсе розныя, дзеці, а такія блізкія, родныя. Бабка Маланка нешта шэпча сама сабе, нібыта моліцца. Дзед жа Рэпка павольна, быццам перадумвае кожнае слова, расказвае малым пра асілкаў і волатаў, пра герояў, што баранілі край ад варожай навалы. Слухаюць малыя, і так узвышаюцца іхнія шчырыя, чыстыя сэрцайкі. І так соладка хвалюе іх чароўнае пытанне: няўжо гэтыя смелыя героі, што на сівых і буланых конях ляцелі ў бой на фашыстаў,— няўжо то былі іх бацькі і дзядулі? А цудоўныя чараўніцы, што залечвалі раны героям, няўжо былі іхнія бабулі і мамы?

— Так, так... Няма нічога мілейшага на свеце, чым родная наша зямля...— задумна гаворыць дзед Рэпка.— Слухайце, запамінайце... Хай добрыя зерні западаюць у вашу душу...

І дзяўчаткі баяцца паварухнуцца, гатовы сядзець хоць да ночы, толькі б слухаць і слухаць расказы дзядулі.

Доўга б так сядзелі і сёння, калі б не пачуліся праз адчыненыя вокны і дзверы заклапочаныя галасы матак.

— Бабка Маланка, а, бабка Маланка! Ці не ў вас нашыя назолы? Ганіце іх дамоў, вячэраць пара!

— У нас, у нас! — адказвае бабка Маланка.— Заходзьце, суседачкі, тут яны!

Але дзяўчаткі, як звычайна, не чакаюць, пакуль зойдуць сюды іхнія мамы. Лёгка зрываецца з месца басаногая каманда і, хоць не так шумна, як днём, але дружна вылятае на вуліцу.

— Гайда! Гайда! — камандуе Святланка.

— Святланка! Любашка! Збяромся заўтра раней! — заклікае Алёнка.



— Добра! Збяромся!— далятаюць з вуліцы малечыя галасы.

Алёнка стаіць усмешлівая і думае: хутчэй бы прыйшло заўтра, хутчэй бы зноў быць з сяброўкамі і сябрамі! І дзед Рэпка з бабкай таксама ў задуме, ніяк не могуць агледзецца і зразумець: чаму такой прасторнаю стала раптам іхняя хата — няўжо такой сваёю стала тут басаногая каманда?

# АЛЁНЧЫН САД

Калі з далёкай Нямеччыны сын Павел прывёз на радзіму маленькую Алёнку, была ранняя вясна. Набухлі, праклюнуліся пупышкі на дрэвах, гатовыя стаць клейкімі лісточкамі. Зацвіла ў лузе лотаць, зазелянела першая трава. І дзед Рэпка якраз прынёс тады з-за Сажа, ад старога прыяцеля, садовыя саджанцы.

— От і добра,— сказаў дзед Рэпка бабулі і сыну.— Пасадзім Алёнчын сад. Няхай вырасце нашай унучцы...

Так з таго дня сад і зваўся — Алёнчыным. Алёнчын сад — гэта цяпер ведала і сама Алёнка, і амаль уся іхняя вуліца.

За сем гадоў, пакуль расла Алёнка, вырас і яе сад. Цяпер ужо кожны год на яблынях і на грушах бывае поўна пладоў. Алёнка добра ведае кожнае дрэўца ў садзе. На першым месцы, бліжэй да хаты, каб было зацішней ад сівера, дзед Рэпка пасадзіў чатыры грушы. Дзве бэры, адну дулю і яшчэ нейкую з пароды цукровак. За імі выстраіліся чырвоныя шафраны. А далей, вакол старой-старой грушы-дзічкі, быццам кругом бабулі, падняліся цітаўкі і антонаўкі. А яшчэ далей, паўз прасла ад Жураўкавага рова, як маладыя стройныя цёткі, стаяць вішні і слівы.

Алёнка разам з дзядулем сама даглядае свой сад. З усіх летніх радасцей — гэта ў яе, мабыць, самая найлепшая. Кожнай раніцаю, наведаўшы градкі з кветкамі, яна бяжыць потым пад ціхія дрэвы, што вырасцілі ёй столькі падарункаў. Толькі ў дні касьбы, калі ўсе спяшаліся на луг, яна сустракалася з садам ці ўжо днём ці нават пад вечар.

Як і ўсе дзеці, Алёнка не ўмее хадзіць спакойна. Яна падскоквае то на адной, то на другой назе. Скок-скок на адной, скок-скок на другой. Заўсёды вясёленькая, смяшлівая, а пасля пацалункаў з кветкамі, з пылком на губах і шчоках, і зусім смешная. Светлыя кудзеркі матляюцца ў такт падскоку. Пяткі чорныя ад мокрай зямлі. Бабка Маланка пазірае на ўнучку, усміхаецца. «Ну і дзеці. Колькі радасці з імі. Колькі клопатаў. Бяжы, бяжы, унучачка. Бяжы, здаровая».

Алёнка весела скача ад грушы да яблыні, ад яблыні да грушы. Падбягае да любімай сваёй бэры. Ці падраслі грушкі? Падраслі, падраслі! І бачкі парудзелі на сонейку. Няхай растуць. Вось будзе смак. Алёнка памятае, як было летась. Мала вырасла бэраў, але якія сакаўныя, у роце раставалі. А вось шафраны. Алёнка ўглядаецца ў іх вяршыні. Ціхі ветрык калыша лістамі. Яны вітаюць Алёнку.

— Добры дзень, шафраначкі, сяброўкі мае! — гукае Алёнка. Нагінаецца, у стракаты фартушок падбірае духмяныя падалікі. Яблыкі блішчаць на сонцы, мокрыя ад расы, так і просяцца самі ў рот. «Не, не, гэта дзядулі, а гэта — бабцы. А яшчэ Любашцы. У іх зусім малады садочак. Яшчэ няма яблыкаў...» — разважае Алёнка. І зноў — скок-скок пабегла далей.

Раптам з самай вяршынькі, пашаптаўшыся з галінкамі і зялёным

ліcцем, да ног Алёнкі падае чырвоны вялікі яблык. Яблык цёплы, нагрэты сонцам. Пахне ад яго расой, ветрам і яшчэ нечым, ад чаго прыемна казыча ў горле. Ах, які яблык! Трэба паказаць дзядулю. Дзед Рэпка такі рады, калі ўбачыць што-небудзь цікавае, прыгожае. Алёнка запіхае яблык у кішэньку сукенкі, ён не лезе, яму там цесна. «Але затое будзе цёпленька»,— думае Алёнка і бяжыць далей. Пад кожным дрэвам тоіцца нешта сваё. На вішнях і слівах выступілі з-пад кары бурштынавыя слёзы смалы. Вось каб іх пакаштаваць? Алёнка пальчыкамі аддзірае смаловыя слёзкі. Смачна! Трошкі з кіслінкай, трошкі з гарчынкай,— смак гэтай смалы перанёс Алёнку ў нейкую казку. Быццам недзе ў далёкім-далёкім царстве дзеці самога сонца дарылі ёй скарбы шчасця.

Нечакана з высокай грушы-дзічкі палілося «пін-пін-піньк» — запозненае спяванне зябліка. Алёнка ведала, што птушкі даўно жывуць на старой грушы. І лічыла іх сваімі. «Мая птушачка сёння зноў заспявала»,— скажа яна дзеду і бабцы. Птушкі пасяліліся тут з самай ранняй вясны. Вясною яны многа спявалі. Потым Алёнка чула галасы маленькіх птушанятак і бачыла, як птушкі насілі ім яду — мошак і чарвякоў. Алёнцы толькі ніколі не ўдалося ўбачыць іхняе гняздзечка. Бывала, вясною Алёнка прыйдзе пад грушу, сядзе на круглячок, укапаны дзедам, і доўга слухае звонкія птушыныя песні. Алёнка часта бачыла птушак — як яны раскрывалі роцік для спеваў. «Пін-пін-пін-піньк»,— як бы сярэбраныя гарошынкі сыпаліся з галіны. Іншы раз Алёнка нават адчувала рукамі — як падаюць гэтыя чыстыя сярэбрынкі. Ад іх дужа цёпла рукам. А гняздзечка сваё птушкі так і не паказалі. «Што ж,— сказалі дзед і бабка.— Значыць, яны так хочуць. Трэба іх слухацца. А то паляцяць ад нас. А гэта нядобра».

Цяпер, пасля доўгага перапынку, птушка спявала зноў. Алёнка крадучыся наблізілася да старое дзічкі і ўбачыла птушку. Яна перабірала свае пярынкі, чысцілася. Ды раз-пораз адкрывала роцік і кідала на Алёнку жывыя сярэбраныя расінкі. Раптам з Жураўкавага рова пачуўся другі такі ж голас. Алёнчына птушачка пырхнула і паляцела. На ляту яна кінула яшчэ адно маленькае «пін-піньк» і больш не вярнулася. Алёнка задумалася. На вяршыні бярозы над хатай яна ўбачыла некалькі пажоўклых лісточкаў. Так рана чамусь лісточкі пажаўцелі. Можа, і птушачка ўбачыла гэтыя лісточкі? І развіталася з садам да новага лета? Алёнцы стала крыху сумна. Але яна тут жа ўспомніла яшчэ адну радасць свайго саду. У самым вугле агарода між дзвюх сасонак, ля счарнелага дубовага пня, жывуць у зыбучым доміку клапатлівыя мурашкі.

Скок-скок, скок-скок,— і Алёнка ўжо там. Яна падышла да мурашніка якраз тады, калі па пясчанай дарожцы мурашкі цягнулі ў сваё гняздо доўгія шыгалінкі з-пад сасны. Можа, і яны ведаюць, што ўжо скошаны лугі, пачынаецца жніво? Можа, баяцца, што скора надыдуць халады, і хочуць зрабіць мурашнік цяплейшым?

Мурашкі сноўдалі туды-сюды, некуды спяшаліся, аднекуль вярталіся, нагружаныя ўсякім мурашыным дабром.

Алёнка ўзяла кіёчак і падгарнула край мурашніка. «Каб ім менш было працы»,— потым яна тлумачыла дзедку. Але яна ўбачыла, як ліхаманкава-ўстрывожана закідаліся мурашкі пасля такой яе дапамогі. Здавалася, што ад мурашніка чуецца жаласны енк і плач. І дзед Рэпка тады пасварыўся на Алёнку. Ад дзядулі Алёнка даведалася, што мурашкі ахоўваюць агарод і сад ад ворагаў — вусеняў, мошак, чарвякоў.



Доўга працавалі мурашкі, каб паправіць тое, што Алёнка набурыла. І пасля таго дзяўчынка яшчэ больш шкадуе мурашак. Кожны раз прыносіць ім які-небудзь гасцінчык. Вось і сёння не забылася — дастала з кішэнькі цукерачкі. Учора дзядуля ёй даў. Разгарнула паперчыны, паклала цукеркі на край мурашніка. Як забегалі мурашкі! Як чуюць яны салодкае! Абляпілі цукеркі, смокчуць ласунак.

Алёнка махае мурашніку рукою, развітваецца з яго працавітымі гаспадарамі. «Сцеражыце мой сад! Я буду любіць вас, мурашачкі!» — просіць яна. І бяжыць хутчэй дахаты. Там яе чакаюць дзедка і бабка. Трэба хутчэй пачаставаць іх яблыкамі. І расказаць усё пра свой сад.

# ПАДАРОЖЖА ЗА СІНЮЮ БУХТУ

Скончыўся сенакос. Абгарадзілі стагі. Дзед Рэпка, як вартаўнік, усё дагледзеў у лузе. І цяпер яму стала многа вальней.

Ужо даўно збіраўся дзед Рэпка з'ездзіць у лес за Сінюю бухту. Насячы паплёту, каб паправіць страху на хаце. Бо пачало ўсё падгніваць. І з сабою дзед Рэпка абяцаў узяць Алёнку.

Сіняя бухта на тым баку Сажа добра віднеецца Алёнцы з гары, ад іхняе хаты. Тут, на сваім баку, Алёнка вывучыла ўсё. І Жураўкаў роў, у якім б'юць сцюдзёныя крыніцы і бягуць потым празрыстымі нітачкамі ў Сож. І белае вапняковае ўзвалле ля прыстані. І шырокае, глыбокае вотмата, дзе тоўпяцца чарадою чаўнакі. Выбегала яна сваімі ножкамі і чыстую пясчаную касу за вотматам, дзе зацішна і водарна між вадою і лазнякамі.

А за Сож Алёнка ездзіла ўсяго некалькі разоў. З бабуляю пераязджалі нарваць шчаўя. Ды нядаўна была там, як касілі луг. Але ж сенакос быў блізка, ля самага берагу. А што там далей — за вольным лугам, пад сінім лесам, за маўклівымі азёрамі?

Сіняя бухта, абкружаная зараснікамі лазнякоў, бліскотнай рыбінаю вырываецца з Сажа і далёка ўразаецца ў луг. Яна цягнецца да лесу, а можа і далей. Дзед Рэпка часта на сваім чаўначку хаваецца за лазнякамі Сіняй бухты. Адтуль дзядуля прывозіць Алёнцы прыгожыя лазовыя кошыкі, тоўстых, як парасяты, лінёў, лугавы часнок.

Бабка Маланка не ўхваляла дзедава рашэнне ўзяць Алёнку.

— Хай бы куды ў свой бок, а то на ваду. То ж такая непаседа, наша ўнучка...

— Нічога,— сказаў дзядуля.— Алёнка разумная. Яна будзе мяне слухацца, сядзець ціха. Будзеш, зязюлька мая?..— спытаў дзед, схіліўшыся да ўнучкі.

— Буду!.. Дзядулечка...— выдыхнула ўзрадаваная Алёнка.

— Ну, от... бачыла? — звярнуўся дзед да бабулі.— Я ж казаў. Хай пабачыць свет.

Пасля снедання дзед Рэпка ўзяў сякеру, вяроўку, стары брызентавы плашч. «А раптам дождж, каб было ўнучку чым засланіць». Алёнка не ведала, што ёй узяць. Дык бабуля Маланка дала ёй у рукі торбачку. Торбачка гэта была не звычайная. Яна шмат дзе пабывала з дзедам Рэпкам і бабкай Маланкай. Ад торбачкі, калі яна вярталася з вандровак, пахла хлебам, гуркамі, цыбуляй ды яшчэ вадою і лугавым ветрам. А сёння ад торбачкі пахла гарачым праснаком, які бабуля спякла толькі што, ды салам з кменам. Гэта сала такое смачнае, а дзядуля абяцаў Алёнцы паказаць нешта дужа цікавае — як смажыць сала на лаўцы.

Пакуль дзядуля спусціўся з гары, Алёнка скок-скок, па сцяжынцы з белым пясочкам, так і зляцела да вады. Дзіва што! Хіба часта бывае такое ў жыцці Алёнкі! Яна паклала торбачку на лазовую карыну і хутчэй насустрач дзеду. Узяла ў яго вяроўку, пачыну.

Дзядуля адвязаў ад пянёчка лодку-пласкадонку. Пачынаю выграб з яе ваду, акуратна паклаў пад лаўку сякеру і вяроўку. Для Алёнкі на днішчы падаслаў свой брызентавы плашч. «Ну, паехалі, зязюлька?» — спытаў і адпіхнуўся ад берагу. «Толькі ж глядзі, унучачка, не варушыся, сядзі роўна»,— папрасіў дзед Рэпка.

Алёнка сядзела тварам да дзеда, а рукамі моцна трымалася за лаўку. Калі вада захлюпала пад лодкай, а зямля, закружыўшыся, пачала аддаляцца,— Алёнка пашкадавала, што няма побач бабулі. Але цікавасць яе ўсё ж разбірала. Вось ужо родны бераг пабег далей, далей, адплывала гара, а на ёй хата, рака пад дном лодкі хлюп-хлюп, хліп-хліп,— а нічога дрэннага не адбылося. Алёнка адразу забылася на страх і пачала азірацца. Ёй цікава было паглядзець, дзе яны едуць. Дзед Рэпка мерна махаў вяслом. Лодка пасоўвалася наперад якраз супраць таго месца, дзе яны ад'ехалі.

Але на самай сярэдзіне Сажа быстрыня падхапіла лодку. І хоць лодка ішла ўсё ў тым жа кірунку, а бераг і хата пачалі шпарка адбягаць убок. Алёнка зірнула на быстрыню — там вірылася глыбокае цёмнае прадонне. Вада то сівымі пасмамі вырывалася з глыбіні, то зіхатліва кацілася ўніз. Часам на паверхні вады з'яўляліся залатыя пясчынкі. Але яны не паспявалі пабліскацець на сонцы — нехта як бы хапаў іх і цягнуў назад.

Раптам непадалёку ад лодкі, як дажджынкі, пырснулі хто куды маленькія рыбкі. А ўслед нешта моцна, з выбухам, узняло ваду.

— Дзеду-у-у!..— спалохана закрычала Алёнка.

Дзед Рэпка вомільгам кінуўся насустрач унучцы. Моцнай рукой прыхінуў да сябе.

Лодка, адчуўшы волю, закружылася на месцы.

— Гэта рыбіна, не бойся, зязюлька мая. Шчупак, каб яму вілы ў бок. Сядзь, унучачка, сядзь... Паедзем... Не будзеш баяцца, добра?

— Добра...— сказала Алёнка, паглядаючы на ваду, і дзед пасадзіў яе на сваё месца. А сам узяўся за вясло. Лодка зноў паслухмяна пайшла па яго волі. Хутка пад яе дном зашархацелі лісты гарлачыкаў і асакі. Сож застаўся адзаду. Лодка ішла паміж лазнякамі. Пачалася Сіняя бухта. Алёнка прыўзнялася са свайго седала — плашча-дажджавіка. Ёй даўно так марылася пабачыць Сінюю бухту!

Лазнякі паабапал лодкі нечакана скончыліся, і перад вачыма адкрылася доўгая-доўгая і досыць шырокая водная паласа. Яна бліскала гарачымі сонечнымі водбліскамі. І ўся, як дыван, была ўпрыгожана зялёнымі лістамі, белымі і жоўтымі галоўкамі азёрных гарлачыкаў. А з усіх бакоў звінелі, чэкалі, перагукваліся птушыныя галасы.

Дык вось якая яна, Сіняя бухта. Яна зусім і не сіняя зблізку. Чаму ж яна здаецца сіняй адтуль, з гары, ад хаты?

Алёнка вырачыла вачаняты, усё ёй хацелася ўгледзець. А дзядуля пацiху заграбаў вяслом, пяшчотна глядзеў на ўнучку і летуценна гаварыў не то ёй, не то самому сабе:

— Кожная лапінка на зямлі — як усё роўна казка якая... Колькі тут нарадзілася і вырасла птушанят за ціхай сховай лазнякоў, між гэтых лілей пахкіх... А колькі песень тут праспявана... Глядзі, глядзі, Алёнка, зязюлька мая! — ажывіўся дзед.— Вунь за тыя чараціны глядзі. Качкі. Бачыш, галоўкамі водзяць?





— Дзе? Дзядулечка, дзе? — выгукнула Алёнка.
— Ды вунь жа, вунь цяпер да сітніку плывуць. Бачыш?
— Бачу, бачу, дзядуля! Плыві да іх! — падхапілася і запляскала ў ладкі Алёнка. І ў гэты ж момант качкі, узбунтаваўшы ваду, са свістам узняліся ў паветра. Скіраваліся да берагу, а потым прашалясцелі ў праменнях сонца. Але яны не паляцелі далёка. Зрабіўшы вялікі круг, качкі пранесліся амаль над самай лодкай. І апусціліся блізка ля таго месца, дзе былі і раней.
— Вярнуліся...— задаволена сказаў дзед.— Гэта яны таму, унучачка, вярнуліся, што ведаюць нашу лодку... Качкі, хоць і дзікія, але запамінаюць чалавека. Яны яго не баяцца, калі ён іх ніколі не палохаў...
Лодка нячутна пасоўвалася палоскаю чыстай вады. А паабапал яе адплывалі жоўтыя і белыя гарлачыкі, купкі шапатлівых сітнякоў, задумная куга. Часам пад лодку ныралі цэлыя нізкі дробных і вострых, як у палявой бярозкі, лістоў. А між імі там і сям, нібы з цікаўным здзіўленнем, паглядалі на Алёнку ліловыя вочкі незнаёмай расліны.
Дзед Рэпка як бы чытаў алёнчыны думкі і зараз жа прыйшоў ёй на дапамогу.
— Вось пад тымі лісточкамі, што як галінка ў бярозы, расце цікавае нештачка. Бачыш, унучачка, у вадзе? Вунь, вісіць, як на вяровачцы, а само калючае, нібы вожык. Вадзянымі арэхамі завецца. Цяпер яны яшчэ зялёныя. А хутка паспеюць, я табе прывязу. Пабачыш, якія смачныя.
— А вочкі? Вунь тыя, дзядуля. Вунь зіркаюць?
— Вочкі? — Дзед Рэпка сам, мусіць, не ведаў, як завецца гэтая расліна. Але ён добра памятаў, як у маленстве ласаваўся ёю з хлопцамі. На яе карэннях вырастаюць невялічкія бульбінкі. Хлопцы пяклі іх у прысаку і з асалодаю елі. Мусіць жа, гэта бульбаю і завецца.— Гэта? — перапытаў дзед і, не вагаючыся, адказаў: — Гэта бульбачка такая. Калі-небудзь выберам час, дык паедзем на бераг, раскладзем цяпельца, і я табе спяку тую бульбачку.
— Ой, добра, дзядуля! А ты не забудзеш?
— А ты мне ўспомніш, зязюлька, і я не забуду,— з усмешкаю адказаў дзед і павярнуў лодку да ладнай купкі зіркастых гарлачыкаў.— А вось тут мы нарвём табе красак. Спляцеш вяночак...
Алёнка моцна трымалася за дзедаву руку, а ён раз-пораз нахіляўся і выцягваў у лодку жоўтыя пахучыя краскі з доўгімі тонкімі каранямі. Часта паміж імі траплялася і белыя. Яны не пахлі, але былі такія свежыя, чыстыя, мілыя. Алёнка нават цалавала іх.

Хутка ў руках у Алёнкі было цэлае бярэма азёрных красак. Дзед Рэпка зноў узяўся за вясло, з радасцю назіраючы за ўнучкай — як жвава яе пальчыкі плятуць вянок. Бабка Маланка навучыла Алёнку рабіць самыя прыгожыя вянкі. І зараз пад рукамі Алёнкі жоўтыя і белыя лілеі ахвотна сплятаrange ў дзівосны ўзор. Вось і гатова! Алёнка надзявае вяночак на светлыя кудзеркі, і дзед Рэпка ўсміхаецца ад задавальнення.
— Якая ты, унучачка...— кажа ён.— Як тая Васіліса Чароўная... Памятаеш казку бабуліну?..

Алёнка памятае. Гэта якраз у такой бухце жыла тая Васіліса, якую зачаравалі злосныя ведзьмакі, ператварыўшы ў жабу. «Дзеду...» — нешта хацела спытаць Алёнка. Але ў гэту хвіліну штосьчорнае, як корч, паказалася над вадою. Корч рухаўся наперадзе лодкі роўна па той жа палосцы вады, па якой плыла і лодка. У Алёнкі ажно рот адкрыўся ад здзіўлення. А корч між тым вырас на вачах, і раптам Алёнка ўбачыла, што ў яго ёсць галава, спіна, хвост.
— Гэта бабёр, не бойся, унучачка,— сказаў дзед Рэпка.— Гэта звярок такі. Ціхі. Ён ніколі нікога не чапае. А жыве ў хатках лазовых. Хаткі іхнія на беразе, ля самай вады. Вунь пад лесам, ужо недалёчка. А заплыў ён сюды, каб пагуляць ды пацікавіцца светам. Бабры таксама цікаўныя.
Бабёр, нібыта пачуўшы словы дзеда Рэпкі, нечакана развярнуўся галавою да лодкі. Можа яго зацікавіла лодка, а можа яму спадабаўся алёнчын вяночак. Дзед Рэпка перастаў веславаць. Лодка паціху пасоўвалася сама сабою. Алёнка прыўзнялася, каб лепей разгледзець бабра. Але раптоўна як быццам нешта стрэліла па вадзе, бабёр кульнуўся ўніз галавою і знік пад вадой.
Алёнка спуджана і ўзрадавана паглядзела на дзядулю. А тады ўсхвалявана спытала:
— Дзядуля, а што гэта так стрэліла па вадзе? А бабёр дзе?
— Зараз ён пад вадою шыбуе дзе-небудзь. Ён добры плывец. А стрэліла — дык гэта, унучачка, бабёр так хвастом б'е. Можа, каб напалохаць. А можа гуляе так. Бабры разумныя. От пабачыла б, як яны хаткі хітра будуюць.
— А ты пакажаш мне бабровы хаткі? Дзядуля, любы, пад'едзем да тых хатак!
— Пад'едзем, зязюлька, пад'едзем. Якраз жа да іх і едзем.
Дзед Рэпка моцна налёг на пачыну. Лодка імкліва заслізгала па вадзе. Алёнка цяпер вачэй не зводзіла з ляснога берагу, які хутка набліжаўся. Вось ужо зашархацелі па краях лодкі тонкія чарацінкі і сітнякі. А вось чараты і сітнякі абарваліся, і паміж лодкай і берагам адкрылася шырокая паласа чыстай вады. Лодка весела прабегла па гэтай цёмнай вадзе, з якой там-сям тырчэлі сукі пачарнелых дрэў, і сунулася ў круты бераг.

# СОСНЫ

Дзед Рэпка пагрэбаў вяслом, пакруціў трохі лодку, і яна паслухмяна ўехала носам у высокую берагавую траву, схаваўшыся ў ёй амаль да палавіны.
— Ну, прыехалі,— кладучы вясло, сказаў дзядуля.— Цяпер падымайся, бяжы на бераг.
Алёнка абрадавалася. Хоць і цікава ехаць у лодцы, але сядзець на адным месцы надакучыла. Яна хуценька ўскочыла на ногі. Лодка моцна стаяла на месцы, нават не гайданулася. І Алёнка зараз жа апынулася на сцяжынцы сярод травы.
На беразе амаль ад самай вады пачынаўся лес. Спачатку раслі разлапістыя і кучомістыя кусты вербалозу, абкружаныя густой сцяною блёкату і асакі. За вербалозамі мясціліся альшыны і асінкі. Тут на сцяжынцы алёнчыны ножкі густа ўспылілі чарнату перасохлага торфу. Але трошкі далей, за асінамі, пачыналася пясчанае ўзвышша. Там стаялі высозныя кашлатыя сосны. Алёнка ўбачыла жоўты пясок і сосны і адразу скіравалася да іх.
Дзед Рэпка затрымаў яе.
— Зараз я пакажу табе, унучачка, бабровыя хаткі. Забылася? У лес пойдзем пасля. А цяпер дай ручку, а то ў ямы ўваліўшся.
«У якія ямы, дзеду?» — хацела спытаць Алёнка. Ды тут жа,

ледзь ступілі некалькі крокаў, убачыла гэтыя ямы. Зверху ўсюды аднолькава расла ўзбуялая трава. Але расхінула Алёнка траву там, дзе паказаў ёй дзядуля, і ўбачыла ўнізе доўгія глыбокія канавы. На самым іх дне блішчэла вада. А там, дзе вада высахла, дно было да бляску выслізгана, віднеліся частыя сляды.

— Дзядуля, міленькі, паглядзі, а хто гэта там хадзіў? — узрушана пытала Алёнка.

— А вось гэта ж і ёсць хады ў бабровыя хаткі. От зараз убачым і самую хатку.

Алёнка з дзядулем абкружылі шырокі куст. Падышлі да невялічкага пагорачка пад травою, з-пад якой там-сям вытыркаліся лазовыя дубцы. Дзед Рэпка падвёў унучку да таго месца, дзе пагорачак падыходзіў да самай вады. Тут на беразе ў траве сохла многа чыста паабробленых лазовых дубцоў. А дзе-нідзе ляжалі і досыць тоўстыя сукі і стваліны, як бы спецыяльна абгабляваныя і адбеленыя на сонцы.

— Глядзі ўніз, унучачка,— сказаў дзядуля, і Алёнка ўбачыла такі ж ход, як і раней. Унізе была выслізганая канава з вадою на самым дне.

— Вось гэты ход і ёсць галоўны ў бабровую хатку. А хатка — вось яна, пад гэтым пагорачкам. Хаткі бабры робяць дужа дасціпна і акуратна. Там у іх некалькі паверхаў. У самым нізе адзін пакой, вышэй — другі. А, бывае, ёсць яшчэ і трэці. Гэта — каб падняцца туды, калі пачне прыбываць вада.

— Дзеду, дзядулечка, а можна зайсці ў бабровую хатку?

— Не, дзетка... Навошта ж гэта... Нашто нам, унучачка, заходзіць у чужую хату без запрашэння? Так рабіць нельга.. Бабры ціхі народ, але і яны не любяць, каб іх чапалі. Бачыш дубцы, так чыста зрэзаныя? Дык гэта ж бабры так робяць зубамі. Зубы ў іх, як стальныя разакі. Яны не толькі тонкія лозы стругаюць сабе на ежу, але для хаткі валяць і тоўстыя дрэвы. І хоць бабры і мірныя і палахлівыя як быццам, а ў небяспецы яны смелыя і добра бароняцца вострымі зубамі.. Мне, унучачка, паказвалі чалавека, які застаўся без рукі, захацеўшы пакрыўдзіць баброў... Вядома... Нашто ж чапаць добрую жывёліну...

Толькі дзед так сказаў, як на чыстай вадзе бухты пачуўся ўдар бабровага хваста.

— Бачыш... Злуецца... Яму, мусіць, дахаты трэба, а мы тут стаім. Вось і дае сігнал. Там, можа, яго малыя чакаюць. Хадзем, унучачка...

Алёнка згадзілася з дзедам, але ёй так хацелася хоць адным вокам зазірнуць у бабровую хатку. Яна легла на край канавы і глянула ўніз. Там было зусім цёмна. Але ёй здалося, што з цемры на яе бліснулі малыя ўстрывожаныя вачаняты. Ёй стала шкода, што яны затрымалі бабра, і яна ахвотна пайшла за дзедам.

Дзед Рэпка вярнуўся да лодкі, заткнуў за пояс сякеру, узяў плашч і торбачку. І цяпер ужо скіраваўся проста да сасновага жаўтапёса. Ён падвёў Алёнку да магутнай разгалістай сасны на сыпкім пясчаным узваллі.

— Вось тут,— сказаў дзед,— спынімся, унучачка. Раскладзем цяпельца. Ты хочаш цяпельца класці? От і добра... А потым я схаджу адсяку паплёту трошкі. Ты не будзеш каля цяпельца баяцца? Не? Малайчына, унучачка. Ты смелая. А я буду тут блізка, зусім блізка...

Алёнка не хацела казаць дзеду, што будзе адна баяцца. Ды і цікава было застацца адной каля цяпельца. Яна ніколі яшчэ не была ля агеньчыка.



Сасна, ля якой яны спыніліся, была не адзінокая. Побач з ёй рэдкай чарадою стаяць па ўсім узваллі яшчэ такія ж сосны. Але гэта сасна расце на самым высокім месцы. Ад яе далёка ўсё відаць навокал. Лугі са стагамі, азярыны, грывы. І родную хату на гары ўбачыла Алёнка і весела заскакала перад дзедам. «Наша хата, дзядулечка, унь наша хата!» Сасна гэта дужа спадабалася Алёнцы. Яна аб нечым задумна шумела. Пад самым яе камлём, як дзве рукі, якімі яна ўчапілася за зямлю, выйшлі два тоўстыя вузлаватыя карані. «От нам і добрыя будуць лавачкі»,— сказаў дзед і прымасціў на адзін корань торбачку. А на другі паклаў плашч.

Вакол сасны многа ляжала перасохлых галінак, лапак, шыгалля, шышак. «А ну ж, унучачка, назбірай мне гэтага суру»,— папрасіў дзед Рэпка. Алёнка ўмомант нацягала да дзеда ўсялякай сухой усячыны. Дзед чыркнуў запалкай, і нябачны пад сонцам язычок полымя пацягнуўся ўгору смалістым дымком. Алёнка запляскала ў ладкі. А дзед падклаў у полымя таўшчэйшых сукоў, а тады сказаў:

— Ну, зязюлька, от табе торбачка, еш усё, што ні схочаш... А я пайду... Глядзі, куды.

Дзед Рэпка паказаў за сасну.

— Вунь малады сасоннік. Там я і буду. Слухай мой тапор, ён весела спяваць будзе...

— А ты скора, дзеду?..— спытала Алёнка, не жадаючы сказаць, што яна адна баіцца.

— Скора, скора, унучачка...— Дзед Рэпка пагладзіў Алёнку па галоўцы. Дастаў ёй з торбачкі самую вялікую шафранку («от еш і слухай, як жыве зямля») і рушыў у лес.

Алёнка ўкусіла яблык, падкінула ў цяпельца шышак і лапак. Хутка яна пачула, як заспяваў зусім побач дзедаў тапор. «О-гох, о-гох, дзэн-дзэн, дзэн-дзэн, о-гох, о-гох, дзэн-дзэн, дзэн-дзэн»,— ішла музыка з сасонніка, і Алёнка зусім супакоілася. Весела гарэў агеньчык. Лёталі матылькі. Зумкала пчала. Па пясочку каля самага камля сасны снавалі туды-сюды мурашкі. Алёнка ўстала са свайго плашча. «Дзе яны жывуць?» — падумала яна, успомніўшы мурашнік у сваім садзе. «Мурашачкі, дзе ваш домік? Пакажыце мне, я ваша сяброўка!»

Нечакана пад самыя ногі Алёнкі скаціўся з сасны сухі сучок. Алёнка зірнула ўгору і на галіне ля ствала ўбачыла маленькага рыжага звярка. Яна адразу пазнала яго, бо не аднойчы разглядала ў кніжцы, якую купіў ёй дзядуля ў мястэчку. То была вавёрка. Цокцок, цок-цок,— вавёрка весела заківала галоўкай. Яна сядзела на задніх лапках, закінуўшы на спіну пушысты хвост. А пярэднімі лапкамі не то мылася, не то паказвала Алёнцы нейкія знакі. «Пра што яна ківае? — падумала Алёнка.— Можа, яна гаворыць нешта?»

— Вавёрачка! — загукала Алёнка.— Спусціся да мяне. Я дам табе яблык, вавёрачка. У мяне, глядзі, вунь які яблык ёсць!..

Вавёрка пакруціла галоўкай у адказ і весела пераскочыла на самы край галіны. Сучок загайдаўся. Ой, скінецца! — спалохана падумала Алёнка. А вавёрка пагойдалася на сучку і раптам напраўду кінулася ўніз. Але, не даляцеўшы да зямлі, яна, як пушынка, падхопленая ветрам, змяніла кірунак і гэпнула на ніжнюю галінку суседняй сасны. Адтуль скок-скок! —вавёрка хутка ўзляцела на самы верх. Алёнка ад здзіўлення аж стаіла дыханне. От лятуха! От смелая! Гэта ж трэба, так патрапляць! Ці бачылі калі-небудзь дзедка і бабка, як лятае вавёрка?

Непрыкметна для сябе Алёнка кінула сваю сасну, цяпельца,

плашч з торбачкай. Яна з цікаўнасцю назірала за вавёркай. А тая, як бы ўцякаючы, зноў пагойдалася на тонкай вяршынцы і, як падкінутая спружынай, перанеслася на трэцяе дрэва. «Чаго яна мяне баіцца?» — трывожылася Алёнка, ідучы ўслед за вавёркай. «Не бойся мяне, вавёрачка!» — закрычала яна. Але вавёрка ляцела ўсё далей і далей. Алёнка бегла па цёплым пяску, баючыся згубіць сваю новую сяброўку. «О-гох, о-гох, дзэн-дзэн, дзэн-дзэн...» — зусім недзе побач пачуўся Алёнцы тапор дзеда. Гэта яшчэ больш надало ёй смеласці.

Вавёрка, нібы разумеючы настрой Алёнкі, весела цокала ёй у адказ. Нарэшце, скокнуўшы на сасну, за якой адкрывалася маленькая палянка, вавёрка падрапалася па ствалу на кучомістую вяршыню. І там нібы задумалася пра нешта. Але час ад часу, мабыць, успомніўшы пра Алёнку, яна злятала адтуль на крайні сук і глядзела ўніз. А потым зноў драпалася ўгору і сядзела пад сонейкам, азіраючы наваколле.

Алёнка доўга глядзела на зманлівую гульню вавёркі. Нарэшце падумала: а можа гэта тут яе хатка і яна далей нікуды не пойдзе? Алёнка памахала на развітанне: «Бывай, вавёрачка!» А сама спахапілася: трэба вяртацца да свае сасны! Алёнка прыслухалася і не пачула дзедавага тапара. Лес быў ціхі. Толькі сосны гулі задумліва ды на палянцы спявалі конікі. Алёнка яшчэ раз пагукала вавёрцы і павярнулася ісці. Раптам яе вачам кінулася ля суседняй сасны высокая магілка, ля якой узвышаўся выцвілы слупок з чырвонай зоркай. На магілцы ля слупка ляжалі завялыя вянкі з палявых і садовых кветак. Якраз такая магілка ёсць недалёка ад алёнчынай хаты на абочыне шляху. Бабуля расказвала, там пахаваны салдаты, якіх забілі фашысты. Фашысты — гэта страшныя-страшныя пачвары, людаеды, нават і ў казках такіх няма. Яны спапялялі нашу зямлю, калі Алёнкі яшчэ не было на свеце. Так расказвала бабуля, і гэта дужа запомнілася Алёнцы.

Алёнка паволі наблізілася да магілкі. На слупку чарнела паржавелая бляха з нейкімі выбітымі на ёй знакамі. Алёнцы стала сумна. Яна апусцілася на пянёк побач з магілкай. І ўтаропілася ў куст шыпшыны, які вырас каля чырвонага слупка. Ёй успомніўся яе татка, які недзе таксама жыве з салдатамі. Уявілася, што і яе татку могуць забіць страшныя людаеды-фашысты. «Татачка, родненькі мой!..» — раптам выгукнула Алёнка і заплакала.

У гэтую хвіліну і ўбачыў яе дзед Рэпка, які ўстрывожана прыбег па следу, пакінутаму на жоўтым пяску.

# РАСКАЗ ДЗЕДА

Дзед Рэпка быў дужа ўсхваляваны.

— Зязюлька мая... Унучачка... Што ж ты мяне так напалохала? Чаго ж ты пайшла ад свайго месца?..— Дзед Рэпка прыгарнуў да сябе ўнучку, выцер ёй слёзы.— І цяпельца кінула. І дзеда забыла. Ці што надумала без мяне?

Не чакаючы адказу, дзядуля ўзяў Алёнку за руку. Падвёў да сямейкі сініх званочкаў. Сарваў, даў частку Алёнцы. Сказаў:

— Пакладзём на магілу, зязюлька...

Алёнка, яшчэ сумуючы, ласкава паглядзела на дзядулю і першая падбегла да магілкі. Паклала званочкі. Папраўіла. Каб ля самага



слупка былі. Паклаў кветкі і дзед. Пастаяў, падумаў. Потым рашуча пацягнуў Алёнку: «Хадзем, хадзем, зязюлька мая! Я табе нештачка пакажу».

Дзед Рэпка павярнуў ад сосен у самы лясны гушчар. Спачатку ім сустрэлася некалькі дубоў, з дзябёлым рослым маладняком наўкруг. Потым прайшлі асіны з рэдкімі бярозамі, паміж якімі шапацелі кусты ўсялякага лясного зарасніку. Дзед Рэпка ведаў, што Алёнка не ведае многіх дрэў. І ён ёй тлумачыў:

— От гэта, унучачка, крушына. Ягады на ёй прывабныя, ды есці іх нельга. Воўчымі іх завуць. Бо атруціцца можна... А гэта грушка-дзічка паднялася. Во якія калючыя ў яе рукі. Нехта кінуў тут семка. Яно і прарасло... А гэта? А гэта ж рабінка. Толькі без ягад яшчэ, бо маладая.

Хутка гушчэча скончылася. Пачаўся роўны стрункі сасоннік. Алёнка ўбачыла некалькі ссечаных жардзін. «Ага, ага,— сказаў дзед Рэпка.— Вось гэта мы забяром і пойдзем да свае сасны... Але я табе нештачка пакажу. А ну, глядзі от сюды». Дзед Рэпка павярнуў Алёнку тварам да сасны, якая сярод іншых была самая мажная і адным бокам грэлася на сонцы. «Глядзі вышэй». Алёнка паглядзела: на сухіх сучках паразвешаны розныя грыбы.

— А хто гэта зрабіў? — спытала Алёнка.

— А гэта вавёрка. Так яна да зімы рыхтуецца. Насуша грыбоў сабе, назбірае арэхаў і грызе ўсю зіму. Пачакай, я от і саму вавёрку табе пакажу.

— А я ўжо бачыла, бачыла, дзядулечка! Калі ты пайшоў, тады я і ўбачыла...— ажывілася Алёнка.— Я і гаварыла з ёй! А толькі яна мяне баялася.

— Не, не! Яна не баялася, унучачка. А гуляла так. Вавёркі надта гуллівыя. Гэта яна цябе і завяла туды?

— Ага...

— От цакатуха... Ну, што ж ты ёй зробіш... Бяры-тка, памажы мне, унучачка. Я вазьму гэтыя жардзінкі. А ты — унь тыя дубцы арэхавыя. Бабулі на нешта патрэбны...

Алёнка з ахвотай падабрала дубцы. Ёй было прыемна, што яна памагае дзядулю. Услед за ім яна прадзіралася праз асіннік. Вось і край. Стаяць, пяюць сосны. А вунь і тая, іхняя, з цяпельцам. Як гэта ўсё блізка! — здзівілася Алёнка. Ля сасны ўжо ляжаў слупок роўных сасновых жардзінак. Дзед Рэпка паклаў да іх гэтыя, што прынёс цяпер. Цяпельца гарэла, як і раней,— мусіць, дзядуля падкладаў у яго дроў.

Дзядуля падняў торбачку.

— Ну,— сказаў ён,— цяпер не грэх нам з табою і падсілкавацца. Зараз я зраблю лаўцы, а ты даставай з торбачкі хлеб і сала.

Дзед Рэпка спусціўся да куста вербалозу і выразаў два доўгія і гнуткія лаўцы. У кожным з іх ён зрабіў завостраныя расшчэпліны. А тады разрэзаў кавалак сала надвое і на кожны лавец насадзіў па кавалку.

— Ну, от, зязюлька, глядзі, як буду рабіць я. От пасылаем сала на агеньчык, хай смажыцца. Чуеш, як скваірчыць. Пайшло. Смачна запахла? А цяпер бяры сваю лусту хлеба і маж хлеб тукам. Ды сачы, каб тук не патрапіў на пальчыкі. А то забаліць вельмі. Так. Зноў на агеньчык. Падстаўляй другім бокам. Хай роўна смажыцца. Яшчэ макай на хлеб. Яшчэ на агонь. Зноў на хлеб. Яшчэ... Ну, можа, і хопіць... Цяпер хай сала трошкі астыне. А хлеб будзем кусаць. Смачна?

— Смачна, дзеду! — шчыра прызналася Алёнка, кусаючы хлеб і замурзваючы тукам губы і шчокі.

— А зараз кусай сала. Трохі ахаладзела? Вось і добра. Еш, зязюлька!

Алёнка кусала сала, ела з асалодай. Ніколі яна не ела такога смачнага сала. Раптам на суседняй сасне яна ўбачыла вавёрку.

— Дзеду! Вунь яна! Вунь яна, дзядуля! — крыкнула Алёнка і падхапілася з месца.

Вавёрка заўважыла Алёнку і, як і той раз, пагайдаўшыся, перакінулася на суседнюю сасну.

Дзед Рэпка падышоў да Алёнкі.

— Я ведаю гэту хітруху,— сказаў ён.— Гэта ж яна і развешала свае запасы. Бо ў яе там хатка блізка. Дупло ў дубе. Але ў яе не адно гняздо. Яна хітрая. Сёння тут, заўтра там. Жыве яна і на той сасне, каля якой я цябе знайшоў.

— На той сасне? — Алёнка ўспомніла чырвоную зорку і магілку.— Дзядуля...— зноў засумаваўшы, спытала яна.— А што гэта за магілка? Гэта салдаты, якіх забілі фашысты? Так, дзядуля?

Дзед Рэпка ўважліва паглядзеў у вочы ўнучкі.

— Так, унучачка... тых людзей забілі фашысты...— з роздумам загаварыў ён.— Добрыя там людзі спяць... Але гэта не цяпер... Калі-небудзь даведаешся, зязюлька...

— Раскажы, дзядуля. Раскажы пра тых людзей. Любы мой дзедка...— усхвалявана прасіла Алёнка.

Дзед Рэпка ўзяў у свае шырокія шурпатыя далоні светлую галоўку ўнучкі, убачыў сум у яе вачах і сказаў:

— Ну, добра... Сядзем да нашага цяпельца...

Падкінулі ў агеньчык шыгалля. Алёнка села дзеду на калені.

— А хто табе пра фашыстаў расказваў? Бабка? — спытаў дзед.

— Ага. Бабка... Дзядуля! — горача загаварыла Алёнка.— Скажы, дзядулечка, а ў нашых салдатаў таксама былі стрэльбы?

— Былі, зязюлька, былі.

— Дык чаму ж яны не пабілі фашыстаў?

Дзед Рэпка адказаў:

— Яны і пабілі. Але вайна, унучачка, не глядзела, калі каго забіваць. А фашысты былі страшна лютыя. Горш за звяроў... Вось у той магілцы, што пад сасною ты бачыла, аж пяцьдзесят чалавек пахаваны. І наш Васілька там ляжыць... Дзядзька ў цябе быў бы...

Алёнка бліжэй прытулілася да дзеда, абшчапіла яго руку сваімі гарачымі ручкамі.

— Не палохайся, зязюлька мая,— сказаў дзед.— Тое ўсё было даўно і больш не вернецца... А было так... Вось у гэты лес, у самы гушчар, дзе жылі адны глушцы ды бадзяжныя мядзведзі, прыйшлі ўзброеныя людзі. Збудавалі сабе буданы. Добрыя і смелыя то былі людзі. Звалі іх партызанамі. Яны край ад фашыстаў баранілі. Тут, у лесе, быў іхні прытулак. А ваяваць яны выходзілі на дарогу, каб фашыстаў падпільнаваць ды знішчыць. На мястэчка хадзілі, і там фашыстаў білі.

Фашысты ніяк не маглі высачыць партызан. Бо партызаны мелі добрыя вочы і вушы. Іх вочы і вушы былі ў кожнай вёсцы. То былі партызанскія разведчыкі. Дзе ні з’явіцца які фашысцкі валацуга — усё партызаны і ведаюць...

— Дзядуля, а ў нашай вёсцы былі партызанскія разведчыкі?

— Ага, зязюлька, былі і ў нашай вёсцы... Дык вот жа дзед твой і бабка таксама былі разведчыкамі. Партызанам памагалі...



Алёнка радасна падняла галаву. Дзед і бабка — партызанскія разведчыкі? Дзядуля! Ён таксама ваяваў з фашыстамі? І бабка? Алёнка ведала, што яе дзед і бабка — самыя лепшыя людзі ў свеце. Але не здагадвалася, што яны такія героі. Яна з захапленнем глядзела цяпер на свайго дзядулю, на яго калматыя бровы, рудыя пракураныя вусы, белую бараду.

— А як жа вы памагалі партызанам, дзядуля?

— А вось так, зязюлька. Гэтая Сіняя бухта была нашым партызанскім шляхам. Як толькі трэба — я на сваю душагубку і сюды. А тут чакалі мяне партызанскія вартавыя. А часам і самі партызаны ноччу пераязджалі да нас. Ты бачыш адсюль нашу хату?

— Ага, дзядулечка, бачу!

— Дык от з партызанамі ў нас была ўмова: калі ў вёску прыязджалі фашысты — дык мы з бабуляй развешвалі пад страхою белыя пасцілкі. Як быццам сушыцца... Доўга білі партызаны фашыстаў. На ўсіх дарогах, сцежках білі. Але фашысты знайшлі-такі здрадніка, падаслалі да партызан. Хто такі здраднік? Гэта, унучачка, такі чалавек, які адракаецца ад бацькі і маткі і памагае ворагу. Вылюдак такі... Дык гэтага вылюдка фашысты пераапранулі ў нашага камандзіра. Нават нагу яму прастрэлілі. Як быццам ён уцякаў ад фашыстаў і яго ранілі... Трапіў той здраднік да партызан... І нарабіў многа шкоды... Праўда, яго хутка злавілі, але ўсё ж цяжкія былі страты. Паведаміў ён фашыстам, па якой дарозе ездзяць да партызан вяскоўцы з харчамі... І наладзілі фашысты засаду. Пасеклі кулямі шмат добрых людзей... Хоць у баі партызаны перамаглі, але не стала многа і сваіх... Вось у гэтым баі загінуў і наш Васілька... Пабег ён да партызан з важнай весткай — якраз пра таго здрадніка мы даведаліся. І натрапіў на засаду. Пра здрадніка ён перадаў, і здрадніка схапілі. Але там жа Васілька і памёр...

— Вось тут, пад соснамі, на ціхай ускраіне лесу,— працягваў дзед, памаўчаўшы, — пахавалі ўсіх забітых... Так і вырасла гэтая магілка.

— І Васілька тут?

— І Васілька. Як салдат, ён загінуў, як салдата, яго і пахавалі...

Алёнка ўсхваляваная падняла з дзедавых грудзей галаву, сумна ўглядзелася ў даль.

Дзед сказаў:

— Не гаруй, унучачка. Тыя дні далёка. А гэтую магілку людзі не забываюць.

— Ага, — ціха прамовіла Алёнка. Яна, мусіць, успомніла, як наказвала бабуля дзеду: «Не забудзь жа, паглядзі, як там...»

— Часта сюды, — працягваў дзед, — прыходзяць дзеці, піянеры. Кветкі ўскладаюць. Бачыла вянкі на магілцы?

— Бачыла... Дзядуля, — ускочыла Алёнка, — а можна, і я занясу вянок? Што ў лодцы сплядла.

— А чаму ж. Можна. Ляці, зязюлька.

Алёнка збегала да лодкі, прынесла вянок. Ён трохі прывяў на сонцы, але ўсё роўна быў пахучы, зыркі.

— Дзядуля, а як мне ісці?

— Забыла? Ну, хадзем, пакажу.

Дзядуля правёў трохі Алёнку, і яна ўбачыла магілку.

— Цяпер я сама, дзядулечка, сама!..

Дзед Рэпка стаяў, глядзеў, як унучка падбегла да магілы, як расправіла пялёсткі лілеяў, паклаўшы вянок. І яму так стала добра, цёпла на душы. Калі Алёнка вярнулася, ён узяў яе на рукі, прыціс-

нуў да барады. Алёнка адказала дзядулю самай гарачай пяшчотай. Так дайшлі да свайго прыпынку.

— Цяпер ты, — сказаў дзядуля, — пагуляй тут, унучачка. А я буду насіць жардзіны ў лодку.

— І я, і я, дзядуля!..

— Не, зязюлька. Гэта яшчэ не твая работа. От лепей пачакай мяне тут, падварушы кіёчкам цяпельца...

Дзед Рэпка пасадзіў Алёнку на плашч і, нагрузіўшыся жардзінамі, padыбаў да лодкі. Калі ён вярнуўся, каб узяць новую ношу, Алёнка спала. Схіліўшы галоўку на камель сасны, пускала салодкія пузырочкі. Стома і хваляванні змарылі малую. Дзед Рэпка зняў з сябе пінжак, прыкрыў унучку, каб не прахапіла яе ветрам. Папрavіў пад ёй плашч — адсунуў далей ад цяпельца. І зноў пацягнуў жардзінкі. Увязаў увесь паплёт вяроўкай, пайшоў наламаў лапак, зрабіў у лодцы для Алёнкі мяккую пасцельку. А тады перанёс унучку, рашыўшы яе не будзіць.

# ХАТА

На беразе, калі дзед Рэпка вярнуўся пасля падарожжа за Сінюю бухту, яго сустрэла бабка Маланка.

— Змаглася, бедненькая... — сказала яна, беручы Алёнку на рукі. — Трэба было цягнуць дзіцёнка за такі свет...

— Не гаруй, Маланка, — супакоіў яе дзед Рэпка. — Гэта добра, што яна паехала. Яна ж падрасла сёння, наша ўнучка.

Бабка Маланка на руках з Алёнкай паднялася на гару да хаты. І паклала ўнучку дасыпаць на любімы яе ўслонік — за глухой сцяною хаты паміж вязам і бярозай. Алёнцы падабалася адпачываць ці заснуць на гэтым услоніку ў спякотныя дні. І тут заўсёды ляжалі яе падушка і цёплая коўдра.

Тут хутка і прачнулася Алёнка, здзіўляючыся, як гэта ўсё стала: была за ракою, а прачнулася ля роднай хаты.

Хата — самае дарагое з усіх любых мясцін Алёнкі. Здаецца, кожны куточак, кожную сценку яна тут ведае напамяць. А ўсякі дзень усё ж знаходзіць што-небудзь новае. То цвік у бервяне сцяны, то зарубку на вугле, то раптам убачыць якую-небудзь схованку, пра якую дзядуля ці бабка даўно забыліся. Прыйдзе Алёнка, пакажа падкову, знойдзеную ў пяску пад вуглом, ці пучок табакі, загорнуты ў ласкут аўчыны. Бабка Маланка толькі ўсміхнецца, а дзядуля так і падскочыць:

— Падзівіцеся, цэлая! А я столькі шукаў. Ай, зязюлька, малайчына мая!..

Прачнулася Алёнка ад пошуму вяза і бярозы, якія высока ўзнялі свае вяршыні над хатай. Гэтыя вяз і бяроза як бы заxінaлі сабою, баранілі сваімі рукамі хату ад бур і вятроў. Іх голле такое магутнае, што засланяе амаль усю страху хаты.

А пасадзіў дзед Рэпка гэтыя вяз і бярозу неўзабаве па вайне. Пасадзіў пасля аднае буры, калі хату амаль было не забурыла. Забурыць — не забурыла, а страху сарвала і закінула далёка ўніз, да Сажа.

Бура тады наляцела знянацку. Не было на небе нават і аднае пагрознае хмары. Толькі стаялі ў баку ад вёскі некалькі папяловых воблачкаў. Але нечакана аднекуль з-за гары, паўз бераг Сажа, падхапіўся страшэнны вецер, і заклубілася ў небе туманова-шэрая заслона. Яна хутка набліжалася, расла ўгору і ўніз. Тыя папяловыя вoблачкі, што раней спакойна стаялі ў небе, раптам імкліва рынуліся насустрач хмарнай заслоне. Грымнулі перуны, свет пацямнеў. Маланкі паласавалі неба і зямлю, а жудасны віхор крышыў і змятаў усё на сваёй дарозе.

Бабка Маланка расказвала пра гэта Алёнцы заўсёды з хвалюючым спалохам. Дзед Рэпка тады некуды ездзіў, а бабка адна была дома. І сама не ведае, як жывая засталася. Бо калі бура наляцела і стала ламаць хату, бабка якраз была ў агародзе. Быццам нейкі асілак вялізнай рукою пранёс над ёю сарваную страху.

Пасля буры дзед Рэпка жалезнымі крукамі замацаваў кроквы, абнавіў страху. А каля хаты пасадзіў дрэвы. Дрэвы выраслі і сталі надзейнай аховаю хаты.

Але страха за гады папсавалася. Перагніла салома, а за ёю патрухлелі і асобныя паплеціны. Трэба было паладзіць страху. Цяпер у вёсцы многія перакрылі свае хаты шыферам. Дзеду Рэпку таксама паабяцалі ў калгасе, што выдзеляць шыферу. Але невядома, калі тое будзе. Ды і што гэта за страха з шыферу? Бабка Маланка і слухаць не хацела пра такую страху. Яна недзе чула, што шыфер робяць з молатага крэменю. Дык хіба ж ён нагрэе зімою, камень гэты? «Не, не! — заяўляла бабуля. — Толькі саломаю трэба перакрыць хату! І цёпленька, і прыгожа, вякамі так было!..»

Дзед Рэпка, праўда, ставіўся да шыферу больш прыхільна. Але і ён быў не супраць страхі з новай саломы. Калі добра пакрыць — дык, уга, пастаіць такая страха цэлага паўвека.

Бабка Маланка дамовілася ў праўленні, што нажне сабе на хату снапоў. Дзед Рэпка іх абмалоціць і зробіць кулі. А тады перакрые страху.

Прайшло тры дні пасля таго, як Алёнка з дзядулем былі ў лесе. Дзед Рэпка абчысціў паплеціны, абсклюдаваў іх і паставіў пад павець. Няхай пад лёгкім ветрыкам трошкі прачаўраюць. Стаяла ясная сонечная пагода. На неба не выходзіла ніводнай хмурынкі. І хоць бабка Маланка яшчэ не нажала снапоў, дзядуля рашыў патроху здзіраць з хаты старое былле. Алёнцы заўсёды свята, калі дзед ці бабка пачынаюць нейкую вялікую работу. Тады ёй хапае забавы і працы. Алёнка любіць усюды быць з дзедам і бабкай. Таму і сёння яна адразу замурзалася і запэцкалася каля старой саломы.

Маленькімі бярэмцамі яна брала брудную, заімшэлую салому і насіла ў пуню. Салома стала такой ломкай, сатлелай, што крышылася ў ручках, сыпалася на дол. Алёнка вярталася, адразу падграбала смецце, бо ўсюды любіла чысціню.

Дзед Рэпка бачыў са страхі работу ўнучкі, радаваўся і гаварыў сам сабе ў руды пракураны вус:

— Слаўная ўдалася памочніца, дай бог здароўя. Расці, унучачка, працавітай ды шчырай вырастай. Хай радуюцца людзі...

Алёнка ж і не здагадвалася, што яе за нешта можна хваліць. Бо па-дзіцячаму шчыра і аддана любіла ўсё, што было ў хаце і вакол хаты. Яна верыла, што нідзе на свеце няма такіх кветак на вокнах і на градах, як у іх. Асабліва «агеньчыкі», што амаль цэлы год не скідаюць ружовага ўбору, палаючай квецці. Сонечныя праменні, здавалася Алёнцы, перш чым пайсці па свету, зазіраюць спачатку праз вокны ў іхнюю хату. І нават дым з коміна, калі бабуля гатуе снеданне, пахне самымі смачнымі пахамі на зямлі.

Алёнка з ахвотай прыбірала салому і смецце, што наскідаў з хаты

дзядуля, і нічога не заўважала. Але раптам яна паглядзела на страху і жахнулася. Іхнюю хату, самую прыгожую ў вёсцы, зараз было не пазнаць. З аднаго краю страха амаль уся была раскрыта. Голыя паплеціны тырчэлі, як рэбры, праз якія ў сярэдзіне прасоўвалася голле бярозы. На вільчыку было пуста, не гарцаваў на ім выразаны дзядулем драўляны конік.

— Дзядуля, любенькі! А што ж цяпер будзе? — жаласна і спалохана загукала Алёнка. — Як жа наша хата? А конік? Дзядуля, ты паставіш коніка на месца?..

Дзядуля супакоіў Алёнку:

— Не сумуй, зязюлька мая... От пабачыш, якой стане хата. Нажне бабуля снапоў, а я тымі снапамі хату накрыю. Тады і не пазнаеш страху. Што ёй лівень ці снег — усё яна стрымае. І коніка зноў паставім. А можа і новага зробім...

Уставіла сваё слова і бабка Маланка. Яна дагэтуль была на балонні, — палола, падбівала капусту. А зараз прыйшла памагаць Алёнцы.

— Як жаўточак, будзе новая страха. Саломка свежая, залацістая — здалёк убачыш. Адкуль ні глянеш — вунь наша хата! Хай, унучачка, працуе дзядуля. Яшчэ вунь колькі яму рабіць. Да вечара і не скончыць...

Калі сонейка стала асядаць за далёкія бярэзнікі, рассыпаючы касыя праменні заходу, дзядуля злез са страхі. Ён не дакончыў усёй работы. Дужа разбалеліся старыя косці. Надта натрудзіў. Дзядуля сеў на прызбу, распаліў піпку. Алёнка падышла да яго, спытала:

— Ты стаміўся, дзядуля?..

— Ага, унучачка, стаміўся, родная, — адказаў дзед, расчулены ласкаю ўнучкі.

— І я стамілася, — прызналася Алёнка.

— Ах ты ж! Любая мая пташка! — Дзед Рэпка адной рукою трымаў піпку, а другою лашчыў унучку. — Хопіць нам ужо сёння рабіць. От змыем вадзіцаю чарнату, ды пойдзем у хату, паслухаем свае песенькі мілыя. А? А ну-тка, давай корчык з вадою, зязюлька!.. Палі на рукі!..

Алёнка больш за ўсё любіць у сваёй хаце час вечаровых зацішкаў. Ці то зімою ці летам — вечарам у хаце настае добрая лагода. Дзед і бабка, усё дагледзеўшы, сядуць за сталом, трохі памаўчаць, адпачываючы, а тады расказваюць Алёнцы пра сваё жыццё, успамінаюць розныя прыгоды, здарэнні, гавораць казкі. Казак дзядуля і бабка ведаюць столькі, што іх хапіла б на вялікую кніжку. Нават большую за тыя, якія купілі Алёнцы ў мястэчку. А яшчэ дзедка і бабка, як і сама Алёнка, дужа любяць слухаць радыё. Вечарам са сталіцы амаль заўсёды перадаюць або цікавыя гісторыі або чуллівыя вясковыя песні. «Такія песні!» — кажа бабуля, часам нават выціраючы хусцінкай слязіну.

Вось і сёння. Управіліся, паселі кругом стала. На стале кветкі. Толькі што іх сарвала Алёнка са сваіх град. І калівы мяты паміж імі. Бабка не-не ды і пашчыпле лісток мяты. Такі пах па хаце пойдзе — не надыхацца. Ажно дзядуля хавае далей сваю піпку. Каб не пашкодзіць водару мяты.

То гаворыць, то спявае радыё. Алёнка падпёрла кулачкамі шчочкі і слухае. Вось яе вочы напаўняюцца слязьмі, калі вадзянік здзекуецца з маленькай дзяўчынкі. А вось святлее, усміхаецца твар, калі Пакацігарошак перамог вадзяніка і яго злых дачок. А потым разам з Пакацігарошкам Алёнка спявае яго вясёлую песеньку. Ёй падцягваюць і бабка і дзед. І нават коцік, прыладзіўшыся на прыпечку, здаецца, уважліва слухае і казку і песню. І час ад часу ўстаўляе сваё муркоўнае «мяу».

Адзін толькі цвыркун не задаволены вячэрняй забавай. Галасы ў хаце не даюць яму паказаць свае здольнасці — як зычна ўмее ён спяваць сваю лепшую песню. Таму, калі сціхае перадача, ён адразу дае такую руладу, што ажно коцік кідаецца з прыпечка. Усе смяюцца. Алёнка ўстае з-за стала, ідзе да свае пасцелі.

— Ідзі, ідзі, зязюлька,— праводзіць яе дзед Рэпка.— Паслухай адтуль.

Так бывае кожны раз.

Алёнка кладзецца ў пасцель, яшчэ трошкі як быццам слухае і моцна засынае.

Бабуля паглядзіць на ўнучку, скажа: «Заснула птушачка. Налёталася за дзень». Дзеду Рэпку хочацца паслухаць апошнія паведамленні, даведацца, што дзеецца ў свеце. Але праз некалькі хвілін ён усё ж выключае радыё. Дзень у хаце канчаецца. Хата пачынае адпачываць.

## ДАРОГА

Вярнуўшыся пад самы вечар дахаты, бабуля сказала:

— Далі нам выжаць лагчыну ля Барка. Якраз каля старога кургана. Жыта там парасло — як на лес глядзела...

— Дык ты хіба і там пабываць паспела? А, Маланка...— з ласкаю ў голасе пытае дзядуля.

— І там, Рэпка... З праўлення туды і пабегла... Заўтра трэба выжаць. Бо камбайн канчае сваю работу.

Барок — гэта Алёнка ведае. Гэта лес такі над Сажом недалёка ад вёскі. Там яна і курганы пясчаныя бачыла, як вясной бегала туды з сябрамі. Папала тады ёй ад бабулі — чаго пайшла! — бо яшчэ было холадна і гразка. Але сасновы бор і курганне Алёнка запомніла. Там так хораша цвілі кветка-сон і дзераза.

— Бабулька, родненькая,— просіцца цяпер Алёнка.— І я з табой. Вазьмі мяне, бабулечка. Я таксама хачу жаць жыта. Вазьмі мяне з сабой!

— Не, унучачка, я раненька, з расічкаю пабягу. У цябе самы сон салодкі будзе.

— Я ўстану, бабулька. Ты толькі гукні і я ўстану!..

— Вазьмі, старая, вазьмі ўнучку,— сказаў дзед Рэпка.— Я тут і адзін абыдуся. А табе — вунь якая падмога!

— Ну, калі так,— усміхнулася бабуля,— дык хутчэй вячэраць і спаць. Памочніца павінна быць дужай.

Алёнка хуценька напілася духмянага, яшчэ з шумком, сырадою. Стала распранацца.

— Вазьмі яшчэ аладачку,— просіць бабуля.— Глядзі, якая смачная, бухоная, мяккая. Вазьмі, як след паеш...

— Не, бабулька, я больш не хачу.

— Тады спаць. А то не гукну ўранні.

Алёнка падбегла да бабулі, пацалавала яе. А тады ўсміхнулася дзеду (яны добра разумеюць адзін аднаго) і весела абняла яго за шыю...

Назаўтра бабка Маланка захадзілася яшчэ задоўга да ўсходу сонейка. Яна ўжо канчала пячы бліны, калі затрубіў у сваю берасцянку

пастух, склікаючы car кароў на выган. Алёнку бабуля пакуль што не будзіла. «Няхай хоць трошкі яшчэ паспіць, дзень вялікі наперадзе». Ды Алёнка падхапілася сама, як толькі бабуля забразгала скаварадою. А мо прыемны пах бліноў разбудзіў Алёнку?

Падхапіўшыся, Алёнка нацягнула сукенку, панчохі (каб іржэўнік не накалоў ногі, бабуля з вечара паклала ля ложка), абула сандалі. Хуценька памылася і села за стол мазаць бліны. Алёнцы так да спадобы бабуліны бліны. Вялізныя, бухоныя, зверху жаўтаватая пахучая скарыначка.

— Еш, еш,— гледзячы на ўнучку, як і заўсёды, прыгаварвае бабуля.— Наядайся. Бывала, Васілька мой казаў: «Давай, мамка, сем мазаных і сем нямазаных...»

Бабуля амаль кожны раз пра гэта ўспамінае. Загінуў Васілька зусім малым хлопчыкам. І свету белага не пабачыў як след. Бабулі здаецца, што лепшага за яго нікога ў яе не было. І слёзы адна за адной заўсёды скоцяцца па яе твару. Вось і зараз. Зморшчылася ад жалю, змахнула слязу фартухом. А тады падсоўвае да Алёнкі бліжэй місу з маслам. Масла жоўтае, свежае. Забразгацела бабуля ў печы, падхапіла са скаварады пахучы блін, кінула на абрус. «Маж, унучка, маж, родная, ды хутчэй у дарогу».

Паснедалі, сталі хутка збірацца. Хоць поле і не так далёка, ды бабулька хацела яшчэ халадком дайсці да месца. Усё Алёнцы будзе лягчэй. Наліла бабуля глячок вады халоднай, дзед Рэпка толькі прынёс. Кінула ў глячок скарынку хлеба — каб вада была смачнай, здароўем пахла. Алёнка збегала ў свой сад, прынесла яблык. Гуркоў з град сарвала. Хлеба ўзялі акрайчык, аладак. Хто ведае, колькі там забавішся. «Хаця б галоднай не была ўнучка»,— усё гаварыла з дзедам бабуля.

— Ну, пара, унучачка,— нарэшце сказала бабуля.— Узяла серп на плячо, глячок, торбачку ў рукі.

— Бабуля, дай мне торбачку.

— Ну, што ж, маленькая... Бяры. Пранясі трошкі. Па гары пойдзем ці вуліцай?

— Па гары, па гары, бабуля!

Можна было да шляху ісці і праз вёску, яно і бліжэй і не расяна. Ды Алёнка любіла хадзіць гарою. Адкуль лес відзён за Сажом, адкуль можна звонкае рэха кінуць. Калі прыязджаў у госці татка, а часам і з дзедам, Алёнка хадзіла сюдою за так званую Пікаварню, на рыбалку. Вечарамі сюдою і вярталіся. І гэту дарогу ўжо добра ведаў алёнчын коцік. Ён драпаўся на страху пуні, сядзеў там на варце, чакаў. А ўбачыўшы рыбакоў, з вясёлым мяўканнем кідаўся ім насустрач.

Вось і зараз Алёнка скамандавала ісці гарою. Сонейка толькі-толькі выпускала на волю свае першыя прамені. Яны, нібы тыя разведчыкі, зірнулі ў адзін бок, у другі. Усё добра, зямля даўно іх чакае. Тады яны сказалі нешта сонейку, і ўжо мільёны іх братоў сыпнуліся на зялёную горку. Трава заблішчала так, нібы хто знарок пасыпаў яе бліскучымі кроплямі. Кроплі так гарэлі на сонейку, так цудоўна пераліваліся. Ажно калолі вочы.

Весела было ісці. Па сцяжынцы там-сям ажно свецяцца бярозкі. Яны стаяць высокія ў белых чаравіках, а зялёныя сукенкі абсыпаны мноствам бліскучых гуллівых пялёсткаў. Сонейка ўсё смялей і вышэй пасылае сваіх вестуноў. Вось ужо забраўся праменьчык і на разлапістую старую сасну, дзе, утуліўшы галовы, спалі буслы. «Што гэта? Няўжо праспалі?» — схамянуўся бацька-бусел. Ён устаў на доўгія





Бабуля паставіла глячок з вадою ў засені пад маладым дубам. Там жа на ніжэйшы сухі сучок, каб магла дастаць Алёнка, павесіла і торбачку. Паглядзела на сонца. Уга, высока ўжо яно паднялося. Ну, ды клопат такі. Дзень год, усё паспеем. Яна па старому звычаю зрэзала адну саломіну, перакусіла яе і кінула за сябе (гэта ўсю стому адкідае назад). Выжала жменьку жыта, скруціла вязьмо. Вязьмо паклала на іржышча. Памацала сцябліны, быццам прыкінула іх сілу. І зазвінеў бабулін серп. Жменя за жменяй кладуцца на вязьмо. З захапленнем глядзіць Алёнка, як паслухмяна ідзе жыта ў бабуліны рукі. Вось і гатоў першы сноп. Ён паважна лёг на іржышча, а бабуля завіхаецца далей.

Каласы, буйныя, цяжкія ад налітага сонцам зерня, апускаліся долу, і бабка Маланка высока ўзнімала над галавою зжатае жыта. У адной руцэ, як толькі можна абняць, трымае жменю ядранай, жоўтай саломы, а другою — сярпом падтрымлівае калоссе. Бабуля хуценька нажала снапоў і гукнула Алёнку. Яна баялася, што ўнучка затамілася, прайшоўшы такую дарогу, ды і не выспалася як след.

— Насі, унучачка, снапы,— скамандавала бабуля.— Я табе хатку зраблю, пасядзіш у цянёчку.

Алёнка з ахвотаю ледзь цягне цяжкі сноп. Расчырванелася. Яе светлыя валасы, выцвіўшыя за лета, прыліплі да ілба. На носе блішчаць кропелькі поту. Бабуля саставіла снапы стрэшкаю, падаслала саломкі, а на саломку накінула сваю цёплую хустку. Яна ніколі не разлучаецца з гэтай хусткай. У сяродачак такой хаткі бабуля паставіла перанесены Алёнкаю з-пад дубка гляк з вадою і торбачку з ежай.

— Ну, от і прыляж тут у халадку,— сказала бабуля.— Бач, стамілася. Во не бачыў дзед. Ах ты, мая ўдаліца...

— Не, бабулька. Не, любая мая,— не згаджаецца Алёнка.— Я яшчэ не хачу лажыцца. Я буду табе памагаць.

Бабуля рада. Расправіла Алёнцы спацелыя кудзеркі.

— Што ўжо з табою зробіш, непаседа. Хіба песню паможаш спяваць. Ну ж, пойдзем...

Бабка Маланка спачатку ціхенька, як сама сабе, зацягнула песню. Ад працы яна расчырванелася, нібы зусім памаладзела. Весела займаў жыта яе звонкі серп. А песня бабуліна была нейкая сумная, незразумелая Алёнцы, яна нібы па кім загаласіла:

Ой, жыта ж, маё жыта,
Жыта зеляное-а-а-а...

«А-а-а-а...» — пакацілася песня жаласным плачам.

Бабка Маланка так захапілася песняй, што яна загучала на ўсё поле. Голас зрываўся на высокіх нотах, быццам бабуля па некім прычытала. Алёнка ўбачыла, як спыніўся камбайн і грузавая машына. Людзі спачатку стаялі, слухалі, а потым, пра нешта гамонячы, скіраваліся ў іх бок. Бабуля нічога не заўважала, яшчэ больш працяжна зацягнула «Жыта ж мае, жыта, жыта зеляное-а-а».

Алёнка падбегла да бабулі, пацягнула за спадніцу.

— Бабулечка. Глядзі, чаго гэта людзі да нас ідуць. А, бабуля!

Бабка Маланка перастала спяваць. Палажыла жменю на вязьмо, звязала сноп. Яна як бы яшчэ ляцела некуды за песняй, не бачыла нічога навокал.

А людзі падышлі ўжо да іх. Уперадзе быў іхні сусед — тарасішын Пятрок. І ўсе астатнія —маладыя хлопцы.

— Бабка Маланка,— спытаў Пятрок.— Даруйце, можа ў вас што здарылася, чаго вы галосіце?..



— Ды што вы, дзеткі мае,— пра ўсё здагадваючыся, адказала бабка Маланка.— Гэта я не галасіла, а гэта песня такая. Калісьці, як на паноў працавалі, жалі панскае жыта, дык так спявалі. Даруйце мне, старой, што ўспомніла...

Хлопцы абступілі бабулю.

— Цётачка,— папрасілі яны,— мы ніколі не чулі такіх песень. Заспявайце яшчэ.

— Заспявайце, заспявайце, бабка Маланка,— папрасіў і Пятрок.

— Ну, што вы, родненькія, ну, хіба я ўмею...

Але бабулі было прыемна, што яе песня спадабалася моладзі. Яна прысела на зжаты сноп, побач пасадзіла Алёнку. Сказала:

— Вы ж ведаеце ўсе, дзе быў панскі сад. Там і цяпер яшчэ растуць акацыі ды арэшнік... Ды от, памятаю, побач з садам было ў пана вялікае жытняе поле. І ўсё жыта сярпамі жалі. От на тым панскім полі людзі і навучыліся галасіць. І я ад маці сваёй навучылася.

Бабуля прылашчыла Алёнку і дадала:

— Добра цяпер вам, маладым. Шчаслівыя вы. Усё поле ваша і сіла ў вас. Бач, якія машыны. Цяпер на серп і глядзець смешна...

— Бабуля, дык заспявайце ж нам песню,— зноў папрасілі хлопцы.

— Ну, добра, дзеткі, добра. Паслухайце, як пялі старыя людзі...

Бабка Маланка палажыла рукі на калені, паважна агледзелася і запела:

Ой, я жала, не ляжала,
Тры снапочкі навязала,
Ой, жыта ж, маё жыта,
Жыта зеляное-а-а-а...

Тры снапочкі навязала,
Сваю долю праклінала,
Ой, жыта ж, маё жыта,
Жыта зеляное-а-а-а...

Сваю долю праклінала,
Горкі слёзы пралівала,
Ой, жыта ж, маё жыта,
Жыта зеляное-а-а-а...

Горкі слёзы пралівала,
На дарожку паглядала,
Ой, жыта ж, маё жыта,
Жыта зеляное-а-а-а...

Цяпер бабуліна песня і не здавалася такой журботнай, як раней. Яна не нагадвала галашэння, а лілася роўна, спакойна. Ды і вядома. Зараз бабуля сядзела вольна, не тое, што жнучы. Калі яна, жнучы, згіналася, то голас глушэў. А калі выпростваласе, голас падымаўся звонка. Вецярок падхопліваў яго і нёс па полі. Вось і выходзіла, што нехта галосіць.

Маладыя хлопцы абкружылі бабку Маланку і Алёнку. Хто з іх стаяў, а хто прысеў на іржышчы. Калі бабуля скончыла песню, папрасілі яшчэ. Бабуля разахвоцілася. Мусіць, успомніла сваё маленства. Заспявала новую песню. Праўда, голас бабулін стаміўся, і песня праспявалася нават жаласней. Алёнцы стала шкада бабулю. Яна абхапіла яе рукамі, моцна пацалавала.

Бабка Маланка спытала хлопцаў:

— Ну, чаго, дзеткі, сцішыліся? Не спадабалася песня?

— Ды што вы, цётачка! — адказалі хлопцы ў адзін голас.— Дзякуй вам. Мы ж ніколі не чулі такіх песень. Нават не ведалі, што яны такія ёсць.

— Ну, што ж, дзеткі... Дзякуй і вам, што не забываеце старых,— сказала бабка Маланка.— А цяпер за працу. Пасядзелі і хопіць. Бо скора дзед Рэпка па снапы прыедзе. А ў мяне вунь колькі яшчэ работы...

— Дзякуй, цётачка. Дзякуй вам за ласку. Нам цяпер і працаваць спарней будзе...

Разаслала бабка Маланка настольнік пад мэндлікам, вылажыла ежу. Ценю не было, бо сонца плыло над самай галавою. Ды бабуля неяк ухітрылася засланіць Алёнку ад спякоты. Сталі есці. Алёнка з'ела хлеба з яблыкам, запіла вадою з глячка. «Смачная?» «Смачная, бабулечка!» — ціха прамовіла Алёнка, кладучы галаву на бабуліна ўлонне. Паглядзела бабка Маланка, а ўнучка ўжо засынае. «Змарылася, бедненькая. Ну, адпачні, удаліца, набярыся сіл». Папраўіла пасцель ў хатцы са снапоў, паклала Алёнку. А сама пайшла жаць далей. Пажне, пажне, ды снапы пазносіць, паставіць у мэндлікі. Сонца каласы грэе і ветрык паддувае. Падсыхаюць снапы. «Вось так, так,— думае сабе бабка Маланка.— Падсохнуць снапочкі, абмалоцяцца лепей. Усё лягчэй дзеду Рэпку будзе».

Сонца пачало нізка схіляць долу свае прамені, пацягнула прахалодаю з-за Сажа, калі прачнулася Алёнка. Авой! Гэта ж яна спіць, а бабуля адна! Выскачыла Алёнка са свае хаткі, падляцела да бабкі. «Я тут, бабулечка, тут!» І зноў лёгка і радасна і ёй і бабулі. То сноп падцягне Алёнка, то пабяжыць гляне — ці многа жаць засталося. Ажно серп у бабулі лягчэй неяк захадзіў. «Жаць-палоць, жаць-палоць!» — крычала недзе ўстрывожаная птушка. І серп бабулін быццам адказваў ёй: «Жну-жну! Даганю! Жну-жну! Даганю!» А вось і канец. Выжала бабуля апошні сноп, самы вялікі выйшаў. Накрылі ім мэндлік, дык гэты мэндлік сярод іншых, нібы камандзір, устаў. «Авой, бабулька, важны які,— смяецца Алёнка.— Ён будзе вартаваць снапы, пакуль дзедка прыедзе!»

— І праўда,— кажа бабуля.— Нешта няма дзеда. Снапы ўдалыя. Хопіць страху перакрыць, уга. Салома не ломкая, не перастаяла. Добра будзе крыць.

Бабка Маланка папраўіла мэндлікі, сказала ўнучцы:

— Ну, што ж, дзетка, агледзімся трохі ды і дахаты. Дзед, мусіць, сёння не прыедзе. Пойдзем пеша. Дойдзеш?

— Дайду, бабулечка! — радуецца Алёнка. Ёй дужа спадабалася ранішняя дарога.

— А вось табе і конь,— сказала бабуля, падымаючы каля кургана аблетаваны дубовы кіёк.— Сядай верхам, ды і дамоў. А так яму, так! Но!..— Бабуля, жартуючы, замахнулася пруцікам на коніка. Алёнка са смехам паскакала па іржышчы. «Едзе, едзе конік, ніхто не дагоніць»,— заспявала яна. Бабуля ледзь паспявала ўслед.

Які там ні конік, хоць і нежывы, а хутка і весела выбраліся на шлях. На правадах між слупамі сядзела мноства птушак. Алёнка глянула — гэта ж ластаўкі. Чаго яны сабраліся такой чарадою?

— Бач ты, мусіць, збіраюцца, бедныя, у вырай,— як бы адгадаўшы алёнчыны думкі, загаварыла бабуля.— Цёпла, цёпла, а ведаюць птушкі свой час. Дзіва што. Нельга ім запазніцца. Бо раптам ударыць сцюжа — прападуць. Вось і напагатове, гаротныя...

— Бабуля, бабулечка, пабач, а вунь што за птушачка. Зірні. Як пераліваецца пер'ейка, якая прыгожая!

— А гэта сіваграк, унучачка. Лясная птушка. А любіць часам на дарогу вылецець, паказаць сябе. Ды і як не паказаць. Фарсун...

Сіваграк то адзін, то другі бок, як сапраўдны фарсун, падстаўляў пад заходзячае сонца. Глянеш на яго — от дзіва. З таго боку, дзе цянёк, пер'ейка сіненькае з сіваватым адлівам. А зірнеш супраць сонца ці павернецца птушка—вогненна-аранжавае.

Алёнка з бабуляй дайшлі амаль да свае гары, калі з-за бяроз паказаўся з мажараю дзед Рэпка. Конь ахвотна бег па дарозе, а дзед задумна пыхкаў сваёй піпкай.

— Ну от стары, дык стары. Дачакаўся ночы, а тады выехаў,— накінулася на яго бабуля.— Ці ж ты не ведаеш, што я з дзіцем там... Ды і раса на снапы ляжа...

Дзед Рэпка не паспеў адказаць бабулі, калі Алёнка была ўжо ля яго. Яна абхапіла дзеда гарачымі ручкамі, якія за дзень прапахлі сонцам і жытнім ветрам, цалавала дзядулю, пяшчотна клычыла яго бараду. Дзед ведаў, што ўнучка яго любіць. Але зараз ён ніяк не мог здагадацца, чаму бабка Маланка на яго крычыць, а ўнучка цалуе. А гэта Алёнка ўспомніла бабуліну песню, расказ бабулі, як паны крыўдзілі яе і дзедку. Ды і ссумавалася яна па дзядулю за дзень.

— Дзядуля мой, любы,— шаптала яна.— Я цябе люблю. І яшчэ мацней любіць буду!..

Дзед Рэпка, збянтэжаны і ўсхваляваны, ледзь вызваліўся з абдымкаў унучкі. Хацеў павініцца перад бабуляй, але ўбачыў, што і яна глядзіць на яго з усмешкай і ласкай.

— Ну, дык я паеду,— сказаў ён.

— І я з табой, дзядулечка. І я, і я!

Тут бабуля стала раптам вельмі строгай.

— Не, не, дзетка. Нельга. Хай дзед адзін едзе. А нам дамоў пара. І Чарнушку прыгнаць трэба, і козліка. І за гаспадаркай паглядзець. Ды і стамілася ты. Едзь, Рэпка! — цвёрда загадала яна.

Алёнка ведала, што бабулю трэба слухацца, калі яна загадвае.

Сонейка цяпер пад вечар са спякотна-белага стала залаціста-чырвоным. Яно ўжо кацілася за далёкі цёмны лес, афарбаваўшы неба ў цёплы залаты колер. Алёнка выбегла за бярозкі, на чыстую гару і раптам спынілася, зачараваная, уся прыўзнятая, светлая. Ёй так захацелася развітацца з сонцам. Бабка Маланка глянула — авой! — як на крыллях дзяўчынка, от паляціць да самага неба. «Паляціш, паляціш, слава мая,— думала бабуля.— Вырасцеш, будзеш шчаслівая, дасягнеш і сонца, усё ў цябе будзе. А толькі ці ўспомніш тады бабулю сваю?..»

Алёнка ж глядзела на сонейка, і ёй зноў чулася ў полі звонкае бабуліна спяванне. Толькі песня была ўжо не сумная, а такая добрая, такая сардэчная. Гэта песня лета, песня ўсяго, што так радасна з'явілася да іх. Алёнка павярнулася да бабкі Маланкі.

— Бабулечка, любая, ты чуеш песню? Чуеш, гэта твая песня. Бабуля, паслухай!

Бабка Маланка паслухала — дзе Алёнка чуе тую песню? Але яна зразумела, пра што гаворыць стрункая душа ўнучкі. І абняла Алёнку і сказала:

— Чую, унучачка. Чую, любая. Добрая выйшла песня...

# ЗА ШТО ПАКРЫЎДЗІЎСЯ КОЗЛІК

Сказала бабуля Алёнцы:

— Узяла б ты, унучачка, ды пагнала б козліка на балонне. Хай ён пашчыпле там травічкі.

Козлік у Алёнкі маленькі, беленькі, з тонкімі, стройнымі ножкамі. І такая мілая ў яго пысачка, што Алёнцы заўсёды хочацца яе пацалаваць. Нарадзіўся козлік многа пазней за Алёнку. Ёй ужо было амаль сем гадоў, а козлік толькі нарадзіўся.

Было гэта напрадвесні, якраз тады, калі ад старой грушы-дзічкі пабеглі пад хату нітачкі-ручаінкі. Дзед Рэпка выйшаў з жалезняком — прабіць для ручаінак канаўку. І раптам чуе ў пуні плач. Дзед адчыніў пуню, а там стаіць старая каза і плача над кволым белым козлікам. Яна баялася, што яе козлік замерзне, і плакала. Дзед Рэпка ўзяў маленькага і прынёс у хату. Бабуля спачатку накрычала на дзеда, а потым пашкадавала козліка і ўхутала яго ў сваю пуховую хустку.

За вясну козлік трохі вырас, але ўсё роўна быў яшчэ зусім маленькі. Не тое, што Алёнка,— Алёнка вунь якая цяпер вялікая. Са старой казою, козлікавай маткай, здарылася няшчасце. Яе падчапіла пад бок бадлівая карова. Каза прапала. Бабуля так гаравала па старой сваёй казе. Бо каза паіла малаком бабку і дзеда доўга пасля вайны, пакуль яшчэ не было Чарнушкі...

Козлік застаўся адзін. І Алёнка дужа шкадавала козліка.

— Бабуля,— спытала Алёнка,— а які мне ўзяць дубчык?

— А вось табе дубчык,— адказала бабуля і сарвала сцябліну лебяды пад плотам.— Ды глядзі ж, унучачка, дубчыкам не бі козліка, а толькі падганяй яго.

Алёнка ўзяла дубчык, пагладзіла козліка за вушамі і спытала:

— А ты мяне будзеш слухацца?

— М-ме...— адказаў козлік, і Алёнка яго зразумела.

— Ну, добра,— сказала яна, — хадзем...

Алёнцы, праўда, не хацелася сёння ісці з дому. Учора дамалацілі снапы, якія яны нажалі з бабуляй. Білі іх пранікамі, роўненька, каб не папсаваць салому, выбівалі з каласоў усе зярняты. А сёння дзед чакаў нейкага дзядзьку. Пачнуць крыць страху. Алёнцы так хацелася на гэта паглядзець. Добра, што сёння не скончаць. Так паабяцаў ёй дзядуля.

Алёнка махнула пруцікам, козлік паварушыў вушамі, і абое дробненька затупалі па цёплай вуліцы. Козлік бліжэй да плота, па сцяжынцы, Алёнка — па самой вуліцы, па жоўтым пясочку. Козлік любіць, ідучы, дастаць паміж частаколінамі салодкія кіёўчыныя лісты. Алёнцы ж вельмі падабаецца грэць ногі ў мяккім пяску. Усё, як заўсёды. Бабуля, задаволеная, стаіць, глядзіць услед.

— Пайшлі дзеткі...— кажа яна да дзеда Рэпкі. І не зачыняе браму на зачэп, а толькі падтыкае кійком. Калі вернуцца малыя, дык лёгка будзе ім адчыніць браму самім.

Дзед Рэпка пыхкае піпкай, папраўляе кулі і нешта мармыча сабе пад нос. Гэта ён так спявае. Дзед Рэпка заўсёды спявае, калі ў яго што-небудзь ладзіцца. А сёння якраз такі дзень. Снапы змалаціліся спраўна, кулі выйшлі важнецкія. Прыйдзе і кум Голік, добры майстра крыць хаты. Дзед Рэпка са страхі праводзіць позіркам Алёнку і думае: от будзе рада зязюлька, калі вернецца. Новы залацісты застрэшак засвеціцца. А хутка і ўся новая страха гляне на свет.

Алёнка рукой падганяла свайго козліка. Так яны дайшлі амаль да балоння. Тут, у лазовым пяску, была ўся басаногая каманда, алёнчыны сяброўкі. Стаяў такі піск і смех, што Алёнка спынілася.

— Козлічак,— папрасіла яна,— даражэнькі, ты ж мяне любіш, праўда? Пахадзі тут, а я трошкі пагуляю. Бачыш, пасуцца гусі, і ты з імі пахадзі, пашчыпай травічку, а?



— Святланка! Любашка! — загукала Алёнка і майнула ў гурт дзяцей.

Козлік здзіўлена паглядзеў услед Алёнцы. Ні разочку яна не кідала яго аднаго. І што яму тут рабіць? Трава ў гэтым месцы зашчыпаная, заседжаная і затаптаная гусямі. Не тое, што на балонні. Там на сценках паміж абгароджанымі капуснымі градкамі, пад праслам і на лапіках між лазою можна так добра паласавацца. Ёсць там і сакавітыя гусіныя лапкі, і кветкі незабудкі, і нечапаны муражок. Козлік і без Алёнкі пайшоў бы на тое балонне. Тут ужо недалёчка. Ён ведае. Але ён баяўся вялізнага калматага сабакі, што жыве ў крайняй хаце якраз па дарозе на балонне. Гэты сабака заўсёды ляжыць на вуліцы і, убачыўшы козліка, падымае галаву і страшна водзіць лупатымі вачамі.

Алёнка басклапотна гуляла з малымі. Яна нібы зусім забылася пра козліка. І гэта няўважлівасць так пакрыўдзіла козліка, што ён ажно заплакаў.

— М-ме-е-е! — жаласна закрычаў козлік. Ён думаў, што Алёнка пачуе і прыбяжыць, пашкадуе яго. Ды тут на яго наляцеў, злосна засыкаўшы, вялізны шэры гусак. Козлік, адбіваючыся ад гусака, падбрыкнуў разок-другі і кінуўся назад дадому. Ён чуў, як услед яму закрычала Алёнка: «Козлічак, пастой, куды ж ты!», але не спыніўся.

Алёнка дагнала козліка і паспрабавала яго ўгаворваць. «Козлічак, даражэнькі, ну, ты ж разумнічак, ну, не трэба крыўдзіцца, хадзем на балонне... Больш я цябе не кіну, добра, козлічак?»

Козлік ужо хацеў паслухацца Алёнку, павярнуць назад. Але яму закарцела хоць трошкі папатворыцца, папесціцца перад Алёнкай. Алёнка ж бачыць — козлік натурыцца, не слухае яе, ды і сцёбнула яго лебядою. Гэтага козлік ужо не мог даравацъ. Ніколі ён не спадзяваўся, што Алёнка можа яго ўдарыць. «М-м-е-е-е, м-ме-е-е»,— яшчэ жаласней загаласіў ён і, каб адмахнуцца ад Алёнкі, крутнуў галавою. І атрымалася так, што ён балюча ўдарыў Алёнку па руцэ. Цяпер ужо заплакала і Алёнка. Яна ж так любіла козліка, а ён узяў ды моцна яе ўдарыў!

— Ах ты ж нядобры, нядобры, нядобры! — гаварыла яна, выціраючы слёзы і з жалем хукаючы на руку.

— М-ме-е-е! М-ме-е-е!..— крычаў козлік і бег ад яе.

Так яны і з'явіліся ў свой двор, з шумам адчыніўшы падпёртую кійком браму.

Бабка Маланка жахнулася:

— Што з табою, унучачка? Хто цябе пакрыўдзіў? Чаго ж вы вярнуліся?

— М-ме-е-е! — падбег да бабулі і стаў скардзіцца козлік.

— Бабулечка, я не хацела пакрыўдзіць козліка. Я толькі разочак сцёбнула яго лебядою. А ён мяне ўдарыў...— сказала Алёнка і слёзы пакаціліся з яе вачэй.

— Ох, дзеці, дзеці, малеча, малеча,— сказала бабуля, адразу ўбачыўшы, у чым тут справа.— Што ж цяпер рабіць будзем? Як у той казцы: пасвіла ўнучка, не накарміла, самой бабцы гнаць трэба.

— Не, не, я сама, бабулечка! — запярэчыла Алёнка. І раптам убачыла, што ўжо хата іхняя стала зусім іншай. На страсе дзядуля і незнаёмы дзядзька рабілі дзіўную работу. Дзядуля роўненька расцілаў залацістыя кулі, вяроўчынамі падвязваў салому, замацоўваў паплеціны. А дзядзька грабёнкай акуратненька і складна падбіваў салому пад камель, сціскаў і знітоўваў яе. Новы пахучы застрэшак рос на вачах.

Дзед Рэпка і дзядзька так заюшыліся працаю, што нічога не заўважалі.

Алёнцы стала радасна за сваю хату. Але яна адчувала, што трохі правінілася. Дзед з бабкай такія занятыя. Дзед крые хату, а бабка падае яму кулі, паплёт, вяроўкі. Ды ці мала і яшчэ ёсць работы.

— Бабулечка, даруй нам,— сказала яна, павесялеўшы.— Мы пойдзем. Пойдзем, козлічак? Я цябе больш не пакрыўджу.— Алёнка пашчыпала козліка за вухам.

Козлік адразу адказаў ёй на ласку. Схіліўся галоўкай да Алёнкі, палашчыўся аб яе руку.

— Ну, ідзіце,— сказала ім з усмешкаю бабуля.

Алёнка весела ішла з козлікам і раз-пораз азіралася: так прыемна было зноў і зноў убачыць сваю хату — як расце на ёй роўная залацістая страха.

# СОНЕЙКА ЎНОЧЫ

Не паспела Алёнка як след налюбавацца сваёй хатаю з новай страхою, а тут яшчэ адна радасная навіна.

Аднойчы раніцаю закіпела на вуліцы дзівосная праца.

Спачатку трактарам амаль да кожнае хаты прыцягнулі доўгія смаловыя слупы. Адзін канец у слупа — абсклюдаваны, белы з увінчаным жалезным крукам; другі — як быццам прыпалены, чорны. На сонцы выступаюць кропелькі празрыстай смалы. І там, дзе яна высыхае, застаюцца белыя дарожкі.

Рабочыя выкапалі ямы, паставілі ў ямы слупы. Потым ямы засыпалі, а зямлю ўтрамбавалі цяжкімі драўлянымі ступамі. Слупы сталі роўныя, высокія, на кожным нешта напісана.

Хутка за гэтымі рабочымі з'явіліся іншыя. Яны былі падперазаны шырачэзнымі рамянямі. А на нагах мелі жалезныя завостраныя падчэпіны. «Трохі падобныя на бабулін серп, толькі таўсцейшыя»,— падумала Алёнка. Цераз пляча на сінім дроціку віселі белыя бліскучыя шкляначкі. Рабочыя прывязваліся да слупа рамянямі. З дапамогаю падчэпін на нагах лёгка, як па зямлі, ішлі ўгору. Залазілі на самы верх слупа. І там на жалезных круках замацоўвалі свае белыя шкляначкі.

Усе дзеці з суседніх двароў і Алёнка з імі круціліся каля рабочых. Ніяк не маглі ўцяміць, што гэта будзе. Раней на іхняй вуліцы, праўда, трохі радзей, ужо ставілі такія слупы. Цяпер па дратах з тых слупоў да іх прылятаюць казкі і песні. А што будзе тут?

— Дзядзечка...— асмелілася Алёнка і падышла да вусатага рабочага, які сеў адпачыць.— Скажыце, дзядзечка, а нашто гэтыя слупы?

— Эйш, якая смелая! — усміхаючыся, сказаў дзядзька і сам спытаў: — А ты любіш сонейка?

— Люблю,— паціснуўшы плечыкамі, адказала Алёнка і паглядзела на дзяцей, што іх абкружылі.— Хто ж яго не любіць?

А дзядзька гаварыў далей:

— Малайчына. Хто ж не любіць сонейка. Але сонейка з неба свеціць і грэе толькі днём. Праўда?

— Праўда! — хорам адказалі хлопчыкі і дзяўчынкі.

— Ну, вось. А мы зробім так, што і ўночы вам засвеціць сонейка. Электрычнае. Вось на гэтыя слупы нацягнем драты. А па дратах і прыйдзе да вас начное сонейка.



Дзеці, як ластаўкі, абкружылі рабочага. Ім так было ўсё цікава. А што скажа дзядзька яшчэ? Але рабочага гукнулі яго таварышы. Як шкада! Што ж гэта за сонейка такое? І калі яно да іх прыйдзе?

Алёнка пабегла да дзедкі.

— Дзядулечка, любенькі, паслухай, што гэта сказаў той дзядзька. Што ў нашай хаце засвеціць сонейка ўночы. Як гэта, дзядулечка? Сонейка ж само заходзіць і ўсходзіць. А ўночы спіць. Як жа яго прывядуць па слупах?

— Эх ты, зязюлька мая,— сказаў дзед, устаючы з калодкі, дзе ён выстругваў новую пачыну.— Гэта ж не тое сонейка, што ў небе. Не хацеў паказваць раней часу. Але што ж. Пакажу. Помніш, як прыехаў я з мястэчка, а ты ўсё дапытвалася: «Што гэта ты, дзядуля, прывёз такое?..» У пакунку такім папяровым. Я тады не паказаў табе. Схаваў. Думаў, здзіўлю сваю ўнучку, як прыйдзе час. Ажно трэба адкрыць сакрэт. Хадзем, зязюлька.

Дзед Рэпка ўзяў Алёнку за руку. Пайшлі ў хату. Дзядуля адкрыў свой запаветны куфэрак і дастаў адтуль пакунак, перавязаны вяроўкай. Асцярожна паклаў на стол. Развязаў зубамі вузел, далікатна, нібы маленькае дзіця, раскруціў скрутак, знімаючы адну паперу за другой.

— Вось я табе, унучачка, пакажу сонейка. Я яго купіў тады ў раймагу.

Алёнка смяецца. Падымаецца на пальчыкі, каб хутчэй убачыць дзедава сонейка. Пытае:

— Дзядулечка! А мо ў цябе там ляжыць і месячык? А мо, і зоркі?

— Ах ты ж, зязюлька, казулька! — смяецца і дзед.— Чакай, чакай! Зараз пабачыш. Гэта табе не смуродная лямпа і не дымучая лучына...

Алёнка глядзіць — а перад ёю нейкія шкляныя цацкі. Падобныя трохі на грушы-бэры, што выраслі ў яе садзе, толькі большыя. Адны празрыстыя, і ў іх бялюткія дроцікі схаваны ў сяродачку. Другія — белыя, нібы тыя аладкі, памачаныя ў смятану, нічога не відаць.

— Ну што, зязюлька, цікава? Гэта такія лямпачкі. Бачыш, за шклом нітачкі пакручастыя? Зараз яны халодныя. От у іх то і схавалася сонейка і чакае.

— А чаго яно чакае, дзядуля?

— А чакае, пакуль прамень па правадах іскру сюды пашле і яго запаліць. Прыйдуць майстры. Правядуць у хату правады. А тады па тых правадах прыбяжыць да нас святло. Адкуль прыбяжыць? А з мястэчка, мусіць. Там вялізныя-вялізныя жалезныя слупы паставілі... Вось я і купіў пабольш лямпачак. Каб усюды павесіць.

— Дзядуленька, і мне павесіш сонейка?

— А як жа, зязюлька. Табе першай, дзе захочаш, там і павесім.

А работа на вуліцы ішла сваім ходам. Хлопцы-манцёры завіхаліся з усіх сіл. Ім самім не цярпелася хутчэй даць святло ў калгасныя хаты. Яшчэ з цёмнага роў, не сціхаючы, трактар. Ён цягнуў вялізнае кола з дротам. Рабочыя зноў на сваіх учэпінах лоўка ўзбягалі на слупы і прыкручвалі правады да белых шклянак. А потым ад слупоў цягнулі драты да кожнай хаты.

Нарэшце Алёнка дачакалася: дайшла чарга і да іхняй хаты. Ад слупа, што стаяў ля агародчыка, скінулі два правады. Яны ўпалі якраз у палісадніку, побач з алёнчынай арэшынай.

— Дзядзечкі! — папрасіла Алёнка.— Тут мая арэшынка расце. Вы яе не зачэпіце?



— Не, не, маленькая, не зачэпім,— сказаў рабочы,— зараз мы падымем правады і вунь над страхой іх замацуем. А ты вот памагай нам. Пакажаш, дзе лямпачкі ў хаце вешаць.

— Ага, ага! — падтрымаў яго і дзед Рэпка.— Зараз усё выберам з унучкай, дзе сонейка павесіць.

Рабочыя падняліся на страху. Замацавалі жалезную трубку з белымі, як на слупах, шклянкамі. А праз тую трубку прапусцілі правады ў хату. Спачатку хацелі паставіць трубку на самай страсе. Але паглядзелі — страха новая, прыгожая, і пашкадавалі. Прыладзілі трубку да вугла хаты. Дзядуля нічога не сказаў пра страху. Ды Алёнка бачыла, што ён дужа рады. Радавалася і Алёнка.

А вось зайшлі нарэшце і ў самую хату. Тут ужо бабуля паставіла на стол хлеб, малако, яблыкі. Чакала гасцей.

— Заходзьце, заходзьце, людцы добрыя! Гэта ж столькі радасці вы ўсім прынеслі. Заходзьце, чакаем вас.

— Унучачка, ну, пакажы, дзе табе павесіць сонейка,— сказаў дзед Рэпка.— Пакажы дзядзьку сама.

— Ды вось тут, сярод хаты, мабыць,— прапанаваў дзядзька.

— Ага, тут, тут! — згадзілася Алёнка.

— Сярод хаты — то так. А трэба было б і тут нешта прыдумаць.— Дзед паказаў на стол ля сцяны.— Ляночак наш у школу сёлета пойдзе. Трэба, каб светла было ўрокі рабіць.

— Тады мы зробім вось што,— кажа манцёр.— Вось у гэтым месцы паставім разетку, купіце ёй такое сонейка, што куды захоча, туды і паставіць. Толькі вось у гэтыя дзірачкі ўторкне вілачку. А лямпачку павесім пасярод хаты.

— І то праўда. Дзякуй вам, людзі добрыя, за клопат. Тады ўжо і на другой палавіне параімся: як бы старой зрабіць, каб было відна і ў печы і на печы.

— Зробім, дзеду. Усё зробім.

Алёнка не адыходзіла ад рабочых. Пачалі працу на чыстай палавіне. На падлогу пасыпалі белых ролікаў, выключацеляў, калодачак, разетак. Алёнка хутка запомніла ўсе назвы. Прыкруцілі да сцен і да столі белыя ролікі. Потым на іх панацягвалі белы шнур, скручаны ўдвое. Прыладзілі над сталом разетку... А на столі падвесілі гняздо для лямпачкі.

— Дзядуля! Родненькі! — заскакала Алёнка.— Давай цяпер павесім сонейка. Давай, дзядуля!

Рабочыя смяяліся. А дзеду Рэпку і самому не цярпелася. Ён дастаў з куфэрка самую прыгожую лямпачку. Укруціў пад столлю ў гняздо. Вось яно гатова, сонейка. Толькі іскаркі дачакацца. Хутка яна прыляціць! Хутка, хутка!

Перайшлі рабіць праводку на другую палавіну. Тут і бабуля, і дзядуля, і Алёнка паказвалі разам — дзе размясціць ім сонейка. Адну лямпачку рашылі павесіць над сталом, а другую — ля печы. І ў сенцы ад яе таксама будзе відно.

— Ды вы ўжо, хлопчыкі,— папрасіў дзед,— і тут укруціце ў сценку разетачку. Мо і тут захоча пасядзець з кніжкаю ўнучка.

— Усё зробім, дзядуля, што ні загадаеш,— сардэчна адказвалі хлопцы.

Дзедка, бабка стаялі шчаслівыя, ківалі галовамі і казалі:

— От дажылі да радасці. Хоць пад старасць пацешымся. Дзякуй вам вялікае. Добрыя вы людзі...

Прайшло яшчэ некалькі дзён. Хоць і не было сіл чакаць, калі ж яно засвеціцца, тое начное сонейка, але што заставалася рабіць.

Дзядуля, вяртаючыся з вёскі, паведамляў Алёнцы:

— Хутка, унучачка, хутка. Гэта ж не так проста. Усё трэба праверыць. Закончыць як след. Каб не было шкоды ніякай...

Але нарэшце настаў чароўны вечар. Па радыё выступіў старшыня. Сказаў калгаснікам, што дачакаліся яны вялікага свята на сваёй вуліцы. Сёння загарацца ў іхніх хатах тысячы сонцаў, створаных рукамі чалавека.

— Ну, Алёнка, ідзі ж, зязюлька, уключы сваё сонейка! — скамандаваў дзед Рэпка.

Алёнка скокнула да выключацеля, пстрыкнула пальчыкам. I вось — дзіва! Ярка ўспыхнула, ярка-ярка, ажно вочкі зажмурыліся самі. Ды гэта і напраўду сонейка! Алёнка пабегла па ўсёй хаце. Пстрык, пстрык. Што робіцца! Хата выбухнула святлом, нават у куточках пад ложкамі, нават над прыпечкам усё відаць. Бабуля закрыла вочы фартухом: «Авой! Патушы, унучачка, хоць адно сваё сонейка, патушы, навошта столькі!»

— А не, бабулька,— крычыць Алёнка,— хай гарацъ, вунь глядзі, нават у сенцах так светла. Ты ж заўсёды казала — хоць вока там выкалі. А зараз — глядзі, бабулька, вунь гарлачыкі, вунь міскі, вёдры, усё відаць!

Дзед Рэпка, усміхаючыся, узяў закураную лямпу, газнічку, бачок з газаю.

— Ну, досыць вам тут смуродзіць. Паляжыце ў склепе. Калі-небудзь, можа, убачыўшы вас, хоць пасмяёмся.

Дзед Рэпка выйшаў з хаты, але зараз жа вярнуўся.

— Унучка, бабуля! А пагляньце, што ў вёсцы робіцца! Ды не, не з акна! А з двара гляньце.

Алёнка кінулася ўслед за дзедам. I нават бабка Маланка як быццам памаладзела, хуценька далучылася да дзеда і Алёнкі.

Дзівоснае відовішча адкрывалася іх вачам. З гары сваёй яны бачылі залітую агнямі вёску. Сонечнымі лініямі былі акрэслены вуліцы, плошчы, сельсавет, калгаснае праўленне. Агні міргалі, збягаліся, разыходзіліся, падымаліся і ўрэшце рэшт зліваліся ў адно вялікае зарава. Нават мястэчка, якое заўсёды вечарам ярка свяцілася здалёк, сёння нібыта памеркла. Агні ад вёскі адыходзілі ў бок ракі — гэта гарэлі маякі над Сажом. Яны адсвечвалі ў вадзе, зліваліся з зорамі і месяцам. I здавалася, што начному святлу няма сёння канца і краю.

— Ну, што, унучачка, добрае ў нас цяпер сонейка начное? — спытаў дзед у Алёнкі, парушаючы зачараваную цішыню.

— Дзядуля! Бабка! — адказала расчуленая Алёнка.— Вы ў мяне самыя разумнейшыя! А сонейка ў нас цяпер будзе заўсёды, праўда?

— Заўсёды, заўсёды, унучачка! — супакоілі ўнучку дзед і бабка.

У гэту ноч Алёнка доўга не магла супакоіцца, заснуць. Ды і як тут супакоішся? Патушылі сонейка ў хаце, а яно вунь на вуліцы на слупе ззяе. Праз арэшыну пасылае прывітальныя прамені Алёнцы. А якое лісцейка на сценках адбіваецца. Нібы казачныя ўзоры пакрылі сцежкі і столь. Алёнцы здаецца, што яна нават свой арэшак бачыць на сцяне. Вунь ён пад лісточкам зіркае лабастай галоўкай, нібы пытае:

— А мяне ты не забыла, не забыла?

— Не забыла, не забыла...— шэпча Алёнка і жмурыцца ад начнога сонейка, закрывае вочы. Яна засынае, каб да самай раніцы сніць сяброў на вуліцы, манцёраў, дзедку і бабку, незаходзячае сваё сонейка, усё радаснае маленства.



# АРЭХ

Таксама, як і Алёнка, да самых ранішніх рос не мог заснуць у гэту ноч і яе арэшак. Нездарма бачыўся ёй яго адкрыты лобік. I чуўся слабы, устрывожаны арэшкаў кліч.

Упершыню ўночы, калі ён прывык адпачываць у цішыні і прахалодзе, арэху свяціла сонца. Яно проста асляпляла яго з суседняга слупа. А тут, як на бяду, ноч выдалася цёплая, нават без ветру. Доўга круціўся арэшак. З усіх сіл намагаўся дацягнуцца да самага шырокага на галінцы ліста, каб за ім схавацца ад святла.

Нарэшце выпала світальная раса. Ліст пацяжэў, апусціўся ніжэй і сам прыкрыў сабою арэх. Арэху стала трохі лягчэй, і ён адразу заснуў.

Што ж гэта за арэшак? Чаму яго так шкадуе Алёнка? I як вырасла арэшына пад яе акном?

Было гэта так.

Аднойчы восенню, ідучы выкопваць прымечаныя дрэўцы, каб пасадзіць іх вакол сядзібы, дзед Рэпка ўзяў з сабой і Алёнку. Яны ўбачылі ў полі маленькую арэшынку. Яна расла на крутой пясчанай грыве за Жураўкавым ровам. Лісточкі напалову абляцелі, і арэшына амаль голая калацілася пад халодным ветрам.

Убачыўшы арэшынку, Алёнка пашкадавала яе, нібы сваю сястрычку.

— Паглянь, дзядуля, што гэта за дрэўца? — спытала яна, здымаючы з галінкі пажаўцелы ліст.— Бедненькае, як яно калоціцца... Выкапай мне, дзедка, гэтае дрэўца. Пасадзім пад акенцам...

Арэшынка была крышачку вышэйшая за Алёнку. З аднаго камля адыходзілі тры галінастыя сцвалочкі. Дзед Рэпка прыкінуў вокам — нішто сабе дрэўца, прымецца, добры будзе арэхавы куст.

Асцярожна разам з зямлёю завязалі карэнні ў пасцілку, прынеслі арэшынку ў двор. Выбралі месца ў агародчыку ля вуліцы. Якраз у самым кутку, каб зацішна было і сонейка хапала. I там пасадзілі арэшынку. Алёнка трымала дрэўца рукамі, а дзядуля засыпаў зямлёю. Убілі калочак, прывязалі да яго арэшынку за дзебялейшы адростак, каб не расхістала ветрам. I пакуль не пеканулі замаразкі, Алёнка штодзень палівала дрэўца вадзіцаю, грэючы яе на сонцы.

Арэшынцы месца прыйшлося да спадобы. Перазімаваўшы пад цёплаю коўдраю снегу, яна, як толькі прыгрэла сонейка, выпусціла зіркастыя вочкі-пупышкі. А па некаторым часе зашапятала вострымі, клейкімі лісточкамі.

Дзед Рэпка агледзеў тады арэшынку, гукнуў Алёнку і сказаў:

— Арэшынка твая, зязюлька, прыжылася. Цяпер глядзі на яе і старайся расці, як яна. Толькі чур, зязюлька: не тапчыся часта вакол арэшынкі. Бо яна не церпіць цяжкай зямлі. Волю яна любіць.

Алёнка старалася ўсё рабіць, як сказаў дзядуля. Але ёй не ўдавалася расці так хутка, як расла арэшынка. За адзін год арэшынка намнога выцягнула свае галінкі. Алёнка, нават на пальчыках, не магла да іх дацягнуцца. А калі прыйшло наступнае лета, то арэшынка ўжо моцна шумела на ветры. Асабліва калі ішоў дождж. Праўда, Алёнка заўсёды ў такія хвіліны з трывогай падбягала да акна. Ёй здавалася, што дрэўца, хоць і падрасло, але ўсё яшчэ кволае, слабае. Лісточкі ж казалі Алёнцы: «Не бойся, дзяўчынка, мы ўжо моцныя, глядзі, як разлапушыліся. Ніхто нас не адолее, не адарве ад родных галінак».

Сёлета арэшынка падрасла яшчэ больш. I вось з гэтай вясны і пачаўся ў Алёнкі вялікі з арэшынай клопат.

Нeяк ранняй вясною, калі яшчэ ляжаў там-сям снег, Алёнка ўбачыла на арэхавым кусце некалькі жоўтых з карычневымі пупырышкамі завушнічак.

Што гэта такое — Алёнка не ведала. Засмучоная прыбегла да дзедкі.

— Дзядуля, паглянь, што гэта на маёй арэшынцы. Лістоў няма, а вісяць нейкія чарвячкі...

— Ды гэта ж не чарвячкі, зязюлька. Гэта зацвіла твая арэшынка. Цяпер, унучка, пільнуй. Будуць у цябе арэшкі.

Вось так з'явіўся ў Алёнкі клопат. Яна баялася, каб часам вераб'і, якія часта пачыналі бойку на кустах каля плота, не пашкодзілі арэхавага цвету. Баялася, каб і з хлапчукоў хто не абарваў. Хіба ж гэта не клопат? Клопат, ды яшчэ які. Цяпер яна пачынала дзень з таго, што бегла глядзець — ці вісяць на арэшынцы завушнічкі-таўкачыкі.

Сонейка ўсё вышэй падымалася ў небе. Снег зусім сышоў з зямлі. Памаладзелі двор і садзік Алёнкі. Кусты смародзіны і агрэсту адзеліся ў зялёны ўбор. Зацвілі вішні, слівы. І груша-дзічка накінула на сябе бялюткую пасцілку. За ёй, як нявесты ў вясельныя сукенкі, убраліся ў белыя пялёсткі маладзейшыя бэры і цукроўкі. Яблыні выпусцілі ружовыя бутоны. Зацвітала чаромха. Дайшла чарга і да арэшынкі. На ёй высыпалі вострыя лісточкі, якія хутка лапушыліся і густа закрывалі галінкі.

У Алёнкі ў гэту пару хапала працы. Яна з дзядулем выграбала ў садзе леташняе лісце, вымятала венікам смецце. Памагала бабулі рабіць грады. Садзіла з ёю вяргіні. Акопвала лілеі, флёксы. Паўз плот ужо цвілі маргарыткі і анюціны вочкі. І каля іх падварушвалі зямлю.

За гэтымі турботамі Алёнка трохі забылася пра сваю арэшынку. А калі ўспомніла і падбегла да яе — здзівілася да жалю. У густым зялёным лісці нічога не было. Дзе ж тыя арэшкі? Алёнка старанна агледзела амаль кожны сучок. Няма. Дзядуля да самага вечара не вяртаўся з луга. Ледзьве Алёнка дачакалася. Сустрэла яго на вуліцы.

— Дзядуля, няма арэшкаў,— сумна пажалілася яна.— Дзе яны падзеліся?

Дзед Рэпка, мусіць, чакаў такога пытання.

— Не бядуй, зязюлька. Арэшынка твая маладая, а быў замаразак. Вось ён і загубіў арэшкі. Чакай, от паглядзіш праз гадок. Не тое будзе. Але адзін арэшак у цябе ўсё-ткі ёсць. Застаўся. Заўтра пакажу, убачыш. А зараз цёмна...

Алёнка легла спаць і думала: чаму ж толькі адзін застаўся арэшак? Як яго дзяліць, калі вырасце? Каму даць? Алёнка так шануе дзедку і бабку. І татка ж прыедзе. Каму ж ёй падарыць арэшак?

Назаўтра раніцаю, як толькі дзядуля ўзяў надзяваць чобаты, Алёнка выскачыла з хаты за ім. Дзед Рэпка падвёў яе да арэшынкі, паказаў:

— Вось, глядзі, зязюлька, пад гэты сучок.

Алёнка паглядзела — і праўда: чуць прыклеены да лісточка ў кажушку зялёненькім сядзеў арэх. Узыходзіла сонца. І арэшак смешна тыцкаў зялёным маленькім носікам з-пад лісточка. Хацеў хутчэй пагрэцца. Так здавалася Алёнцы.

Пра алёнчын арэх даведалася і бабуля. І з той пары ўся іхняя сям'я наглядала за арэшкам.

— Ляночак, ці ты была сёння ля арэшка? — пытае дзядуля ўнучку.

— Была, была! А ты бачыў, дзядуля? Ён ужо распранае кажушок.



— А я думаў, што ты за гулямі на Сажы і не заўважыла.

— Ой, дзеду! Міленькі! А ты б пабачыў, як я плаваю! — пачала расказваць Алёнка пра сваё новае захапленне.— Сёння пасля абеду яму пераплывалі. Што каля лазы. Дзядулечка! Мы наперагонкі плавалі. А заўтра ныраць будзем.

— Ой, глядзі, зязюлька! Ой, скажу бабулі...— Дзед Рэпка пагразіў пальцам.— Нельга забаўляцца ў вадзе. Хай ужо хлопцы. Дык і вы. Не будзеш дурэць, унучачка?

— Не, не, дзядуля! Родненькі. Ты б паглядзеў. Я ля беражка. Паціхеньку. Там і гусі пераплываюць.

— Гусі... Гусі і за Сож плаваюць. То ж гусі... А ты — зязюлька мая...

Алёнка падбягае да дзеда, просіцца да яго на рукі. Цалуе ў рудыя вусы і, жартуючы, вырываецца. Са смехам — скок на дол. Сабрала трэскі, якія насек дзядуля, панесла ў хату. Будуць варыць бульбу на комінку. Чарнушка вярнулася з пашы, убегла ў двор і да сенцаў. Яна прывыкла, што вечарам бабка выносіць пойла.

— А ну, пайшла ў пуню, Чарнушка! Пайшла! — камандуе Алёнка. А Чарнушка махае галавой і ні з месца.

— Бабуля! — гукае Алёнка.— Кароўка прыйшла.

Бабуля ідзе з агарода. Нясе траву пад пахай. Кінула Чарнушцы. «Ну ж, ідзі з дарогі». Потым з дзядулем вынеслі пойла. Бабуля ўзяла даёнку, села на круглячок. Абцёрла карове вымя ручніком, стала даіць. Спачатку малако тоненькімі струменьчыкамі зазвінела па вядры. Дзэн-н, дзэн-н, дзэн-н...— як муха зазвінела. Чарнушка б'е хвастом па спіне. «Стой ты, няма цяпер мух, чаго лупіш? Ножку, ножку!» — бабуля супакойвае Чарнушку.

Алёнка з зайздрасцю назірае за бабулінай работай. Яна яшчэ малая даіць карову. Так кажа бабуля. Але хутка яна падрасце. Навучыцца ладзіць з Чарнушкай. Стане і тут памагаць бабулі.

Бабуля працадзіла малако, наліла ў карэц сырадою. Падаючы Алёнцы, таксама спытала пра арэх.

— Арэшак, унучачка, бачыла, як падрос? Адзін, а ўдаленькі.

— Бачыла, бабулька. Мне яго так шкада,— уздыхнула Алёнка.— Толькі вылезе ён на сонейка. А лісточкі падрастаюць. І зноў засланяюць арэшак.

— Гэта добра,— сказаў Алёнцы дзед Рэпка.— На сонцапёку яму было б цяжка. А так пагрэўся на сонейку — і ў цянёчак. У цянёчку, унучачка, арэх адпачывае, сіл набіраецца...

Арэшак з кожным днём буйнеў, усё больш вылазіў з кажушка. Кажушок цяпер стаў светлы, а галоўка арэха загарэла на сонцы. Чым больш у Алёнкі выгаралі валасы, бялелі, то арэшак — наадварот, цямнеў, стаў рудаватым. Алёнка глядзела на яго і радавалася. Які ён удалы! Адзін у маці-арэшынкі. Алёнка ўяўляла сабе дзень, калі прыедзе яе тата. Тады яна сарве арэшак. І паднясе яго, як свой найлепшы падарунак. Каму? Гэтага яна нікому не скажа да часу. Але яна ўсім сэрцам адчувае, што татка яе пахваліць...

# АЛЁНЧЫНА ХВАРОБА

Тою раніцаю Алёнка прачнулася невясёлая. Смуглявы яе твар яшчэ пацямнеў, а вусны засмяглі, як ад ліпнёвай спякоты. Яна абыякава паглядзела на сонца, што весела віталася з ёю.

Вочы, якія заўсёды зыркалі так гарэзліва, сёння былі пакрыты мутнай паволокай. Алёнка паднялася, па звычцы прабегла па хаце, але адразу ж вярнулася да пасцелі.

— Бабулька...— млява паклікала яна.— Жывоцік...

— Ды што з табою, унучачка? Што, мая родная? — кінулася бабка Маланка да ўнучкі.

— Жывоцік... Баліць... Ой, бабулечка! — У Алёнкі з вачэй пакаціліся слёзы.

— Ах, божа ж мой! Ды што ж гэта такое! — залементавала бабка Маланка. Яна ціха гладзіць унучку па жывоціку і ўспамінае, што яна ўчора давала ёй есці. Ад чаго забалеў жывот у малое? Алёнка гарачай рукою пяшчотна дакранулася да бабулінай рукі, глянула сумнымі вачамі, яшчэ сінейшымі, чым заўсёды. Колькі было жалю і болю ў тых вачанятах! Яна нібы прасіла ў сваёй любай бабулі і матулі прабачэння за гэты клопат. Быццам хацела сказаць: «Што я магу зрабіць, бабулечка, калі так моцна баліць жывоцік?» Алёнка кусала губы, каб не крычаць, кропелькі поту выступілі на лобе.

Бабка Маланка падбіла ўнучцы падушку, папрасіла яе трохі пачакаць. І кінулася да фельчара...

Калі яны з фельчарам уваходзілі ў двор, дзед Рэпка з пачынаю і пукам лазы таксама падняўся на гару.

— Што здарылася? — устрывожана пытае дзед Рэпка.

— Алёнка захварэла...— адказала бабка і заплакала.

Дзед кінуў ношу, пабег у хату. Алёнка ляжала ў пасцелі, замружыўшы вочы, і ціха стагнала. Было відаць, што яна моцна пакутуе.

Фельчар агледзеў малую, памацаў жывоцік, падумаў і сказаў:

— Не хвалюйцеся. Мо я і памыляюся. Але будзе лепей, калі завязём дзяўчынку ў мястэчка. Трэба, каб у бальніцы хірург паглядзеў. Па-мойму, нічога страшнага... Але трэба да хірурга.

Бабка Маланка і слова такога не чула. Што гэта за хірург такі? Яна зусім збянтэжылася.

— Авоечкі, а што ж гэта за горачка! Бяжы ж ты, Рэпка, хутчэй у праўленне. Хай машыну даюць. Ды хуценька ж, Рэпачка, хуценька!..— наказвае бабка Маланка.

Дзеду Рэпку перадалося бабчына хваляванне, і ён вомільгам выскачыў з хаты.

Бабка Маланка падаставала з печы чыгуны, пакарміла сваіх парасят, куранят, козліка.

Кожную хвіліну забягала паглядзець на Алёнку. Яна ўжо сабрала ўнучку ў дарогу і з нецярпеннем чакала дзеда Рэпку. Ёй здавалася, што сама яна збегала б у праўленне хутчэй за дзеда. Журботныя слёзы ціха цяклі па маршчыністым твары бабкі Маланкі. Яна выцірала іх рогам хусцінкі і паглядала ў акно, ці няма дзеда Рэпкі.

А вось і ён, запыханы, усхваляваны. Прывязаў да плота каня, бяжыць у хату.

— Няма машыны, дзеткі. Адны збожжа павезлі, іншыя на малаку заняты. Запрог каня. Нічога, хутка даедзем. Шэсць вёрст не дарога. Ну, як ты тут, зязюлька мая? Ах ты ж, пяюха любая. Пацярпі, унучачка, от паглядзіць доктар, палечыць, і зноў лётаць будзеш. Нічога, зязюлька!

Алёнка слаба ўсміхнулася на словы дзеда, ды тут жа зноў хапілася за жывот. Дзед Рэпка ўзяў Алёнку на рукі. Нейкаю зусім лёгкай, як пярынка, здалася яна яму. Хацеў несці на вуліцу да коніка.

— Дзядулечка! Любенькі! Я сама! — папрасілася Алёнка.— Арэшак... Пагляджу арэшак...



Дзед Рэпка адчыніў малой дзверы. Памог зайсці ў агародчык. Яна падышла да арэшынкі. Спачатку не ўбачыла арэшка. Але заглянула пад шырокі ліст і ўздыхнула з палёгкай. Арэх, замурзаны ў росках, спаў, паклаўшы галоўку на тонкі сучок. Алёнцы здалося, што ён з асалодай пасопвае і на вачах раздаецца ўшыркі. Алёнка сумна вачамі развіталася з ім. Дзед пасадзіў унучку ў вазок на мяккае сена. Бабка Маланка села поруч, трымае Алёнку.

— Хутчэй, Рэпка, хутчэй...

Дзед пакруціў пугаю над канём. Паехалі. Алёнцы захацелася лепчы. Ой ды ой! — баліць жывоцік. Дзед Рэпка аб'язджае кожную выбоіну на шляху, па пяску едзе, каб мякка колы каціліся. Алёнка сумнымі вачамі азірае наваколле. Вунь на полі, як лес зялёны, стаіць задумная кукуруза. Кружаць над шляхам палявыя орлікі. Бялявыя хмаркі, здаецца, зачапіліся за пікі елак і не зварухнуцца. Дзе-нідзе выблісне з-за кустоў серабрыстая стужка Сажа. А вунь там за лугамі відаць высокія сосны за Сіняй бухтай. Як бы захаплялася Алёнка, убачыўшы гэта, калі б не была хворая. А сёння яна нібы нічога не заўважае, толькі час ад часу войкае. Баліць жывоцік. Бабка Маланка, каб магла, то сама легла б замест Алёнкі. Так шкода ёй глядзець на бледны тварык і слёзныя вочкі...

На ўскраіне гарадка ў засені старых ліп высіцца бальніца. Дзед Рэпка збочыў з дарогі, падвярнуў да самага ўваходу ў будынак. Белыя сцены і вокны, белыя халаты на людзях, якія нячутна, нібы на крыллях, снавалі за агароджай. Гэта так прыгнятальна падзейнічала на дзеда і бабку. Дзед Рэпка, уздыхнуўшы, узяў Алёнку, пайшоў з ёю ў будынак. Праз нейкі час, які здаўся бабцы годам, выйшаў адтуль.

— Што?.. Ну, кажы ж ты, Рэпка...— спалохана пытала бабка.

— Нічога, Маланка... Доктар цябе кліча...

У бабкі Маланкі ногі падкасіліся.

— Дык гэта і ёсць твая бабуля? — спытаў у Алёнкі чалавек з барodкай і ў вялікіх акулярах, калі бабка зайшла. Ён сядзеў на тапчане побач з Алёнкай і гладзіў яе па галаве.— Ну, вось мы і скажам тваёй бабульцы, каб яна не хвалявалася. А, бабка? Не будзем хвалявацца?

Бабка Маланка разгубілася, не ведала, што сказаць.

— Памажыце, любы доктар...— са слязамі папрасіла яна.— Гэта ж такое няшчасце, такое няшчасце...

— І ніякага няшчасця няма. Унучка ваша слаўная. Добра, што не трымалі дома, а прывезлі яе да нас. Пакінем тут вашу Алёнку. Палечым. А праз якіх шэсць-сем дзён не пазнаеце сваю ўнучку. Зноў будзе жвавая ды вясёлая...

Як ні войкала бабка Маланка, але ж нічога не зробіш. Давялося аддаць Алёнку дактарам.

Алёнка абняла дзядулю, бабку. Дзядзька доктар ёй дужа спадабаўся. І, хоць моцна балеў у яе жывоцік, яна ўсміхнулася на развітанне. І сказала, амаль словамі доктара:

— Я хутка папраўлюся. Зноў буду вясёлая...— А дзядулю папрасіла: — Дзядулечка! Паглядзі ж там за арэшкам...

— Усё дагледзім, усё, зязюлька... Папраўляйся, любая. І за арэшкам пасочым, і сад паглядзім. Усё зробім...— Дзед Рэпка прыхінуў унучку да сэрца. А тады ўсміхнуўся і падміргнуў ёй: «Вышэй галаву, зязюлька мая, яшчэ мы палятаем з табою!..»

Па дарозе дадому дзед Рэпка доўга маўчаў. А потым рашыў сказаць бабцы Маланцы ўсё, што пачуў ад хірурга. Што ў Алёнкі хвароба, якая завецца а-пен-ды-цыт. І Алёнцы будуць нешта рэзаць у жывоціку...

Бабка Маланка ледзь не знепрытомнела. Дзе падзеліся яе развażлівасць і смеласць. Загадала дзеду Рэпку ехаць назад. Назад, назад! Толькі назад, пабачыць унучку.

— Ды што з табою, Маланка? Адумайся. Як жа так можна? — угаворваў яе дзед Рэпка.— Хіба ты нечым паможаш там? Хіба паправіш нешта?

— Не хачу! Не хачу, каб рэзалі дзіцятка! А божа ж мой. І нічагачкі ж мне не сказалі. А што ж гэта робіцца? А божачкі! — прычытала бабка Маланка.

Дзед Рэпка доўга ўпрошваў, пакуль бабка Маланка трохі супакоілася.

— І добра зрабіў доктар, што не сказаў табе,— дакараў дзед Рэпка бабулю.— Толькі ўнучку б разжаліла. А ёй цяпер сілы патрэбны. Сэрцайка спакойнае...

Угаворваць бабку ўгаворваў, але і сам дзед Рэпка адчуваў вялікі непакой. Як там Алёнка? Ці ўсё з ёй добра? Як скончыцца аперацыя?

Дома бабка і дзед не знаходзілі сабе месца. Здавалася, усё апусцела без Алёнкі. Нішто іх не цешыла. І ноч амаль што не спалі. Ледзь дачакаліся ранку. Бабка Маланка ўсё ўспаміналa, калі яна чаго не зрабіла Алёнцы. І шкадавала па тым, дакарала сябе. А дзед Рэпка, наадварот, прыдумваў розныя цікавыя справы наперад — што ён зробіць Алёнцы, калі забярэ з бальніцы.

Рана-раненька дзед Рэпка і бабка Маланка скіраваліся ў адведзіны да ўнучкі. З машынай-малакавозам даехалі да бальніцы. Бабка Маланка трымала ў руках добры вузел гасцінцаў. Спякла Алёнцы пірог салодкі. Дзядуля яблыкаў самых спелых наабрываў. Навыбіраў груш вялізных, духмяных, самі ў роце растаюць. Сталі пад тыя дзверы, куды ўчора Алёнку павялі. Чакаюць. Сэрца заходзіцца. Ніхто не выходзіць. Няма ў каго спытаць нават. Добра, што адна жанчына ў белым халаце сюды зазірнула. Сказала ім:

— Ды вы тут не стойце. Ваша ўнучка, калі ляжыць, дык вунь там, у тых пакоях.— Жанчына паказала ў канец калідора.— Там і доктара ўбачыце.

І праўда. Дзякуй вялікае жанчыне. Пастаялі трохі і раптам збоку — адкуль толькі і ўзяўся:

— Добрай раніцы вам, дзед і бабка! — прывітаўся з імі доктар.— Рана, рана вы завіталі. Хваляваліся? Бачу, бачу, хваляваліся, што зробіш. Але супакойцеся. Усё добра. Унучка ваша малайчына. Цяпер спіць пасля аперацыі...

— Доктарка, міленькі...— Бабка Маланка праслязілася. У дзеда Рэпкі толькі вус торгаўся.— Можа б вы дазволілі пабачыць унучку...— просіць бабка Маланка. І дзед кланяецца.— Дазвольце, даражэнькі...

— Можна, можна, толькі крышачку пазней. Вот пройдзе абход, тады — калі ласка. Пусцім вас.— Доктар паглядзеў на бабулін вузельчык і дадаў:

— Толькі ніякай ежы дзяўчынцы не перадаваць. Ніякай, разумееце?.. Нельга ёй!..

Доктар пайшоў па сваіх справах.

— Куды цяпер дзяваць усё гэта? Не дамоў жа несці...— сказала бабуля. З пакояў пачалі выходзіць хворыя: хто гуляў па калідоры, хто выйшаў у двор бальніцы пад ліпы. Бабка Маланка прыпыняла то аднаго, то другога, раздавала са свайго вузліка пачастункі.

— Ешце, родныя, папраўляйцеся. На здароўечка вам...— Яна зноў стала сама сабою, радая, што ўсё добра абышлося з унучкаю.



Нарэшце, дзяўчына ў белым халаце паклікала старых:

— Калі ласка, дзед і бабка, заходзьце, унучка чакае вас. Ідзіце, ідзіце от сюды. Наце накіньце халаты.

— Дзякуй табе, любая... Дзе ж яна, наша зязюлька? Якая ж хоць яна? — хваляваліся старыя, пакуль дзяўчына вяла іх у палату. Але нарэшце ўбачылі ложак і Алёнчыну галоўку.— Небарака, як асунулася, толькі вочкі вялізныя і blішчаць...— Бабка Маланка зноў узялася за фартух — выцерці слязіну. Ды Алёнка, як яснае сонейка, усміхнулася насустрач дзедку і бабцы, хоць і слабым голасам, але весела сказала:

— Бабулька, не трэба плакаць. Дзядзя доктар выкінуў больку яшчэ ўчора. А цяпер зусім-зусім не баліць. Толькі трошачкі. Як павернешся. Хутка я зноў буду бегаць. Так доктар сказаў сёння...

— Будзеш, будзеш, зязюлька. Яшчэ хутчэй, чым бегала!..— Дзед Рэпка пацалаваў ёй носік, паказытаў вусамі. Алёнка засмяялася.

— Ляжы, унучачка, не круціся...— папрасіла бабка Маланка.

— Я толькі рукі дастану.

Алёнка дастала з-пад коўдры рукі. Адной клычыць дзеду бараду, другою пяшчотна гладзіць сухенькую руку бабулі.

— Ах ты, мая маленькая. Ручкі як збялелі. Ажно свецяцца. Усе жылачкі відаць. Родненькая мая...— жалілася бабка Маланка.

Дзед Рэпка супакойваў:

— Ды годзе табе, старая. Якая была Алёнка, такая і ёсць. Нічога тут не свеціцца. Праўду я кажу, зязюлька?

— Угу...— усміхаецца Алёнка дзядулю.— Я дужая і смелая. Дзядзька доктар казаў: «Малайчына, Алёнка, ты, як салдат». Во, чуеш, бабуля?

— Чую, чую,— праз слёзы ўсміхаецца і бабка Маланка.

Не заўважылі дзед і бабка, як праляцеў час.

— Даруйце, даражэнькія, а толькі пара пакідаць хворую,— сказала ім тая ж самая дзяўчына-сястра.— Хай адпачывае малая! Ну як, бяляначка, лягчэй стала? — звярнулася яна да Алёнкі.

— Ага, цётачка, лягчэй... А можа хай пасядзяць яшчэ дзедка і бабка?..

— Не, дзетка, хопіць. А то пабача доктар, будзе сварыцца.— Дзяўчына пагладзіла Алёнку па галоўцы і выйшла з палаты.

— Бывай, унучачка, не сумуй, родная. Мы скора зноў завітаем.

— Бабулечка... як ты там, адна... ці ўправішся... І ты, мой дзядулька... цяжка табе...

— Дзіва, што цяжка... няма цябе, дык і цяжка нам адным. Папраўляйся, родная, хутчэй!..— гаварылі старыя на развітанне.

Выйшлі дзед і бабка з бальніцы і супакоеныя, і ўзрушаныя. Не заўважылі, як пайшлі пехатою. Многа думалася старым. Як яны любілі сваю ўнучку! Без Алёнкі было б ім не жыццё. Скора б завялі абое. Хвароба Алёнкі як быццам нанава адкрыла вочы і сэрцы.

Бабуля, якая ўчора так горка ўсё перажывала, сёння развażліва гаварыла:

— От жа дзіва, дык дзіва. Такія рукі ў чалавека! А, Рэпка? Гэта ж выразаць самую больку! Не абмыліцца. Дай бог здароўечка гэтаму доктару. Выратаваў нам дзіця.— І тут жа абурылася на бога, якога часта ўспаміналa: — Хай бог мне даруе. Але хіба ж ён справядлівы — караць такіх маленькіх? Ну, няхай бы ўжо мне, старой, нейкую больку наслаў. А навошта ж да дзіцёнка чапляцца?..

Дзед Рэпка даўно не верыў ні ў якога бога. Таму ён папраўляў бабулю:

— І пры чым тут нейкі бог? Адкуль ён узяўся? Не было і няма таго бога. А вот, можа, з'ела што-небудзь Алёнка — зярняткі з яблыкаў ці костачкі вішнёвыя праглынула. Малая яшчэ, не разумее. А можа, застудзілася трошкі. От яно і забалела...

Дзед і бабка разважалі пра многае, думалі, гадалі, марылі. Але ўчарашняй трывогі і смутку ў іх ужо не было. Была ўпэўненасць, што гора прайшло. Ведалі, што ўнучка іхняя цяпер паздаравее. І жыццё зноў набывала для іх сваю каштоўнасць і хараство.

Не заўважылі, як дайшлі да вёскі.

## НА РАКЕЦЕ

Мінула ўжо чатыры дні, як Алёнка ўстала на ногі. Дазволілі ёй падымацца, хадзіць, колькі хоча, гуляць.

Прачнулася тады Алёнка быццам ад нейкага клічу. Нібы гукнуў яе нехта ў казку: «Устань, хадзі сюды, Алёнка».

Алёнка адкрыла вочы. А ўсё тое ж самае. Палата. Ложкі. І яна ляжыць у пасцелі.

Ды нешта ўсё ж чулася ёй новае ва ўсім. Праз адчыненую фортачку ішоў лагодны ветрык — ціха калыхалася марлечка. Ліпы ласкава шапталіся ля акна. Светла-жоўтыя, зусім яшчэ маладыя пучочкі ліповага насення гойдаліся на галінках. Вераб'і, як знаёмыя, падляталі да акна, заглядалі да Алёнкі. Здаецца, крычалі: «Чаго ляжыш, чаго ляжыш?» «От дурненькія,— усміхалася Алёнка,— нічога не разумеюць, не ведаюць».

Алёнка ляжала і думала пра сённяшні дзень. Вось прыйдзе доктар, яна папросіцца, і ён дазволіць ёй выбегчы на сонейка. А сонейка паднялося ўжо і глянула ў аконца да Алёнкі. Спачатку нясмела зазірнула ў куток, потым стала паціхеньку падкрадацца да алёнчынага ложка. Вось яго прамені на шклянцы з вадою адбіліся радугай і гуляюць на падлозе. «Авой, як жа прыгожа!» Вецер калыша галінкі, яны гойдаюцца, дрыжаць. Таму і прамені гойдаюцца, мігцяць, і вясёлка мігціць на падлозе. Алёнка баіцца зварухнуцца. Рука самлела пад галавой. Ды Алёнка баіцца яе дастаць, каб не спалохаць сонцавы чары.

І здаецца ёй, што яна прыйшла ў казку. Адна-адна. Далёка недзе ў цёмным лесе заходзіць у хатку. А там жыве бабуля. Бабуля старэнькая, сівенькая. Алёнка бабулі да спадобы. Хоча, каб Алёнка назаўсёды засталася з ёю. Вось і пасылае ёй сонцавы вясёлкі, каб не было сумна. Сонейка зусім асмялела. Цалуе алёнчыны рукі, стала цёпла бародцы. Во праменьчыкі ўжо і да вачэй дабраліся. Алёнка ціхенька адкрывае вочы, а сонейка — зірк, зірк, не дае ёй вочы расплюшчыць. «Не дам, не дам»,— дражніцца сонейка. Алёнка працягвае руку, хоча ўзяць сонечны прамень, а ён — скок, скок — і наўцёкі. Песціць, лашчыць сваёй вясёлай цеплынёю, а ў рукі не даецца. І так адзін, і так другі. Без канца, без канца. Ужо ўвесь пакой напоўніўся сонцам. У вачах, на шчоках, у вушах, на руках — усюды сонейка. Бяры яго, колькі пажадаеш. Алёнка рукамі горне сонейка да сябе, пад кашулю, завіхаецца, смяецца.

Доктар адчыніў дзверы, прыпыніўся, задаволена глядзіць на гульню Алёнкі.

— Вось якая ты малайчына! — сказаў, гартаючы сваю доктарскую кнігу.— За гэта цябе ўзнагародзім.— Падышоў да Алёнкі, сеў побач, паглядзеў яе жывоцік,— ці добра зраслося там, дзе рэзалі, і сказаў: — Ну, Алёнка, можам лічыць сябе здаровымі. Уставай, хадзі, лётай. Як гэта цябе дзядуля заве — зязюлька?

— Угу! — шчаслівая, адказала Алёнка.— Дзядзечка доктар, а мне і пад ліпы можна выйсці, на сонейка?

— Можна, Алёнка, можна. Толькі будзь разумніцай. Нічога не падымай... Глядзі, каб не ўдарыць ранку сваю... Будзеш асцярожнай?..

— Буду, буду! Дзядзечка доктар, я вас буду слухацца!..— гаварыла Алёнка, скідаючы з сябе коўдру. І раптам, асмялеўшы, спытала: — Дзядзечка, любенькі, а мо і дахаты мне можна?..

— Дахаты пакуль што не, Алёнка. Пабудзеш трошкі ў нас. Хіба ж у нас табе кепска?

— Добра...— адказала Алёнка, уздыхнуўшы. Але тут жа зноў яе твар стаў усмешлівым, светлым. Яна апусціла ногі ў тэпцікі, што ўжо чакалі яе каля ложка. Узнялася, скок-скок ад ложка.

— Ой! Дзядзечка доктар, трошкі забалела тут...— паказвае на жывоцік.

— Нічога, Алёнка, не бойся,— адказаў доктар.— Гэта, дзе ў цябе ранка была, там крышку пабаліць. Але ты хадзі, не зважай.

І Алёнка ўсміхнулася, пабегла.

Дзед Рэпка і бабка Маланка ў той ранак прыехалі трохі пазней. З машынай здарэнне ў дарозе было. Таму ў палаце яны ўжо не знайшлі Алёнкі. І колькі ж было ім радасці, калі ўбачылі сваю ўнучку пад ліпамі, на сонейку, вясёлую, такую дарагую.

Так было чатыры дні таму назад. А сёння дзед Рэпка прыехаў забіраць Алёнку.

Алёнка якраз рабіла з доктарам абход. Яна наогул была цяпер у бальніцы як свая. Яе звонкі галасок чуўся то там, то тут. Алёнку ўсе палюбілі, кожны стараўся чым-небудзь забавіць дзяўчынку. Дзядуля разводзіў рукамі: дзе падзелася ўнучка? — калі раптам Алёнка з'явілася на калідоры з доктарам. Яна важна несла доктараву кнігу. Відаць было, што ёй дужа падабаецца лічыць сябе доктаравай памочніцай.

Але, убачыўшы дзядулю, Алёнка забыла на ўсё, кінулася да яго. Хоць і многа было цікавага ў бальніцы, ды ўсё ж так хацелася хутчэй дахаты!

— Дзядулечка, міленькі! Вы па мяне прыехалі? А дзе бабулька? Яна каля коніка?

Алёнка яшчэ не ведала, што яе сёння выпісваюць з бальніцы. Гэта яна папрасілася проста так, як заўсёды. Але што стала з ёю, калі ўбачыла, што так і ёсць — сёння яе забіраюць дадому! Як птушка, якую выпусцілі на волю, яна не ведала, што ёй зрабіць. Кідалася то да дзядулі, то да доктара. Шчабятала, шчабятала...

Дзядуля з доктарам, усхваляваныя, стаялі, як два браты, радасна пазіралі на Алёнку, усміхаліся. Потым дзядуля сказаў:

— Бабулі сёння, унучачка, няма са мною. Яна сустракаць нас будзе. А паедзем мы, зязюлька мая, па Сажу, на белым коніку. З грыўкай пеністай. Што, як віхор, імчыцца. Помніш, не раз ты прасілася...

Алёнка запляскала ў ладкі:

— На ракеце, на ракеце паедзем! Дзядуля родненькі! Які ты добры!.. Дзядзечка доктар, а вы плавалі на ракеце? Бачылі наш Сож?

— Бачыў, Алёнка, бачыў...— смяецца доктар.— Ну, прыедзеш дадому, кланяйся бабцы. Ты ж любіш бабку? Малайчына. А пойдзеш у школу, пісаць навучышся, прышлі мне пісьмо. Згода?

— Згода, дзядзечка. Я вас не забуду! Напішу пісьмо!
— Ну, расці, зязюлька! — Доктар пагладзіў яе па галаве, узяў сваю кнігу. Нешта пагаварыў з дзедам, а потым яны моцна паціснулі адзін аднаму рукі, і доктар пакрочыў далей.

Алёнка з дзедам, не марудзячы, пайшлі пераапранацца. Пакуль Алёнка хварэла, тата прыслаў ёй падарунак. Дзед Рэпка развязаў пакунак, дастаў сінюю спаднічку ў мноства складачак і белую, як у маракоў, кофтачку. Сіні каўнерык з белымі пасачкамі, сапраўдны вышыты якар. Эх, каб не ў бальніцы! Алёнка не адзін раз падышла б да люстэрка. Вельмі ўжо да спадобы ёй гэты ўбор. Цётка-сястра аж у ладкі пляснула. Што гэта за дзяўчынка! Матрос дый годзе! Нездарма на Сажы вырасла.

Алёнка апранулася, пабегла па калідоры. Усім махае рукой, развітваецца. І дзядуля, ідучы за ёю, каго ні стрэне,— кланяецца, дзякуе, што ўнучку выхадзілі, дагледзелі.

— Расці здаровенькая, русавачка! Будзь шчаслівай, малышка!..— чулася ўслед Алёнцы.

Калі дзед Рэпка з унучкаю прыйшлі да прыстані, ракета прымала ўжо сваіх пасажыраў. Некалькі цётак з хлапчукамі, дзядзька з партфелем, стары вайсковец прайшлі па сходнях. Алёнка, моцна трымаючыся за дзеда, таксама ступіла на дошкі. Яны хістаюцца, ёй на міг стала страшнавата. Упершыню ж усё гэта. Дзед Рэпка падбадзёрваў:

— Давай, марак, давай! Глядзі ўперад, толькі ўперад!

Вось і палуба. Пачуўшы цвёрдую апору, Алёнка сказала:

— Дзядулечка, а я зусім і не спалохалася. Нават вот ні столечкі!

Паднялі сходні. Капітан падаў каманду. Матрос шастом адпіхнуўся далей ад берагу.

— Поўны наперад!

І раптам ракета здрыганулася, кінула гулкае рэха між двума берагамі. Трошкі стрымалася, як быццам пра нешта падумала, і з магутнай сілай рванулася наперад. Вада за ёю ўспенілася, двума бурлівымі слупамі ўзвіхрылася ўгору. Здавалася, вось-вось адарвецца ракета ад вады, узнімецца, паляціць над рэчкаю, над лугамі.

Алёнка з захапленнем глядзела то ўперад — як імкліва пабеглі насустрач кусты, маякі, павароты, то назад — як коціцца на пясчаныя плёсы ўсхваляваная вада. Гусі з гогатам кінуліся на бераг. Паляцелі да крайніх хат. Лодкі гойдаюцца на хвалях. На беразе поўна дзяцей. Смялейшыя з іх паскідалі вопратку, спяшаюць насустрач хвалям, бліжэй да ракеты. Напэўна, не адзін з іх уявіў сябе маракам, а шыр Сажа — бурлівым морам. А вунь дзяўчынкі стаяць па калені ў вадзе, трымаючы суквначкі. Махаюць рукамі. Алёнка думае, што гэта ёй. І яна дастала з кішэні хустачку, махае дзяўчынкам: бывайце, бывайце, любыя!

Мінулі мястэчка. Алёнка просіцца: «Дзядулечка, адпусці мяне пабегаць па ракеце». А дзядуля баіцца. Адпусці зязюльку адну, а яна ж такая скакуха. А ракета ляціць, як вецер, ды вада глыбокая і страшная ўнізе. Дзе тут адпусціш. Алёнцы ж не сядзіцца, усё яе вабіць. От каб апынуцца побач з капітанам. Хоць пастаяць там, дзе ён кіруе ракетай. «Дзядзечка капітан, паглядзі на мяне,— просіць у думках Алёнка.— Мне так хочацца пабыць капітанам. Паглядзі на мяне, дзядзечка!»

Алёнка ўтаропілася ў капітана, просіць пачуць яе жаданне. І вось дзіва! Капітан адгадаў алёнчыны думкі. А мо ўспомніў, як сам, калі быў такім вось малым, сніў сябе за карабельным штурвалам. На першы погляд капітан быў сярдзіты дзядзька. Чорныя яго бровы



зрасліся на пераноссі. Загарэлы, абветраны твар. Але ўсміхнуўся дзядзька — і стаў такі добры, прыветлівы. Ніколечкі яго не боязна. Ён узяў Алёнцы пад казырок.

— Ну, хадзі сюды, матрос! — пачула ад яго Алёнка.

— Вы гэта мне, дзядзечка?

— Ды каму ж яшчэ? Табе, табе, дзяўчынка! У такой прыгожай матроскай кофтачцы!

Алёнка глядзіць на дзядулю: праўду сказаў дзядзька-капітан ці жартуе? Дзядуля лагодна ўсміхаецца. Быццам кажа: ідзі, ідзі. Алёнка шчаслівая, зірнула ў вочы капітану: «Дзе мне стаць, дзядзечка?» Капітан нешта крыкнуў памочніку, а тады ўзяў Алёнку за плечы, паставіў спераду сябе.

— Як жа цябе завуць, матрос?

— Алёнка.

— Алёнка... Ох і Алёнка... Ну што ж, Алёнка, будзеш маёй памочніцай. Пакіруеш ракетай?

Алёнка збянтэжана азірнулася: ці праўду яна чуе?

— Так, так,— працягваў капітан.— А ну, даць сігнал! Пацягні за гэту ручку, Алёнка.

Алёнка пацягнула за бліскучую ручку. Ракета прарэзліва кінула працяжнае завыванне. Уцякайце лодкі, паромы, гусі! — быццам крычала яна. І далёка пайшло рэха — можа і бабуля пачуе ў вёсцы?

— А цяпер — кіруй, кіруй, Алёнка, хай ляціць стралою ракета! Поўны наперад! — скамандаваў капітан.

— Ёсць поўны наперад! — весела і задзірыста адказала Алёнка. Яна ўспомніла, што хлапчукі, гуляючы ў матросаў, так адказвалі сваім капітанам.

Капітан ракеты пахваліў:

— Ды ты ж малайчына, Алёнка! Мусіць, даўно ўжо матросам? А? Пара табе стаць капітанам! — Ён надзеў на галаву дзяўчынцы сваю капітанскую шапку. Алёнка ад радасці не ведала, што ёй рабіць. Як ёй зараз хацелася быць ля сваё вёскі! Каб усе, усе яе ўбачылі — і сяброўкі, і гэтыя задавакі хлапчукі. Хай бы пабачылі, як яна ў капітанскай шапцы трымае сапраўдны штурвал імклівай ракеты. Рука Алёнкі зноў пацягнулася да сігналу. Ёй так хацелася, каб зямля навакольная чула яе прывітанні. А навокал ракеты было так многа роднага, цікавага.

Правы бераг Сажа круты. Цягнецца паўз ваду белая гара з крэйды. Часам лес махае зялёнымі хваёвымі шапкамі. Часам зараслі арэшніку бягуць на ўзвышша. А вось дуб. Адзін на высокім кургане стаіць, думу думае.

Левы бераг роўны. Луг — як вокам акінуць. Бягуць, бягуць высокія рыжыя стагі сена. Ля берагу шуміць высокі чарот. З карычневымі мяцёлкамі, вузкім зялёным лісцем. Калі падзьме вецер, ён нібы шэпча: «Добры дзень, добры дзень, добры дзень». Белыя буслы задуменна чапаюць па сенажаці. Як іх тут многа! «Мо і нашы сюды заляцелі? — думае Алёнка.— Мусіць, у вырай сабраліся».

Тут Сож рабіў круты паварот, і капітан сказаў:

— Пакіравала, Алёнка? Вось і малайчына. А зараз глядзі. Бачыш хаты справа? Гэта і ёсць твая вёска.

Алёнка зірнула: авоечкі!

— Дзядулька! Глянь, любы! Наша хата на гары стаіць! Дзядулечка, хутчэй глянь!

Сож выпрастаўся ў роўную паласу. Вось і паром. Плясь! Ба-бох! Чыіх! — чутна, як паляцеў канат ад парома ў ваду. Ракета праляцела

над канатам, і паром застаўся ззаду. А вунь і луг, дзе касілі сена. А вось гара. Хата. Садочак. Алёнка кінулася да дзеда. Потым зноў да капітана. «Дзякуй, дзякуй вам, дзядзечка, даражэнькі!» — гаварылі яе вочы. А сэрца рвалася на бераг. Як хутка дамчала іх ракета дадому! Як радасна свеціць сонейка! А вось і Сіняя бухта — здаецца, яна міргае Алёнцы сотнямі белых і жоўтых вочак. А вунь і прыстань. Колькі шчасця на свеце для маленькага сэрца!

Ракета кінула гучны сігнал, загрымела яе машына. Падвярнула ракета да берагу, прыстае. А вунь ужо бабуля бяжыць да прыстані. Бяжыць, войкае. Родная бабулечка! А за бабуляй — сяброўкі, Любашка, Святланка, Полька. І Васілька маленькі. Узіраюцца ў Алёнку, быццам яшчэ не вераць, што яна вярнулася. Мілыя, якія яны ўсе мілыя!

Алёнка ледзь дачакалася, пакуль паклалі сходцы. І, цягнучы за сабою дзядулю, збегла на бераг.

# ВЕЧАРОВЫЯ ЎЦЕХІ

Бабка Маланка кінулася да ўнучкі.

— А мая ж ты крывіначка. Прыехала. Дзякуй добрым людзям. Здаровенькая. А падрасла ж як. А якая ж слаўная! — Бабуля абнімала ўнучку, лашчыла, песціла яе. Алёнка таксама ссумавалася па бабулі. Яе рукі горача сціскалі бабуліну шыю. Але ёй не цярпелася хутчэй расказаць бабулі і сяброўкам пра ўсё.

— Бабуля! Бабулечка! — шчабятала яна, калі бабка, змахнуўшы яшчэ адну слязіну, павяла яе за руку.— А што ў мяне было! Спытай у дзядулі. Я капітанам была. Любашка, Святланка, чуеце? Дзядуля, скажы ім! Добра я вяла ракету? Скажы, дзядулька!

Дзед Рэпка толькі што распаліў сваю піпку. «Ах ты ж, каб на цябе агонь!» — сказаў ён пра піпку. Піпка яго тухла. А гэта гаварыла пра тое, што дзедка хвалюецца. І як жа было яму не хвалявацца. Зноў яны дома ўсе трое. Алёнка паправілася, такая ж вясёлая, як і была. А хутка прыедзе і Павел. Ён заўсёды прыязджае такой парою. Дзіўна толькі, што няма тэлеграмы. Ну, ды яшчэ будзе. Дзень на дзень не прыходзіцца.

— Дзядулечка, ці ты чуеш? — пытала Алёнка.— Любенькі, скажы бабулі, як я вяла ракету.

— Ох і праўда ж, унучачка! — нібы ачнуўшыся, загаварыў дзед Рэпка.— Каб ты пабачыла, бабуля, якая была наша зязюлька! Сама сігналіла і рулявала сама. От чаму мы так хутка даехалі!..

Алёнка слухае дзядулевы словы і ўся цвіце. Потым яна сама расскажа ўсім, як ехала на ракеце. Не прапусціць нічога. А зараз забягае наперад, зазірае ў твар бабулі. Ці задаволена яна? А бабуля — дзіва што задаволеная! — глядзіць на ўнучку, як на сонца, што зноў узышло перад ёю.

Так дайшлі да Жураўкавага рова.

— Алёнка, чакай нас, мы хутка зойдзем... Добра? — як дарослая, зусім сур'ёзна спытала Святланка. Разам са Святланкай спыніліся Любашка і Полька. Ім вельмі хацелася зараз жа пагуляць з Алёнкай. Яны па ёй так ссумаваліся. Ды яны саромеліся цяпер заходзіць у хату. Алёнка ж пасля бальніцы. Няхай адпачне.

— Хадземце зараз! — папрасіла Алёнка.



— Н-не! — адказалі дзяўчынкі.— Мы хутка. Толькі збегаем дахаты і прыйдзем...

— Што ж, яны прыйдуць, унучачка, хадзем,— сказала бабуля.

Алёнка з дзедам і бабкай падняліся на гару. Родная хата. Агарод, кветкі, садок. Бэры і шафраны. Мурашыны домік. Кураняты, коцік. Усё, усё на месцы. Усё так радасна сустракае Алёнку. А радыё. А начное сонейка. Пстрык, пстрык. Гаворыць радыё. Гарыць сонейка. Алёнка, і заклапочаная і шчаслівая, не можа прысесці ні на хвіліну. Столькі мінула дзён. Трэба прывітаць кожны куточак, да ўсяго дайсці.

— Сядзь, паеш, унучачка,— просіць бабуля.— Мусіць, згаладалася. Вунь дзе ўжо сонейка.

— А мой арэшак! — раптам спалохана ўсклікае Алёнка.— Як жа мой арэшак?

— Цэлы, цэлы твой арэшак! — супакойваюць дзед і бабка. Толькі Алёнка ўжо іх не чуе. Як гэта яна забылася пра арэшак? Бяжыць на агародчык. Дзе ты, мурзаценькі? Алёнка схіляецца, шукае знізу. А, вось дзе ты! Падбіўся пад ліст і маўчыш? Алёнка з усіх бакоў аглядае свой арэшак. Які ён стаў круглатвары ды важны! І такі загарэлы. Мусіць, зусім-зусім даспявае.

— Дзядуля! — гукае Алёнка.— А ён павісіць, пакуль татка прыедзе? Не скінецца?

— Павісіць, унучачка, цэлы будзе. Ён жа адзін у арэшыны. Арэшына яго любіць моцна-моцна. І трымаць будзе доўга... Хай вісіць. А ты хадзі сюды, зязюлька. Памажы мне.

Дзед Рэпка, пакуль Алёнка была ў бальніцы, нарыхтаваў сасновых карынак, шышачак, жалудоў, усякіх лясных карэнняў і сучкоў. Каб пацешыць унучку пасля хваробы. Любіць ён майстраваць Алёнцы розныя цацкі, забаўкі. То зверанят наробіць, то птушак. Вось і сёння надумаўся.

Алёнка з радасцю бярэ ў прыпол дзедавы прыпасы. Бяжыць у хату.

— Хоць бы адпачыць даў дзіцяці,— нібыта з дакорам гаворыць бабуля.

А дзед Рэпка толькі пыхкае піпкай. Ён ведае, чым узвесяліць унучку. І што бабка злуецца толькі так, для выгляду. Ёй і самой цікава. І сама часам памагае дзеду і ўнучцы майстраваць усякую ўсячыну. А тым болей сёння. Сёння ж у хаце вялікае свята. Вярнулася дамоў Алёнка.

— Глядзі, унучачка,— кажа дзед Рэпка, калі Алёнка ўстала з-за стала. Бабка дамаглася-такі, каб яна паабедала.— Вось гэта будзе баранчык. Бачыш, якія ў яго рожкі? А гэта вось з маленькімі галоўкамі — авечкі.

Алёнка села побач з дзедам, пачала яму памагаць.

— А ну ж, падай мне, ляночак, вунь тую чараціну. От так. З гэтага мы зробім ножкі. А вось гэта будзе хвост. Ну, от і гатова. Стаў яе ў той статак.

Алёнка ставіць цацку на падлогу. У яе напраўду набіраецца цэлы гурт авечак. А дзядуля майструе далей. Чаго не напрыдумляў сваёй унучцы. Тут і буслы з жалудоў, і жораў вунь стаіць, выцягнуўшы шыю. Сарока раскінула крылы, нібы хоча зараз жа ўзняцца. А вунь тая птаха — гэта, дзядуля кажа, жар-птушка. Доўга Алёнка з дзядулем над ёю мудравалі. Спачатку дзед вытачыў маленькі круглячок, падобны на яечка. Тады, нагрэўшы на камінку да чырвані дроцік, прасмаліў яму бакі. Яны адразу сталі нагадваць рабенькае пер'е. Потым дзядуля таўсцейшым дроцікам навылет праткнуў дзірачкі па

баках. І з чырвонай паперы, згарнуўшы яе гармонікам, уставіў у гэтыя дзірачкі крылле. Пасля пачаў рабіць хвост. Спачатку таксама з паперы. А тады, падумаўшы, што гусінае расфарбаванае пер'е куды будзе лепей, кажа да Алёнкі:

— Не, зязюлька. Гэта не сапраўдная птушка. Не тое, што трэба. Пачакай, мы з табой зробім не так...

— Ды не ж, дзядулечка! Добрая птушка! — горача пярэчыць Алёнка, беручы цацку ў рукі. Ёй падабаецца яе чырвонае крылле. Папера тонкая. Яна сама шавеліцца, і тады Алёнцы здаецца, што цацка жывая. Вось-вось падымецца і паляціць. Як агеньчыкі, узвіваюцца яе крылы.

Дзед бачыць, што цацка Алёнцы да спадобы. Ну, што ж. Вырашыў закончыць яе так. Зрабіў хвост папяровы. Ды тут не паскупіўся. Адкрыў свой куфэрак. Дастаў рознакалёрай паперы. Паперу гэтую дзед купіў даўно. Для нечага хаваў. А зараз, успомніўшы, што можа яшчэ больш парадаваць унучку, дастаў яе ўсю. Нарэзаў стружак — зялёных, чырвоных, сініх, малінавых, жоўтых. І зрабіў такі хвост, што напраўду стала ўсё палаць жарам. Потым прапаліў яшчэ адну дзірачку і загнаў туды шпянёк. На шпянёк надзеў галоўку з дзюбкай і грабеньчыкам. Цяпер перад Алёнкай у пышнай сваёй красе стаяла сапраўдная жар-птушка. Чаму жар-птушка? Дзед і сам не ведаў. Мо таму, што ён ніколі яе не бачыў? Чуў з казак — ёсць такая птушка. У яго ўяўленні яна і жыла такой: вогненна-стракатай.

Алёнка так была ўдзячна дзядулі за гэтую цацку, што аж некалькі разоў, абняўшы за шыю, пацалавала яго ў сівую бараду.

— Ну, хопіць, мая ты зязюлька, хопіць, а то дзядулю задушыш,— жартаваў дзед Рэпка.— Ой, не трэба так моцна. Ой, баліць у дзеда шыя... вой... вой... адпусці, унучачка, дзеда...

Алёнка залiваецца смехам і яшчэ мацней сціскае дзеда. Ёй здаецца, што яна такая дужая. І так хочацца ёй паказаць дзеду, як яна яго любіць.

Дзядуля стаміўся. Яму б зараз адпачыць трохі. Ды дзе ты адпачнеш. Парасстаўляла Алёнка свае цацкі. І просіць дзеда:

— Казачку... Раскажы казачку, дзядуля любенькі...

І хіба ж ёй адмовіш? Яе жаданні — дзеду як лякарствы. Як была Алёнка ў бальніцы, колькі разоў казаў сам сабе дзед Рэпка: «Што ні пажадае ўнучка, усё зраблю. Толькі няхай хутчэй папpавіцца. Няхай вяртаецца ў хату, дзе без яе ўсё быццам апусцела».

Дзядуля сеў на тапчан, пасадзіў побач унучку. Распаліў піпку:

— Ну ж, слухай, зязюлька.

Бабка Маланка пачула пра казку, таксама падышла. Яна і сама шмат ведае казак. Але і паслухаць любіць. Нават калі і не новыя.

Дзед Рэпка зацягнуўся піпкай, кашлянуў.

— Дык вось... Было гэта, зязюлька, вельмі даўно. Калісьці мне гэтую казку расказваў мой дзед. А майму дзеду — ягоны. Многа часу прайшло, а праўда гэта ці не, не ведаю. Толькі думаю, што праўда. Бо навошта б людзі ў памяці трымалі? Памятаеш, унучачка, тыя кветкі, што растуць на балонні паўз бераг рэчкі? Блакітныя, з маленькім жоўценькім вочкам?

— Незабудкі, дзядулька! Пра іх ты кажаш?

— Пра іх, пра іх. Дык ведаеш, адкуль узяліся гэтыя дробненькія кветачкі? І чаму яны растуць толькі ля вады?

— Не, дзядуля. Родненькі, ды кінь жа ты сваю піпку! — просіць Алёнка, бо дзедка часта вельмі кашляе.— Раскажы, дзеду! — Алёнка падсоўваецца бліжэй.



— Ну, дык слухай.

— Жылі-былі бацька з маці. Збудавалі сабе хатку паміж дубоў ля ракі быстрацечнай. І была ў іх дачушка, такая прыгожая ды такая ўдалая. Жылі яны добра. Бацькі працавалі, а дзяўчынка ім памагала. Часта бегала ў поле, пляла вяночкі ды на ваду пускала. Добрае сэрца было ў дзяўчынкі. Ніколі не праходзіла яна міма бедных, загнаных, міма сіротак. Усім дарыла, што мела. І палюбілі дзяўчынку і старыя і малыя.

Але нядоўга прыйшлося радавацца дзяўчынцы. Напала гора на іх хату. Памерла мама ў дзяўчынкі, і засталася яна сіpацінаю з татам. Тата сумуе, гаруе, шкода яму дачушкі, не ведае, як яе дагледзець, каб самоты не ведала.

Доўга журылася дзяўчынка. Але мінуў час, загаіўся трохі боль, і стала яна зноў адной толькі радасцю для таты. І, мусіць, жылі б яны шчаслівейшымі за ўсіх людзей на свеце, каб не прыйшло яшчэ страшнейшае гора.

Напаў на край люты чужынец-вораг, усё спаліў, разбурыў перад сабою, і так дайшоў і да той вёскі. Убачыў гэта тата і кажа: «Дачушка мая любая, прыйшла пара нам расстацца. Заставайся, сцеражы хату, чакай мяне, а я пайду біцца з ворагам. Ведаю я адну тайну, вялікая схавана ў мяне сіла, і трэба мне аддаць яе свайму краю. Бо інačай не будзе нам з табою ніякага шчасця».

Плакала, галасіла дачушка, не хацела пускаць тату, чула яе сэрца яшчэ вялікшае гора. Але што ж ты зробіш. Пайшоў тата. Засталася адна сірацінка, сядзіць, плача, убіваецца. «Сонейка любае,— прасіла яна,— зрабіла б ты мяне сваім праменьчыкам, каб я дагнала свайго татку і грэла б яго і песціла і ніколі б з ім не разлучалася. Вецер ласкавы, занясі хоць голас да таткі роднага, хай пачуе, як мне горка, хай вернецца, забярэ мяне з сабою...»

Плакала так, скардзілася сірацінка і не пачула, як абкружылі яе чужынцы лютыя, ворагі ненавісныя.

— Дзе тата твой,— закрычалі,— куды ён пайшоў, скажы нам, дзяўчынка, скажы, бо не будзеш мець ад нас літасці ні зараз, ні ніколі? Нічога, нічога не будзеш мець на свеце, калі не скажаш, дзе твой тата!

— Я не ведаю, дзе мой тата. Я не бачыла, куды ён пайшоў. А толькі ведаю, што загінеце вы ўсе, загінеце ў нашым краі. Бо не пакіне мяне тата, не дасць у крыўду!

— Ах, ты не бачыла? — закрычалі ворагі.

— Не бачыла! Не бачыла!

— І не ўбачыш! — закрычалі ворагі і выкалалі дзяўчынцы адно вока.

— Не бачыла? — зноў запыталі.

— Не бачыла! Не бачыла!

— І не ўбачыш ніколі! — закрычалі каты і выкалалі сіраціне другое вока.

Закалацілася дзяўчынка ад нямога жалю, а ворагі схапілі яе пад рукі і вывелі з хаты, і прыцягнулі на бераг рэчкі.

— Вунь там твой тата, ідзі, ты яго ўбачыш,— зараготалі яны, аж рэха пайшло навокал, і кінулі сірацінку да вады, а самі зніклі.

Яшчэ доўга чула сірацінка страшны смех. А калі ўсё сціхла, тады яна паднялася і пайшла па беразе. Болю яна не адчувала, а толькі слёзы з крывёю падалі на зямлю з яе выкалатых вачэй. І там, дзе яны падалі, выраслі чыстыя блакітныя кветкі. Уся зямля зжалілася над беднай дзяўчынкай. Там, дзе яна ішла, расступаліся кусты і пра-

пускалі яе па нябачнай сцежцы. Хвалі рачныя казалі ёй, дзеісці, каб не ўваліцца ў ваду. Калі яна, змораная, прысядала адпачыць, тут жа вырастаў мяккі пушысты мурог. Ветрык ласкава выціраў з яе твару кроў і слёзы.

Доўга ішла дзяўчынка, ішла дзень, і ішла ноч, і яшчэ дзень, і яшчэ ноч — і не памятае, колькі ішла. І ўсюды ўслед за ёю выраслі чароўныя кветкі. Іх людзі і завуць незабудкамі.

Ішла дзяўчынка, ішла, ды і ўпала ад стомы, упала і заснула. Не чула яна, як грымела навокал бітва, як пабілі ўсіх чужынцаў-ворагаў і як схіліўся над ёю слаўны воін, юнак-асілак.

Глядзіць асілак на дзяўчынку, а яна такая прыгожая — вачэй нельга адвесці. А толькі што стала з дзяўчынкай, хто ёй выкалаў вочы, хто паздзекаваўся з яе прыгажосці? У страшэнным гневе падняў юнак зброю: хай дрыжыць той, хто прынёс дзяўчынцы гора!

«Загубілі дзяўчынку злыя ворагі, памучылі каты лютыя»,— расказаў юнаку вецер. «Але тыя ворагі ляжаць на полі пабітыя, табой пабітыя,— сказала воіну сонца.— Цяпер не патрэбна твая зброя, юнача. А ты ідзі па гэтых сініх кветках і знайдзі крыніцу з жывой вадою. Прынясі гаючай вады, пакрапі дзяўчынку. І тады зноў яна стане бачыць, і зноў будзе шчаслівая».

Пайшоў салдат па сініх кветках, доўга ішоў паўз самую рэчку. Аж бачыць: б'е з-пад дуба на ўзваллі крынічка. Вада такая празрыстая, чыстая, аж уся зямля ў ёй свеціцца. І такая ў ёй моц чуецца, аж у юнака сіл прыбыло. «Мусіць, гэта і ёсць гаючая крыніца»,— падумаў воін. Набраў вады ў каску і пайшоў назад. Акрапіў дзяўчынку вадою. І дзіва. Зноў адкрыліся яе вочы. Як бы нічога і не было. Бачыць дзяўчынка сонца і травы, раку і лугі, лес, неба, воіна над сабою і паверыць не можа. І яшчэ дзіва. Забылася дзяўчынка, якое было з ёю гора. Як ні б'ецца ўспомніць—не можа. Тады яна і пытае ў юнака:

— Дзе я? І што са мною? Чаму я не дома? Скажы мне, добры чалавек, чаму я тут?

— А ты хіба не помніш, што было з табою? — пытае салдат.

— Не помню. Нічога не помню.

Пачула гэту размову сонца і спусцілася ніжэй. Падышло блізка і кажа:

— Ты ўсё ўспомніш, дзяўчынка, усё ўспомніш. Толькі паглядзі на гэтыя блакітныя кветкі.

Паглядзела дзяўчынка на кветкі і ўспомніла, як падалі яе крывавыя слёзы на бераг, як бегла яна, сама не ведае, куды.

— А ты помніш, куды вядуць гэтыя кветкі? — пытае сонца.

— Помню! Помню! —адказала дзяўчынка.

— А помніш, хто цябе там чакае? Ён ужо вярнуўся з бітвы, ён ужо дома.

— Помню! Помню! — адказала дзяўчынка. І кінулася па сініх сваіх слядах дадому...

— Тук-тук-тук! — чуецца ў гэты момант за акном. Нехта пастукаў у брамку.

Пакуль дзед і бабка падняліся, Алёнка выскачыла на двор. А праз хвілінку адтуль пачуўся яе звонкі шчаслівы голас:

— Тэлеграма! Дзядулечка! Бабка! Ад таткі тэлеграма! Тэлеграма ад таткі!

Дзед Рэпка даўно чакаў гэтай радасці. А сёння — як быццам прыгаварыў сваёй казкай. Хуценька выцяг са скрыначкі старыя, звязаныя ніткаю акуляры. Услед за бабкай Маланкай выбег насустрач унучцы. Рукі ў яго дрыжалі, калі ён, настроіўшы акуляры, паднёс да



вачэй тэлеграму. «Дарагія. Чакайце. Буду праз тры дні» — было ў тэлеграме. Калі дзед Рэпка прачытаў тэлеграму, Алёнка кінулася абдымаць дзеда і бабку, скакала ад захаплення. Бабка Маланка гладзіла ўнучку па галоўцы і выцірала шчаслівыя слёзы. А дзед Рэпка, хоць быў дужа рады, пачуў у сэрцы і пякучы сум. Як будзе з Алёнкай? — вось што яго хвалявала. А што, калі надумае бацька забраць яе? Ёй ужо праз якіх дзесяць дзянёчкаў у школу трэба. Алёнка адна ў іх радасць і ўцеха. Дзед Рэпка глядзеў то ў тэлеграму, то на ўнучку. Ці давядзецца рабіць з ёю новую жар-птушку? Ці будзе яе дарагі галасочак радаваць дзедку з бабуляю ў дні іх ціхай старасці?

## РЭПКАВА СВЯТА

„Буду праз тры дні...» Алёнка раз-пораз брала тэлеграму і падлічала з дзядулем: калі ж гэта праз тры дні? Выходзіла — у нядзелю. Бабка Маланка войкала:

— Авоечкі! І заўсёды ж так... Хоць бы разочак напісаў пэўна. А то — гадай, калі ён прыедзе...

І Алёнка, і дзед Рэпка ведалі: бабуля бурчыць проста так, ад прыемнасці. Але дзед Рэпка, усміхаючыся ў вусы, усё ж абараняў алёнчынага тату:

— І нічога не трэба гадаць. Эх ты ж, бабка... Тэлеграма адбіта ўчора? Учора. Вось і лічы — у нядзелю будзе наш госць. Бо то ж чалавек вайсковы. Не тое, што мы...

Бабуля, хоць як быццам і злавалася часам, але ўсе гэтыя дні хадзіла светлая, памаладзелая. Яна вырашыла прыезд сына адзначыць па-святочнаму. Павымывалі з Алёнкай і так жоўценькія падлогі ў хаце. На вокнах фіранкі памянялі. Потым пазасцілалі чыстыя абрусы, ручнікі дасталі са скрыні, паразвесілі на сценкі. А ў суботу паставіла бабуля цеста на пірагі. Алёнка прынесла з саду чырванабокіх яблык, сок з іх аж пырскае, дзядуля ёйназнімаў з самых высокіх галін. Алёнка чысціла іх і наразала для пірагоў тоненькімі скрылёчкамі, перасыпала цукрам. Потым бабуля дала ёй узбіваць яйкі. Алёнка любіць узбітыя з цукрам жаўточкі. Яна і зараз паб'е-паб'е — і ў рот лыжачку. Яечка з цукрам засыхае і паблісквае на губах.

Дзед Рэпка з'ездзіў у Сінюю бухту, наладзіў там свае лазовыя нераты. І сёння ўранку прывёз адтуль цэлы кошык добрай рыбы. Асабліва спадабаліся Алёнцы тры залацістыя ліні. Побач з акунямі і плоткамі яны выглядалі асілкамі, якія леглі трохі адпачыць. Алёнка пяшчотна гладзіла іх па галоўках. І нават бабуля, перш чым узяць ліня пад нож, пацмокала і сказала:

— От жа рыбіна дык рыбіна. І нашто лавіць такую. Шкада ў рукі брацць...

Дзед Рэпка ніяк не мог дадумацца, што яму рабіць: чакаць сына дома ці паехаць сустракаць у мястэчка? Назаўтра, у нядзелю, ён рашыў усё ж ехаць. Алёнка з ім таксама.

З самага рання дзед зрабіў усё па гаспадарцы. І збіраўся ісці запрагаць каня. Але тут на вуліцы пачуўся гул аўтамашыны. Алёнка якраз канчала вымятаць двор, калі машына спынілася каля іхняе хаты. Машына была сіняя, а па баках паясок у чорныя і белыя клетачкі. Алёнка такіх яшчэ не бачыла. Яна і не падумала, што гэта прыехаў яе татка. Бо ўсе чакалі, што ён прыедзе або па Сажы ракетаю або на дзедавай падводзе. Але сэрца ў яе трывожна ёкнула. Яна разгубілася, не ведала, што рабіць.

— Дзядулечка, машына! — крыкнула Алёнка ў расчыненае акно. У гэты момант дзед ужо выбягаў з хаты.

— Татка твой, зязюлька, татка! — сказаў ён, спяшаючы на вуліцу.

Алёнка ўсё зразумела. Яна з крыкам «Татка! татка!» кінулася да чалавека, які вылез з машыны.

Прыбегла і бабка Маланка.

— Авоечкі! А сыночак жа мой родненькі!..— войкала яна.— Прыехаў... Ды хто ж гэта думаў. Так рана...

Алёнка і не апамяталася, як апынулася ў таткі на руках. Адчуўшы бацькоўскую ласку, яна цалавала такога незнаёмага і дарагога ёй чалавека. Тулілася да яго, а ён, дужы, загарэлы, у вайсковай форме, трымаў дачку, як залатую пярыначку.

— Татка, татачка, вось які ты ў мяне,— шаптала Алёнка. А татка шчаслівы, як зусім маленечкую, пяшчотна калыхаў Алёнку, падкідаў высока над сабою, смяяўся на яе смех.

Не выпускаючы Алёнкі, ён абняўся і пацалаваўся з дзедам і бабкай. Шафёр дастаў з машыны чамаданы. Сеў за руль, каб ехаць. Але бабка Маланка не пусціла яго

— Не, не,— сказала яна,— у нас так нельга. Просім у хату, з намі нашу радасць падзяліць.

Пакуль госць умываўся ды аглядаў роднае гняздо, бабка Маланка пасклікала да сябе ўсіх сваякоў і суседзяў. Алёнка не адыходзіла ад таты. Дзед Рэпка глядзеў, як сын з унучкай, абняўшыся, кружаць па садзе, па агародчыку, прыслухоўваўся да іх слоў. I ціха сумаваў. «Забярэ, мусіць, Павел дачку,— думаў дзед.— Вунь як яна з ім. Забылася на нас». Алёнка ж так была рада: вось і яна можа пахадзіць, узяўшыся за таткаву руку! Яна ўсё расказвала яму пра свае прыгоды. Нічога не забылася: і як жыта жала, і як за Сож ездзіла. Расказала пра магілку ў соснах. Да мурашніка звадзіла. А найбольш — ракетай хвалілася.

— А я і капітанам была. Спытай у дзядулі. Ракету вяла сама.

— Так ужо і сама? — падахвочвае татка.

— Сама, сама! Капітан толькі побач стаяў. Але я сама трымала штурвал. Капітан адно памагаў. I шапку мне сваю адзеў. Спытай, спытай, татачка, у дзядулі. Дзядулечка, любенькі, скажы татку!

Дзядуля ўсміхаецца і ў знак згоды ківае галавою.

— Так, так. Малайчына, зязюлька...

Алёнка расказвае далей. Нарэшце яна падвяла татку да арэшыны, палезла зрываць арэшак. У дзядулі быццам чагось не стала, так зашчымела сэрца. Але ён думаў: «Малайчына зязюлька. Малайчына, што татку берагла арэшак».

Алёнка сарвала арэшак, прытулілася да таткі і, нешта яму сказаўшы, скіравалася да дзядулі:

— Дзядулечка, гэта табе. Табе, мой родненькі!..— Яна падбегла да дзеда, які прысеў быў на прызбе, і працягнула яму свой падарунак. Арэшак ляжаў на яе далоні, прамяністы, залацісты. Толькі там, дзе заставаўся кажушок, быў трохі цямнейшы.— Вазьмі,— просіць Алёнка.— Вазьмі, дзядулечка!..

Алёнка была такая шчаслівая, вочы яе іскрыліся, свяціліся радасцай смяшынкай. Яна шчыра паглядала то на дзядулю, то на татку.

Дзед Рэпка ўстаў, зусім разгублены, узяў арэшак. Ён думаў пра сваю ўнучку, пра сына, і ў яго было цёпла і трывожна на душы.



«Зязюлька, зязюлька...— думаў стары.— Што ж я стану рабіць, калі паедзеш з татам? Столькі радасці было з табою. А мо пашкадуеш дзеда і бабку? Папросіш татку, каб пакінуў з намі?»

Слязінкі няпрошанага смутку навярнуліся на вочы. Рэпка яшчэ мацней запыхкаў сваёй піпкай. Сын заўважыў разгубленасць бацькі. Падышоў, абняў яго, як у маленстве, пацалаваў моцна.

— Дзякуй табе, татка, за такую дачку,— сказаў ён.— Вялікае дзякуй!

Дзед Рэпка як бы апамятаўся, нахіліўся да ўнучкі, прыхінуў да сябе.

— Зязюлька мая,— ціха сказаў ён,— малайчына, парадавала старога дзеда. Ладны ўдаўся арэшак. А ну-тка хадзем у хату, бабуля кліча. Там і арэшак пакаштуем, каб усе смакату адчулі.

У хаце было ўжо досыць людна. Усе віталі алёнчынага тату. Пацiскалі руку, хвалілі за тое, што кожнае лета прыязджае ў родную вёску.

Госць усміхаўся.

— Дзіва што прыязджаю. Хіба гэта забудзеш? — Татка падхапіў Алёнку на рукі.— Вось ён, мой магніт! Скажы, магніт?..— Алёнка замест адказу звонка смяялася татку і цалавала ў калючыя шчокі.

Бабка Маланка з радасцю даставала на стол свае прыгатаванкі. I аладкі мачаныя, і рыбу, і пірагі, і малако са смятанай. Людзі частаваліся, але найбольш гаварылі. Пайшлі распытваць Паўла — як там у той далёкай Нямеччыне? Якія цяпер там людзі? Што думаюць пра нас? Ці добра адносяцца да савецкіх салдат?

Пра ўсё адказваў алёнчын тата. Алёнка сядзела з ім побач, адчувала сябе героем. Які ў яе татка! Усе ў яго пытаюць, ён усё ведае. Няма такога пытання, на якое б ён не адказаў. Ён жыве з салдатамі ў Нямеччыне, і таму ўсё добра ў іхняй вёсцы. Алёнка глядзела на татавы пагоны, на яго ордэны, і свяцілася шчасцем. От каб пабачылі Алёнку яе сябры і сяброўкі. А вунь і яны. Зазіраюць з вуліцы праз плот. А Света з Галінкаю — самыя смелыя — на двары вунь стаяць, праз акно ў хату заглядваюць. У Алёнкі для іх ёсць падарунак — татавы цукеркі. Але яна вынесе потым, бо зараз ёй ад таткі не адарвацца. Яна бярэ таткаў ордэн, разглядае. Тата прыхінуў яе галаву дужай рукою, гладзіць па светлых кудзерках. I ўсё расказвае. А людзі то слухаюць, то гавораць госцю пра сваю вёску, Алёнку хваляць. I тата паглядзіць ёй у вочы і кожны раз пытае:

— Праўда, дачушка? Праўда, бяляначка мая?

Тут дзядуля паклаў на стол алёнчын арэшак.

— А паглядзіце, людцы, які арэшак мне ўнучачка вырасціла. Адзін, адзін быў на арэшынцы. От мы яго і пакаштуем.

— Не, не! — закрычалі ўсе, хто быў у хаце.— Нельга разбіваць такі арэшак. Хай будзе на памяць. Гэта ж арэшак не просты. Даражэй золата!

— I то праўда, людцы,— сказаў дзед.— Дзякуй вам. Я і не падумаў. Дык от што мы зробім, зязюлька,— раптам ажывіўся дзед Рэпка.— Наступнай вясною пасадзім арэшак. Вырасце з яго новая арэшынка. I будзе ад твайго арэшка новае жыццё...

— Праўда, праўда! — загаманілі людзі. Наперабой усе хваляць Алёнку. I тата глядзіць ёй у вочы і падміргвае: малайчына, бяляначка!

Ніколі Алёнка не была такой шчаслівай...

Калі госці паразыходзіліся, тата паклікаў Алёнку да чамаданаў. Удваіх сталі даставаць падарункі. Татка не забыўся, што падабаецца

бабулі, што трэба дзеду. Нават піпку новую дзеду прывёз. Прыгожую, з выпаленымі малюнкамі. А вось падарункі і Алёнцы. Дзед Рэпка як глянуў — дык аж засвяціўся ад радасці. Прывёз тата сваёй дачушцы партфельчык, ранец, сшыткі розныя, алоўкі і ўсё іншае, што трэба вучню. Тут была і суkenка з белым каўнерыкам, такімі ж манжэткамі, ды яшчэ і запас, каб мяняць. І паліто новае, кофтачка, боцікі.

— А ну ж, памерай, зязюлька. От жа якое прыгожае! — гаварыў дзед з ласкай і пяшчотай. У яго нібы камень з плеч зваліўся. Ён зразумеў: раз Павел прывёз усё гэта, значыць, Алёнка застанецца тут, з дзедкам і бабкай. Яна будзе хадзіць у тую ж самую школу, куды хадзіў і яе тата. Дзед Рэпка не стрымаў свайго хвалявання. Падышоў да сына, паклаў на яго плячо руку. Сын зразумеў старога, адказаў:

— Ды што вы, тата... Хіба ж я магу так выхаваць Алёнку, як вы. Ды і не спадручна мне аднаму. Хай яна расце тут. Я ведаю, яна добрая вырасце. Хочаш быць з дзядулем і бабкай, дачушка? — спытаў ён у Алёнкі.

— Хачу, хачу, татачка! — узбуджана загаварыла Алёнка.— А потым ты да нас вернешся, праўда? Вернешся, татачка? — пытала яна, успомніўшы, як марылі пра гэта дзед і бабка.

— Вярнуся, дачушка, вярнуся. Вось толькі дараблю свае справы вайсковыя і вярнуся.

Доўга разглядалі дзед, бабка і сама Алёнка свае абновы. Прымяралі чаравікі, кашулі, бабуля хусткі адну за адной да твару прыкідвала, як маладая. А дзед Рэпка не стрымаўся: набіў табакі ў новую піпку, прыпаліў. Але папыхкаў трохі і зморшчыўся: «Каб на цябе, і прыгожая піпка, ды не той смак, куды лепей старая». Выбіў дзядуля табаку з новае піпкі, загарнуў у газеціну, схаваў у свой куфэрак. Зноў старою піпкай запыхкаў. А новая — што ж, хай ляжыць на памяць. Мо калі і настане яе чарга...

Пакуль частаваліся, гаварылі, цешыліся падарункамі — і дзень прайшоў. Ледзь пачало змяркацца, Алёнка пабегла па хаце — татку пахваліцца, пстрык-пстрык, святло запаліла. Глядзі, татка, як прыгожа цяпер у нашай хаце! — так і гаварылі яе вачаняты.

Алёнка сама паслала пасцель тату. І свой ложак падцягнула, побач з таткавым паставіла. Яна баялася, што заўтра ранешка тата з дзядулем пойдуць або на паляванне, або на рыбалку, а яе не возьмуць. А ёй так хочацца кожную хвіліну быць з татам.

Старэйшыя адчувалі, які клопат у Алёнкі. І ўсе спрыялі ёй.

— Не бойся, дачушка,— сказаў ёй тата,— я без цябе нікуды ні кроку. Праўда, дзядуля? Мы ж без Алёнкі не пойдзем у паходы?

— Ага, ага, зязюлька,— супакойваў унучку і дзед Рэпка.— Хіба ж ты не ведаеш? Куды нам без цябе?

Толькі бабка Маланка нічога не сказала. Яна неахвотна адпускала ўнучку ва ўсякія вандроўкі. Асабліва на паляванне. Але ўсё ж і бабуля сёння хоць і маўчала, але ласкаваю ўсмешкаю падтрымлівала агульны настрой.

Добра пасля жыцця на чужыне апынуцца ў роднай хаце.

— Якое шчасце, мае вы родныя, быць дома,— гаварыў алёнчын тата, калі вечарам селі сваёй сям'ёю за стол.— Тут кожная пясчынка нагадвае нешта такое роднае, такое дарагое!

Пачаліся ўспаміны. Алёнка слухала ды толькі вачамі вадзіла. Многа цікавага яна пачула! Дзед і бабка ўспомнілі далёкія гады, калі гадавалі дзяцей. Прыгадалі, як Паўлік, яе тата, любіў «лавіць» песні па вечарах. Сядзе на гары і слухае. Па Сажу ўсё чуваць далёка. З усіх вёсак. Хто дзе ні заспявае.



— Бывала, крычу яму ісці спаць. А ён адказвае: дай, мамачка, яшчэ хоць адну песеньку злаўлю...— успамінае бабка Маланка.

— Прыгожа тады спявалі...— летуценна прамаўляе алёнчын тата.— Асабліва ў нашай вёсцы... Цікава,— пытаецца ён у дзеда і бабкі,— а цяпер ці пяюць столькі песень?

— А чаму ж не,— адказвае дзед Рэпка.— Пяюць, многа пяюць. Ды яшчэ і як. Праўда, іншыя так загудуць, што і не разбярэш нічога.

Усе смяюцца. Тата заглядае ў вочы Алёнцы: ці не стамілася яна?

Алёнка ўважліва слухае. Яна таксама любіць песні не меней, чым казкі. Яна і сама добра спявае, і падпяваць умее. Вось і зараз Алёнка першая падхапіла, ледзь толькі бабка завяла:

Каліна чырвоная,
Чаго зажурылася,
Ды што ж ты, каліначка,
Рана красу страціла...

Паклаліся спаць позна. І Алёнка, як толькі заснула, убачыла сон. Снілася ёй, што ў сваім новым плацці і бліскучых чаравіках яна прыйшла ў школу, у свой першы клас. Толькі-толькі адзвінеў званок. І вось адчыняюцца дзверы і ў клас заходзіць настаўніца Таццяна Пятроўна. Алёнка яе добра ведае, яна жыве на суседняй вуліцы.

Разгарнула настаўніца кнігу і пытае:

— Алёнка тут?

— Тут! — адказвае Алёнка.

— А чыя ты? — пытае настаўніца.— Хто твой тата? А хто яшчэ ў цябе ёсць?

— Мой тата,— адказвае Алёнка,— самы лепшы ў свеце. Ён ваяваў супраць фашыстаў, а цяпер жыве з салдатамі ў Нямеччыне. А яшчэ ў мяне ёсць дзед і бабка.

— А хто яны?

— Яны? — Алёнка думае і кажа: — Яны — дзед Рэпка і бабка Маланка. Яны былі сіротамі, і паны іх крыўдзілі. А потым дзядуля і бабка памагалі партызанам, ратавалі сваіх. Я іх дужа, дужа люблю.

— А што ты ўмееш і ведаеш, Алёнка? Чаму цябе навучылі дзед і бабка?

— Я ўмею садзіць дрэвы і палоць грады. Даглядаць кветкі і шкадаваць мурашак. Я ведаю спевы птушак і галасы сосен. Навучылася зграбаць сена і жаць жыта. І бабцы памагаць. І яшчэ я ўмею дружыць з дзяўчаткамі і хлопчыкамі.

— Малайчына, Алёнка! — кажа настаўніца.— Чым жа цябе адзначыць за тое, што ты такая добрая? Пасаджу я цябе за гэта на першую парту. Хочаш?

— Хачу! Хачу! — горача адказвае Алёнка. І прачынаецца.

Побач стаяць яе тата і дзед Рэпка. Пра нешта гавораць. Дзед Рэпка заўважае, што Алёнка расплюшчыла вочы, і кажа:

— Прачнулася, зязюлька? Уставай, уставай, родная. Паснедаем ды пойдзем з табою і татам на Сож. За Пікаварняй, кажуць, лешчы бяруць добра. Хочаш, унучачка?

— Хачу! — крыкнула Алёнка, як толькі што адказвала ў сне настаўніцы. Колькі радасці прыйшло да Алёнкі. І тата прыехаў. І ў школу хутка. І дзядуля з бабкаю каля яе. І ўсё ў яе ёсць, усё будзе. Алёнка падхопліваецца з пасцелі і, стоячы на ложку, абнімае і цалуе дзеда, а потым тату. Дзед Рэпка, шчаслівы, гладзіць унучку па галоўцы. І думае пра сваё вялікае чалавечае свята. Калі сум і слёзы забываюцца, а застаецца адна добрая светлая радасць.



Зінові ВАГЕР

●

●

Пуцявінамі роснымі
Наўпрасткі да сяла
Зноўку восень к нам з роздумам,
З лёгкім сумам прыйшла.

За акном брама ляскае,
Вечар — колер смалы...
Плача ціха над кляксаю
Першакласнік малы.

Хмара з буйнае конаўкі
Палівае наш дах.
Як планеты, антонаўкі
Зіхацяць у садах,

А ўначы глуха падаюць
Метэорамі ўніз.
Праз туман між прысадамі
Ледзьве бачны агні...

Замяло лістам вуліцу,
А за хатай маёй
Клён ад ветру сутуліцца,
Чуб раскінуўшы свой.



Так, бывае няветліва
Нам часамі ў пуці...
Але хіба ж да гэтага —
Трэба далей ісці.

## ГАЛІНКА РАБІНЫ

Вясёлым кавалкам зары,
Агнём непагасным рубіна
Ў мяне на далоні гарыць
Галінка даспелай рабіны.

Задумна гляджу на яе —
Я пацеркі бачу каханай,
Якой для цяпла нестае
Мне ў гэты астуджаны ранак.

Сумую па любай даўно,
А сэрца к цяплу гэтак просіцца...
Няхай жа хоць грэе далонь
Барвовы кавалачак восені.

□ □ □

Васіль БЫКАЎ



# СВАЕ ЛЮДЗІ

Апавяданне

Мал. І. Давідовіча

— Не! — сказала яна, стукнуўшы аб падлогу вілачнікам.— І не думайце!

Седзячы ля стала, яны пераглянуліся. Старэйшы — высокі, худы, па-юнацку нязграбны Алесь адразу нахмурыўся і зацяўся ў сабе, а на зусім яшчэ хлапечым пухлаватым твары пятнаццацігадовага Сёмкі мільганула нешта ўпартае і злоснае.

— Усё роўна пойдзем!

— Паспрабуйце! Паспрабуйце, блазнота! Бач, удумалі! Саплюкі няшчасныя! Я вам пакажу партызанаў!

Гэта была пагроза, але ў ёй адчувалася не так сіла і ўпэўненасць, як бездапаможнасць, ад якой маці ўсхліпнула і з вілачнікам падскочыла да хлопцаў. Яны павінны былі б разбегчыся, як гэта рабілі заўжды дагэтуль, але цяпер нават не крануліся з месца, і гэта зусім раззлавала яе. Сёмка толькі ўзняў руку, яна выцяла яго некалькі разоў, не зважаючы куды, потым адзін раз — Алеся. Старэйшы прыняў яе ўдар з каменнай абыякавасцю на змрочным, худым твары, нават не ўздрыгнуў, толькі мацней сцяў вусны, і яна зразумела, што ўсё гэта — дарма. Дарма ўвесь яе гнеў, яе лаянка, яе запозненая спроба вярнуць сваю ўладу над хлопцамі. Роспач адразу падламала яе, і, кінуўшы вілачнік, маці выйшла ў сенцы.

Некалькі пакутных хвілін яна корчылася на куфры ад бездапаможнасці і крыўды, не ў стане зразумець, чаму яны такія ўпартыя ў гэтым відавочным і пагібельным сваім намеры. Яна разумела і нават апраўдвала, калі на гэта ішлі дарослыя — акружэнцы ці свае мужыкі, але што ў той калатнечы магло прывабіць падлеткаў, амаль што дзяцей? Што яны зробяць у лесе, апроч як па-дурному загінуць, як загінуў той, што тыдзень назад з ночы ляжаў да паўдня на аколіцы, такі маладзенькі, у акрываўленай вайсковай сарочцы, прыгожы дзяцюк, застрэлены немецкай засадай. Так і яны будуць валяцца дзе-небудзь, і на іх будуць страхавіта глядзець незнаёмыя людзі, і п'яныя паліцаі будуць перакочваць іх сваімі падкутымі ботамі, а на іх босых нагах будуць апантана бегаць прагныя веснавыя мухі...

Не, ужо таму не быць! Хопіць таго, што без пары без часу склаў голаў бацька, а ў іх яшчэ, дзякаваць богу, ёсць маці, яна не можа дапусціць іхняй пагібелі. Ёй пэўна вядома, хто падбіў іх на гэтую пагібельную справу, яна знойдзе яго і не пакіне ніводнай валасіны ў ягонай фасоністай белай чупрыне.



З раптоўнай рашучасцю яна падхапілася з куфра, выбегла на падворак, але тут жа вярнулася, сюды-туды кінулася па сенцах, шукаючы якой падпоркі, і, не знайшоўшы нічога зручнага, сарвала з крука каромысла. Ахопленая помслівай і злой радасцю, яна туга падперла каромыслам дзверы ў хату і кінулася на вуліцу, на бягу трохі паправіла касынку і ўжо не выцірала слёз, якія ўсё яшчэ ліліся па яе шчоках.

Яна бегла па вуліцы, разганяючы пад платамі курэй, босымі нагамі ўзнімаючы ў доле пыл, і галаву яе распірала ад гнеўных, народжаных яе, матчынаю, крыўдай слоў. Яна скажа гэтаму Яхіму, што ён душагуб, ірад бязлітасны, яна дапытае, навошта яму спатрэбіліся гэтыя зялёныя хлапчукі? Калі ўжо ўдумаў, дык хай бы сабе і ішоў сам куды толькі яму захочацца — хоць у партызаны, хоць у паліцыю, ці самому д'яблу ў зубы, толькі без іх. Хай ён зараз жа аб'явіць ім, што нікога з сабой не возьме, інакш яна паламае на ягонай галаве ўсе чапельнікі, збэсціць яго на ўсю вёску.

Са злосці яна дужа штурханула дзверы гэтай старэнькай, пахілай хаціны, не зачыняючы іх, ірванула за клямку другія — з хаты патыхнула прахалодай земляной падлогі і бязлюднаю цішынёй. Тады яна тузанула пасцілку ў запечны — з кучы цёмнага ашмоцця прыўзнялася белая галава старога Лукаша, ягоныя падслепаватыя блеклыя вочы хваравіта заміргалі насустрач.

— Дзе завадатар ваш?

— Гэта Яхімка, ці што? А хто ж яго ведае. Хіба цяперака дзеці пытаюцца ў бацькоў...

— А ўночы ён спаў дома?

— Не ведаю я. Быдта не чутно было.

Вядома ж, што мог сказаць ён, гэты амаль аслеплы, забыты богам стары. Мусіць, да Яхіма не так проста было падступіцца: яна адчула, што ўвесь яе гнеў вось-вось мінецца без жаднай карысці, і зноў не стрымала сябе. Праўда, слёз ужо не было, былі толькі ўдушлівыя камякі ў грудзях, і пакуль яна, прыпёршыся да печы, перасільвала іх, Лукаш цярпліва стагнаў у запечны, спакутаваны ўласнай хваросцю.

І ўсё ж яна іх не аддасць, яны — яе дзеці, яна — для іх маці і не пагодзіцца на іх пагібель, хутчэй сама ляжа трупам на гэтым іх вар'яцкім шляху, але засцеражэ іх ад смерці.

Яна ўвесь час амаль бегла — праз вёску, міма пунь, хлеўчукоў, свіронкаў, з дзяцінства знаёмых хацінак, пасля — па выгане з маладой вясноваю траўкай, уздоўж свежа і весела прыбранага першай веснавой зелянінай раўка. Як за апошнюю сваю магчымасць, яна ўхапілася цяпер за думку — папрасіць Дразда, што жыў у недалёкім, цераз поле, мястэчку. Праўда, ад зімы ён хадзіў паліцаем, з выгляду быў па-начальніцку важны і строгі, але яна ведала яго малы ды і яго ад самага дзяцінства, усё ж ён быў ёй дваюрадны пляменнік, не абы-хто чужы. Яна раскажа яму аб сваім горы, і ён павінен чымсьці пасабіць, як мужчына і, галоўнае, па цяперашнім часе — начальства. Хай ён іх папалохае, пасадзіць дзён на колькі ў свіронак, хай нават нядоўга патрымае ў турме, але каб толькі не сышлі ў лес і на старасці не асірацілі яе.

Яна толькі баялася, каб Дрозд не паехаў куды, не быў заняты, не адмовіў і тым не адабраў у яе апошнюю магчымасць утрымаць іх. Але сонца апусцілася ўжо нізка, марудна садзілася ўдалечыні за шырокую хмару над лесам,— у такую пару, ведала яна, служачыя ў мястэчку разыходзіліся з устаноў і займаліся сваімі справамі. Праў-

да, яна спахапілася, што нічога не ўзяла з сабой, усё ж трэба б прынесці які-небудзь гасцінец ды і бутэльку таксама. Але за ёю не прападзе, няхай толькі паможа.

Ён быў дома, яна адразу сцяміла гэта, як толькі збочыла з вуліцы ў вузенькі абсаджаны вішняком завулак да яго ладнай з трысценкам дамоўкі. З двух расчыненых вокнаў неслася гучная музыка, і за вазонамі на падаконніку варушылася нейчае мужчынскае з пагонам плячо.

Яна яшчэ раз паправіла на галаве хусцінку, скарэлымі ад заўсёдных мазалёў рукамі крадком выцерла вочы і як мага цішэй ступіла на ганак. Дзверы ў хату былі расчынены, ён сядзеў на ўслоне і адразу павярнуў да яе насаты голены твар, на якім перш-наперш адзначылася здзіўленне.

— Што табе, цётка?

Тое, што ён назваў яе звыкла па-вясковаму цёткай, надало ёй смеласці, пад ягоным строгім, нібыта нават зласнаватым позіркам яна ступіла па засцілцы ад парога і сказала:

— Прыйшла да цябе, Пятровіч, па дзелу.

Патэфон на канцы стала змоўк, хтось павярнуў у ім блішчасты рычаг, і некалькі мужчын з насцярожанаю ўвагай уставіліся ў яе. Яна крыху збянтэжылася пад гэтымі позіркамі і не ведала, як ёй вытлумачыць сваю такую, здавалася, простую і зразумелую патрэбу. Недзе ў адчуванні яе на імгненне варухнулася прыкрасць, нават шкадаванне, што прыйшла сюды, але якога іншага выхаду на запас у яе не было.

— Ды я каб параіцца. Сыны ў мяне...

— Што сыны? Гавары канкрэтна.

Яна пакутліва шукала словы, каб як мага карацей і зразумела растлумачыць ім, што яе прывяло сюды.

— Ну, гавары, гавары, не бойся. Тут усе свае.

— Сыны ў мяне... Нядобрае ўдумалі.

— Што, з бандытамі знюхаліся?

Яны ўсе разам нібыта страпянуліся за сталом, павярнуліся да яе, а Дрозд рашуча ўскочыў — рослы цяжкі мужчына ў сподняй блакітнай майцы, і дошкі ў падлозе хістка зазыбаліся пад ім.

— Ну, гавары!

Яна, выразна разумеючы, што павінна адважыцца на самае галоўнае, дзеля чаго гатова была на ўсё, амаль загаласіла:

— Пятровіч, родненькі, толькі ж прашу, не зрабі ж ім благога... Ну, можа, папалохай іх. Не карай толькі... Маладыя ж яшчэ, блазнота зусім, старэйшаму васемнаццаты пайшоў са ўздзвіжання. Хіба ж яны разумеюць...

— Ага! Так-так. Ну, ясно. Дзе яны цяпер?

— Дома. Я ж запёрла іх.

— Запёрла? Маладзец, цётка. Ідзём!

Ён таропка нацягнуў на сябе свой паліцэйскі мундзір, сарваў са сцяны вінтоўку. Іншыя таксама вылезлі з-за стала, і ў хаце адразу зрабілася цесна. Яна адступіла, у сярэдзіне ў яе нешта здрыганулася і апала, і пакуль Дрозд падпяразваўся тоўстай вайсковай дзягай, яна, сашчапіўшы на грудзях рукі, прасіла:

— Пятровіч, сынок, толькі ж вы па-харошаму каб...

— Мы па-харошаму! Культурна! Барсук, прыхапі канец.

Яны выйшлі на двор і, каб было бліжэй, хутка пусціліся па мяжы ў поле. Сонца ўжо схавалася за хмарай, па-вясковаму голае шэрае поле тужліва азмрочвалася, але яшчэ было відна і ціха.



Тут, на волі, яна лепш разгледзела іх. Апроч Дразда, яшчэ двое былі ў нямецкіх мундзірах і пілотках, а адзін, задні, у сваім — пінжаку і шэрых картовых штанах навыпуск. Гэты, у штацкім, здалося, быў ёй знаёмы, і яна, забегшы трохі наперад, спытала:

— Гляджу гэта і пазнаю быдта. Ці не з Залесся будзеце?

— З Залесся, матка,— проста адказаў ён басам, але размовы не падтрымаў. Яна прыгледзелася да астатніх двох, да іх крутых стрыжаных патыліц, але гэтыя, бадай, былі чужыя.

Так яны перайшлі пагорак, клін сенажаці, мінулі лазовыя зараснікі ля ручая. Каля балотца-выгарыны калупаўся з плугам кульгавы Пракапчук, дзядзька з іх вёскі. Ён прыпыніў каня і доўга глядзеў здаля на жанчыну і чатырох паліцаяў з вінтоўкамі. Яна нічога не сказала яму, нават не азвалася і прайшла міма, але зараз жа ёй стала ніякавата ад гэтай насцярожанасці знаёмага чалавека. Праўда, яна адразу перасіліла ў сабе гэта непрыемнае страхавітае адчуванне. Хай, хай папалохаюць, не заб'юць жа, бо немцам яны благога яшчэ не зрабілі, завошта ж караць іх?

Яна ўвесь час, у полі і на выгане, бегла ззаду, і толькі калі зайшлі на падворак, ля калодзежа Дрозд прапусціў яе ўперад і нават лёганька штурхануў, маўляў, ідзі, а мы следам. Яна звыкла і рухава, як і заўжды, ступіла на шырокі пляскаты камень, потым на парог і ў той жа час зразумела, што падпорка яе не ўтрымала дзверы, каромысла валялася ў доле, і хата была расчынена. Аднак зараз жа яна згледзела Сёмку, і яе ўразіў выраз спалоху, бадай што жаху, на яго яшчэ вельмі дзіцячым твары. Нагнуўшыся, сын стаяў над кубёлкам, у якім яны хавалі мясное, з кавалкам сала ў руцэ. Каля ног хлопца ляжала тарбінка з завязкамі, згледзеўшы якую яна ўсё зразумела і коратка сабе ўсміхнулася. Але ў той жа час Сёмка крыкнуў, выпусціў сала і, угнуўшы галаў, кінуўся ў дзверы, на бягу моцна штурхануўшы яе ў бок. Ззаду закрычалі — Дрозд або хто іншы, і ў той жа момант аглушальна грымнуў адзін, другі, трэці стрэлы. У ёй усё абвяла, абмякла, яна пахіснулася, але стрымала сябе і, адчуўшы, як нешта крута збочыла да недарэчна і непатрэбна страшнага, выбегла з сенцаў.

— Сыночак! Сыночак! Пастой!

Яна кінулася да паліцая ў шэрай нямецкай пілотцы, які стаяў з карабінам каля паркана, хаця ўжо не страляў. Ён апусціў карабін долу, вылаяўся, груба адштурхнуў яе і палез цераз жэрдку ў гарод. Яна не разумела яго, як не разумела нічога з таго, што тут адбывалася. Сёмкі нідзе не было, і толькі калі паліцай шырока пакрочыў наўкось па забаранаваным гародзе, яна ўбачыла сынаву галаву, плечы і раскіданыя ў бакі рукі — ён нерухома ляжаў на глеі ў трох кроках ад вішняку, што буйна квітнеў на ўзмежку.

Тады яна закрычала і асунулася на прапахлы пылам двор, усведамленне вялізарнай несправядлівасці збіла яе з панталыку, яна ўжо не магла сцяміць, як здарылася такое. Яна білася галавой аб цвёрдую, як ток, утаптаную зямлю, біла яе сваімі не па-жаночы вялікімі кулакамі, зайшоўшыся ў амаль здзічэлай, шалёнай роспачы ад такой непапраўнай бяды. З гэтага стану яе вырваў голас — знаёмы і ў той жа час зусім нейкі інакшы голас яе старэйшага сына:

— Халуі прадажныя!

Усё яшчэ не ўстаючы з долу, яна ўзняла галаў і праз слёзы ўбачыла, як Дрозд і з ім два паліцаі вывалаклі сына з сенцаў і пачалі груба круціць яго рукі, каб звязаць іх вяроўкай — канцом, што ўзялі былі з сабой.

— Бобікі. Будзе і на вас вяроўка!

— Маўчаць, шчанюк!

Паліцай, які быў у штанах навыпуск, коратка і моцна штурхануў яго каленам у жывот, Алесь хіснуўся, але не ўпаў, і яна, зусім ужо трацячы над сабой уладу, закрычала:

— Сыночак!

Ён, аднак, нават не зірнуў у яе бок, твар яго быў гняўлівы і цвёрды. Ён матнуў нагой у чаравіку і выцяў ёй паліцая.

— Смерць Гітлеру!

— Ах так, шчанюк!

Дрозд моцна ўдарыў яго прыкладам, і ён упаў, няўклюдна, са звязанымі рукамі, плячамі на пляскаты ля парога камень. Яна падскочыла да пляменніка і, хапаючы яго за ногі ў брудных нячышчаных ботах, спрабавала спыніць, не даць біць сына. Але гэтыя ногі выцялі і адкінулі яе самую. Яна перавярнулася, захлынуўшыся ад болю ў грудзях.

— Ах так, шчанюк! — сказаў Дрозд.— Да сценкі яго!

Тыя два дужа рванулі сына за звязаныя рукі, размашыста кінулі да патрэсканых бёрнаў сцяны, а Дрозд узняў свой карабін. Яна зноў падхапілася з месца, гэты раз — ужо да сына, але над галавой яе грымнула, аглушыла. Алесь неяк дзіўна і жахліва напружыўся, вусны яго скрывіліся, і галава бездапаможна ўпала падбародкам на грудзі. Ён споўз спіной па сцяне і ў недарэчнай скурчанай позе застыў ля падмурка.

Тады яна зразумела, якую недаравальна жахлівую бяду наклікала на іх і на сябе таксама, ухапіла ля парога першае, што трапіла ёй на вочы — хварасціну, якой выганяла ўранку карову, і з безаглядную лютасцю накінулася на Дразда.

— Гад, пошасць, забойца! Што ты нарабіў? Ірад — не чалавек!..

Яна цэліла па галаве і па твары паліцая, але той увабраў галаву ў плечы, засланіўся локцем, і яна біла яго па гэтым ненавісным з паласатай павязкай локці, па чорнай пілотцы, пакуль Дрозд цяжкім жалезным прыкладам не адкінуў яе ад паркана.

— Прэч, гадаўка!

Аглушаная, яна зайшлася ад болю і змоўкла. Паліцай прывалок з гарода распластанае цела Сёмкі, кінуў яго на падворку і, задышліва адкашляўшыся, палез у кішэнь па махорку.

— А здорава ты яго — пад дых! — ваўкавата пахваліў Дрозд паліцая. Той злосна вылаяўся:

— А што ж, туды-т яго враз! Не знаў ад каго. Ад міня не ўцякёць!

Задаволена мацюкаючыся, яны ўзяліся закурваць. Яна корчылася на маладой траўцы, усё бачыла, але бадай нічога ўжо не заўважала і ні на што не рэагавала. Потым, калі трохі пацішэў балючы звон у галаве, паднялася, спачатку на калені, пасля на свае босыя, скарэлыя ногі, акінула няцямным, здзічэлым позіркам двор з нерухомымі целамі яе сыноў. У яе ўжо вельмі нямнога засталося сілы, яна трымалася за паркан і так, перабіраючы рукамі, знясілена пайшла да вуліцы. Паліцаі яе не спынялі і не крычалі, ды яна і не прыслухоўвалася ўжо ні да чаго ў гэтым свеце, страх яе сканаў увесь без рэшты. Яна дабрыла да калодзежа, упала жыватом на край яго прысадзістага аслізлага зруба і, убачыўшы ў ягонай глыбіні далёкі пробліск святла, нібы за нязздзейсненай справядлівасцю рынулася ў змрочную, зыбкую пройму.

Аляксей ЗАРЫЦКІ



# ГАРАЧЫ ПОПЕЛ

Нічога ты не забыла,
Трывожная, чуйная памяць...
Да неба полымя рвецца,
Шугае, гудзе —
Сяло беларускае карнікі паляць.
І хаты паляць яны
І людзей.

Счарнелы вецер трасе чупрынай
калматай
Вывейвае ён з пякельных віроў агнявых
Гарачы попел матак,
Гарачы попел малых.

Здаецца, не іскры,
А душы ўзнімаюцца роем...
Ідуць да машын ужо карнікі строем.
— Айн, цвай, драй!
Гармонік губны для бадзёрасці грай,
А салдат давай запявай...

Свае вочы салдат
Са страхам
У далячынь утаропіў.

А следам — над шляхам —
Попел,
Гарачы попел.
Ганьба ўслед
На ўвесь белы свет,
На тысячы лет!..

Вы гэтак далёка-далёка
Бачыце, пільныя вочы.
Вунь там пад пальмамі,
Камандаю карнай падпаленая,
В'етнамская вёска гарыць.
Вунь к верталётам тая каманда крочыць.
— Аць, два, тры! — ўан, ту, фры! —
Заакіянская мова чужая
Над полем стаптаным в'етнамскім
чуецца.
Нешта янкі-салдата пужае,
Бач, ён нервуецца,
Бач, азіраецца ён.
«Мо партызанская куля ляціць
наўздагон?..»
Вочы са страхам
У далячынь салдат утаропіў.
А следам — над шляхам —
Попел,
Гарачы попел.
Ганьба ўслед
На ўвесь белы свет,
На тысячы лет!

□ □ □

## У НАСТУПНЫХ НУМАРАХ—

вершы Аркадзя КУЛЯШОВА, Алеся РАЗАНАВА, Уладзіміра САЛТУКА, Кастуся ЦВІРКІ, Яўгені ЯНІШЧЫЦ.

Алесь ПАЛЬЧЭЎСКІ



Мал. К. Ціхановіча.

# ЗАМАЛЁЎКІ

## СЦЯЖЫНКА

Куда бежишь, тропинка милая,
Куда зовёшь, куда ведёшь?
*З песні.*

Яна пачынаецца ад шырокага гасцінца і праз каласістую ніву пшаніцы вывіваецца аж да вёскі, што віднеецца ўдалечы. Хтосьці першы з вяскоўцаў, відаць, пралажыў след па чырванаватай яшчэ руні, каб скараціць дарогу, за ім прайшоў другі, трэці, і так пайшло.

Чэрвеньскі надвячорак. Скрозь смугу свеціць чырванаватае сонца. Цягнік прыцішыў бег: пад'язджаем да невялікай станцыі. Прыпынак тут кароткі, і людзі стаяць напагатове ўздоўж вузенькага перона, каб паспець сесці. А па сцяжынцы тым часам з клункам за плячыма спяшаецца малады хлопец. Вось ён дабег ужо да гасцінца, што пераразае чыгунка.

Можа хлопца падвёў гадзіннік, можа затрымала на некалькі хвілін любая на развітанні, што спазняецца ён. А можа маці не падрыхтавала торбачкі загадзя і, збіраючы на адыходзе, не магла наглядзецца на сына ды затрымала яго на час.

Мне добра відаць праз адчыненае акно, як прыспешвае бег хлопец. Не спыняючыся, ён зняў з плячэй зеленаваты клунак, узяў яго за матузкі каля завязкі і размахвае ў такт крокам.

«Паспее ці не? Каб хаця паспеў... Прыбаў трошкі бег, прыбаў: ты ж малады яшчэ і сэрца твае здаровае!» — падахвочваю я ў думках хлопца і, здаецца, сам бягу разам з ім.

Ужо зусім блізка мэта. Засталіся лічаныя крокі да апошняга нашага вагона. І раптам (ах, гэта раптам!) дзяжурны па станцыі дае знак машыністу адпраўляцца. Плаўна пакаціліся колы па рэйках, мерна ўздрыгваючы на стыках.

Хлопец спыніўся, апусціў каля ног на зямлю клунак, выцер на лбе пот і памахаў нам рукою, з жалем паглядаючы ўслед цягніку.

Да чаго ж блізкім было майму сэрцу яго становішча! Можа і яму хто-небудзь з добрых людзей паспачувае і суцешыць, як суцяшалі калісьці мяне ў Негарэлым: «Не бядуй, хлопча, не такая ўжо вялікая бяда — гэта спазненне. Будзе яшчэ цягнік. Твае ад цябе не ўцячэ».



І праўда, не ўцякло. Важна толькі мець мэту ў жыцці і безупынна імкнуцца да яе. А перашкоды на шляху заўсёды будуць. Толькі не трэба палохацца іх. Бо жыццё, як пяецца ў песні, ёсць барацьба.

А сцяжынкі? Колькі іх, вузенькіх, пакручастых, у жыцці кожнага чалавека!

# АДПАЧЫНАК

Па суседству з нашым цагляным пяціпавярховым домам стаіць невялікая драўляная хацінка. Калісьці іх было тут некалькі. Тыя разбурылі, і на іх месцы пабудавалі новы гмах. А гэта стаіць у садочку, быццам знарок пакінутая для параўнання.

У гаспадара хаціны жыве на ланцугу сабака Космас. Ён ніяк не можа пагадзіцца з тым, што ўздоўж іхняга плота раптам пачало хадзіць столькі людзей, і без канца брэша, абы пачуе тупат чалавечых ног. Сарвіся, здаецца, ён з ланцуга, і ад чалавека астанецца адно шкумаццё.



Кожнай раніцы гаспадар спускае сабаку з ланцуга на некалькі хвілін пагуляць. Космас, радасны, выбягае на вуліцу, падскоквае перад сваімі варотамі, качаецца па траве каля плоту, потым кладзецца каля тратуара, выцягвае пярэднія лапы, апускае на іх галаву і пачынае цікаваць. Цяпер у яго адпачынак, і, відаць, хочацца яму паглядзець, што за людзі ходзяць на другім баку брамкі, калі ён на варце.

Сваімі разумнымі вачыма Космас моўчкі азірае кожнага прахожага. Глядзіць лагодна, ціхамірна.

Убачыла маленькае суседскае шчаня Космаса і бегма да яго. Завіляла хвастом, заскакала перад ім, выклікаючы на гульню.

Космас моўчкі ляжыць. Быдта не перад ім круціцца шчаня, быдта не яго выклікаюць на гулі. Малое не ўпыняецца, а стары, абыякавы да ўсяго, спадылба пазірае на тых, на каго штодня брэша з-за брамы. Злосць разбірае Космаса за надакучлівасць шчаняці. Каб мог, сказаў бы: «Адчапіся, назола, дай хвілінку пажыць для сябе».

З двара выходзіць гаспадар. Да чаго ж не падабаецца гэта Космасу. Ён не глядзіць на гаспадара, бо добра ведае, чаго ён выйшаў. Той пачынае размову з суседам праз вуліцу, і Космасу хочацца, каб вялася яна чым даўжэй.

Нарэшце гаворка скончана. Гаспадар кідае позірк на Космаса, ківае галавой на веснічкі і кажа:

— Пайшлі.

Сабака неахвотна ўстае, пацягваецца, уздыхае: прагулка скончана. Ад радасці, што будзе з кім нарэшце пазабаўляцца, шчаня забегала, заскуголіла, прысядаючы перад Космасам. Той спакойна, абыякава кусае шчаня за вуха і моўчкі, не азіраючыся, трухае перад гаспадаром на двор, за браму.

Дурненькае шчаня з віскам кідаецца на свой двор. Так і не зразумела, відаць, чым правінілася перад Космасам.

# ПАРАДОКС

Угэту мілую сям'ю я трапіў зусім выпадкова. Работа затрымлівала мяне яшчэ на дні тры, і загадчык райана, Максім Паўлавіч, цудоўнай душы чалавек, запрасіў да сябе сустракаць Новы год. «Не сумаваць жа Вам аднаму ў гасцініцы ў такі вечар»,— сказаў ён шчыра.

Адмаўляцца не выпадала.

Я прыйшоў пасля адзінаццаці, каб не надакучаць ветлівым гаспадарам. Тым больш, што ў Максіма Паўлавіча хварэў бацька. Ён сказаў мне пра гэта яшчэ ўдзень.

Стол быў падрыхтаваны ўжо да вячэры. З суседняга пакоя даносіліся галасы: спакойны — дарослага чалавека і звонкі, жвавы — хлапчука. Сталы голас супакойваў дзіцячы:

— Жэнік, не пішчы так моцна...

Неўзабаве пасля майго прыходу Максім Паўлавіч расчыніў дзверы ў той пакой, адкуль даносіліся галасы, і, не заходзячы туды, сказаў:

— Тата, ці не садзіцца нам за стол? Трэба ж і крыўдзіць.

— Можна садзіцца, чаму ж...— і ўслед за сл [illegible] скрыпі ложка, на якім, відаць, ляжаў ці сядзеў стары.

Забаўляючыся, маленькі хлопчык цягнуў дзядулю за руку, а той усё лавіў малога за вуха. Жэня круціў галавой і заліваўся звонкім смехам.

Я ўстаў, прывітаўся. Стары зірнуў на мяне і, кіўнуўшы галавою, адказаў:

— Добры вечар... Чужы чалавек на навагоднія вячэры, кажуць, на шчасце. Дай жа, божа,— ён сеў за шырокі край стала і пасадзіў побач з сабою ўнука.



— Сядайце, калі ласка, і вы,— звярнулася гаспадыня да мяне і паказала вачыма: — Вось на гэта крэсла.

— Аліна,— сказаў Максім Паўлавіч да жонкі,— можа няхай на тое крэсла садзіцца Гардзей Пятровіч.

— Можна і на тое. А я — бліжэй да кухні...

Мы селі, гаспадыня ўзяла са стала бутэльку і падала мужу.

— Налівай, Максімка, чаркі.— І, глянуўшы на мяне, дадала: — Сваёй загатоўкі наліўка, клубнічная. Каштуйце — спадабаецца.

— А мне... а мне наліўкі,— напомніў аб сабе Жэня. І Максім Паўлавіч наліў хлапчуку вішнёвага соку.

Першую чарку падняў бацька:

— За адыходзячы год. Падзякуем яму, што ён быў мірны ды спакойны для нас.

Пад закуску пачалася гаворка пра справы жыццёвыя.

Стрэлкі насценнага гадзінніка набліжаліся да дванаццаці. Ударыў першы бой.

— Ну, а цяпер падымем чарку за Новы год і пажадаем нашаму тату, каб у гэтым годзе ён... зусім аслеп.

Я ледзь не выпусціў з рук чаркі. «Нішто сабе тост...» — мільганула думка, і я неўпрыкметкі паставіў яе. Хто гэта стане піць за такое пажаданне?

Нейкі момант маўчалі. Парушыў маўчанне стары:

— Дзякую, сынок,— адказаў ён і першы паднёс чарку да губ.

Я збянтэжана зірнуў у вочы Максіму Паўлавічу.

— Вам дзіўна,— усміхнуўся ён.— Дыялектыка. Пакуль тата не аслепне зусім, дактары не могуць рабіць аперацыі... Падымайце чарку.

І мы выпілі да дна.



**У НОВЫМ ГОДЗЕ — НОВЫЯ ТВОРЫ.**

**Лірычныя эцюды Янкі БРЫЛЯ «Жменя сонечных праменняў».**

**Апавяданне Анатоля КУДРАЎЦА «На балоце скрыпелі драчы».**

**Фантастычнае апавяданне Уладзіміра ШЫЦІКА.**

*75 гадоў з дня нараджэння Максіма БАГДАНОВІЧА*



Мал. **Янкі Раманоўскага.**

# ЛЕТАПІСЕЦ

Летапісцы часам адкладалі пяро і бралі ў рукі зброю, але галоўнай іхняй сілай было ўсё ж пяро — самая смертаносная зброя на зямлі. Таму што чыстае пяро, рана ці позна, абавязкова заб'е.

Гэты чалавек быў Нестарам у новым разуменні намі нашай гісторыі. Ён пачаў тую справу, якую мы ўсе робім цяпер болей ці меней, з большым ці меншым поспехам.

Ён быў геніяльны паэт. Яго звалі Максім Багдановіч. Усё жыццё ён думаў пра Беларусь, пра людзей, хварэў за іх, піянерам ішоў праз нетры, прасякаючы шлях, церабіў зарасці, бурыў гнілыя дрэвы хлуслівых аўтарытэтаў, каб яны не падалі на галаву Чалавеку. І паўсюль паставіў, дзеля нас, абярэжныя слупы:

— Ціха, тут водзяцца злыя цёмныя сілы. Загубяць, калі не будзеце берагчыся!

— На гэтым шляху — загінеш!

— Асцярожна — дрыгва!

— Ідзі, тут светлая, надзейная дарога!

Ён папрацаваў катаржна. Можа таму і падарваўся. І памёр. Яму было б

зараз семдзесят пяць год. Мог бы суцяшаць нас саміх сваім існаваннем на зямлі. І вось няма. І, нават, здаецца ён нам чымсьці далёкім-далёкім (хаця і даверу блізкі), чымсьці такім, што даўно адышло ў нябыт (хаця і грэе нас нязгаснымі праменнямі сапраўднага генія).

Якая прычына, што Максім Багдановіч астаецца для нас ледзь не самай сімпатычнай і роднай постаццю ў гісторыі беларускай літаратуры?

Па-першае, ён змагаўся наводдаль ад сваёй арміі. Іншым было лягчэй. Яны былі сузор'ем. Ён — самотнай зоркай, якая, вядома, бачыла святло ад вялікай галактыкі свайго народа і ад сузор'я лепшых сыноў яго, паплечнікаў сваіх — але, усё ж, палала наводдаль. Іншыя нарадзіліся ва ўлонні свайго народа, чулі ўвесь час яго мову, усмакталі яе з малаком маці і з вадою беларускіх крыніц. Гэты — чуў яе ад лічаных людзей. Ён большую частку свайго жыцця не бачыў радзімы, а калі ўбачыў, то спустошаную вайной, няшчасную, знявечаную і збрыджаную. Убачыў, каб адразу ж самотна памерці наводдаль ад яе.

Іншыя, можа, больш зрабілі. Але трагізм і веліч гэтага кароткага жыцця, пагрозная і шчымлівая яго нота — глыбей закранаюць наша сэрца. Мы супакутуем яму, і таму ён не толькі наш настаўнік, але і, нібыта, святло сэрца нашага, улюбёны сын, з нараджэннем якога мы пачалі новае жыццё, які зрабіў нас мудрэйшымі і дабрэйшымі, адкрыў нам вочы на нас саміх, прымусіў па заслугах ганарыцца сабой.

І адышоў, не пакінуўшы нам суцяшэння.

Па-другое, гэты чалавек ніколі не зведаў кампрамісаў, ніколі не дапусціў свае сумленне да згоды, не пісаў таго, чаго не думаў, цвёрда ішоў па адзіна магчымым для чалавека шляху, шляху годнасці і сцвярджэння права на сваю, адметную, незалежную, думку. Без гэтага называцца чалавекам не мае права ніхто. І вось ён, незайманы, кінуў нас, астаўшыся ў сэрцах нашых найвышэйшым прыкладам такога вось Чалавека.

Па-трэцяе, ён бараніў годнасць чалавечую, клікаў да гуманізму, і на гэтай дарозе адступленняў не ведаў.

Па-чацвёртае, быў наскрозь гістарычным паэтам, у тым сэнсе, што абуджаў у народзе гістарычнае мысленне, а значыць і гонар. Вось аб гэтым, апошнім, і хацелася б сказаць. Атрымалася так, што за многія і многія дзесяцігоддзі бяспраўя з людзей выбілі памяць. Здавалася, маўчалі вякі, здавалася, у нас не было мінулага, а значыць, не было і акрэсленай будучыні.

І вось з'яўляецца юнак і, падобна летапісцу з уласнага верша, раптам дае гэтай спячай памяці першы штуршок:

— Падымі галаву! За табою — веліч! За табою — барацьба! Ты не бязбацькавіч! У цябе ёсць продкі, якімі можна і трэба ганарыцца!

Загінулі яны, і, можа, соткі год
З часоў тых працяклі, і згінуў іх народ,
І ўсё змянілася, і ўжо пра іх забылі.
Вы, літары, цяпер нанова ўсё збудзілі!
І людзі зведаюць аб прадзедах сваіх,—
Аб горы, радасцях і аб прыгодах іх,
Каму маліліся, чаго яны шукалі,
Дзе на глыбокім дне іх крыюць мора хвалі.

Я не ведаю дагэтуль у беларускай гістарычнай літаратуры лепшага твора, чым «Апавяданне аб іконніку і залатару, людзях мудрых і красамоўных, кнігалюбцам нейкім дзеля славы божай ды размнажэння дабра пасп алітага выдадзенае».

І гэта, не гледзячы на тое, што «гістарычнага» ў ім — акрамя антуражу ды мовы — уласна няма, а ёсць разважанні аб мастацтве.



Але хіба мова — гэта так мала? Хіба не палова справы — даць гісторыі язык? Язык, якога яе пазбавілі.

Золата, срэбра і чэрнь. Вось кажа Раман Якубовіч:

«Бо, здаецца, кожны зразумець можа, што святая ікона пана бога, хаця б і зусім няўдала зробленая, бязмерна больш варта, чым са пса якога-небудзь малюнак найлепшы».

Адказвае залатых спраў майстра, Антон Корж:

«Вось чаму я, хрысціянін не згоршы ад іншых, рэчы свае вырабляючы, адно толькі красу формы пільную ды не думаю аб тым, нашто нанізкі залатыя мае пойдуць: ці то на здабленне фігуры маткі боскай, або піяка і распуснік які на пакрасу сваю ўжываць іх будзе».

Мова! Два чалавекі, два характары, два стылі. І яшчэ трэці стыль, стыль гісторыі, сапраўдны — аж валасы варушацца — вецер яе. І дорага б я даў, каб напісаць некалі нешта падобнае.

...А што, вас ніколі не здзіўляла, адкуль яно ўзялося, адкуль гэты бог з машыны, адкуль гэты, уласна, хлопчык мог так ведаць усё?

Не было і не магло ж у яго быць доступу да гістарычных дакументаў (не ў Яраслаўлі ж шукаць беларускія архівы), не было яшчэ грунтоўных прац па старажытнай мове. Не было ў яго і падрыхтоўкі да чытання старажытных папер, не быў спецыялістам у палеаграфіі.

Былі, што праўда, тамы актаў, выдадзеныя рознымі археаграфічнымі камісіямі. Але ж падбор дакументаў?! І ўвогуле: аб'ектыўнасць досыць рэдкая госця ў падобных выданнях.

...Былі кнігі. Таксама, з большага, наскрозь тэндэнцыйныя ў той ці іншы бок. Сапраўдных мала. Смярдзяць ялеем і халопствам.

Не ў Бацюшкава ж, не ў Ратча, не ў Мураўёва, не ў іншых, імя якім — легіён, было яму вучыцца веданню таго, што такое народ. Кожны з гэтых людзей рабіў з гісторыі наймічку або наложніцу і рабіў з ёю што хацеў, ведаў, што бараніцца не будзе, ведаў, што для іншых людзей, для жаніха, якому яна патрэбна, як паветра, і імя якому — Народ, яна замкнёна за сямю пячацямі, за кратамі архіваў, за цёмнай мовай мінулага, за неадрыўнай вяззю папер.

І вось, перачытаўшы сотні даследаванняў, перакапаўшы стосы папер, пабачыўшы ў сто разоў болей, чым гэты вечны юнак, раптам разумееш, што ты ягоны вучань, што ён прадчуваў болей, чым ты ведаеш. Мала таго, магчыма, ты бачыш гэта ўсё, бачыш многа, бо ён даў табе вочы. Нарадзіў погляд на ўсе гэтыя дакументы, на ўсе з'явы, даў у рукі Арыядніну ніць, каб не заблукаў у цёмных лабірынтах беларускага мінулага.

Толькі геніяльнай інтуіцыяй можна растлумачыць гэта. Наскрозь дэмакратычным светапоглядам, веданнем, што ніколі, нізавошта нельга даваць у крыўду просты народ, і ўсё, што не на яго карысць — ад лукавага, у якія б прыгожыя тогі яно ні драпіравалася, якія б высокія словы ні казала.

І лепшы доказ гэтаму — «Слуцкія ткачыхі» ў рэдакцыі «Вянка», можа найвялікшы наш шэдэўр.

Якія б ні былі зіхоткія і залатыя тканіны — яны не каштуюць слязы дзяўчыны, што нарадзіла гэтую прыгажосць. А калі яна, гэтая тканіна, усё ж мае права на існаванне, то гэта таму, што яна — памяць аб бязвестных ткачыхах, доказ іхняй геніяльнасці.

Багдановіч зведаў усё гэта. І з гэтага ведання нарадзіў сапраўдную паэзію, высокае золата і жалеза якой перажывуць вякі.

Што дало яму вернасць погляду? Мне здаецца, фальклор. Адзіны з усіх — народ не будзе не толькі сведчыць супраць сябе (на гэта многія не майстры), а і хлусіць. Гэта за яго робяць іншыя.

А Паэт ведаў паэзію свайго народа, як ніхто. Нездарма быў сынам

этнографа. І, як кожны сапраўдны сын і вучань, перарос бацьку і настаўніка. У чым? У прыватнасці, у тым, што не паверыў сцвярджэнню аб аднастайнасці беларускай песні. І меў рацыю. Але мала таго — узбагаціў тую песню.

У чым яшчэ? Не мог паверыць, напрыклад, што на Беларусі не збераглося гістарычных паданняў, што ў народа беларускага няма гістарычнага мыслення.

«Няма доказаў, няма фактаў, што паданні збераглися, — тым горш для фактаў. Няма — значыцца, пакуль не знайшлі. Не існуе народаў без памяці, без легенд. І нельга чакаць, сядзець, склаўшы рукі. Трэба, пакуль знойдуцца такія, — даць люду свае».

Велічная, надзвычайная вера. І, як раней чэх Ганка, ён піша гэтыя паданні, толькі што не выдае іх за народныя, не падрабляе, як той падрабіў «старажытны» Краледворскі рукапіс (Багдановіч дзеля гэтага занадта паэт).

Сёння мы ведаем, што паэт не памыліўся, што эпас, што паданні ёсць, што і цяпер мы ствараем іх. Раскіданыя ў старажытных кнігах, у летапісах («паданне аб мужыцкім Хрысце»), запісаныя фалькларыстамі, але запісаныя ці выдадзеныя пазней, яны, каб іх, апрацаваўшы, скласці з асколкаў у цэлае, маглі быць эпапеяй, вартай іншых вялікіх эпапей розных народаў. Беларусь чакае яшчэ свайго Лёнрата, свайго Лангфела, якія зноў складуць у цэлае разбітае некалі бязлітасным часам.

І дачакаецца.

Сёння, на грунце ўжо вядомага, мы здзіўляемся, як Багдановіч трапна адчуў асаблівасці народнай мовы і самы склад народнага мыслення ў гістарычным эпасе.

«Максіма і Магдалену» маглі б спяваць лірнікі, каб яны былі ў наш час, каб дажылі.

Хоча зноў пачуць тое гранніца
У астатні раз,
У смяротны час.
На апошняе са светам развітанніца.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«Магда, Магдачка,
Мая зоранька ясная,
Маё сонейка прэкраснае!
Ой, ад сонейка
Па зямлі цвяты расцвітаюць,
Ад яго ж яны й пасыхаюць.
А ты, сонца, свеціш,
Залатое, святое,
І не ведаеш тое».

«Страціма-лебедзя» — рэч у вышэйшай ступені інтэлігентную — маглі б, аднак, спяваць магілёўскія «дзяды» разам з «плачам, плачам-узрыдаем». І таксама плакалі б, жахаліся і шкадавалі, і ў глыбіні душы наракалі на бога астравецкія, полацкія ці лельчыцкія бабы.

Не анёл у трубу утрубіў —
З хмары бог старому Ною гаварыў:
Поўна з краем чаша гневу майго
На людскія грахі ды бясчыннасці.

І ў «Калевалу» беларускую старанем будучага нашага Лёнрата (каб такі прыём быў дазволены) гістарычныя вершы Максіма Багдановіча маглі б увайсці ў якасці лепшых яе частак, побач са славутай «Дачкой Андрэя», з «Яварам і бярозай», з апрацаванымі адпаведна гісторыямі «Кронік», з легендамі, з «Ой, вайна была» і «Ой, закурэла, ой, задымела сырымі дрывамі», з тысячамі іншых эпічных твораў.



Характар гістарызму ў нашага паэта своеасаблівы. Амаль няма гістарычных асоб. Гэта Скарына ў вершы «Безнадзейнасць» (і, магчыма, не зусім той Скарына, якога мы ведаем). Гэта князь Ізяслаў Полацкі, што загінуў у сечы з літоўцамі.

Вось, бадай, і ўсё. І гэта зразумела. Багдановіч жыў на зары Адраджэння, і ён параўнаўча мала ведаў. Але ён прадбачыў усё, разумеў усё і ў няведанні сваім глядзеў праўдзівей і далей, чым некаторыя прафесары гісторыі, што свядома скажаюць ісціну.

Бачыў далей, таму што ведаў: калі гісторыя народа нераспрацаваная, малавядомая — ёсць адзіны сродак пазбегнуць памылкі, расказваючы аб ёй. Зрабіць героем сваіх вершаў самую вялікую гістарычную асобу — Народ.

Той, што адзін толькі мае права распараджацца сваім лёсам. Той, што невінен у сваіх памылках. Той, што адзіны стваральнік сваёй велічы і сваёй справядлівасці.

Той, што ўмее кахаць і адказваць за каханне, як адказваў за каханне да Магды Максім.

Той, што не дасць у крыўду высокага гонару роднай зямлі, — гэта ў геніяльнай «Пагоні».

Ён часам прымхлівы, як дзяўчына ў «Ціхім вечары» або дзед з верша «Па ляду ў густым бары». Але ён умее працаваць, перад ім ёсць будучыня.

І яшчэ таму Багдановіч бачыў далей, што ён ніколі не страчваў веры ў неадольнасць чалавечага руху наперад. Адзін з самых кранальных у гэтым сэнсе вершаў «Агата». Не на шырокім палатне, не з барабанным боем, а проста, недакучліва, нягучна гаворыць пра абуджэнне Чалавека ў чалавеку паэт.

Дзяўчына з сярэдневяковага беларускага горада ідзе да ратушы, дзе паляць ведзьмакоў. Ідзе глядзець. Усё натуральна: раз ёсць ведзьмакі — патрэбна і вогнішча.

Ідзе і сустракае прыўкраснага конніка, губляе яго з вачэй. І вось каханне абуджае яе. І яна ўжо здатная страціць уратаванне за нованабытую любоў, за каханне, загубіць варажбою душу і, магчыма, самой згарэць на вогнішчы, як гарэлі ведзьмакі, абы здабыць, абы ўбачыць светлага конніка ў залатым шаломе, свайго «Юр'я Святога», які пакуль скача недзе ў начы, асветлены далёкім водбліскам пажару.

А значыць, як бы ні заняпаў чалавек — ён знойдзе шлях. І нічога з ім не зробіш.

Максім Багдановіч даў нам першы ўрок гісторыі. Даў яго, нарадзіўшы ў нашых людзях гонар за сваё мінулае, і гістарычнае мысленне і веру ў будучае.

Аднаго гэтага хапіла б на вечны яму помнік.

Такі ранні помнік!

Зразумела, паэт мог бы не дажыць да сямідзесяціпяцігоддзя і без сухотаў. Войны, расстраляныя патрыёты і проста заложнікі, допыты ў падзямеллях гестапа, нахабны гвалт і тэрор ворагаў, бамбёжкі, тры нашэсці — ці мала было такога, што магло б разбіць кволы сасуд чалавечага цела. Ды яшчэ калі яно — цела паэта. Ды яшчэ такога паэта, як Максім Багдановіч.

Паэты не толькі вешаюцца. Паэтаў і вешаюць. Фалангісты расстралялі Лорку. Досыць было, што Багдановіч проста паэт, чалавекалюбца, дэмакрат, каб яны вышчарыліся на яго і распялі.

Я дрыжу за кожную кулю, якую яны маглі б усадзіць у яго. За кожны асколак бомбы, які мог бы раздзерці яго сэрца.

За гільяціны, за Трасцянец і іншыя канцэнтрацыйныя лагеры, за кож-

ны паклёп, за кожны артыкул, падобны на здзек. Іх не было, але яны маглі б быць, і сэрца маё абліваецца крывёю за неіснуючыя яго мукі, і я вінавачу фашызм і іншае такое, яшчэ і за яго, які нежывы, але мог бы жыць.

І ўсё ж, як шкада, што яго няма. Жыццё вялікая даброта.

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ.**

# БРАТЫ БАГДАНОВІЧЫ

**Успаміны таварыша па гімназіі**

З 1903 па 1911 год я вучыўся ў Яраслаўскай казённай гімназіі. Гэта былі неспакойныя гады. Калі мы былі першакласнікамі, пачалася вайна з Японіяй. У наступных класах нас, яшчэ зусім дзяцей, цікавілі рэвалюцыйныя падзеі 1905—1907 гадоў. Прайшлі гады палітычнага ўздыму, і мы, гімназісты, адразу востра адчулі наступленне чорнай рэакцыі. Кожная праява вальнадумства строга каралася. Але рэвалюцыйныя настроі рабочых і перадавых колаў інтэлігенцыі пранікалі і ў асяроддзе гімназістаў.

Міма вокан гімназіі часта праязджалі казачыя патрулі. Адчыніўшы вокны, гімназісты крычалі ім услед: «Апрычніна! Апрычніна!» Сярод педагогаў нашай гімназіі былі людзі ліберальна і нават рэвалюцыйна настроеныя. Іх ідэі ўспрымалі многія вучні. Жыватворчы ўплыў меў на нас класны настаўнік, выкладчык лацінскай мовы Уладзімір Уладзіміравіч Белавусаў. Урокі лацінскай мовы часта ператвараліся ў лекцыі пра лепшыя творы рускай і сусветнай літаратуры. Уладзімір Уладзіміравіч выказваў сваё незадавальненне існуючым дзяржаўным ладам.

Прагрэсіўнымі для таго часу былі і погляды выкладчыка геаграфіі і гісторыі Парфірыя Іванавіча Мізінава. Памятаю, калі гімназіст адказваў словамі падручніка: «Прагрэс Еўропы абумоўлены манархічнай сістэмай», Мізінаў зазначаў: «Ну, гэта, дапусцім, яшчэ невядома!»

Парфіры Іванавіч, нягледзячы на нязгоду дырэкцыі гімназіі, арганізаваў для вучняў старэйшых класаў літаратурны гурток. Мы наведвалі яго некалькі гадоў. Гэта быў цікавы гурток. Гімназісты чыталі рэфераты пра класічную рускую літаратуру. Але асабліва ажыўлена стала на занятках гуртка, калі ў 1908 годзе ў наш клас прыйшоў новы вучань, які прыехаў з Ніжняга Ноўгарада. Навічка звалі Максім Багдановіч.

Сціплага, выхаванага і таварыскага, яго адразу палюбіў клас. Ён уразіў нас веданнем літаратуры, разуменнем літаратурных і грамадскіх з'яў. У пытаннях літаратуры ён быў на галаву вышэй за ўсіх нашых медалістаў.

На занятках гуртка Максім прачытаў многа рэфератаў. У маёй памяці захаваліся толькі некалькі з яго шматлікіх дакладаў: «Новыя павевы ў рускай літаратуры», «Сучасная літаратура і народны рух», «Сімвалізм і дэкадэнцтва». Мы, як зачараваныя, слухалі яго жывую, цікавую гутарку аб прыгажосці твораў Талстога, Тургенева, Пушкіна, Лермантава і іншых волатаў рускай літаратуры. Высока ацэньваючы іх мастацкае майстэрства, ён, аднак, настойліва падкрэсліваў думку аб тым, што пры ўсіх сваіх вартасцях руская класічная літаратура яшчэ далёкая ад народа. Будучыя карыфеі літаратуры, гаварыў ён, безумоўна, павінны больш удзяляць увагі рабочаму люду і сялянству. У якасці першай ластаўкі ў гэтым кірунку ён называў Максіма Горкага. Такая літаратура будзе створана ў Расіі толькі тады, калі не будзе рэжыму прыгнечання.

У дні рэакцыі было рызыкоўна выказваць такія думкі. Але Парфіры Іванавіч і аднакласнікі любілі Максіма, і гэтыя недазволеныя выказванні не выходзілі за межы гуртка.

Жыва цікавіўся Максім пытаннямі формы ў мастацтве. Ён прызнаваў некаторыя дасягненні ў галіне развіцця мастацкіх сродкаў у паэзіі, як, напрыклад, музычнасць у сімвалістаў. Але, падкрэсліваў ён, паэзія іх далёкая ад жыцця. На дэкадэнцтва Максім глядзеў адмоўна, лічыў яго нездаровую з'явай, крыўляннем і лічыў, што шлях літаратуры — збліжэнне з народам, з яго творчасцю.



Высмейваючы крыўлянне дэкадэнтаў, Максім, памятаю, працытаваў у адным дакладзе такую пародыю:

Рифма-твор старинный. Тредья-
ковский был пиит хи-
трец — мастер, буду впредь я
по нему писать стихи.
Все слова я очень просто
Рифме в жертву отдаю.
. . . . . . . . . . . . . .

Страждет с каждым днем отчаян-
ней читатель за грехи.
Ходит чёлн мой непричален-
ный по морю чепухи.

На адных занятках гуртка Максім зрабіў даклад пра беларускую паэзію. Ён пазнаёміў нас з развіццём беларускай літаратуры, з творамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі і іншых. У гэты вечар Максім упершыню прачытаў некалькі сваіх вершаў на беларускай мове. Гэта былі думкі пра лёс роднага народа:

Дождж у полі і холад... Імгла...
Дзесь у вёсцы міргаюць агні.
Там, злякаўшысь, схавалась, лягла
Доля горкая ў чорным цяні.

І пад цёмнымі скрыдламі ночы
Не ўбачаць цяпер яе вочы.

Толькі вецер асенні начой
У полі сумна гудзіць і пяе
Аб радзімай старонцы глухой
Ды аб долі няшчаснай яе.

Цісне сэрца мне песня начная...
Хай жа голасна вецер спявае,

Хай пяе ён у роднай зямлі,
Каб у сэрцах нам сорам збудзіць,
Каб змагацца з няпраўдай ішлі,
У чым сэрцы сумленне не спіць.

Долю чорную ноч не схавае,
Калі выльецца песня жывая!

Даклад выклікаў сярод гурткоўцаў вялікую цікавасць. Свае погляды Максім адстойваў заўсёды горача і смела. Ён спрачаўся не толькі з аднакласнікамі, але і з выкладчыкамі. Так, напрыклад, на пасяджэннях літаратурнага гуртка ён крытыкаваў і кіраўніка гуртка Парфірыя Іванавіча Мізінава. Парфіры Іванавіч чамусьці не любіў Лермантава. Тлумачыў ён гэта тым, што Лермантаў вёў нястрогі спосаб жыцця, а ў доказ чытаў вытрымку з успамінаў нейкай сучасніцы Лермантава. Максім заўзята спрачаўся з ім, даводзячы, што пры ацэнцы паэта нельга грунтавацца на запісках не зусім аб'ектыўнай жанчыны, што трэба меркаваць пра паэта па яго творах, якія па глыбіні пачуццяў і музычнасці можна параўнаць хіба толькі з творамі Пушкіна.

Гэтыя гарачыя спрэчкі не перашкаджалі прыязным адносінам Мізінава і Белавусава да Максіма Багдановіча. Нават наш айцец Іван, які выкладаў закон божы і не цярпеў пярэчанняў, не адважваўся крычаць на Максіма, калі той, расказваючы пра паходжанне жыцця на зямлі, гаварыў, што тэорыя эвалюцыі супярэчыць біблейскім легендам аб стварэнні Сусвету. На здзіўленне ўсяму класу, айцец Іван прыняў бой і спрабаваў абвергнуць тэорыю эвалюцыі.

Максім быў на год старэйшы за мяне, але выглядаў ён больш стала. На дакладныя навукі ён не звяртаў асаблівай увагі, хоць паспяваў па ўсіх прадметах. Сядзеў Максім на чацвёртай парце, за маёй спіной. Да аднакласнікаў ставіўся пасяброўску, часта памагаў таварышам пісаць сачыненні.

Выгляд у Максіма быў сур'ёзны і засяроджаны. Калі пачынаў гаварыць, твар яго расцвітаў усмешкай. Карэктны і ветлівы, ён умеў іранізаваць, у сваёй кампаніі жартаваў. Самымі бліжэйшымі яго сябрамі ў класе былі гімназісты Дзябольскі, Арлеанскі і Ушакоў.

У нашай гімназіі была лепшая ў горадзе зала. Таму яе часта наймалі ўвечары для канцэртаў. Гімназісты мелі права ўваходу на канцэрт па кантрамарках і слухалі стоячы. На гэтых канцэртах часта прысутнічаў Максім Багдановіч. Ён любіў музыку.

Я цікавіўся прыродазнаўчымі навукамі, Максім — гуманітарнымі. Але, нягледзячы на гэта, мы сябравалі. Ідучы з гімназіі, мы часта гулялі па вуліцах і гу-

тарылі на розныя тэмы. Максім расказваў мне пра рэвалюцыйных дзеячоў, пра погляды Пляханава, пра літаратурныя навінкі. Я інфармаваў яго аб новым у галіне прыродазнаўчых навук.

Але больш цесная дружба звязвала мяне з малодшым братам Максіма — Лёвам, які вучыўся на адзін клас ніжэй за нас з Максімам. З Лёвам збліжалі нас і цікавасць да дакладных навук і любоў да воднага спорту.

У Лёвы не было такой мэтаімкнёнасці, як у Максіма. Таварыскі, жывы, заўзяты весялун, ён быў усеагульным любімцам. У яго былі выключныя здольнасці да матэматычных навук. Задачы, якія з вялікай цяжкасцю рашалі самыя лепшыя вучні, ён заўсёды рашаў жартуючы. Выкладчыкі дакладных навук прарочылі яму вялікую будучыню.

Лёва сябраваў і са мной і з маімі братамі Сяргеем і Дзмітрыем. У нас была шасцівёславая лодка, і мы часта ўчатырох рабілі цікавыя падарожжы па Волзе. Часам выдумлялі свавольныя жарты. Увечары, калі з Яраслаўля адпраўляўся ўверх па цячэнню параход таварыства «Па Волзе», двое з нас забіраліся на сярэднюю палубу, а двое, адплыўшы ўверх па цячэнню, чакалі параход у лодцы. Калі той набліжаўся да лодкі, хлопцы, што былі на палубе, скакалі ў ваду. Аднойчы ў мясцовай газеце з'явілася заметка «Дзіўныя выпадак». У заметцы паведамлялася, што позна ўвечары з парахода кінуліся ў Волгу два чалавекі (відаць зладзеі), іх падабрала лодка, якая хутка знікла. Гэтая заметка прымусіла нас спыніць рызыкоўныя жарты.

У 1911 годзе мы з Максімам скончылі гімназію, а Лёва перайшоў у восьмы клас, і нашы сустрэчы спыніліся. Я паступіў у маскоўскі ўніверсітэт, Максім — у яраслаўскі юрыдычны ліцэй.

З Максімам я сустрэўся пасля гэтага толькі адзін раз. Гэта было ў 1913 ці ў 1914 годзе. Прыехаўшы з Масквы ў Яраслаўль, я сустрэў яго на вуліцы. Максім быў вельмі сумны, відаць, зусім дрэнна сябе адчуваў. І ўсё ж у той час я ніяк не мог думаць, што хвароба так моцна падтачыла Максімава здароўе, што яго не стане ў дваццаць пяць гадоў.

Лёва ў 1912 годзе паступіў у маскоўскі ўніверсітэт. Знік ён з маіх вачэй у часе першай сусветнай вайны. Толькі нядаўна, праз пяцьдзесят гадоў, я даведаўся, што Лёва неўзабаве пасля таго загінуў у віры вайны, што не ўдалося расквітнець яго бліскучаму матэматычнаму таленту.

**Акадэмік Ціхан ГОДНЕЎ.**

**Літаратурны запіс Ніны ВАТАЦЫ.**



## У СТУДЗЕНЬСКІМ НУМАРЫ БУДУЦЬ НАДРУКАВАНЫ знамянальныя даты з гісторыі Савецкай Беларусі

**Георгі БЯГУН**

# АДЗІН ДЗЕНЬ У ТРАСЦЯНЦЫ

### З успамінаў былога вязня

Ноч у мінскай турме прайшла параўнаўча спакойна. На допыты нікога не бралі. Я прачнуўся, бо забразгаў замок. Дзверы адчыніліся. На парозе камеры стаялі паліцэйскія з аўтаматамі.

— Шарэнгай па адным на выхад,— скамандаваў карнік.— Усе рэчы забраць з сабой!

Нас вывелі на двор і загадалі стаць уздоўж сцяны. Карнікі, трымаючы напагатове ўзведзеныя «парабелумы», падышлі бліжэй і пачалі агледаць нашу вопратку, абутак. Раз-пораз чулася каманда:

— Зняць боты!

— Здымай гімнасцёрку!

Маё адзенне яны агледзелі таксама, але нічога не ўзялі — на мне была старызна ў латках. Я заўважыў, што іх больш за ўсё цікавіць форменнае адзенне камандзіраў і салдат Савецкай Арміі. Відаць, гэта былі не простыя марадзёры, а агенты гестапа. Адчувалі свой крах і на ўсякі выпадак прыпасалі чырвонаармейскую форму.

Зноў каманда:

— Шарэнгай па адным у камеру!

У турме мы прабылі нядоўга. Хутка нас пагрузілі ў аўтамашыны з брызентавым верхам і праз увесь горад павезлі кудысьці на ўсход.

Праз невялічкія адтуліны ў брызенце мне была відна Савецкая вуліца, руіны горада, рака Свіслач. Везлі на Магілёўскую шашу. А там жа Трасцянец. Усё зразумела.

Мы апынуліся ў так званай падсобнай гаспадарцы СД. З гэтага логава ніхто не выходзіў жывым. Каля самай агароджы з калючага дроту стаяць кулямёты. Эсэсаўцы трымаюць напагатове зграю аўчарак і паліцэйскіх. Лагернае начальства, прымаючы партыю зняволеных, лічыць іх на галовы, як жывёлу.

Мы выходзім з аўтамашыны. Нас б'юць палкамі і гумавымі шлангамі, а потым заганяюць у доўгі барак, што пад зямлёй. Тут ужо сотні людзей — мужчыны, жанчыны, дзеці. Цэлыя сем'і. У барак прыбываюць усё новыя і новыя вязні з мінскай турмы, гестапа, з асобай паліцыі, лагера палітзняволеных, што на Шырокай вуліцы. На падлозе і нарах — мноства фотакартак і верхняя вопратка вязняў, якіх ужо расстралялі. У бараку шумна: стогнуць хворыя, плачуць дзеці. Многія ўжо некалькі дзён не трымалі нічога ў роце і просяць хоць бы кроплю вады. Але даць няма чаго.



Сувязныя спецгрупы, сёстры — Аня Жаваранак

У падзямеллі мяне пазналі мае таварышы — разведчык Іван Багарэвіч, партызанскія сувязныя сёстры Аня і Каця Жаваранак. У Багарэвіча была выбіта ніжняя сківіца. Ён не мог гаварыць.

У барак прыбывалі ўсё новыя і новыя зняволеныя. Тут я ўпершыню пачуў словы «Лепш памерці стоячы, чым жыць на каленях». Іх сказаў высокі худы чалавек — настаўнік з Барысава. Імя я ўжо не памятаю.

Усе разумелі, што выйсці на волю, уцячы з лагера няма ніякай магчымасці.

Пасля паўдня нам загадалі зняць верхнюю адзежу і застацца толькі ў бялізне. Карнікі падагналі да дзвярэй барака аўтамашыну і загадалі грузіцца, з сабой нічога не браць. Людзі пачалі ціснуцца ў куткі барака. Паліцэйскія з дубінкамі крычалі: «Выходзьце, бо ўсё роўна перастраляем!»

Да аўтамашыны накіраваліся знясіленыя і знявечаныя. Жыццё для іх, мабыць, страціла сэнс і было толькі пакутай.

Хутка мы пачулі стрэлы. Расстрэльвалі не з кулямётаў, не ўсіх адразу, а паасобку, кожнага...

Калі машына вярнулася зноў, ніхто з барака не выходзіў. Тады паліцэйскія пачалі сілай выцягваць людзей, біць нагамі і бічамі.

Напакаваць кожную новую аўтамашыну станавілася для паліцэйскіх усё цяжэй і цяжэй.

і... Каця Жаваранак.



Калі чарговая машына адышла і цяжкія, акаваныя дзверы падзямелля зачыніліся, нехта з вязняў-партызан даволі гучна сказаў: «Ганьба, паміраем, як авечкі... Камуністы, добраахвотнікі, да мяне! Бярыце чаравікі, бутэлькі, дошкі ад нараў, узбройвайцеся чым пападзе. Станавіцеся ў прасценках каля дзвярэй, чакайце маёй каманды».

І калі зноў дзверы адчыніліся, людзі кінуліся на штурм. Гэта быў няроўны і безнадзейны бой. На дапамогу невядомым героям кінуліся і іншыя вязні. Але з дзвярэй ужо застракаталі аўтаматы і кулямёты. Закрычалі параненыя, запахла порахам. Немцы і паліцэйскія абрушылі на людзей шквал куль. Яны некалькі хвілін стралялі ўздоўж барака. Штурм не ўдаўся. Большасць вязняў паплацілася жыццём. Фашысты хутка адкінулі ад дзвярэй забітых і параненых і спешна зачынілі падзямелле.



Іван Багарэвіч — разведчык спецгрупы «Артур».

Івана Багарэвіча раніла ў нагу. Разрыўная куля развярнула яму ступню. Я зацягнуў яго за печ, што стаяла амаль пасярэдзіне барака, і як мог перавязаў рану сарочкай. Кроў лілася, як і раней. Павязка намокла. Ён пасінеў.

— Калі застанешся жывы, раскажы пра ўсё гэта людзям, сыну майму Вадзіму раскажы, таварышам. Я не баюся смерці. Яна ўжо блізка. А ты беражыся, яшчэ, можа, выратуешся... Давай развітаемся.

Мы абняліся. Лежачы побач, я дакрануўся да яго халодных вуснаў. Ён больш не гаварыў, толькі зрэдку стагнаў. З павязкі на падлогу капала кроў. Хутка Іван страціў прытомнасць. Я накрыў яго твар.

Неўзабаве мы пачулі з вуліцы галасы эсэсаўцаў:

— Выходзь, вынось раненых і забітых.

— Пусцім атрутныя газы.

— Не марнуйце дарэмна час.

— Камуністам абяцаем па дзве кулі.

Пагрозы карнікаў ужо не палохалі вязняў. У адказ бразнула шыба ў адзіным акенцы барака. Адарванымі з нараў дошкамі білі ў дзверы, спрабавалі выламаць краты.

Разведчык Іван Мазанік.



Фашысты доўга не адважваліся ўвайсці ў падзямелле. Потым усё на нейкі момант сціхла.

Я адпоўз да тарцовай сцяны, што супраць дзвярэй. Праз невялічкае акенца з моцнымі жалезнымі кратамі быў відзён кавалачак неба з белымі, як вата, воблакамі. Дзень быў сонечны...

«Цікава, якое зараз сонца?..— падумаў я.— Яго я, мабыць, яшчэ ўбачу, калі павядуць на расстрэл. А што можна пажадаць перад смерцю? — пытаўся я сам у сябе і адказваў: — Есці... Не, што яда... Есці я ўжо не хачу, перахацеў».

—Піць!.. О, як хочацца піць. Зараз бы ў Свіслач, халодную-халодную, і піць, піць — да таго часу, пакуль не стане холадна ўнутры... Піць я лепш таксама пацярплю, пачакаю... Паглядзець бы на маці, на маленькую нізенькую хацінку з саламянай страхой і чыста-чыста вымытым га-

начкам, расказаць бы ўсё камісару партызанскага атрада Пятру Аляксандравічу Сачку, землякам, таварышам...»

Думкі мае перапыніў высокі хударлявы чалавек з вострай бародкай. Я дзесьці яго ўжо бачыў. Гэта быў той самы знаёмы настаўнік з Барысава. Ён падпоўз пад нары, лёг на спіну, закінуў рукі пад галаву і аб нечым задумаўся. Вочы яго неяк асабліва гарэлі. Мне здавалася, што яны шкляныя, нічога не бачаць. Я не хацеў перашкаджаць яму і таму вельмі асцярожна спытаў:

— Скажыце, мы яшчэ маем магчымасць памерці стоячы?

Настаўнік не адказаў і па-ранейшаму штосьці думаў. Мне хацелася вывесці яго з халоднага здранцвення, і я прапанаваў:

— Хочаце, пачытаю вам свой верш?

— Гэта цікава... А верш сапраўды твой?

— Камсамольскае, мой. Я склаў яго некалькі дзён назад у турме СД і яшчэ нікому не чытаў.

— Значыць, я — першы слухач, — жартам сказаў настаўнік. — Чытай.

— «Апошняя песня».— Я крыху прыпыніўся, удыхнуў болей паветра і па памяці пачаў чытаць:

Вольная птушка, сястрыца,
Вестачку дай партызанам.
Бачыш — сяджу у цямніцы,
Рукі жалезам скаваны.
Толькі вось думы Рыгора
Нельга скруціць ланцугамі.
Марна так лютуе вораг,
Допыты чыніць начамі.
Як бы ні мучылі каты —
Клятва сяброў нерушыма.
...Сняцца мне родныя хаты,
Сцежкі і зоры Радзімы.

Птушка — галубка, сястрыца,
Хочацца скінуць кайданы.
Дай мне хоць кроплю вадзіцы,
Крыллем абмый мае раны.
Мне ўжо не суджана будзе
Жыць пад праменнямі сонца.
Птушка, паведамі людзям,
Як паміраў камсамолец.
Маці скажы, каб вясною
Дол не шукала маўклівы.
Буду шумець збажынною,
Буйным калоссем на ніве.

Апошнія радкі я ледзь дачытаў — не ставала сілы, не хапала ў грудзях паветра. Настаўнік загаварыў не адразу. Яго вочы ўсё яшчэ доўга глядзелі ўгару, у драўляны насціл нар. Вязні, якія сядзелі і ляжалі побач, таксама маўчалі. Я на нейкае імгненне забыўся пра смерць, пра эсэсаўцаў, пра машыну, якая павінна была прыйсці з хвіліны на хвіліну. Нарэшце барадаты настаўнік глянуў у мой бок:

— Яно так і будзе. На нашых касцях вырасце буйное зерне. Зямля шчодра паліта чалавечай крывёю, і пустазеллю на зямлі гэтай не расці!..

Настаўнік нібы ажыў і дрыжачымі рукамі нешта пачаў шукаць у кішэнях. Дастаў маленькі агрызачак алоўка.

— Вазьмі і запішы верш на сцяне. Толькі назаві яго інакш. Трэба прыдумаць іншую назву.

І ён задумаўся, цярэбячы бародку. У гэты час нехта збоку прапанаваў:

— Назаві «Песняй вязняў Трасцянца».

Настаўнік згадзіўся, кіўнуў галавой.

Я хуценька палез на верхні насціл нар. Аднак месца на сцяне знайшоў не адразу. На ўсіх сценах скрозь былі панапісваны прозвішчы і імёны, адрасы ахвяр гестапаўцаў. За доўгія месяцы існавання лагера тут загінулі дзесяткі тысяч людзей. Кожны, хто ішоў паміраць, хацеў пакінуць аб сабе вестку. Некаторыя, не маючы чым пісаць, выразвалі словы ножыкамі ці шклом ад разбітых бутэлек, бляшанкамі ад кансерваў. Некалькі надпісаў мне запомніліся на ўсё жыццё. Гэта апошнія словы да жывых. Яны як перадсмяротная агонія, як апошні рывок, як боль і ўсмешка чалавека перад смерцю.

---

## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ

**Сяргей ВАКАР** нарадзіўся ў 1928 годзе ў горадзе Оршы. Сваё самастойнае жыццё ён пачынаў токарам у чыгуначным дэпо імя К. Заслонава. Потым паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча, працаваў мастаком-афарміцелем і адначасова вучыўся ў тэатральна-мастацкім інстытуце на аддзяленні скульптуры.

Дыпломная работа — «Максім Багдановіч».

## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ

**Пятро СВЕНТУХОЎСКІ** родам з вёскі Зубачы Высокаўскага раёна. Яму 27 гадоў. Вучыўся спачатку ў Мінскім мастацкім вучылішчы, потым у тэатральна-мастацкім інстытуце, які скончыў сёлета.

Сваю дыпломную работу «Трывога» ён прысвяціў савецкім пагранічнікам.

## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ

**Ігар ГОЛУБЕЎ** нарадзіўся ў 1939 годзе ў гарадскім пасёлку Ліпаўцы на Далёкім Усходзе. Мастацкую адукацыю атрымаў у Мінскім тэатральна-мастацкім інстытуце.

Карціна «Хлеб» — дыпломная работа Ігара Голубева.

## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ

**Яўгену ЯСВІНУ** трыццаць гадоў. Яго радзіма — гарадскі пасёлак Асвея на Віцебшчыне. Скончыўшы Таджыкскае мастацкае вучылішча, ён у 1960 годзе паступіў у Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут, які скончыў сёлета.

«Бежанцы. 1941 год» — дыпломная работа маладога мастака.

## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ

**Іван МІСКО** родам са Слонімшчыны. Ён нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Чамяры.

Скончыў двухгадовыя курсы Усесаюзнага дома народнай творчасці імя Н. Крупскай і Мінскае мастацкае вучылішча. У 1960 годзе паступіў у Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут, які скончыў сёлета.

«Маці-партызанка» — так назваў ён сваю дыпломную работу.

## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ

**Іосіф КАПЕЛЯН** нарадзіўся ў Бабруйску. Яму трыццаць гадоў.

Атрымаў сярэднюю адукацыю ў Ленінградскім мастацка-графічным вучылішчы. Пасля службы ў Савецкай Арміі паступіў у Віцебскі педагагічны інстытут на мастацка-графічны факультэт, а пасля — у Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут, які скончыў сёлета. Станковая серыя «Вайна і дзеці» — дыпломная работа маладога мастака.



Іван МІСКО. Маці-партызанка.

Іосіф КАПЕЛЯН. З серыі «Вайна і дзеці».






Сяргей ВАКАР. Максім Багдановіч.



Пятро СВЕНТУХОЎСКІ. Трывога.

Ігар ГОЛУБЕЎ. Хлеб.





Яўген ЯСВІН. Бежанцы. 1941 год.

«Мы вельмі хацелі жыць, а таму не баяліся смерці».

«Мікалайчык — здраднік». «Памяніце нас помстай ворагу», «Плюю Гітлеру ў рыла».

Надпісы можна было чытаць усюды — на слупах, дошках нар, на бярвеннях столі і нават на падлозе пад нарамі. Вельмі шмат слоў было прысвечана Радзіме, Камуністычнай партыі. Пад кожным такім надпісам сталі прозвішчы і імёны. Гэта былі імёны камуністаў і беспартыйных — камандзіраў Чырвонай Арміі, партызан, разведчыкаў, сувязных. Подпісы былі на рускай, беларускай, польскай, нямецкай, яўрэйскай і іншых мовах. Гэта быў незвычайны летапіс, быль з дзесяткамі тысяч сапраўдных невядомых герояў.

Не паспеў я дапісаць на сцяне апошнія радкі, як у барак зноў уварваліся карнікі. Я хуценька прыкрыўся чужой вопраткай. У галаве была толькі адна думка, адно жаданне — утрымацца да наступнага рэйсу і дапісаць песню. Мне здавалася, што гэта адзінае, што я магу зрабіць зараз для таварышаў па клятве, для землякоў, для ўсіх добрых людзей. Мне здавалася, што гэтыя радкі часцінка маёй істоты, майго жыцця, што я ўжо не маю права пакінуць іх незакончанымі. І я чакаў, стаіўшы дыханне. А эсэсаўцы заганялі ў машыну ўсё новыя і новыя ахвяры. Свісталі бізуны, крычалі дзеці і жанчыны. Аўчаркі цягнулі з-пад нараў маці з дзвюма дзяўчынкамі. Кожнага, хто аказваў хоць нязначнае супраціўленне, дабівалі на месцы. Ад моцных удараў жалязякамі па галаве людзі трацілі прытомнасць, і тады іх цягнулі за ногі праз увесь барак, усцягвалі на аўтамашыну.

Як бы на развітанне, хтосьці гучна прагаварыў:

— Не, магчымасць памерці стоячы яшчэ не страчана! Людзі, памірайце стоячы...

Апошнія словы чалавек не дагаварыў. Голас яго абарваўся. Моцны ўдар, мабыць, збіў яго з ног. Ён глуха застагнаў, але ўсё ж кінуў у твар карніку:

— У кожнай справе кемлівасць мецъ трэба, белагрывы. Даб'еш тут — цягнуць прыйдзецца. Давай лепш пайду сам.

Я не вытрымаў, скінуў з галавы лахманы і прыўзняўся на локаць, каб убачыць мужнага чалавека. Гэта быў барысаўчанін. Толькі голас у яго цяпер быў на дзіва моцны. Сабраў астатнія сілы і, не спяшаючыся, пайшоў да дзвярэй. Паліцэйскі раз-пораз штурхаў яго ў спіну. Падняцца ў кузаў настаўнік ужо не змог. Карнікі закінулі яго туды.

Дзверы падзямелля зноў зачыніліся, і я пачаў дапісваць апошнія словы песні. Хімічны алоўак я ўвесь час змочваў слінаю, а тут перасохла ў роце. Пад апошнімі радкамі паставіў сваё імя і прозвішча, зрабіў прыпіску: «Разам са мною расстраляны Іван Багарэвіч, сёстры Аня і Каця Жаваранак, Мазанік, Вечар і яшчэ некалькі чалавек з групы Артура. Мы памерлі стоячы. Сарокінцы, адпомсціце за нас гадам! Мама, не плач!..»

Цяпер я быў напагатове. Адкінуў агрызак алоўка і злез з нар. У бараку яшчэ было дзесяць чалавек, сярод іх і сёстры Жаваранак. Яны ўжо, мабыць, таксама змірыліся з думкай аб смерці і сядзелі на нарах абыякава спакойна. Я падышоў да іх развітацца. Яны абнялі мяне, як брата. У Каці на вачах паказаліся буйныя слязінкі. Але яна перамагла сябе — змахнула іх рукой. І першай загаварыла:

— Кажуць, калі жывым ці раненым у яму ўпасці, можна потым выратавацца.

— Усё можа быць, — згадзіўся я і чамусьці толькі цяпер убачыў, як жудасна скалечана была Аня. Праз увесь яе твар праходзіў сінявата-чорны шрам. Пераносіца была пераломана, нос падпух. Яна адчула мой позірк і апусціла галаву.



— Гэта Алферчык яе так... гумай. Вока выцекла... Зубы пярэднія выбіў, — растлумачыла Каця.

— Можа выратуешся, сына Жэньку пацалуй за мяне і тату Паўла, — папрасіла Аня.

А я ў сваю чаргу прасіў іх, калі выпадкова застанецца хто жывы, схадзіць у вёску Пярэжыр да маёй мамы Антаніды Бегуніхі, прасіў расказаць пра ўсё камандзіру разведчыкаў Мікалаю Філановічу.

Хутка мы развіталіся. Мне хацелася яшчэ раз глянуць на Багарэвіча, і я ступіў за печ, дзе пакінуў яго. Багарэвіча ўжо там не было. Па вялікай пляме крыві каля дзвярэй я зразумеў, што яго выцягнулі эсэсаўцы.

Прысеў на нары, абвёў вачыма барак, кучу адзення, фотакарткі, што валяліся каля маіх ног, глянуў на ўласныя ногі. Чаравікаў не было. Успомніў, што імі кідаў на карнікаў у часе штурму. Цяпер скінуў з ног парваныя шкарпэткі. Хацелася яшчэ раз прайсці па зямлі босым, як калісьці, адчуць яе цеплыню. Ямчэй заправіў у штаны абарваную сарочку, маленькім грабеньчыкам прычасаў валасы. Да смерці заставалася некалькі хвілін.

Думкі раяцца, як пчолы, бліскаюць, як маланкі. Шкада, што іх нельга перадаваць на адлегласць. Можа калі-небудзь людзі навучацца рабіць і гэта.

Быццам у сне ці якім забыцці, перад вачыма паўстала дзяцінства. Вось, здаецца, хаваюць майго бацьку. За труной ідзе натоўп людзей. Уперадзе нясуць чырвоны сцяг з залатымі вензялямі. Потым труну паставілі на земляны грудок. Хтосьці гаворыць прамову. А дождж буйны-буйны. Дзядзька Кастусь укрывае мяне і брата Толіка чырвоным сцягам, каб не прамоклі. «Як жа мы будзем жыць цяпер без яго?» — галосіць маці...

А вось яна чамусьці і не плача, а, наадварот, спявае. Маці сядзіць за старой «зінгераўскай» машынай і шые мне нейкую напратку. У хаце холадна. На малюсенькіх шыбах у нашай хатцы намёрз лёд. Я дыхаю, каб зрабіць праталінку, і слухаю матчын спеў. Голас у яе такі прыемны, пявучы, і песня цікавая — пра катаржаніна Ланцава.

— Адыдзі ад акна — шыбу выціснеш, — папярэджвае маці.

— Не выцісну... Я толькі пагляджу, што на дварэ робіцца.

— А што там... Мяцеліца... Чуеш, як у коміне вые.

Я саджуся на шырачэзную лаву бліжэй да мамы і пытаюся:

— А далей з ім што было?

— З кім гэта ім?.. Ты аб чым?

— З Ланцавым. Ён уцёк з турмы?

— А ты сядзі і слухай.

Мама спявае зноў. У песні расказваецца пра адважнага катаржаніна, аб тым, як ён, не дачакаўшыся начной паверкі, адважваецца ўцякаць. Ён бурыць печ, вылазіць на паддашак, апускаецца па канатах, асцярожна праходзіць каля вартаўнікоў, якія спяць.

«Адважны быў чалавек», — думаю я.

І вось усё знікла, нібы сон. Я зноў у бараку. Толькі вочы мае чамусьці спыніліся на печах. Яны стаяць каля сцяны злева, падобныя да звычайных стаякоў у сялянскіх хатах. У мяне мільганула думка, што яны могуць мяне выратаваць. У адзін міг апынуўся на верхніх нарах, агледзеўся... Вышыня — каля двух з палавінай метраў. З аднаго боку сцяна, з двух іншых — печы. Чым бы засланіцца? Бачу каля сцяны ляжыць перакулены услон. Толькі б паспець, толькі б не ўварваліся карнікі.

Саскокваю ўніз, хапаю ўслон, агладаюся ў бакі. Барак нібы пусты. Вязні пахаваліся пад нары. Зноў узбіраюся наверх, скручваюся ў клубок і закрываю сябе ўслонам. Рукі дрыжаць, у галаве адна думка: «Трэба жыць... жыць... дзеля ўсіх, дзеля праўды, дзеля помсты».



Так выглядаў аўтар гэтых запісак, калі вырваўся з лагера ў 1944 г.

І вось зноў ужо знаёмы бразгат дзвярэй. Зноў урываюцца аўчаркі і эсэсаўцы. Зноў засвісталі бізуны. Зноў плач, праклёны, стогн. Нехта па-вар'яцку рагоча. Некалькі галасоў падхапілі песню. Паліцэйскія прашываюць з аўтаматаў кучы адзення. Цяпер яны асмялелі — вязняў мала. Нібы раз'юшаны звяруга, крычыць каля выхаду галоўны кат:

— Шнэль!.. Шнэль!.. Шнэль!..

Усё часцей чутны воклічы:

— Дойдзе і да вас чарга, гады!

— Страляй, кат, толькі не прамаж, бо рукі дрыжаць...

— Усіх не перастраляеце!..

І пасля кожнага воклічу стрэлы, стрэлы...

Потым галасы пачалі аддаляцца. Пайшлі на смерць апошнія вязні. Яшчэ хвіліна, і каваныя дзверы зноў зачыніліся. Рукі здранцвелі ці ад холаду, ці ад таго, што я трымаю ўслон з усёй моцы. Чуваць як стукае ў грудзях сэрца.

Праходзіць гадзіна ці больш. Хутка павінен быць вечар. Я ляжу, баюся варухнуцца. У галаве шуміць... Здаецца, звоняць званы, спяваюць птушкі, цурчыць вада. Перад вачыма лятаюць ластаўкі, толькі не чорныя з белай грудкай, а рознакаляровыя — чырвоныя, зялёныя, блакітныя і шчабечуць яны неяк незвычайна — завываюць. Няўжо гэта праўда? А можа я звар'яцеў? Гэтага не можа быць... Я добра ўсё бачу. Вось мая рука, а вось печ... Не, я яшчэ не звар'яцеў. Хутчэй бы ноч, цемра. Трэба абавязкова выжыць, трэба дабрацца да сваіх.

Ачнуўся я толькі ноччу. Некалькі гадзін патраціў на тое, каб разламаць дымаход, вылезці з барака, прабіцца праз агароджу з калючага дроту.

Пакуль занялася зара, ужо быў каля вёскі Новы Двор. Па ўсіх дарогах уцякалі гітлераўцы.

Праз два дні я дабраўся да родных мясцін на Рудзеншчыне, да сваіх баявых таварышаў па атраду імя Калініна. Як баец спецыяльнай партызанскай групы «Артур», якой камандаваў Мікалай Філановіч, я ўдзельнічаў у знішчэнні варожых групіровак, што прарываліся з мінскага «катла».

Пасля цяжкіх баёў наш атрад увайшоў у вызваленую сталіцу Беларусі. Хутка з газет я даведаўся аб трагічнай гісторыі Міколы Валахановіча. Ён цудам застаўся жывы. Куля эсэсаўца прашыла Міколу якраз у той момант, калі ён выкрыкнуў праклянцце карнікам. Мікола ўпаў на акрываўленыя целы расстраляных. Куля прайшла за вухам і выйшла крыху ніжэй вока. Заліты крывёю, Мікола страціў прытомнасць. Ноччу ён, знясілены, выпаўз з хлява. Некалькі дзён без вады і ежы хаваўся ў жыце. Добрыя людзі памаглі яму.

Мы ніколі не забудзем трагедыю Трасцянца, дзе палягло больш за дзвесце тысяч бязвінных людзей. Попел Трасцянца будзе вечна стукаць у нашы сэрцы, поўніць іх гневам супроць тых, хто заліў крывёю нашу родную Беларусь, супроць ворагаў міру.

Дзень сённяшні — дзень заўтрашні

# ЛЕСНІКІ - ЛЕСАВІКІ

**Нарыс**



Мікалай Ліс — гаспадар у сваім абходзе.

Кажуць, што яны павяліся ад дзеда. А можа яшчэ даўней, ад пятага калена, калі кругом былі дрымучыя лясы, а леснікоў, можа, зусім не ведалі.

Першага ў сям'і Лісоў, Сцяпана Іосіфавіча, які заснаваў гэтую дынастыю, і сёння добра памятаюць у Гасцілавічах, Дабрыні, Лагойску. Дзядзька Стафан вартаваў лес графа Тышкевіча і быў у яго за егера-праваднікa, калі графская кавалькада выязджала на паляванне.

«Строгі быў ляснік, але справядлівы, за беднага чалавека ўмеў заступіцца», — такога помняць Стафана. І пасля таго як у кастрычніку 1917 года ачышчальная бура здзьмула Тышкевіча і яго хэўру, савецкая ўлада даверыла Сцяпану Лісу сваё вялікае багацце — лясы.

Потым, калі сілы падбіліся, яго месца заняў сын Стась, які з маленства прыахвоціўся да лясной справы. Бацькавы сцежкі ў лесе сыну былі добра знаёмыя, бацькава леснічоўства прыйшлося па душы, і ўжо блізка перад вайною Станіслаў Сцяпанавіч Ліс набыў славу лепшага лесавода.

...На палянцы, акружанай з усіх бакоў баравымі соснамі, стаяла іх леснічоўка. Хата-пяцісценка. Пры хаце клуня. Пчольнік. Уводдалі груша-дзічка, а побач студня з цыбатым жураўлём. У студні вада халодная, нават у летнюю спёку.

Калі былы ляснік стаў проста дзедам Стафанам, то меў звычку пасядзець пад той грушай, забаўляючы ўнукаў лесніковскімі прыгодамі.

— І я буду, як вырасту, лесавіком, — лашчыўся да дзеда меншы, Міколка.

— Во малайчына, — хваліў дзед унучка і лагодна пагладжваў вусы: — З Лісоў пайшлі леснікі. І не выведуцца!

Мікола рос на ўлонні прыроды, у суседстве з вячыстым борам. Ён любіў сваю леснічоўку. Каб не навала-вайна, то можа і цяпер стаяла б тая іх пяцісценка, і сёння не журылася б адна ў асенняй мядзвянасці любімая груша-дзічка, што засталася на палянцы.

Фашысты ў першы год вайны,

на прадлецці, завіталі «з візітам» у леснічоўку. Усё, што папалася пад руку, забралі, а над застрэшша пусцілі чырвонага пеўня. Стаіўшыся ў гушчары, Мікола бачыў, як салдаты туляліся каля хаты, аж пакуль добра не ўгарэліся крыжакі-бярвенні. Ляснік з сям'ёю перабраўся ў Гасцілавічы, але і там яму не было спакою. Яго вінавацілі, што трымае сувязь з «ляснымі бандытамі».

Як толькі Савецкая Армія вытурыла акупантаў з роднай Лагойшчыны, Станіслаў Сцяпанавіч вярнуўся на ранейшую пасаду. Пасля вайны людзям патрэбна было жыллё, і кожны стараўся як мага хутчэй адбудавацца. Хто з дазволам, а хто і так, усе, здалёк і зблізку, рынуліся ў лес. З пілою і сякерай чалавек пагражаў лясным дзялянкам, і лесніку нялёгка было справіцца з парубшчыкамі. Станіслаў Сцяпанавіч цвёрда стаяў на варце народнага багацця. «У Ліса не ўхопіш,— пайшла палалоска па вёсках.— А калі і ўхопіш, то не схаваеш: з зямлі дастане...»

Ішлі ў клопатах дні. Канчалася лета, надыходзіла восень, і непрыкметна гаспадыняй на баравых абшарах станавілася зіма. А тады на крылах цёплых вятроў прыляцела зялёная чараўніца-вясна, і лясы першыя дружна адгукаліся на яе малады покліч. На вачах прачынаўся, маладзеў стары бор.

Звычайна на досвітку, калі яшчэ няма сонца, а толькі адчуваецца яго блізкасць, у гушчары гарэзнічае рознае птаства. Яшчэ хвіліна, і наваколле поўніцца разнамаітым птушыным спевам. А як праз вяршаліны соснаў працэдзяцца ніткі-промні і на іглiцы заварушацца рыжыя сонечныя плямы, на прыгрэве між старога пашэрхлага лісця можна ўбачыць, як выскоквае сон-трава...

Станіслаў Сцяпанавіч мог гадзінамі стаяць і, нібы зачараваны, слухаць шолахі лесу, бо ў іх лясныя радасці і трывогі. І сына свайго Міколу часта браў з сабою і спыняў яго ў самых нечаканых месцах, раскрываючы перад ім таямніцы ляснога свету.

— Глядзі, вунь тая, небарака, пэўна, хворая,— бацька паказваў на стройную сасну.— Бачыш, у яе рэдкаватая іглiца на вяршыні. А ўсё ад таго, што побач во тая вілаватая бярозка, яна адбірае ў яе сокі... А на той, глядзі, кара зашурпацілася... Каб хаця караед не ўбіўся.

На даўніх расцяробах яшчэ перад той вайною Сцяпан Ліс сваімі рукамі пасадзіў сасонкі. Яны добра прыжыліся і разрасліся, узняўшыся адна над другою. Наведваючыся ў гэты барок, Стась, як бы між іншым, гаварыў свайму сыну:

— Во як станеш на ногі, можа заменіш мяне... То беражы сасонкі гэтыя. Дзедава памяць!..

Мікола моўчкі ківаў галавою. І неяк нечакана, магчыма першы раз, так пільна паглядзеў на бацьку і заўважыў, што ў яго бы інеем прыхапіла скроні і вакол вачэй столькі маршчынак... Відаць, старэе бацька. Але той ішоў лёгка, спорнымі крокамі, і сын супакоіўся.

Праз год з Нівак, дзе пасля вайны Станіслаў Сцяпанавіч пабудаваў сабе новы дом, Міколу ўсёй калгаснай брыгадай праводзілі на вайсковую службу. А яшчэ праз два гады, вярнуўшыся дадому, Мікола ажаніўся і прыняў бацькаў абход, бо старому было ўжо за шэсцьдзесят — пенсійны ўзрост.

Хлопцу, як гаварылі ў лясніцтве, дасталася багатая спадчына. У бацькавым абходзе налічвалася звыш тысячы гектараў лесу. Ды які лес! Сосны вяршалінамі дастаюць хмары. Елкі таўшчынёю ў абхват. Бярозы. Дубы. Вольхі. Угару зірнеш — шапка валіцца...

Ахоплены парывам дзеяння, Мікола гарачыўся, хапаўся за ўсё адразу, але не паспяваў усюды сам, і, вядома, у яго не атрымлівалася так, як хацелася б, і ад гэтага брала злосць на сябе, на сваю бездапаможнасць.

Набліжалася зіма. А з ёю новыя клопаты — трэба было паспець і на дзялянкі, дзе працавалі лесарубы, і забяспечыць надзейную ахову ўсяму абходу.

Новы ляснік прыходзіў дадому позна, маўклівы, хмурны. Часта, перакусіўшы, моўчкі збіраўся і, паклікаўшы дружка-сабаку, гародамі, напрасткі шыбаваў на пагорак, за якім сінела знаёмая зубчастая паласа. Адчыняў хату познім раннем, калі ўжо і сняданак на прыпечку паспеў астыць.

Вядома, можна было б пагаварыць са старым, папрасіць рады, але чамусьці не хацелася — думаў, што сам разбярэцца. Ды тут бацька сам здагадаўся.

— Бачу я, нешта ты, хлопча, нудзішся,— налучыўшы момант, калі сын быў у добрым настроі, загаварыў Станіслаў Сцяпанавіч.— Ад бацькі не хавайся. Давай лепш расказвай усё, як ёсць. Памяркуем, падумаем разам. Гуртам, як кажуць, яно спадручней...

— Ды ў мяне ўсё як быццам бы добра,— спачатку аднекваўся Мікола. Потым усё ж прызнаўся, што запарыўся — ніяк не можа падрыхтавацца да прамысловай рубкі, і наогул крыху разгубіўся. А тут яшчэ адна непрыемная навіна. Побач, у суседнім абходзе, ляснік, які застаў парубшчыкаўбраканьераў, ледзь не паплаціўся жыццём. Куля, пушчаная з засады, трапіла ў каня, на якім ехаў ляснік.

— Што ж, бывае і такое, на жаль,— сказаў бацька, задумаўшыся.— Такая наша леснікоўская доля. Але, як той казаў, ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць. Давай падумаем, як справе памагчы. Мусіць, я з табою заўтра пайду...

І яшчэ не раз і не два хадзіў Станіслаў Сцяпанавіч знаёмымі сцежкамі-пуцявінамі, паказваючы свайму заступніку, здавалася б, самыя простыя рэчы, пакуль не ўпэўніўся, што той цвёрда стаяў на ляснoй глебе.

Што мы ведаем пра лес? Напэўна, не больш таго, што ў ім растуць дрэвы. Можам назваць некалькі парод. Ды яшчэ, што ў лесе ёсць ягады, грыбы. І жывуць у лясной глушы звяры. А пра тое, чым жыве лес, якія яго жыццёвыя турботы, мы не надта думаем.

Мікола, як некалі і яго бацька, а раней і дзед, спаважнымі крокамі мерае лясныя абшары. Ідзе спакваля, не спяшаючыся, здаецца, абыякавы да ўсяго, што навакол. Але гэта толькі здаецца. Ад яго вострага вока не схаваецца ні адна драбніца, яго вуха чуйнае — уловіць кожны гук. Ён лёгка чытае лясныя шолахі, удала разбірае лясныя галасы.



**І дзеці Мікалаю памочнікі.**

Збоч дарогі — траля, на выспе гурт сосен. Яны, як казачныя прыгажуні, у залатых сарафанах, а вяршыні-галовы пад зялёнымі парасонамі. Ціха пагойдваюцца, нібы вітаюцца з леснікам.

Мікола спыніўся, задраў галаву, нібы чаго шукаючы вачыма ў вяршалінах, потым павёў позіркам па ствалах і спыніўся на мурашніку, што каптурыкам узвышаўся між дрэў. Капянуў той мурашнік, а пад ім свежы пень — злодзей так хітра замаскаваў свае сляды. Прыгледзеўся, і на дарожцы след знайшоўся, павёў да таго, хто спілоў сасонку.

Тое было даўнавата. Цяпер у Міколы няма самавольных парубак. Можа за год калі набярэцца якіх «кубоў» пяць-шэсць — дык гэта на ўвесь абход, а ён раскінуўся на пяцьсот трыццаць гектараў.

Галоўнае, каб парадак быў у лесе. Гаспадарка патрабуе любві і старання. І тут многае залежыць ад лесніка. Работы яму хапае. Не

так проста зрабіць па ўсіх правілах рубку-ачыстку, прарэджванне, асвятленне лясных плошчаў. А потым жа — падсочка, расцяробы, падрыхтоўка глебы, пасадка, догляд насеннікаў, ахова лесу ад пажару, барацьба са шкоднікамі...

Як толькі надыходзіць вясна, ляснік усе дні, зранку і да вечара, у лесе. З аднымі супрацьпажарнымі палосамі колькі марокі — іх пільнуй і пільнуй, каб не зарасталі травою, не завальваліся ламаччам. Вясною робіцца і рубкаачыстка, а таксама прарэджванне падлеску. Людзей трэба сабраць, даць ім параду. Часта і сам ляснік бярэ ў рукі сякеру ці рыдлёўку.

Праўда, улетку ў лесніка ёсць памочнікі — школьнікі. Гэта яго актыў. Толькі, канечне, з імі трэба падружыцца. Даць такі занятак, каб быў ім па душы. У вёсках такіх хлапчукоў, што лес любяць, больш за ўсё. Ды што далёка хадзіць па прыклады! У Міколы ў самога трое такіх. Як толькі ўбачыць каторы, што збіраешся ў абход, адразу ўсё кідае і кулём ляціць з крыкам: «Тата, і я з табой!» Нават меншы, Ігар-белагаловік, якому толькі пяць гадкоў, калі не возьмеш, то і сам дагоніць: ведае дарогу.

Здаецца, гады чатыры таму ўжо, *як у лясніцтве заклалі свой* лесагадавальнік. Спачатку засеялі сотак дваццаць, а цяпер яго плошча — поўны гектар. Афіцыйна за гадавальнік адказвае ляснік — сусед Міхась Мытнік, але Міколу там можна ўбачыць часцей, чым гаспадара.

Хіба можа такі чалавек, як Мікола, спакойна глядзець, як гэтыя кволыя, на дзесятак іголачак хвойкі глушацца травою! Як такія ж малечы-клёнікі ў спёку смагнуць без вільгаці.

— Я спакойны за гадавальнік, — гаворыць інжынер па ахове лесу Уладзімір Гайшун. — Калі чаго не дагледзіць Мытнік, то яго падштурхне Мікола. Гэта прыроджаны лесавік. Проста карэннем прырос да лесу. Моцна прырос, не адарвеш!

І гэтае лета Мікола працаваў у гадавальніку, не разгінаючы спіну. І памочнікаў сваіх здзіўляў увішнасцю. А іх было не мала: Тамара Кудрэвіч, Зіна Клюйка з Дабрынёў, Валя Федаровіч з Гасцілавіч... Гэта дзяўчаткі, якіх ляснік называе ўдарніцамі.

Яшчэ адзін важны клопат ёсць у гаспадара зялёных абшараў — гэта ахова жыхароў лесу. Ёсць селішчы дзікоў, ласёў. Іншы раз можна сустрэцца з касуляй, аленем... Разнастайнае царства птушак.

Зімою, і асабліва пад вясну, у лясных жыхароў настае бяскорміца. У пошуках ежы крыжуюць сцежкі ласі, з гушчарніку сем'ямі выбягаюць дзікі... І знаходзяць дарункі грамадскага егера Міколы. Нават ласі адважваюцца падысці да кармушак, у якія егер не забудзе падкінуць сена.

Нездарма абход Міколы Ліса з'яўляецца ўзорным. Пра гэта ведаюць браканьеры і далей трымаюцца ад ягонага абходу.

Мы з Міколам увесь дзень прабылі на лясных кварталах. Выдаўся быў той дзень на дзіва сонечны, ясны — сапраўднае «бабіна лета».

Чараўніком-казачнікам выдаваў лес, увесь пранізаны ласкавым асеннім сонцам. У ліловай смузе велічна пасталі пазалочаныя сосны. Высокія, статныя елкі, абха*піўшыся галінкамі*, выглядалі, *як* маладзіцы-суседкі на вяселлі. Яркая зеляніна хвойніку асабліва падкрэслівалася жаўцізною бяроз і клёнаў. Здавалася, што гэта на зялёных хвалях трапечуцца залатыя ветразі. Заравам успыхнулі асіны. Толькі дубы-асілкі не жаўцеюць, у задуме звесілі свае грывастыя чубы...

Мікола, удала рулюючы на сваім ветэране-іжы, часта спыняецца, каб паказаць яшчэ які-небудзь абразок з лясной кнігі.

— Дрэва жыве даўжэй, чым чалавек, — усміхаецца Мікола і чамусьці чырванее, ад гэтага яго абветраны твар здаецца зусім юначым. — Во дзеда даўно ўжо няма, а ягоныя сямідзесяцігадовыя сасонкі яшчэ зусім маладыя...

Мы былі ў тым бары-квартале, што пасадзіў некалі дзед. Сосны, гонкія і роўныя, як свечкі. Адна ў адну. Пры камлі сантыметраў па трыццаць. А ім па семдзесят год. Колькі ж трэба часу, каб гэтыя сосны сталі такія, як іх суседкі, што побач праз дарогу!



**Ахова лесу — гэта клопат і інжынера Уладзіміра Гайшуна з Лагойскага лесгаса.**

У дзевятым квартале мы агледалі лес, пасаджаны Лісам-малодшым. Купчастыя сасонкі, шызыя і блішчастыя ад сонца, здаля падобныя на копы атавы, пастаўленыя густа, адна пры адной. Гэта насеннікі — леснікова гордасць. Тут асаблівы парадак, чысціня. Дагледжана кожнае дрэўца.

— Растуць, кусцяцца, — задаволена гаворыць Мікола, пяшчотна пагладжваючы аксамітныя мяцёлкі іголіцы, і тут жа перапыняе сябе: — Мусіць, яшчэ трэба зрабіць прарэджванне. Шкада, а трэба. Сасна-насенніца трэба каб расла ўшыркі, больш будзе шышак!..

Праязджалі каля бору, дзе кожная сасна як абхапіць рукамі. На баках знакі пілкі-падсочніцы, і латочкі-конаўкі, напоўненыя церпкай жывіцай. Мікола заглушыў матацыкл і пачаў расказваць пра сакрэты падсочкі, пра тое, што ў гэтай справе патрэбна асаблівае ўменне.

— Дрэва можна загубіць у адно лета, калі няўмела будзеш падсочваць, — гаварыў ён, паказваючы на сосны з меткамі-елачкамі. — А можна і жывіцы мецць колькі трэба — і дрэва будзе здаровае, калі ўсё зробіш па-гаспадарску...

Пры сустрэчы ў гадавальніку з другім леснікам, які даглядае суседні з Міколавым абход, давялося пераканацца, што можна быць проста леснікам і леснікам па прызванню. І гэты ляснік ходзіць тымі ж пуцявінамі, што і Мікола, слухае тыя ж галасы, але яны, мусіць, не ўліваюцца ў яго душу чароўнай музыкай.

— Каб было куды падацца, то і сёння кінуў бы абход, — шчыра прызнаўся ён, калі мы гутарылі. — На смалакурні было спакайней: падкінуў у печ карчы і — сядзі сабе...

Мікола слухаў, як скардзіўся на сваю неспакойную пасаду сусед, і маўчаў, прыхаваўшы сумную ўсмешку. Мне здаецца, што ён думаў: «А я без лесу не магу. Няхай бы мне і не плацілі зусім. А ў лес я хадзіў бы, слухаў бы салаўёў на досвецці і глядзеў бы, як пасуцца ласі на глухіх лугавінках, і ноч прасядзеў бы, падпільноўваючы цецерукоў...»

Мы прыехалі ў Ніўкі прыцемкам. Мікола па-гаспадарску агледзеў матацыкл і стомлена прысеў на ганку. Яму насустрач беглі хлапчукі — тры сыны.

— Мае памочнікі... — скупа ўс-

міхнуўся Мікола і зноў перавёў гаворку на тое, што яшчэ шмат у яго спраў у лесе, што хутка паляўнічы сезон пачнецца, так што яму спачыну не будзе.— Вось толькі наш стары крыху занядужаў, у бальніцу адвёз яго,— уздыхнуў Мікола.— Але, думаю, хутка папраўіцца. Яшчэ з ім паходзім на зайцоў. Няхай толькі сняжок выпадзе, пароша засеецца...

— А пчолы, мусіць, бацька глядзіць?— заўважыўшы пчаліныя домікі, якімі быў застаўлены ўвесь гародчык, спытаў я ў гаспадара.

— Так, гэта ўсё бацькава работа. Пчаляр ён заядлы, як і паляўнічы,— гаварыў Мікола з павагай.— Мо ад дзеда гэта, і той быў пчаляр ого які! Лясных пчол прыручаў...

— I сам, можа, ля пчол уходжваешся?

— Ды, як сказаць, памагаю бацьку. I мне гэты занятак не цяжкі...

Ужо ўключылі святло, і хлапчукі, падсілкаваўшыся, уселіся ля тэлевізара, калі прыйшла Лідзія Цярэнцеўна. Здзівілася, што муж дома: звычайна ў той час, калі яна прыходзіць з брыгады (яна— аграном, брыгадзірствуе ў Ніўках), то Мікола яшчэ недзе на дзялянках.

— Мы з ім не дужа часта бачымся,— засмяялася яна і тым жа тонам дадала:— А мо гэта і лепш, сварымся менш.

Адчувалася, што і жонцы па душы той неспакой, тыя клопаты, якімі напоўнена леснікова сэрца.

Лідзія Цярэнцеўна расказвала свае навіны, згаджалася, што трэба памагчы лесніку, пакуль не захаладала, выкапаць бульбу на расцяробах, якую пасадзілі на падкормку лясным жыхарам.

— Дык што ж вы тут сумуеце?— спахапілася яна. I да бабулі— Міколавай маці, што поркалася ў мыцельніку:— Маці, пашукайце нам чаго на вячэру...

...Лісы— леснікі. Лесавікі. Моцная лясная парода.

**Сцяпан КУХАРАЎ.**

Фота **С. Чырэшкіна.**

З дзённіка студэнта

# СЕМЕСТР БРАТЭРСТВА

Як сябры між сяброў, адчувалі сябе чэхаславацкія студэнты ў саўгасе «Чырвоная зорка». Камандзір атрада Карэл Відэман крайні злева.



«Ты ляці, ляці, мая машына...» Песня праз вокны рвецца з вагона. I раптам цішыня. Толькі колы на стыках рэек выстукваюць: «Ты ляці, ляці...»

— Хлопчыкі, гэта ж — граніца!..

Паласа свежа ўзараная, пабаранаваная. Глядзім назад, пакуль яна не знікае з вачэй. Да пабачэння, Радзіма! Да хуткай сустрэчы, Мінск!

Чэхаславакія — краіна, дзе пераважаюць узвышшы і сярэдняй вышыні горы. Гэта мы ведаем з падручнікаў па геаграфіі. Па фільмах, газетах, часопісах і расказах турыстаў мы добра знаёмы з гістарычнымі помнікамі гэтай краіны. Ведаем аб поспехах нашых сяброў у развіцці прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

I толькі аднаго мы не ведаем: ці справімся, ці апраўдаем давер'е сваіх таварышаў?

Мы — гэта трыццаць студэнтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. I. Леніна. Першаадкрывальнікі...

Што мы адкрываем? Цаліну. Так, чэхаславацкую цаліну. Для будучых беларускіх студэнцкіх атрадаў. Наш шлях ляжыць праз Карпаты, Татры ў раён Карлавых Вар, дзе, па дамоўленасці з Пльзеньскай вышэйшай электратэхнічнай школай, і павінен прайсці наш трэці працоўны семестр.

Потым нас чакалі турысцкія сцежкі Татраў, гарады Пльзень, Прага, Брно, Браціслава... Мы рыхтаваліся да сустрэч з працоўнымі Чэхаславакіі, і перш-наперш з моладдзю. Усё гэта ўваходзіла ў другую частку нашай праграмы.

У гэты ж час семнаццаць чэхаславацкіх студэнтаў з Пльзеньскай вышэйшай электратэхнічнай школы спяшаліся да сустрэчы з беларускай зямлёй. Саўгас «Чырвоная зорка», што ў Клецкім раёне, цёпла прыняў сваіх сяброў. З гасцямі прыехала ў саўгас і група студэнтаў з Мінска.

За час сумеснай работы на будаўніцтве 16-кватэрнага дома і на іншых гаспадарчых работах юнакі і дзяўчаты абедзвюх краін пасябравалі, звыкліся. Паміж імі, як гавораць самі студэнты, устанавіліся самыя сяброўскія адносі-



На пачатку было знаёмства з дырэктарам дзяржаўнай гаспадаркі Іосіфам Ганам (першы справа).

Фота **Т. Галынкі і С. Супруна.**



І дзяўчаты не адставалі ад хлопцаў.

Фота аўтара.

У часе перакуру цікава было паслухаць чэхаславацкага воіна Здэнака Прожака.



Сустрэча з «той самай» камандай «Нафтавікоў», у якой нашы беларускія студэнты-кавээншчыкі выйгралі два ачкі. Слава Харчанка — іх капітан. Ён спяваў песні. Разам з мінчанамі, адэсітамі, казанцамі... Мы сустрэліся з польскімі, нямецкімі студэнтамі. Гаварылі аб жыцці. Былі аднадушныя ў асуджэнні амерыканскай агрэсіі ў В'етнаме.

Праводзіла нас гасцінная Браціслава. Пераліваўся хвалямі, развітваючыся, Дунай.

**21 жніўня. Тая ж пагранічная палаца. Дзень добры, Радзіма! Мы вярнуліся дадому. Як добра дома!**

**Леанід ЗДАНОВІЧ,**
**студэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.**

# ЧАЛАВЕК СЯРОД ЛЮДЗЕЙ

Мы жывём у такі час, калі прынцыпы камунізма становяцца нормай жыцця мільёнаў: чалавек у нашай краіне ў адносінах адзін да аднаго — сябар, таварыш і брат. Нашы сэрцы напаўняюцца радасцю і гордасцю за сацыялістычную Радзіму, якая ў поўным росквіце сіл сустракае сваё пяцідзесяцігоддзе.

Так, ганарыцца нам ёсць чым. Але іншы раз у пагоні за вялікім мы *ўпускаем «дробязі» ў сваіх паводзінах*. А ці дробязі яны? Я тут маю на ўвазе ўсім зразумелыя нормы агульнажыцця, пераважна «правілы» паводзін, добрага тону, этыкету.

Мне прыпамінаецца, як мой добры знаёмы Мікалай З. скардзіўся на дрэнны настрой пасля маладзёжнага вечара. Ён старанна рыхтаваўся да яго, а атрымалася штосьці не тое. Пачалі мы разбірацца, у чым справа. І высветлілася, што ўсе да хлопца адносіліся як мае быць, бо ведалі яго як чулага таварыша і перадавіка вытворчасці, але сам ён упусціў з поля зроку асобныя «дробязі», *якія і сапсавалі яму настрой*.

Збіраючыся на вечар, мой сябар апрануў новы светлы касцюм. Ён спяшаўся, каб не спазніцца ў Дом культуры, дзе яго чакала дзяўчына. Яна выскачыла з аўтобуса і аж зазззяла ад радасці, калі ўбачыла Міколу. Пасля неяк крытычна пачала глядзець на хлопца. Той вырашыў, што аглядае касцюм і хвалявацца нечага: новенькі, толькі што з-пад іголачкі.

Увайшлі ў танцавальную залу. Дзяўчына адрэкамендавала свайго партнёра знаёмым. Мікола паціснуў кожнаму руку, штораз паўтараючы сваё імя. Усе ветліва ўсміхаліся, аднак хтосьці пажартаваў: «Гэта ўсё той жа Мікола, толькі што разоў з дзесяць названы...» Некаторыя стрымана засмяяліся. Мікола адразу адчуў сябе «сваім хлопцам» і так зарагатаў, што ледзь шыбы не павыляталі. Усе звярнулі ўвагу на яго рогат. Апынуўшыся ў цэнтры ўвагі, ён рашыў не схібіць і стаў расказваць дзіўныя гісторыі. З яго дзяўчынай пераважна танцавалі іншыя, бо яму не было часу. І за гэта, развітваючыся *перад самымі веснічкамі, знаёмая* папракнула Міколу.

Я ж дадаў, што значна лепш было б, каб маладыя людзі на вечар дабіраліся разам. Дзяўчына, напэўна, падказала б Міколу, што ўвечары лепш апрануць чорны касцюм, каб не выглядаць «белай варонай». Пры знаёмстве з новымі сябрамі Міколу, скажам, не трэба было паўтараць сваё імя, тым больш — шматразова: гэту ролю ўзяла б на сябе яго сяброўка. Не абавязкова было кожнаму паціскаць руку і пытаць імя — усё роўна не запомніў іх, а пазнаёміцца з імі можна было б на працягу вечара. Так было б больш натуральна, прасцей.

Смяяцца, вядома, прыемна, але не варта пераступаць тую мяжу, калі ўсе пачынаюць звяртаць увагу. Магчыма, вясёлая гісторыя была дарэчы. Але — дзе мера? Канечне, сярод агульных знаёмых нават з жонкай нетактоўна толькі аднаму партнёру танцаваць увесь вечар, але наш сябар, фактычна, забыў пра сваю спадарожніцу. А зрабіць заўвагу яна не магла, бо гэта вельмі непрыстойна — павучаць на людзях.

Выпадак, аб якім я расказваю, можа і не такі ўжо тыповы, але павучальны. На самай справе, ці не занадта абыякава мы адносімся да таго, што прынята называць добрым тонам, этыкетам, правіламі прыстойнасці, нормамі? Менавіта гэтыя дробязі, ад якіх мы часам адмахваемся, ствараюць добры настрой.

Вядома, мне не хочацца станавіцца ў позу маці, якая ўвесь час павучала дачку на вечарынцы правілам паводзін. Апошняя так старалася дагадзіць маці, што, разгубіўшыся, рабіла ўсё наадварот. Мне больш падыдзе роля сябра-дарадчыка.

Узяць хаця б добры тон. Гэта — не састарэлае паняцце. Як кажуць: «тон вызначае музыку». Дзякуючы яму, мы настройваемся на прыемную эмацыянальную хвалю. Напрыклад, куды больш прыемна чытаць аб'явы: «У нас не кураць», «Пасеяны кветкі», чым: «Курыць строга забараняецца», «Не таптаць кветкі — штраф»...

Добрыя людзі заўсёды клапоцяцца пра тое, каб у зручнай для нас форме папярэдзіць пра важнае, не зневажаючы пры гэтым нашай годнасці. Яшчэ было б лепш, каб нам не даводзілася напамінаць пра тое, што ў памяшканні нельга курыць, сядзець у галаўным уборы, што нельга таптаць газоны, зневажаць прадаўцоў і прыбіральшчыц і г. д.

Добры тон вызначае манеры, правілы паводзін у быту, такт у адносінах да тых, з кім мы разам працуем, вырашаем тыя ці іншыя справы, адпачываем. Такт — гэта пачуццё меры свайго ўчынку і слова. Быць тактоўным — значыць разумець людзей, улічваць характар іншага чалавека, абставіны, у якіх ён знаходзіцца, лічыцца з годнасцю субяседніка, знаходзіць словы і ўчынкі, якія адпавядаюць яго індывідуальнасці. Тактоўны чалавек заўсёды дапаможа іншаму, падтрымае яго, зробіць заўвагу, не зменшыўшы пры гэтым сваёй годнасці, не прынізіўшы годнасці другога.

Яшчэ ў студэнцкія гады адзін мой таварыш рашуча супраціўляўся навінкам у модах. Калі амаль усе аднакурснікі пачалі насіць звужаныя штаны, ён насіў такія, што шырыня штанін была большай, чым у марака. Мы сталі жартаваць з яго. А ён вырашыў спытаць выкладчыка, ці добра ён выглядае ў гэтым касцюме. Смеючыся, выкладчык заўважыў: «Выдатны матэрыял... Ну, а шырокія штаны, магчыма, адзнака добрай матэрыяльнай забяспечанасці». Усе, у тым ліку і наш таварыш, дружна рассмяяліся: якая там забяспечанасць у чалавека, які жыве на стыпендыю? Касцюм ён усё ж перашыў.

Тактоўнасць звязана з далікатнасцю, чуласцю, стрыманасцю, з сапраўднымі клопатамі аб сваіх таварышах, аб кожным чалавеку.

Паказчыкам выхаванасці маладога чалавека з'яўляецца ветлівасць — тая ўнутраная якасць, якая заўсёды павінна праяўляцца ва ўзаемаадносінах людзей. Ветлівы чалавек будзе ўважлівы да інтарэсаў і настрою іншых людзей, не будзе без прычыны павышаць голас на субяседніка, не будзе грубіць. Ветлівы чалавек не будзе рабіць учынкі ці вымаўляць словы, непрыемныя для тых, хто каля яго.

Многія правілы ветлівасці прадыктаваны павагай да людзей, падкрэсліваюць добразычлівасць у адносінах да іх. У паклонах і прывітаннях, у вусных і пісьмовых зваротах, калі яны шчырыя («будзьце ласкавы», «дарагі таварыш», «зрабіце, калі ласка» і інш.), у пажаданнях («добрай ночы», «смачна есці») выказваецца наша павага да чалавека.

Правілы этыкету, ветлівасці, асабліва неабходны там, дзе гутарка ідзе аб павазе да старэйшых і жанчын. Аднойчы малады выкладчык падаў паліто старому прафесару, памог яму апрануцца. Гэта бачылі студэнты, усе былі задаволены такімі клопатамі пра любімага настаўніка. Але як страшэнна мы былі здзіўлены нетактоўнасцю аднаго выкладчыка, які папракнуў свайго калегу ў падхалімстве.

Малады чалавек, які параўнаўся з жанчынай сталага веку, заўважыў, што яна нясе даволі цяжкую сумку. Ім было па дарозе, і хлопец прапанаваў свае паслугі. Але ў гэты час іх сустрэў аднавясковец: «Што, у зяці напрошваешся?». Малады чалавек пачырванеў, бо ў цёткі сапраўды была прыгожая дачка, як кажуць, «на выданні». Заўважыўшы яго збянтэжанасць, жанчына сказала: «Дзіцятка, няўжо я не змагу адрозніць, дзе шчырае жаданне зрабіць дабро, а дзе падман? Ды і ў жаніхі да такой дзяўчыны не грэх набівацца...» Няёмкасць прайшла.

Як часта мы можам параніць сэрцы іншых — і аднагодкаў і старэйшых — «проста так», не падумаўшы. Ці не празмерна мы выказваем папрокаў у адрас бацькоў, замест таго, каб прыслухацца да іх парад, прыйсці ім на дапамогу? Неяк ужо так павялося, што старэйшыя больш спагадлівыя да нашай маладосці, чым мы да іхняй разважлівасці.

Аказваючы павагу старэйшым па ўзросту, мы падкрэсліваем гэтым самым сваю павагу да той працы і намаганняў, якія людзі старэйшага пакалення ўклалі ў справу ўмацавання Савецкай дзяржавы, у справу міру на зямлі.

Ад знешніх правіл прыстойнасці да духоўнага зместу чалавека — не дужа і вялікая дыстанцыя.

Зразумела, ад кожнага маладога

чалавека не патрабуецца веданне рытуальных форм этыкету, якія захаваліся, скажам, у сферы дыпламатычных адносін. Аднак кожнаму даступна разуменне прыстойнага і непрыстойнага ў паводзінах. Трэба толькі быць сціплым, тактоўным, уважлівым, пачцівым да іншых.

Возьмем, напрыклад, паводзіны чалавека за сталом. Ясна, што за стол не варта садзіцца, пакуль гаспадар або гаспадыня не запросяць. Трэба паклапаціцца спачатку пра жанчын, якія сядзяць за сталом, асабліва направа ад мужчыны. Локці на стол, безумоўна, непрыстойна класці. Не варта ганіць якасць страў, нагадваць пра свой хворы страўнік. Непрыстойна карыстацца лыжкай тады, калі трэба відэльцам. Нельга паспешліва глытаць ежу, есці з разяўленым увесь час ротам, чмякаць, дзьмухаць на гарачае. Нельга размаўляць, не праглынуўшы страву, шаптацца за спінамі суседзяў, кпіць з няўдалага госця, спяваць песні без дазволу гаспадара, уставаць з-за стала, пакуль іншыя не пад'елі. Пасля абеду нельга карыстацца ў прысутнасці іншых зубачысткай, пацягвацца і пазяхаць.

А цяпер уявіце сабе, што вы прыйшлі ў госці рана. Гаспадары яшчэ гатуюць стравы, сервіруюць стол, не ведаюць, як вас забавіць. Запрасіць да работы? Але ж вы прыйшлі адпачыць, у госці. Прапанаваць вам альбом з сямейнымі фотаздымкамі? Але ж вы не ўсіх родзічаў ведаеце, а даваць тлумачэнні няма каму і няма калі. Аднак калі вы прыйшлі зарана, выберыце сабе месца, каб не кідацца ў вочы, і займіцеся чытаннем. Калі гаспадары палічаць патрэбным скарыстаць прапанаваныя вамі паслугі, не прымушайце сябе доўга ўпрошваць.

Нязручна вы адчуеце сябе і калі без прычыны з'явіцеся з вялікім спазненнем. Асабліва, калі вы — дарагі госць, калі вас абавязкова будуць чакаць. Карацей кажучы, акуратнасць у часе — прыкмета культуры чалавека. А часта мы на гэта забываемся. Вечар прызначаны на сем гадзін, а мы мяркуем: пачнуць збірацца а палове восьмай, значыць, пойдзем так, каб паспець у восем. І гэтак іншыя разважаюць. Вечар пачынаецца са значным спазненнем. Пакутуюць ад гэтага ўсе, асабліва тыя, хто своечасова прыйшоў. У іх укралі больш гадзіны карыснага часу.

Вось які ўрок даў моладзі У. І. Ленін, які заўсёды быў дакладны і патрабаваў гэтага ад іншых. Камсамольская дэлегацыя спазнілася да яго на прыём на сорак мінут, таму што маладыя людзі заспрачаліся, якія пытанні задаваць Леніну. Калі дэлегацыя прыбыла, яе сустрэла Фоціева, сакратар Леніна, і сказала, што Уладзімір Ільіч вельмі любіць моладзь і заўсёды рады выпадку з ёю пагутарыць, аднак ён заўсёды пунктуальны і патрабуе таго самага ад іншых, Уладзімір Ільіч заўсёды паўтарае, што злачынна спазняцца нават на адну мінуту. А таму што маладыя людзі перавысілі гэтую норму ў сорак разоў, ён прасіў з'звіцца на прыём заўтра ў дзесяць гадзін раніцы.

Нельга забываць, што дысцыплінаванасць, узаемапавага і далікатнасць—гэта звыклыя нормы чалавечага супольнага жыцця, якія ў наш час сталі непарушнымі жыццёвымі законамі.

Многія пытанні паводзін у грамадскім месцы кожны можа вырашыць для сябе пры дапамозе простага параўнання — паставіць сябе на месца суседа, што сядзіць побач. І тады вы зразумееце, што паперка, якую вы камечыце, шорхае не менш, чым суседава шаптанне.

І яшчэ хочацца спыніць вашу ўвагу на культуры мовы, на яе чысціні. «Слова горы зрушвае»—кажа народная мудрасць. Дакладная, выразная мова — адзін з важнейшых паказчыкаў культуры чалавека, багацця яго думак. На якой бы мове ні гаварыў чалавек, ён павінен імкнуцца гаварыць правільна, вобразна, прыгожа. Асобныя ж маладыя людзі засмечваюць мову непрыстойнымі, жаргоннымі словамі, мянушкамі, словамі-паразітамі. Асабліва агідны лаянка, нецэнзуршчына. У барацьбе з імі маральнае асуджэнне не менш дзейснае, чым штраф. Як правіла, грубая балбатня і развязныя манеры ўласцівы людзям, якія падвыпілі.

Вось давялося закрануць і гэтую тэму. Што зробіш, у жыцці ёсць і такая шкодная з'ява, як п'янства. Не так даўно мы з сябрам з Ташкента селі ў аўтобус, каб лепш пазнаёміцца з аддаленымі раёнамі Мінска. Было дзесяць гадзін раніцы. Госць з захапленнем расказваў пра ўражанне, якое зрабіў на яго наш Ленінскі праспект, нашы паркі, скверы, тэатры. І раптам у аўтобус садзіцца п'яны мужчына. Толькі зайшоў і адразу пачаў даводзіць, што ён — добры сем'янін і працаўнік, удзельнік Айчыннай вайны. А каб паверылі, расшпіліў сарочку і стаў паказваць сляды ад ран, даставаў з кішэні апчадную кніжку, дакументы... Ніхто ў яго нічога не пытаўся, а ён апраўдваўся, што не п'яніца, а выпіў «проста так», бо атрымаў адпускныя. Аб тым, якія ў яго былі манеры, не будзем гаварыць. Толькі мой госць прапанаваў перасесці ў другі аўтобус. Яму не хацелася псаваць цудоўнае ўражанне пра наш горад. З п'янствам трэба весці рашучую барацьбу не толькі пры дапамозе закону, але і сілай грамадскага ўздзеяння.

Парушэнне норм прыстойнасці, этыкету нельга часам кваліфікаваць як хуліганства, злоўжыванне цярпеннем іншых. Але ўсё гэта — не дробязі. Добрыя звычкі, нормы савецкага этыкету ўпрыгожваюць наша жыццё, наш быт. Трэба паважаць людзей і прывучаць сябе да самакантролю. Тады будуць прыгожымі і думкі і ўчынкі.

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

# ДУМКІ АБ ПРЭМ'ЕРАХ

Тэатр — трыбуна, кафедра. Тэатр — настаўнік. Тэатр — відовішча.

З трыбуны заклікаюць. З кафедр прапаведуюць. Настаўнікі выхоўваюць. Відовішчы даюць адпачынак.

Тэатр аб'ядноўвае ўсе гэтыя задачы. А ў апошні час да іх дадаецца і новая: тэатр павінен быць даследчыкам, аналітыкам жыццёвых з'яў. Не толькі заклікаць, выхоўваць, прапаведаваць, але і абуджаць у чалавека роздум.

Глядач, — той новы, масавы, жаданы, якога так чакалі прадстаўнікі прагрэсіўнага мастацтва мінулага,— сапраўды непазнавальна вырас. З ім трэба гаварыць як роўны з роўным, не прапаноўваць загадзя падрыхтаваныя ісціны, а шукаць іх разам з глядачом — «тут, сёння, зараз».

ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ. Здалёк прывёў іх аўтар.

Дваццатыя-трыццатыя гады... Што засталося там нявырашанае, непазнанае, у тых напаўзабытых Куранях?

Раман Івана Мележа апавядае пра падзеі часоў калектывізацыі на беларускім Палессі. А думка яго цалкам у дні сённяшнім.

Праблемы, узнятыя ў творы, прыцягнулі да сябе спачатку тэлебачанне, а потым і тэатр імя Янкі Купалы, які ажыццявіў інсцэніроўку дылогіі Івана Мележа.

Ці чулі вы дрыготкі, такі пакрыўджаны і сумны голас Васіля Дзятліка ў купалаўскім спектаклі? Ці бачылі, якая крыўда на свой лёс жыве ў яго вачах?



Скажу шчыра, што такія вочы бачыў я ў жыцці, калі турыстам ездзіў у Італію. Мы сустракалі там беспрацоўных. Іхнія галасы гучалі гэтак жа няўпэўнена, сумна і безнадзейна. Цяжкае ўражанне. Тым больш, што нашы спачуванні іх не ўсцешвалі.

Тэатр, звяртаючыся да рамана Мележа, вядома, не думаў аб гэтай аналогіі і не ў імя яе стварау спектакль. Сучаснасць твора ў іншым.

Нялёгка дасталася Дзятліку зямля. Праз боль, пакуты і праз тую радасць, што настроена на палыне трывогі, уперамешку з потам ад нялёгкае сялянскай працы. І чым глыбей артыст Генадзь Гарбук перажывае разам са сваім героем яго бяду і мару, чым больш Васіль прагне атрымаць кавалак людскае зямлі, «той, што каля цагельні», тым больш выразна паўстае прад намі грамадзянскі клопат аўтара.



«Людзі на балоце». У ролі Васіля — артыст Генадзь Гарбук, у ролі Ганны — Лілія Давідовіч.

Фота **У. Крука.**

Мы на працягу ўсяго спектакля назіраем, як выспявае ў Дзятліку ўласнік-гаспадар. Тэатр ніякім чынам не кліча нас да асуджэння альбо згоды з Васілём. Галоўны клопат рэжысёра Барыса Эрына і выканаўцы, каб глядач адчуў і зразумеў душу героя, логіку яго імкненняў. А вывады? Нам дадзена магчымасць рабіць іх самастойна, параўнаўшы лёс Дзятліка з нялёгкім, несаладкім лёсам старога Глушака, у вобразе якога народны артыст БССР Здзіслаў Стома раскрыў складаную супярэчнасць і своеасаблівы драматызм канфлікту спрадвечнай уласніцкай псіхалогіі з рэвалюцыйным часам.

Ці, скажам, вобраз Ганны, пяшчотна-дзікаватай, палымяна-гнеўнай, з яе прагай волі і гатоўнасцю загінуць ад пагарды да духоўнага прыгнёту,— хіба не адбіваецца яе гаротнае каханне на ўспрыняцці галоўнай тэмы? І тут тэатр, даверыўшыся аўтару, пазбег просталінейнасці «падказаў». Ганна ў таленавітай актрысы Ліліі Давідовіч — вобраз, далёкі ад дыдактычных нарматываў, па якіх мы, крытыкі, часам прапануем канструяваць «станоўчага» героя. Які гэта цуд, калі на сцэне — жывы характар, і не ведаеш, што ён «адпаліць» у наступную хвіліну!

Гаворачы пра творчыя ўдачы выканаўцаў, мы ўлічваем фрагментарнасць інсцэніроўкі (аўтары Тамара Абакумоўская і Зінаіда Браварская), якая не дае магчымасці артыстам разгарнуць характары герояў ва ўсёй мнагамернасці жыццёвых выяўленняў. «Пункцір» драматургіі пастаянна разрывае вузельчыкі канфліктаў, ледзь яны паспеюць завязацца, і кожная наступная карціна пераключае нас у новыя падзеі, не вычарпаўшы змест папярэдніх.

Фон — маса — часта паглынае героя. Але як выразна, з якой пластычнасцю і сімфанічнаю раскошай у гучанні паказана на сцэне жыццё народнае! Нарады, сходы. Іх у спектаклі шмат. Не так даўно тэатры баяліся такіх сцэн. А тут — нібыта рушыў крыгаход. Успененымі хвалямі шукаюць выйсця спадзяванні, мары. Гэтай плыні пастаноўшчык і мастак Армэн Грыгар'янц аддаюць усю прастору сцэны. І музыка — Рахманінаў, Цікоцкі...

А барэльефныя застаўкі афармлення надаюць скульптурную выразнасць паасобным чалавечым лёсам. Асабліва западае ў памяць сцэна ў Чарнушкавым двары: нібыта з бронзы саламяны дах, і галава Чарнушкі нібыта бронзавая, з саламяным бляскам валасоў і рудаватым тварам у восеньскіх промнях. Такое адчуванне, што ўвесь гэты малюнак, нібыта пажоўклы ліст — вось-вось сарвецца і паляціць у нябыт. У сцэне, аб якой ідзе гаворка, няма ні слова пра зямлю, пра калгас. Тут Ганнін бацька высвятляе, «було ці не було» ў яе з Яўхімам. А тэатр напоўніў сцэну адчуваннем галоўнай тэмы.

Не так даўно мы часта чулі, што рэжысёр Барыс Эрын парушае традыцыі купалаўцаў. Яго спектаклі «Ліса і вінаград», «Забыты ўсімі», «Дзівак» хоць і прызнаваліся мастацкімі здабыткамі, і аднак, на думку многіх, мелі часовую «прапіску». Цяпер, пасля спектакля «Людзі на балоце», гэтыя галасы прыціхлі. Аказалася, што творчая манера Эрына не парушае, а ўзбагачае традыцыі тэатра. Бо калі, скажам, паставіць тую ж сцэну ў двары Чарнушкаў цалкам у ранейшай, бытавой традыцыі, змест яе не выйдзе за межы пытання «було ці не було». Так нараджаецца сучасная стылістыка тэатра — з імкнення да больш ёмістай размовы з гледачом.

ПРАЎДА ПРАЎДЫ. «Проста я лічу, што на сцэне трэба даць месца і дакументам, якія, замест таго, каб расказваць нам пра індывідуальныя драмы, магчыма, прывядуць, нарэшце, да сапраўднага гістарычнага тэатра. Гутарка ідзе пра новы шлях, магчыма, адкрыты для тэатральнага мастацтва». Так піша Жан Вілар пра «Справу Апенгеймера» — п'есу-дакумент. І дадае: «Чаму, сапраўды, тэатр павінен быць пазбаўлен тых правоў, якімі так шырока карыстаюцца газеты, кнігі, тэлебачанне? Чаму б яму не браць за дзеючых асоб людзей, якія жывуць сярод нас? Галоўнае — з усёй скрупулёзнасцю, дакладна аднавіць сапраўдную абстаноўку той гістарычнай падзеі, пра якую ідзе размова».



«Шостае ліпеня». У. І. Ленін — заслужаны дзеяч мастацтва РСФСР Аляксандр Даброцін, Падвойскі — артыст Канстанцін Дубінін.

«Справай Апенгеймера», якая абышла тэатры ўсіх краін, сцэнічнае мастацтва даказала сваё права на дакументальны жанр. І першай ластаўкай савецкай драматургіі ў гэтым жанры з'явілася драма-дакумент Міхаіла Шатрова «Шостае ліпеня». Ствараючы яе, аўтар прытрымліваўся гістарычных фактаў, стэнаграм. Дакладнасці праўды — вось чаго ён дамагаўся. Аднак ці ў гэтым прызначэнне «гістарычнага тэатра»? Тэатр — благі саюзнік рэстаўратараў, бо ён пры нават найстражэйшай скрупулёзнасці не здолее на сваёй сцэне аднавіць, напрыклад, сцэну маскоўскага Вялікага тэатра,— гэта больш пераканаўча зробіць, скажам, дакументальнае кіно. Я ўжо не кажу пра жывых людзей. Тут фотадакумент у спалучэнні са словам публіцыста мае перавагу перад акцёрам пры самым дасканалым падабенстве і віртуозным грыме. Што ж застаецца «гістарычнаму тэатру»? Стаўшы «гістарычным», ён жа страціў адзін з важнейшых сродкаў уздзеяння на гледача — інтрыгу.

Сапраўды, мы ведаем, чым завяршыўся эсэраўскі мяцеж у ліпені 1918 года. Што ж будзе нас цікавіць у спектаклі, які расказвае пра падзеі, звязаныя з мецяжом?

І вось — прэм'ера. На сцэне рускага тэатра імя Горкага ў Мінску ідзе V з'езд Саветаў, той, што праходзіў у Маскве ў Вялікім тэатры. Гэта быў ліпень васемнаццатага. Паміж бальшавікамі і эсэрамі — вострая, напружаная спрэчка пра вайну і мір, пра шляхі рэвалюцыі. Чыя была праўда, ясна ўсім, хто сядзіць сёння ў зале. Ленінская праўда для нас пацверджана гісторыяй.

Дык у імя чаго пастаўлены спектакль? Каб яшчэ раз зацвердзіць прысуд эпохі і заклáйміць эсэраў? І разам з імі — тых, хто сёння гэтак жа дэмагагічна карыстаецца лявацкай фразай, прэтэндуючы на ролю вестуна бясспрэчнай ісціны і адкрывальніка адзіна правільных шляхоў у будучыню?

Што ж, магчыма, стваральнікі спектакля дбалі і пра гэта. Магчыма, нават, што пра гэта ў першую чаргу. І сваёй мэты дасягнулі. Толькі не вельмі цешыць такое дасягненне. Кляйміць эсэраў сёння... Ды прахам ім зямля! Паказваць, які быў неразумны і нікчэмны адзін з кіраўнікоў паўстання, камандзір палка Папоў? Запэўняць нас, што ўсе яны — паноптыкум пачвар, авантурыстаў і свядомых прайдзісветаў,— ці такая ўжо надзённая задача?!

А ў пачатку спектакля намячалася больш значная размова з гледачом. Калі ўзнялася на трыбуну Вольга Спірыдонава (народная артыстка БССР Аляксандра Клімава), калі яна звярнулася да нас з палымянаю прамовай аб тым, што гіне рэвалюцыя, аб тым, што Брэсцкі мір — не толькі абраза для рэспублікі, а і пятля, мы не маглі адразу адмахнуцца ад яе довагду. Мы слухалі. У нас была патрэба зразумець яе. Абавязкова — зразумець. Мы думалі аб яе праўдзе, аб яе логіцы. І розум Спірыдонавай, прамоўчы запал і шчырасць, гнеў і боль,— усё гэта было для гледача пазнаннем чагосьці неабходнага.

А за сталом прэзідыума — Ленін. Прыкрыўшы лоб далонню, ён слухае. Парывіста схіляецца над паперай і штосьці занатоўвае, а потым са здзіўленнем нечаканасці нібыта вывучае прамоўцу на трыбуне і скіроўвае свой позірк да гледачоў, у залу. Ён адчуў, што ў словах Спірыдонавай лагічнасць небяспекі. Ленін — устрывожаны.

Трывожна і ў зале. Больш бы гэткай вось трывожнасці спектаклю. Яна прымушае думаць. У гэтым — прызначэнне «гістарычнага» тэатра. Каб праўда Праўды з гатовага здабытку, атрыманага ў спадчыну, стала для сённяшняга гледача ўласна знойдзенай і асабіста перажытай ісцінай.

СЭРЦА НА ДАЛОНІ. На сцэне тэатра імя Ленінскага Камсамола Беларусі ў спектаклі «Сэрца на далоні» ролю Гукана выконвае народны артыст рэспублікі Максім Абрамаў.

Гукан калісьці ўзвёў паклёп на чалавека, якому абавязаны быў жыццём. Не будзем падрабязна ўспамінаць, як гэта здарылася (раман — вядомы, і яго сюжэт яшчэ свежы ў памяці). Адно пытанне: якім вы ўяўляеце Гукана ў штодзённым побыце: у кабінеце, на рыбалцы, у сям'і? Вы скажаце: такім, як напісаў яго ў сваім рамане Іван Шамякін.

А калі я вам давяду, што бачыў не аднаго, а некалькі Гуканаў і ўсіх розных?

Інсцэніроўкі «Сэрца на далоні» пастаўлены ўжо ў чатырох тэатрах Беларусі: у Гродне, Магілёве, Віцебску і Брэсце. У іх ёсць Гуканы злачынныя, вяльможныя, ліслівыя. Апошні, брэсцкі,— звычайны чалавек. Ён просты і разумны. З гумарам. Бадай сардэчны: без патрэбы нікога не абразіць, не пакрыўдзіць. Высокі, моцны, з прыемнымі раскатамі густога аксаміту ў голасе. І верыш, што калісьці ён мужна змагаўся супраць акупантаў.

Гукан на брэсцкай сцэне — суб'ектыўна сумленны чалавек. Напэўна, ён і сёння не вельмі ўпэўнены, кім быў доктар Савіч, які калісьці ўратаваў яго: паслугачом фашыстаў альбо патрыётам. У кожным разе, калі акупанты пахавалі Савіча з пашанай, ён верыў, што той — здраднік. Як жа было сказаць, што ты абавязаны яму выратаваннем?

Такая логіка ў Гукана-Абрамава. І гэта ніякім чынам не азначае яго рэабілітацыі альбо амністыі. Трактоўка вобраза на брэсцкай сцэне, найбольш, здаецца, блізкая да аўтарскай задумы, вельмі паслядоўна і глыбока раскрывае дыялектыку схаванай чалавекам ад сябе самога баязлівасці. Тым самым тэатр прымушае зазірнуць не толькі ў патаемнае гуканавай душы, але праверыць і сваю трывалась.

Не выкрыць Гукана, а перш за ўсё раскрыць яму на праўду вочы,—вось якую асабістую задачу даручае рэжысёр станоўчым персанажам п'есы. Ён ім не дазваляе па-



«Сэрца на далоні». Шыковіч — заслужаны артыст рэспублікі Юры Уласаў, Тарасаў — заслужаны артыст рэспублікі Аляксей Логінаў, Гукан — заслужаны артыст рэспублікі Максім Абрамаў, Яраш — заслужаны артыст рэспублікі Сяргей Яўдошанка.

Фота М. Папова.

дазраваць Гукана ў несумленнасці. І ў гэтым ёсць вялікі сэнс, бо нельга ж, сапраўды, змагацца супраць недаверу недаверам. З адкрытым сэрцам ідзе да Гукана Шыковіч (заслужаны артыст БССР Юры Уласаў). І доктар Яраш (таксама цікавая работа заслужанага артыста рэспублікі Сяргея Яўдошанкі) шукае ў ім саюзніка. Калі ж на сцэне з'яўляецца ў ролі сакратара гаркома партыі Тарасава народны артыст БССР Аляксей Логінаў, галоўная ідэя пастаноўкі дасягае найвышэйшага гучання. Гісторыя Гукана прычыніла яму нібыта асабісты боль.

І што яшчэ цудоўна ў брэсцкай пастаноўцы, дык гэта вобраз усяго спектакля. Праз усе падзеі праходзіць тэма трапяткога сэрца «на далоні» — Зосінага сэрца, і ў імя яго выратавання ўзнімаюцца праблемы і падзеі часоў вайны.

ДРАМА ГОНАРУ. Шыбанаў жыве на вуліцы з прыгожай назвай — Сонечная. Напэўна, гэта адна з новых вуліц. І сама кватэра, і абстаноўка ў ёй сведчаць аб сучасных густах жыхароў.

Шыбанаў — вядомы ў рэспубліцы мастак, заслужаны, масціты. Ён піша вялікую карціну «Радасць». Год працы. Неўзабаве выстаўка. І раптам выстаўком выносіць твору мастака Шыбанава бязлітасны прысуд: няма ў ім радасці. Карціна атрымалася халодная, без душы. Яе аднагалосна адхіляюць (устрымаўся толькі адказны сакратар саюза мастакоў, зяць Шыбанава).

Як перажывае сваю няўдачу аўтар, чалавек, які прывык да пашаны і ўслаўленняў? Аб гэтым — п'еса Аркадзя Маўзона «У доме на Сонечнай», якую нядаўна паказаў Беларускі дзяржаўны тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску.

Шыбанава іграе народны артыст БССР Анатоль Шэлег. Іграе стрымана, разумна. Абраза, сорам, боль, разгубленасць і неўразуменне апаноўваюць душу яго героя. Што патрэбна ад яго Румянцавай і іншым? Звергнуць яго аўтарытэт? Навошта?

Бязрадасная «Радасць». Хмарны дзень на Сонечнай.

Глядач з напружанасцю сочыць за падзеямі. За тым, як гнеўна адвяргае крытыку Шыбанаў. Як ён вагаецца паміж жаданнем убачыць на старонках прэсы хвалебны нарыс аб сваёй творчасці і ўсведамленнем непрыстойнасці такога факту, бо гэты нарыс будуць лічыць «арганізаваным». Мы бачым, як надыходзіць стомленасць: Шыбанаў паступова ўсё спакайней гаворыць пра сваіх праціўнікаў і з большай развážлівасцю выслухоўвае пахвалы паклоннікаў карціны.

І вось, нарэшце, навіна: рашэнне выстаўкома перагледжана. Доктар мастацтвазнаўства Румянцава сама прапанавала дапусціць карціну на выстаўку. З гэтае хвіліны і пачынаецца ў душы героя п'есы пералом. Зусім разгублены, ён пачынае пакутліва шукаць прычыны ўсіх падзей. І, нарэшце, сам не аддае на выстаўку карціну.





«У доме на Сонечнай». Шыбанаў — народны артыст рэспублікі Анатоль Шэлег, Матыль — артыст Уладзімір Куляшоў.

Фота С. Кохана.

Заслугоўваюць асобнай размовы многія акцёрскія работы ў спектаклі: Галіны Маркінай (дачка Шыбанава), Ніны Левашовай (Шура), народнага артыста рэспублікі Фёдара Шмакава (Фёдар), Тадэуша Кокштыса (Бабіч). Шмат добрых слоў можна сказаць у адрас заслужанага дзеяча мастацтва БССР Яўгена Нікалаева, які разумна, з густам афарміў пастаноўку. Але пра ўсё ў кароткіх нататках не скажаш. Наша гутарка пойдзе ў сувязі з праблемай, галоўнай у спектаклі: Шыбанаў і яго карціна.

Пасля спектакля мне давялося пачуць ад гледача:

— Чаму ж нам так і не паказалі «Радасць»?

— А навошта? — запытаўся я ў адказ.

— Каб ведаць, з-за чаго ж было ўсё,— паціснуў той плячыма.

Час на гаворку невялікі, мімаходзь.

— Дык што, не спадабалася?

Ён зноў няпэўна перасмыкнуў плячыма:

— Чаму?.. Цікава.

Вось і ўся размова.

І я падумаў, што карціну мастака Шыбанава нам сапраўды дарма не паказалі. Не ў літаральным сэнсе, каб павярнуць яе ў анфас да гледача. Не ў гэтым справа. Глядач, напэўна, хацеў больш падрабязна даведацца аб ёй: аб чым яна апавядае, у якой манеры выканана і шмат што іншае. Усё гэта — не ад простай цікаўнасці, а ад жадання больш актыўна ўдзельнічаць у канфлікце твора, бо па тым, якая ў Шыбанава карціна, мы меркавалі б, хто ён сам. Пакуль што гэта — чалавек, які страціў пачуццё самакрытычнасці. У п'есе паслядоўна і лагічна раскрыта драма гонару. Тэатр яе сыграў таксама паслядоўна і лагічна. Нават усхвалявана. У гэтым — поспех пастаноўкі. Аднак ён быў бы больш значны, каб драматург да спрэчкі аб ролі мастака ў сённяшнім жыцці і аб грамадскім прызначэнні яго мастацтва падключыў і гледача. Тут я яшчэ раз паўтару сваю «гіпотэзу», якую выказаў на самым пачатку нашае размовы: з сённяшнім гледачом трэба гаварыць як роўны з роўным, быць разам з ім даследчыкам, аналітыкам жыццёвых з'яў.

**Георгі КОЛАС.**

# ГРАМАДСКАСЦЬ І АТЭІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

У атэістычным выхаванні моладзі вялікая роля належыць грамадскасці. Сілу калектыву, яго волю, патрабаванне, дапамогу, падтрымку нельга параўнаць з дзеяннем або пажаданнем адной асобы. Калектыў не толькі стварае матэрыяльныя даброты і культурныя каштоўнасці, але і ўстанаўлівае нормы паводзін чалавека ў грамадстве, кантралюе іх выкананне. Нездарма старажытныя рымляне думку народа разглядалі як голас божы і гаварылі: «Vox populi — vox deus».

У праграме Камуністычнай партыі Савецкага Саюза адзначаецца, што праз грамадскія арганізацыі партыя бачыць шлях далейшага развіцця працоўнага спаборніцтва, павышэння актыўнасці працоўных у будаўніцтве камунізма, палепшання матэрыяльна-бытавога становішча мас і задавальнення іх духоўных запатрабаванняў.

Не сакрэт, што грамадскасць можа ўздзейнічаць на чалавека не толькі станоўча, але і адмоўна. Так, калі, напрыклад, у вёсцы ёсць веруючыя, якія спраўляюць рэлігійныя абрады, то часам людзі, якія і не вераць у бога, падтрымліваюць рэлігійныя традыцыі, абы не супрацьстаўляць сябе калектыву. Рэлігія якраз і выкарыстоўвае гэта, хоць сваёй ідэяй асабістага выратавання яна і насаджае індывідуалізм і эгаізм.

Мы ж, атэісты, наадварот, супрацьстаўляем эгаізму царкоўнікаў ідэю калектывізму. Выкарыстоўваючы ў атэістычнай рабоце сілу грамадскасці, варта ўлічваць адну вельмі важную акалічнасць: грамадскасць можа станоўча ўплываць на справы з дапамогай крытыкі недахопаў. А сіла сапраўды партыйнай крытыкі заключаецца не толькі ў выяўленні недахопаў, а галоўным чынам у парадах, рэкамендацыях, узаемадапамозе. Таму роля грамадскасці ў барацьбе за веруючага павінна зводзіцца не столькі да крытыкі і ганьбавання яго ўчынкаў, колькі да выяўлення антынавуковай і рэакцыйнай сутнасці рэлігіі і паказу шкоды, якую прыносіць веруючы, аблытаны яе павуціннем. Але калектыў не выканае цалкам сваёй місіі, калі ён не дасць веруючаму параду, не падтрымае яго, не прыйдзе яму на дапамогу.

Грамадская думка, незалежна ад таго, ухваляюцца або асуджаюцца ўчынкі чалавека, выражаецца сукупнасцю ідэй і ўяўленняў пэўнага грамадства або класа. Пры сацыялізме грамадская думка, як вядома, не носіць антаганістычнага характару і пераадоленне адрозненняў у думках дасягаецца, перш за ўсё, праз разгортванне крытыкі і самакрытыкі. У сваю чаргу, крытыка і самакрытыка як бы акумулюе, а потым выражае інтарэсы народа. Таму думка калектыву аб учынках каго-небудзь са сваіх членаў з'яўляецца крытэрыем найбольш высокага ўзроўню. Натуральна, у атэістычнай рабоце абавязкова павінна быць выкарыстана гэта велізарная сіла ўздзеяння на свядомасць чалавека.

У нас ёсць шмат станоўчых прыкладаў умелага выкарыстання грамадскай думкі для барацьбы супраць антыграмадскіх дзеянняў царкоўнікаў і рэлігійных фанатыкаў.

Тры гады таму назад у горадзе Маладзечна асталяваўся на пастаяннае месца жыхарства пенсіянер Смірноў. Праз некаторы час гэты фанатык-пяцідзесятнік арганізаваў секту і пачаў вербаваць у яе моладзь. Малельныя сходы праводзіліся ў яго доме. Рэлігійныя спяванні, крыкі, лямант сектантаў, надакучылі суседзям. Група жыхароў напісала пісьмо на імя старшыні выканкома гарадскога Савета з просьбай абараніць іх і дзяцей ад сектантаў, даць людзям спакойна адпачываць. Гарадскі Савет праверыў заяву. Факты цалкам пацвердзіліся. Вулічнаму камітэту было даручана правесці агульны сход і абмеркаваць гэтае пісьмо.

У вызначаны час у двары сярэдняй школы № 3 сабраліся ўсе жыхары вуліцы. Прыйшоў і Смірноў з членамі сваёй секты. Намеснік старшыні выканкома гарадскога Савета азнаёміў прысутных са зместам заявы і з асноўнымі палажэннямі савецкага заканадаўства аб культах. Пасля гэтага далі слова Смірнову, які сваё выступленне спрабаваў выкарыстаць для прапаганды рэлігійных ідэй. Аднак гэта яму не ўдалося. Людзі патрабавалі спыніць зборышчы сектантаў і забараніць Смірнову ўцягваць у секту вучняў. І разам з тым усе, хто прысутнічаў на сходзе, выказвалі шчырую заклапочанасць лёсам саміх сектантаў і іх дзяцей, што стаяць на ілжывым шляху. Сход прыняў рашэнне прыцягнуць Смірнова да судовай адказнасці за парушэнне савецкага заканадаўства аб культах, за вярбоўку школьнікаў у секту. Праз некалькі дзён Смірноў прыйшоў у гарвыканком і заявіў, што сам ён застанецца веруючым, але спыняе прапаведніцкую дзейнасць і вярбоўку моладзі ў секту. Яго заява была прынята да ведама.

Выкарыстанне Саветамі дэпутатаў працоўных сілы грамадскай думкі ў барацьбе супраць рэлігіі практыкуецца ў многіх месцах. Прыкладам можа служыць Багданаўскі сельскі Савет Іўеўскага раёна, які аб'явіў паход за камуністычную працу і быт.

Некаторыя школы ўдала выкарыстоўваюць грамадскую думку бацькоў, каб уздзейнічаць на веруючых, якія няправільна выхоўваюць сваіх дзяцей. Ілюстрацыяй можа служыць Дуброўская школа Верхнедзвінскага раёна на Віцебшчыне. У гэтай школе вучыцца шасцёра дзяцей з чатырох сектанцкіх сем'яў. Дзеці гэтыя не ўдзельнічаюць у грамадскім жыцці, не слухаюць радыёперадач, не чытаюць газет і мастацкай літаратуры, не наведваюць кіно. Іх лёсам зацікавіўся педагагічны калектыў школы. Адбыўся бацькоўскі сход. Даклад аб выхаванні дзяцей у сям'і зрабіў дырэктар школы В. Дрозд. Класныя кіраўнікі расказалі аб метадах атэістычнага выхавання вучняў у класе і ў школе, на канкрэтных прыкладах паказалі, як бацькі-сектанты перакручваюць веды, атрыманыя дзецьмі ў школе, на рэлігійны лад. Сход праходзіў бурна. Сярод тых, хто прыняў удзел у абмеркаванні, былі і старыя жанчыны, у якіх ужо даўно няма малых дзяцей. Дзве з іх выступілі з пераканаўчай крытыкай рэлігіі, падмацоўваючы сваю думку мясцовымі неабвержнымі фактамі.

Пасля сходу мне ўдалося пагутарыць з адной з гэтых жанчын. На пытанне, што прымусіла яе прыйсці на сход, ды яшчэ выступіць, жанчына сказала: «Я сама веруючая. Веру ў бога і баюся бога. Але вера ў бога зламала ўсё маё жыццё. Я непісьменная, нідзе далёка не была. Працавала на паноў і папоў. Трэба быць сляпым, каб не заўважыць, як усё змянілася, якім стала жыццё, асабліва для дзяцей. Дык хто ж даў права адбіраць шчасце ў дзяцей? Няхай ты нават бацька гэтага дзіцяці, але калі ты сам неразумны, то не перашкаджай тым, хто выводзіць тваіх дзяцей на правільную дарогу».

Думаецца, што гэтая жанчына, хоць і называе сябе веруючай, але разважае вельмі правільна. Сама савецкая рэчаіснасць цягне яе да атэізму. Чалавек мае патрэбу ў падтрымцы, у маральнай дапамозе з боку разумнага асяроддзя. І жанчына шукае праўду, імкнецца да яе стыхійна.

Камсамольскім работнікам, прапагандыстам-атэістам трэба памагчы скарыстаць грамадскую думку для атэістычнага выхавання моладзі.

У сувязі з тым, што ў рэспубліцы не хапае папулярнай, масавай літаратуры па ўсіх асноўных пытаннях матэрыялістычнага светапогляду, а таксама недастаткова атэістычнай літаратуры, неабходна было б стварыць серыю папулярных брашур на такія, прыкладна, тэмы: «Чаму ўсё рухаецца і дзе крыніца руху?», «Як нараджаецца думка?», «Што такое закон прыроды?», «З чаго і як узнікла Зямля?», «Калі і як з'явіўся чалавек?», «Чаму чалавек павінен працаваць?», «Як чалавек пазнае навакольны свет?», «Мэта жыцця чалавека», «Смерць і бяссмерце», «Ці могуць людзі жыць без войнаў?», «Што такое дабро і зло?», «У чым шчасце чалавека?», «Што такое сумленне?».

Яшчэ было б карысна распрацаваць у атэістычным плане некаторыя пытанні, звязаныя з дасягненнямі савецкай навукі. Напрыклад, тэорыя верагоднасці і прароцтва; прынцыпы сучаснай атамістыкі і рэлігія; прадбачанне тэарэтычнае і боскае; сувязь мікрасвету і мегасвету; бог, неба, Зямля; штурм космасу і рэлігія; сучасны тэхнічны прагрэс і прамудрасць боская.

У галіне сацыяльных адносін было б карысна распрацаваць такія тэмы: праблема ўласнасці ў ідэалогіі хрысціянства; сучасны нацыянальна-вызваленчы рух і рэлігія; гуманізм і хрысціянства; камунізм і рэлігія і іншыя.

Добра было б, калі б мінская кінастудыя выпусціла серыю навукова-папулярных фільмаў, напрыклад, на такія тэмы: «Як пабудавана матэрыя?», «Паходжанне Сусвету», «Калі і як утварылася Зямля», «Ад нежывой прыроды да жывой», «Калі і як з'явіўся чалавек», «Як падоўжыць жыццё чалавека?» і г. д.

Усё гэта, на нашу думку, з'явіцца дапамогай усім, хто заклапочаны станам атэістычнай работы сярод насельніцтва, асабліва моладзі.

**Уладзімір ДОКТАРАЎ,**
**старшы выкладчык Беларускага політэхнічнага інстытута.**

# У НОВЫМ ГОДЗЕ

## Новы раздзел — ***Круглы стол „МАЛАДОСЦІ“.***

**Абмяркоўваецца адна важная праблема.**



# У жыцці і ў мастацтве

Уладзімір Мікалаевіч Дубоўка быў папярэджаны аб маім прыездзе і аб тэме нашай гаворкі. Але калі мы сустрэліся, размова пачалася не з літаратурных пытанняў і праблем. Я ведаў, што Уладзімір Мікалаевіч вельмі любіць прыроду, і таму не здзівіўся, калі ён прапанаваў мне паехаць у Падмаскоўе, у вёску Раздоры, дзе ў лесагадавальніку Акадэміі навук СССР растуць прышчэпкі сібірскага кедра на сасне.

Па дарозе Уладзімір Мікалаевіч расказваў пра каштоўныя якасці і асаблівасці кедра. Ён ведаў усё: і якая высокавітамінная хвоя гэтага дрэва, і якой якасці здабываюць з яе эфірны алей, і дзе ён ужываецца, і што з кедравай жывіцы здабываюць бальзам, які выкарыстоўваецца пры вырабе аптычнага шкла, што ў арэхах знаходзіцца да 36 працэнтаў высакаякаснага алею, а ў ядрах, ачышчаных ад шалупіння, усе 60. І калі ён сказаў, што мэбля, зробленая з кедра, захоўвае назаўсёды прыемны бальзамічны пах, якога не пераносіць моль, а скрынкі ці бочкі, скарыстаныя для транспартавання масла, не надаюць яму ні паху, ні староннягa прысмаку, то мне прыгадалася, што Уладзіміру Дубоўку даводзілася быць і бондарам, і сталярам. А за ўсё сваё жыццё, як ён сказаў у сваім жыццяпісе, Уладзімір Мікалаевіч авалодаў больш чым двума дзесяткамі спецыяльнасцей.

— **Я хацеў бы, каб вы, прыехаўшы ў Мінск, напісалі пра гэтыя прышчэпкі,** — гаворыць Уладзімір Мікалаевіч. — **Каб гэтую справу ажыццявіць на Беларусі — вялікая карысць была б... Кедр любіць лепшую глебу, чым сасна, а прышчэплены на сасне, расце добра і на нашых пясках. Калі кедр пасадзіць звычайна, то ён толькі праз гадоў 25—30 пачне даваць шышкі, а прышчэплены на трох-чатырохгадовых сасонках — на першы ж год.**

Урэшце мы прыехалі ў лесагадавальнік. Уладзімір Мікалаевіч ходзіць па лесе, да ўсяго прыглядаецца, прыслухоўваецца, і здаецца, што ён разумее боль вось гэтай абламанай сасонкі, ведае, чаму замоўкла берасцянка, адчувае ўсё, што хавае гэты лес у сваёй цішыні, і, як той казачны герой, чуе, пра што і як спявае кожная травінка.

— **Мне, можа, трэба было быць аграномам, але ж у дарэвалюцыйныя час не прыходзілася выбіраць шлях да любімай справы, не хапала «рэсурсаў». Наколькі шчаслівейшая наша сучасная моладзь! Перад ёю ў літаральным сэнсе слова адкрыты ўсе шляхі! Я вельмі люблю агранамічную справу. Жывучы ў Кіраўскай вобласці ў трыццатыя гады, я вывеў гатунак скараспелых таматаў, якія там спелі на агародзе. Цяпер, безумоўна, для тых мясцін гэта ніякае не дзіва, а тады прыходзілі аграномы пытацца: «Як вы гэтага дасягнулі?!» Тады ж разам з настаўнікам-тубыльцам Міхаілам Лагуновым мы арганізавалі былі вопытны агарод, на якім высадзілі і апрабоўвалі больш за сотню новых для таго краю культур. Насенне нам прыслаў Усесаюзны інстытут раслінаводства. Правялі мы тады дослед з чырвонымі гарбузамі (кавунамі), якія там звычайна не раслі. Мы садзілі зярняткі на прадвесні ў вазончыкі, зробленыя з газетнай паперы. Пасля, калі канчаліся веснавыя халады, гэтыя вазончыкі з ладнай расадай мы пераносілі на гарод і ўкопвалі ў зямлю. Карэнне лёгка праходзіла праз газетную паперу ў глебу, і ўвосень выспявалі добрыя гарбузы. У адным з куткоў Хабараўскага краю, дзе мне таксама давялося жыць і працаваць, не было пчол. Агуркі не завязваліся. Я ўжыў штучнае апылкаванне, за мной — суседзі. Агуркоў з'явілася багата. Я кажу пра гэта, не маючы жадання «выхваліцца» ў такой справе. Мне важна падкрэсліць і пацвердзіць думку, што папярэдняе знаёмства з навуковымі дасягненнямі можа зусім нечакана спатрэбіцца ў жыцці нават таму, хто не будзе спецыялізавацца на агранома, а тым больш — на селекцыянера.**

Уладзімір Мікалаевіч крыху задумваецца і тут жа гаворыць далей:

— **Чалавек і прырода, якая яго акружае... Гэта адна з праблем, якія цікавяць мяне вельмі даўно, і з гадамі — усё больш. Гэтай праблеме я прысвяціў свае новыя навукова-прыгодніцкія аповесці — «Жоўтая акацыя» і «Думка думку паганяе». На вялікі жаль, мы яшчэ мала ведаем свой край, слаба выкарыстоўваем свае раслінныя багацці. З вялікай колькасці спажыўных раслін я назаву для прыкладу адну — кіёўку (пухаўку, міліцу). У карэнні гэтае расліны знаходзіцца бадай сорак пяць працэнтаў крухмалу, паводле сваёй якасці блізкага да рысавага крухмалу, які, як вядома, лепшы за бульбяны. А каб пра гэта ведалі нашы людзі, якія ў часе вайны харчаваліся рознымі сурагатамі і маласпажыўнымі зёлкамі і раслінамі, хіба гэта не памагло б ім у цяжкім становішчы?**

**Наогул,** — дадае Уладзімір Мікалаевіч, — **калі б хоць дзесяць працэнтаў нашых школ, настаўнікаў і вучняў зацікавіліся тымі праблемамі, якія вырашаюць героі маіх аповесцей, дык я лічыў бы, што мая мэта дасягнута.**

З поўнай упэўненасцю можна сказаць, што Уладзімір Дубоўка — які ў жыцці, такі і ў літаратуры. На прыкладзе яго творчасці можна бачыць, як вялікая асабістая дасведчанасць, вялікі жыццёвы вопыт узбагачае пісьменніка, літаратуру. У яго кнізе вершаў «Палеская рапсодыя», як і ў іншых творах, арганічнае, унутранае адчуванне і разуменне жыцця людзей і прыроды дае яму магчымасць быць паэтам сапраўды народным, паэтам, для якога блізкімі, роднымі з'яўляюцца народныя ідэалы, народнае светаўспрыманне. І не выпадкова, што ў яго творчасці вельмі адчувальны фальклорны элемент. Вось чаму, калі мы вярнуліся з лесагадавальніка, наша гаворка неяк сама сабою заходзіць аб казках, аб вуснай народнай творчасці і значэнні яе ў працы пісьменніка. На маю заўвагу, што на Захадзе некаторыя пісьменнікі лічаць, быццам літаратура, якая «прывязана» да фальклору, не можа ісці ўпоравень з векам, Уладзімір Мікалаевіч адказвае:

— **Калісьці я напісаў быў паэму «І пурпуровых ветразей узвівы», у якой пратэставаў супраць сляпога наследавання формам і ідэям заходняй культуры. Пры падыходзе да гэтага пытання ў першую чаргу мы павінны кіравацца запаветамі Леніна аб вывучэнні і скарыстанні ўсіх здабыткаў старой культуры. Не трэба забывацца і на тое, як ставіўся Карл Маркс да народнай творчасці. Гэта ж факт, што ён не толькі вывучаў паэтычную творчасць многіх народаў, але многія народныя песні перапісваў у асобны альбом-сшытак і даў яго, як каштоўны падарунак, сваёй нявесце Жэні. Трэба крыху задумацца і аб тым, што азначае сам тэрмін**

«фальклор». Гэта не толькі народная творчасць! Слова «лор» у англійскай мове азначае і навуку, вучэнне, мудрасць. «Народная творчасць, народная мудрасць, навука» — вось як расшыфроўваецца гэты тэрмін. А калі так, дык ці можам мы, вывучаючы культурную спадчыну іншых народаў, зняважліва паставіцца да мудрасці, да культурнай спадчыны нашага народа? Чаму Максім Горкі ці Уладзімір Караленка, да прыкладу, маглі з вялікаю пашанаю ставіцца да беларускіх народных казак, да філасофіі гэтых казак, а мы павінны адвярнуцца ад іх? Пытаюцца часам: што мы можам знайсці ў іх, апрача зместу? Многа чаго! Надзвычайна цікавую кампазіцыю — у першую чаргу. А ў песнях — і кампазіцыю, і сістэму вобразаў, і багатую эўфанію.

— Прабачце за маленькае адхіленне ў нашай гаворцы, але ў такім выпадку дазвольце зразумець, што ваша праца па стварэнню казак для юных чытачоў таксама шчыльна звязана з выказанымі вамі думкамі?

— Безумоўна. Я бяру за ўзор самае лепшае, што стварыў народ за вякі, і буду рад, калі мае казкі паслужаць нашым юным чытачам так, як калісьці служылі народныя казкі мне самому.

— Дзякуй за ўдакладненне, Уладзімір Мікалаевіч. А цяпер хацелася б вярнуцца да перапыненай гаворкі. Вы гаварылі пра фармальнае багацце фальклору...

— Каб паказаць нямалаважнае значэнне вывучэння формы фальклорных твораў, возьмем, напрыклад, такое пытанне — рыфмоўку ў беларускай народнай творчасці. Я даводзіў некалі ў артыкуле «Рыфма ў беларускай народнай творчасці» шматлікімі прыкладамі, што тут ёсць багата такіх цікавых прыёмаў, да якіх, як да вялікага наватарства, сімвалісты дайшлі толькі напярэдадні рэвалюцыі. Валеры Брусаў рыфмаваў:

Я стою на том берегу,
Как любовь я тебя берегу...

А ў нашых безназоўных паэтаў, у народнай творчасці, хіба горш гучыць такі прыклад:

Ой, спраў, мілы, залатое вадзіла,
Каб я твайго каня да вады вадзіла...

альбо:

Гаспадар жнеям рад,
Садзіцеся, жнейкі, ў рад!

ці яшчэ:

Сонейка каля елі,
Мы яшчэ нічога не елі...

Цяжка знайсці на свеце такую рыфмоўку, якая не была б ужыта ў народнай творчасці. Бліскучыя прыклады амонімаў, асанансаў, складаных рыфмаў, дакладных, нават дысанансавых, — усё гэта ёсць у ёй: вывучай, даследуй, альбо ствары сваё, адыходзячы ад роднага... І так ва ўсіх куточках той цудоўнай скарбніцы, якая называецца народнай творчасцю. Вядома, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч ішлі гэтым шляхам. У пятым томе этнаграфічных збораў М. Федароўскага «Люд беларускі» ёсць адна мілагучная не толькі па мелодыі, але і па слоўнай інструментоўцы песня, якая пачынаецца так:

А, здаецца, той лясок не высок,
Не праходзіць галасок на лясок...

Максім Танк, натхнёны гэтай мілагучнасцю, стварыў свой цудоўны верш:

Хоць, здаецца, той лясок невысок,
А які бруіць бярозавы сок,
Пад крушынавым кустом муражок
І лагодны і духмяны цянёк!
Як тут рэха кліча рэха здалёк,
Як зязюленькі звініць галасок.
Як тут добра сустракацца у змрок —
Хоць, здаецца, той лясок невысок.

Для вывучэння законаў мілагучнасці нашае мовы нямала робяць пасобныя нашы вучоныя (маю на ўвазе некаторыя працы Ф. Янкоўскага).



Але не магу не сказаць некалькі слоў пра пісьменніцкую практыку ў гэтым кірунку. У французскай і англійскай мовах, да прыкладу, на працягу стагоддзяў пісьменнікі змагаліся за мілагучнасць мовы, выпрацоўвалі адпаведныя прыёмы для гэтага. У нас, беларусаў, адбываецца супрацьлеглы працэс. У жывой мове нашага народа ёсць мноства сродкаў, якія павышаюць мілагучнасць мовы. А мы, пісьменнікі, калі можна так сказаць, выкарчоўваем іх. У нас ёсць прыдыханні «в», «г». Ужываецца галосная «і» для пазбаўлення ад немілагучных спалучэнняў пры збегу зычных альбо галосных гукаў. У жывой мове яны з'яўляюцца там, дзе яны і павінны быць. Так, напрыклад, скажуць: «зачыніў акно», але «на вакне», «смачныя грушы», «назбіваў ігруш» і г. д. А пры друкаванні мне, напрыклад, карэктары выкідаюць звычайна «прыдыханні». Толькі 15 ліпеня ў «ЛіМе» прапусцілі (мабыць, як падарунак да майго дня нараджэння): «у вастрогах...» Зразумела, што можна падаць такія ж прыклады і для прыдыхання «г» (арэх і гарэх). На Магілёўшчыне, калі збягаюцца два «а», адно выкідваецца, нібыта ставіцца нейкі «апостраф». У Раманава чытаем: «Папіў-паеў і патом вялеў разбурыць усю турму і распусціць усіх да 'днаго нявольніка». Не хочацца браць на сябе нейкае «настаўніцтва», але, мне думаецца, зусім не блага будзе, калі нашы пісьменнікі, асабліва паэты, пацікавяцца і гэтымі пытаннямі.

Праблема народнай і літаратурнай мовы вельмі хвалюе Уладзіміра Дубоўку. Тут для яго няма так званых вялікіх і малых пытанняў — тут усё важна.

— Мне прыслаў ліст з Кубані аднафамілец, Дубоўка Іван Іванавіч, — расказвае Уладзімір Мікалаевіч. — Ён — выкладчык рускай мовы і літаратуры. Я паслаў адказ і, між іншым, запытаўся, якім чынам яму ўдалося захаваць на канцы свайго прозвішча «а», бо маё прозвішча нярэдка аздабляюць літарай «о». Гэта тэндэнцыя пайшла ад складальніка рускага дарэвалюцыйнага правапісу Грота, які запісаў правіла, што «ўсе ўкраінскія прозвішчы з канчаткам «енко» не скланяюцца і на канцы заўсёды маюць «о». У далейшым, ужо не мовазнаўцы, а пашпартысты паклапаціліся, каб усе прозвішчы наогул, якія маюць на канцы «а», атрымалі на канцы «о». Цяпер не толькі пішуць, але і вымаўляюць не «Скрыпка», а «Скрыпкó», не «Дуда», а «Дудó». Прыгожае беларускае прозвішча «Галóўка» пішуць і вымаўляюць Галаўкó»... Аднойчы я не вытрываў і запытаўся ў аднаго такога «механізатара»: «Дык, можа, цяпер трэба пісаць не «Глíнка», а «Глінкó». «Не, — адказаў ён, — неяк няёмка, тут ужо традыцыя ўмацавалася...» Не ведаю, як з рускім правапісам, але ў беларускім, мабыць, варта было б зрабіць заўвагу пра такія прозвішчы і дадаць, што нябожчык Грот у сваім правапісе беларускіх прозвішчаў не закранаў.

— Сапраўды, даводзіцца чуць нямала наракання пісьменнікаў, настаўнікаў у прыватных гутарках і ў друку, што наша радыё, тэатр часам пазбаўляюць беларускае слова натуральнасці гучання. Жывая моўная практыка, гутарковая мова маюць свае законы. Відаць, у нас яшчэ мала цікавяцца гэтымі пытаннямі, недастаткова ствараецца дапаможнікаў на гэтую тэму. Чаму б і вам, Уладзімір Мікалаевіч, не выступіць у друку і не выказаць свае меркаванні?

— У свае маладыя гады я нямала думаў і пісаў пра гэта. Я мог бы згадаць некаторыя артыкулы свае, надрукаваныя ў часопісе «Узвышша» ў 1927 — 1930 гг. — «Пра нашу літаратурную мову», «Мілагучнасць беларускае мовы», «Лацініка ці кірыліца», «Праекты літар для «ДЗ» і «ДЖ» і іншыя. Паводле маіх праектаў былі зроблены адмысловыя літары, з якімі друкавалася некалькі нумароў часопіса. Але цяпер у нас ёсць багата выдатных спецыялістаў-мовазнаўцаў (Ф. Янкоўскі, М. Лобан, У. Юрэвіч, Л. Шакун і многія іншыя). Вось яны, узброеныя апошнімі дасягненнямі навукі, і павінны ўсебакова асвятляць і вырашаць гэтыя праблемы.

— Пісьменнікаў называюць мастакамі слова. Гэта нездарма. Як слова вымаўляецца, як слова перадаецца на пісьме — гэта ж надзвычайна важна, а не толькі цікава. Калі вы ў свой час распрацоўвалі праекты асобных літар для «дз», «дж», альбо падоўжаных зычных, дык кіраваліся такімі меркаваннямі?

— Справа тут і вельмі ясная і вельмі «цёмная». Калі праслаўленыя балгарскія вучоныя Кірыл і Мефодзі тысячу год таму назад складалі свой алфавіт, яны ўлічвалі асаблівасці, гукавы склад балгарскай мовы. Адзін выдатны нямецкі мовазнаўца сказаў у мінулым стагоддзі пра іхнюю працу, што гэтыя стваральнікі паступілі «як надзвычайна выдатныя людзі, вялікім розумам надораныя», увёўшы паасобныя літары для кожнага гуку сваё мовы, бо, скардзіўся той немец, у нямецкай мове гэтыя гукі перадаюцца добра калі двума літарамі, а то і чатырма. Пасля гэтага балгарскі алфавіт («Кірыліца») пашырыўся на Украіну, Расію, Беларусь, але без уліку гукавых асаблівасцей кожнае з гэтых моў. Лічылася блюзнерствам нават узнімаць пытанне аб якіх-небудзь дадатках або зменах у гэтым алфавіце. Што ж далей? У беларускай мове, як вядома, ёсць многа гукаў, якіх няма ў балгарскай: ў, дз, дж, падоўжаныя зычныя. Што такое ўяўляюць з сябе «дз» і «дж»? «Дз» — гэта гук (афрыката) дакладна такога ж парадку, як «ц» (тс), толькі «дз» звонкі, а «тс» (ц) глухі. Адпаведна і «дж» звонкі для «тш» (ч) — глухога. Уявіце сабе, — гаворыць Уладзімір Мікалаевіч, — што мы з вамі пачалі б сёння перадаваць гукі «ч» і «ц» на пісьме таксама, як перадаем «дз» і «дж». Возьмем адну страфу з верша Янкі Купалы:

Еду, пхнуся бітым шляхам,
Па балотсе конь плюскотша,
А нотш крадзеттса патсіху,
Сыпле тшары ўлева, ўправа...

Што б вы сказалі пра такое напісанне? — «Вар'яцтва нейкае!». А я адказаў бы вам: «Якраз такое, як і з напісаннем аднаго гуку «дз» або «дж» праз дзве літары, якое мы ўжываем. А многія так і чыталі б «на балот'се», «нот'ш», «плюскот'ша», як цяпер чытаюць і вымаўляюць — «д'зякую», «добры д'зень». Мне шкода, што пытанне гэтае так і засталося нявырашаным у нашай фанетыцы.

— Уладзімір Мікалаевіч, мяне зацікавіла, чаму вы гаворыце «шкода», а не «шкада», як пачалі пісаць цяпер многія.

Мой субяседнік адказвае:

— Вы не хочаце сказаць мне так, як напісаў адзін мой стары знаёмы і добры сябра: «Пішуць «шкода сэрца твайго» і не заўважаюць, што «шкода» па-руску значыць «вред, ущерб, потрава». А паэт жа шкадуе нейчае сэрца, толькі не ўмее гэта правільна выказаць...» Пасля гэтага ўсе і шарахнуліся да «шкады», а рэдактары і карэктары пачалі выкрэсліваць слова «шкода» нават там, дзе, здаецца б, не мелі ніякага права гэта рабіць, як, напрыклад, у перадрукаваным зборніку казак, запісаных Раманавым. Прыходзіцца дзівіцца, што гэтага ж не зрабілі з казкамі, запісанымі Сержпутоўскім. На маю думку, пытанне аб заняхаянні адных слоў ці ўвядзенні новых трэба папярэдне абмяркоўваць на старонках перыядычных выданняў. Ва ўсіх нашых слоўніках народнае мовы (Насовіча, Чэрвеньскім, Віцебскім) слова «шкода» ўжываецца і ў значэнні «вред» і ў значэнні «жаль». Слова «шкада» ні ў водным з тых слоўнікаў няма. Ужывалі слова «шкода» ў сэнсе «жаль, жалко» і Цётка, Багушэвіч, Купала, Колас, Багдановіч, Броўка, Танк, ужывалі яго Лужанін і я грэшны. Я, напрыклад, нічога ніколі не меў бы супроць таго, каб слова «шкада» ўжывалася раўналежна са словам «шкода», калі яно мае нейкае новае адценне, хоць у нас, у маёй мясцовасці, гэтае слова мела не вельмі прыемны сэнс. У адной прыпеўцы (пра маладога, які пакінуў адну дзяўчыну і ажаніўся з другою) спявалася так:

...Ты брыда, ты шкада дробнамакавая,
Па табе я не заплачу, як не плакала.
Ты брыда, ты шкада непатрэбная,
Не хацеў ты аксамітнай — нюхай зрэбную...

— Я любіў і люблю цяпер, — гаворыць Уладзімір Мікалаевіч, — уводзіць прыгожыя словы з народнай мовы ў літаратурную, але толькі тады, калі яны дапамагаюць узбагачэнню яе нейкімі новымі адценнямі. Праўда, за гэта ў свой час мне нямала «пападала» ад ліхамысных крытыкаў. Але ж звярніце ўвагу на тое, што многія словы, уведзеныя (а не створаныя) мною, цяпер з'яўляюцца агульнапрынятымі. Напрыклад, да майго зборніка «Трысцё» (1925) выдавецтва абавязала было мяне даць «тлумачальны слоўнік», у тым ліку да слоў: апантаны, ашчаперыць, багавінне, водар, дубальт, занізка, імклівасць, кармазынавы, нажутка, строма, столкі, трысцё, узрочыста, шчамлёткі. Скажыце, якое з гэтых слоў цяпер не ўжываецца ў літаратурнай мове?!

Цікава, што разам з шырокім увядзеннем слоў з жывой народнай мовы, Уладзімір Дубоўка сам стварыў некаторыя словы, напрыклад — слова «адлюстроўваць». І яно засталося ў літаратурнай мове. А словатворчасць — гэта ж таксама паэзія! Нездарма некалі славуты ўкраінскі мовазнаўца Патабня казаў, што «адно ўдала створанае слова паводле сваёй каштоўнасці роўназначна цэлай паэме».

— На вялікі жаль, — гаворыць далей Уладзімір Мікалаевіч, — і цяпер нашы слоўнікі не даюць усяго багацця нашае мовы, і цяпер даводзіцца «шукаць» у некаторых выпадках. Вось, напрыклад, пры перакладзе санетаў Шэкспіравых мне трэба было перадаць слова «похитительница». У нашых слоўніках і «воровка» — зладзейка, і «похитительница» — зладзейка. Падыходзіць? Не! З жывой народнай мовы я ўзяў для другога паняцця — «скрадніца». Дрэнна? — Дайце лепшае, інакшае, але толькі не «зладзейку», і я падзякую вам. Таксама з народнай песні, для перадачы паняцця «сімпатыя», «мілка» я ўзяў слова «спадабанка».

Я слухаю разважанні Уладзіміра Мікалаевіча, і мне прыгадваецца Брэстчына, маё маленства. Як толькі першы, малады снег абнаўляў зямлю, то мая маці казала: «панова». Гэтае слова я ў мастацкай літаратуры не сустракаў, а, на маю думку, яно варта ўвагі і мае ўсе падставы ўвайсці ў літаратурны ўжытак. А колькі яшчэ такіх алмазаў зіхаціць у жывой народнай мове!

Калі гаворыш з Уладзімірам Дубоўкам, то ўвесь час адчуваеш яго моцную сувязь з жыццём народным, яго глыбокае разуменне мудрасці народнай.

— Настаўнікаў, мудрэйшых, чым народ, не бывае, — гаворыць ён на заканчэнне гутаркі.

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**

Фота аўтара.

# І З ГЛЫБІНЁЙ І З ПАЧУЦЦЁМ



**Алег ЛОЙКА. Максім Багдановіч. Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1966.**

Вывучэнню жыцця і творчасці Максіма Багдановіча прысвечана новая кніга Алега Лойкі. Перад чытачом паўстае жывы і яркі вобраз цудоўнага паэта, публіцыста і празаіка, удумлівага гісторыка роднай літаратуры, актыўнага грамадска-палітычнага дзеяча, жыццялюба і эрудыта, чалавека вялікай душы. Алегу Лойку ўдалося паказаць незвычайную сілу і прыгажосць паэзіі Максіма Багдановіча, раскрыць сакрэты яго пісьменніцкага майстэрства.

У пачатку свайго даследавання аўтар спыняецца на характарыстыцы фактараў, што садзейнічалі абуджэнню і развіццю таленту Максіма Багдановіча, гаворыць аб тых крыніцах,

што жывілі натхненне паэта. Важную ролю ў жыццёвым лёсе паэта адыграў беларускі фальклор. Першымі кніжкамі маленькага Максіма былі беларускія народныя казкі, якія пазнаёмілі яго на далёкай чужыне з мовай свайго народа і адкрылі шлях у сонечную і шчаслівую краіну Паэзіі.

Паэтам-дэмакратам зрабіла Багдановіча само жыццё, эпоха рэвалюцыйных выступленняў, у якую ён жыў. «Пануючы дух дэмакратызму ў хаце бацькі,— піша даследчык,— уплыў бурных рэвалюцыйных падзей 1905—1907 гадоў, якія не абышлі сваім асвяжаючым уплывам і Ніжагародскай гімназіі, прывёўшы Багдановіча ў шэрагі бастуючых гімназістаў, замацаваўшы за ім рэпутацыю «неспакойнага вучня», уплыў старэйшага брата Вадзіма—аднаго з актыўных удзельнікаў антыдзяржаўных выступленняў перыяду рэвалюцыі,—усё гэта прадвызначыла дэмакратызм будучага паэта, усё гэта, разам з тым, было таксама адным з фактараў, які паскорваў выспяванне Багдановіча як літаратара».

Творчасць Максіма Багдановіча даследчык падае ў сувязі з грамадска-палітычным жыццём эпохі і, у прыватнасці, у сувязі з усёй дарэвалюцыйнай беларускай літаратурай. Пісьменнік паказан у кнізе як паслядоўнік лепшых традыцый рускай класічнай літаратуры XIX стагоддзя, як сучаснік і паплечнік Янкі Купалы і Якуба Коласа, як адзін з ваяўнічых змагароў за перамогу прынцыпаў рэалізму і народнасці ў літаратуры.

Доўгі час вульгарызатарская крытыка імкнулася прадставіць Максіма Багдановіча як паэта апалітычнага, як песняра «чыстай красы». Алег Лойка на аснове грунтоўнага аналізу творчасці паэта пераканаўча даказвае, што Багдановіч не меў нічога агульнага з філасофіяй песімізму і дэкадэнцтва. «Ад дэкадэнтаў Багдановіча адрознівала прынцыпова ўсё,— піша даследчык,—і найперш цікавасць паэта да рэальнага свету, да рэальнага чалавека. Надзейна і трывала адмяжоўвала яна яго ад дэкадэнцкага апявання ірацыянальнага, ад іх адмаўлення служыць справе сацыяльнага прагрэсу, грамадству і г. д.»

Матывы веры ў народ, чалавека і рэвалюцыю, захаплення красою жыцця з'яўляюцца галоўнымі ў паэзіі Максіма Багдановіча. Праўда, яго паэзія ведала таксама і сум і тугу. Але яны былі выкліканы трывогай аб нядолі і няволі краіны, аб чорным часе рэакцыі, з'яўляліся выражэннем найглыбейшай паэтавай прагі шчасця для чалавека на зямлі.

Грамадзянскія матывы ў творчасці Максіма Багдановіча займаюць галоўнае месца. Гэтымі матывамі прасякнута нават яго пейзажная і любоўная лірыка. Погляды паэта на жыццё былі шырокія, актыўныя, дзейсныя, жыццесцвярджальныя. Ідэалам яго быў чалавек, які дбае аб глыбіні і шырыні духоўных інтарэсаў, імкнецца пазнаць законы развіцця прыроды і грамадства. Даследчык грунтоўна паказвае, як Максім Багдановіч горача вітаў набліжэнне новых рэвалюцыйных падзей.

Асабліва цікавым раздзелам кнігі з'яўляецца той, у якім даследуецца паэтычнае майстэрства Максіма Багдановіча («У творчасці яго раптоўнага няма»). Тут выказваецца многа арыгінальных думак, робяцца цікавыя назіранні і абагульненні. Алег Лойка паказвае, як класічныя традыцыі майстэрства сусветнай паэзіі Багдановіч рабіў здабыткам роднай літаратуры, як ён прышчапляў ёй і «асацыятыўную вобразнасць, і форму рандо, і метрыку пентаметра, і вытанчаную культуру інструментоўкі радка, і майстэрства пластычнага жывапісу».

Адну з важнейшых асаблівасцей паэтычнага таленту Максіма Багдановіча даследчык бачыць у тым, што творы паэта ўяўляюць сабою сінтэз паэзіі і навукі. Аўтар кнігі зазначае, што пры чытанні твораў Багдановіча «ўспрымаеш іх не толькі розумам і сэрцам, але і зрокам, бачыш жвавасць трайной ігры адным і тым жа радком у трыялеце, суровую строгасць рытму і рыфмоўкі катрэнаў і трохрадкоўяў у санеце, класічную вытанчанасць формы ў рандо—бачыш іменна візуальна, нібыта словы, як мармуровыя блокі, кладуцца адно на другое, узносячыся харомамі сіметрычна завершанай формы!..»

Асабліва цікава вядзе Алег Лойка размову аб музычнасці паэзіі Максіма Багдановіча. Ён раскрывае «сакрэт» песеннасці твораў паэта: «Майстэрства гукапісу ў Багдановіча рабіла часам проста цуды. Бо сапраўды, ці гэта не цуд пачуць у вершы пра лес, як ён шуміць, як ходзіць па ім, то нарастаючы, то заціхаючы, рэха, ілюзія якога ствараецца адпаведным падборам слоў, адпаведным чаргаваннем галосных».

Алег Лойка напісаў сур'ёзнае даследаванне пра аднаго з класікаў роднай літаратуры. Ён здолеў данесці творчасць пісьменніка не толькі да розуму, але і да сэрца чытачоў, даў магчымасць адчуць магутную сілу, музычнасць і незвычайнае характво неўміручага слова аўтара «Вянка».

**Алесь МАКАРЭВІЧ.**



# ПРА ВУЧОНАГА І ЗМАГАРА




**Арсень ЛІС. Браніслаў Тарашкевіч. Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1966.**

Пачала выходзіць серыя біяграфічных нарысаў, прысвечаных вядомым вучоным і грамадскім дзеячам Беларусі. У гэтай серыі, якая можа стаць папулярнай, пакуль што выйшлі тры кніжкі. Я маю на ўвазе кнігі Кацярыны Пракошынай пра выдатнага прадстаўніка нашай палемічнай літаратуры XVI—XVII стагоддзяў Мялецця Смятрыцкага, Юліяна Пшыркова пра Адама Ягоравіча Багдановіча, які вядомы не толькі як бацька славутага беларускага паэта Максіма Багдановіча, але і як буйнейшы этнограф, а таксама нарыс Арсеня Ліса «Браніслаў Тарашкевіч».

Аўтар апошняй працы—малады навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. У сваёй першай кнізе Арсень Ліс паказаў сябе сталым, удумлівым даследчыкам, які ўмее самастойна вырашаць складаныя навуковыя пытанні і праблемы. Ён добрасумленна вывучыў і глыбока прааналізаваў навуковую спадчыну Браніслава Тарашкевіча, а таксама матэрыялы, звязаныя з яго жыццём і шматграннай дзейнасцю, і ў канчатковым выніку яму ўдалося стварыць абаяльны вобраз самаадданага вучонага і непахіснага барацьбіта, самаахвярнасць якога не маглі адмовіць нават яго палітычныя праціўнікі.

Сапраўднае высакародства, вялікая грамадзянская мужнасць, глыбокая вера ў перамогу народнай справы, высокае ўсведамленне свайго патрыятычнага абавязку перад роднай, зняя дбанай тады краінай—вось што ў выдатнай асобе Браніслава Тарашкевіча найбольш прываблівае маладога вучонага, нараджае і падтрымлівае яго даследчыцкі пафас, якім прасякнута і адухоўлена кніжка.

Патрыятычныя мэты, падкрэслівае аўтар нарыса, вялі дапытлівага юнака Тарашкевіча ў далёкі Пецярбург па вялікую навуку, свядомыя клопаты пра будучыню роднай мовы змушалі яго напружана працаваць над «Беларускай граматыкай», якая сапраўды лягла першай важкай цаглінай у падмурак нашай нацыянальнай школы.

Выдатнае адчуванне народных патрэб і тых першачарговых задач, якія на кожным новым гістарычным пераvale вымагалі свайго неадкладнага вырашэння, зусім лагічна і заканамерна прывяло таленавітага вучонага, удастоенага пазней гонару быць акадэмікам АН БССР, у лагер актыўных барацьбітоў заходнебеларускага нацыянальна-вызваленчага руху, у шэраігі яго выпрабаванага авангарду—Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Вялікія арганізатарскія здольнасці, талент публіцыста і прамоўцы паставілі Браніслава Тарашкевіча на чале статысячнай Грамады.

Старонкі, прысвечаныя публічным выступленням Тарашкевіча, яго кіпучай дзейнасці на пасадзе старшыні Цэнтральнага Камітэта Грамады, і асабліва раздзелы, у якіх ідзе гаворка пра мужнасць, прынцыповасць правадыра заходнебеларускіх працоўных у часе неадназаровых судовых працэсаў над грамадаўцамі, належаць да найбольш цікавых і грунтоўных мясцін у кніжцы Арсеня Ліса. Яны напісаны з такім аўтарскім хваляваннем і захапленнем, што чытаюцца як мастацкі твор.

Вядома, вельмі многае залежыць і ад яркасці самога фактычнага матэрыялу, выкарыстанага даследчыкам. Ну, хіба ж можна застацца абыякавым, даведаўшыся пра тое, што Браніслаў Тарашкевіч і ў астрожных мурах, не зважаючы на слабае здароўе, дарэмна не траціў часу, а займаўся навуковымі і літаратурнымі справамі. Тут ён падрыхтаваў новае, дапоўненае і перапрацаванае выданне сваёй граматыкі, пераклаў на беларускую мову «Іліяду» Гамера і «Пана Тадэуша» Міцкевіча, стварыў тэкст баявой рэвалюцыйнай песні «Марш Грамады», пісаў адозвы і пракламацыі. Адным словам, і ў турэмным зняволенні Тарашкевіч заставаўся змагаром і грамадзянінам, які ніколі і ні ў чым не паступаўся чалавечай годнасцю, пагардай адказваў на запабяганне прадстаўнікоў пануючых класаў, калі тыя спрабавалі паказаць сваю ўяўную, крывадушную гуманнасць ці стараліся неяк улагодзіць незгаворлівага рэвалюцыянера.

У гэтым сэнсе характэрны маленькі эпізод, прыгаданы М. Герусам, які

разам з Тарашкевічам знаходзіўся ў Плоцкай турме. У камеру да Тарашкевіча наведаўся начальнік турмы і пракурор. «Начальнік прыклаў два пальцы да брыля, а пракурор працягнуў руку для прывітання. Аднак яна так і павісла ў паветры. Тарашкевіч падкрэслена ветліва, спакойна прамовіў: «Мы з панам у розным становішчы, прыяцельства між намі быць не можа». Няўдалых візіцёраў як ветрам садзьмула».

Як быццам дробязь, нязначная дэталь, а за ёю відаць характар чалавека, якога польскія ўлады пасля раптоўнай амністыі, разлічанай на дыскрэдытацыю кіраўніка Грамады ў вачах працоўных, мусілі сілай выганяць з турмы. Гэты чалавек з высокай парламенцкай трыбуны мог заявіць шаноўным паслам (дэпутатам) польскага сейма, што ў іх дзяржаве «дэфензіва судзіць, дэфензіва і правіць. Суд з'яўляецца мёртвай прыладай у руках дэфензівы». А ўжо будучы на лаве падсудных, ён з гонарам гаварыў: «Мы хочам змены ўсяго капіталістычнага ладу. Можаце мяне за гэта на смерць засудзіць, але факт застаецца фактам, што капіталізм гіне... і на змену яму прыйдзе новая, сацыялістычная сістэма».

Не будзе перабольшаннем сказаць, што такія эпізоды і фактычныя звесткі ўжо самі па сабе не могуць не хваляваць чытача. Але важнай і бясспрэчнай заслугай даследчыка з'яўляецца тое, што багаты фактычны матэрыял лепшых раздзелаў яго кнігі, часта не толькі трапна пададзены аўтарам, але і здабыты ім, знаходзіць сваё глыбокае, навукова дакладнае вытлумачэнне. І што каштоўна—навуковая дакладнасць спалучаецца з эмацыянальнасцю.

Вось, напрыклад, як піша аўтар пра вялікую папулярнасць Грамады і яе друкаваных органаў: «Грамадаўскі рух рос углыб і ўшыркі. І гэта выяўлялася не толькі ў колькасным прытоку новых членаў, а і ва ўсёй палітычнай атмасферы краю. Шырокія масы далучаліся да грамадскага жыцця. Вялікая палітыка прыйшла ў сялянскую хату, у сутарэнь рамесніка не як нешта далёкае, а як рэальная зразумелая справа, пад якую трэба было падставіць і сваё плячо...

Аб сваім штодзённым жыцці, аб сваіх надзеях і імкненнях гучна загаварыла праз камуністычны і грамадаўскі друк уся працоўная Заходняя Беларусь. Маўчаўшая вякі, яна спяшалася, каб выгаварыць, паказаць свае крыўды на свет цэлы, знайсці на іх раду, падзяліцца новым адчуваннем сваёй сілы, чалавечага і народнага права... Гучаў узрушаны, непадробны ў сваёй шчырасці і прастаце голас народа, які сам узнімаўся палепшыць сваю долю, уголас снаваў свае запаветныя мары». Такой выразнасці і эмацыянальнай яркасці стылю ў навуковай працы можна толькі пазайздросціць.

Імкнучыся на працягу ўсяго даследавання паказваць фігуру Браніслава Тарашкевіча на шырокім грамадскім фоне (і гэта, трэба сказаць, аўтару добра ўдалося), Арсень Ліс, мне здаецца, залішне часта для кніжкі невялікага памеру гаворыць пра добра вядомыя рэчы (дае, напрыклад, сціслую характарыстыку і «Нашай ніве», і творчасці Купалы і Коласа, Багдановіча і Цёткі, Бядулі, Гаруна, Гарэцкага напярэдадні Вялікага Кастрычніка). Замест гэтага варта было б растлумачыць, скажам, сутнасць законапраекта польскіх улад па пытаннях мовы, супраць якога выступаў Тарашкевіч, бо без такога тлумачэння недасведчанаму чытачу цяжка зразумець пазіцыю беларускага пасла.

Не агаворана часам, якое дачыненне мелі да Браніслава Тарашкевіча людзі, успаміны якіх цытуе аўтар. Дарэчы, у кнізе, за выключэннем агульнай заўвагі, якая датычыць тарашкевічавых прамоў у сейме, адсутнічаюць спасылкі на першакрыніцы цытаваных матэрыялаў. Адсутнасць такой дакументаванасці не дае магчымасці чытачу адразу вызначыць, дзе аўтар карыстаецца вядомымі, ужо апублікаванымі матэрыяламі, а дзе ён абапіраецца на новыя, ім асабіста знойдзеныя факты, напісаныя па яго просьбе ўспаміны былых удзельнікаў заходнебеларускага нацыянальна-вызваленчага руху, і г. д.

Або вось Арсень Ліс гаворыць, што ў выдадзенай у Варшаве кнізе А. Федаркевіча, былога кандыдата ў прэзідэнты польскай дзяржавы, за якога галасавалі беларускія паслы на чале з Браніславам Тарашкевічам, ёсць цікавыя выказванні «пра памятныя, поўныя рэвалюцыйнага пафасу сеймавыя прамовы Тарашкевіча», але выказванняў гэтых не прыводзіць. Думаецца, што месца для такіх выказванняў можна было б знайсці.

Вядома, усё гэта дробныя агрэхі. І не ў іх справа. Арсень Ліс у сваёй першай кнізе, якая разам з тым з'яўляецца і першай кнігай пра Браніслава Тарашкевіча, выявіў свае лепшыя якасці. Ён доказна і аргументавана, з любоўю і захапленнем расказаў пра вучонага і змагара, які варты нашай самай шчырай павагі і ўдзячнай памяці.

**Дзмітры БУГАЁЎ.**



# Кнігарня „Маладосць“

**Выйшлі ў выдавецтве «БЕЛАРУСЬ».**




Вершы **Нічыпара ЧАРНУШЭВІЧА,** сабраныя ў кніжцы пад назвай **«ГАВОРКА ДУМ»,** — гэта роздум пра жыццё, пра дні мінулыя і сённяшнія, пра харាство прыроды, прыгажосць чалавечых адносін. Разам з творамі апошніх год у кнігу ўключаны некалькі вершаў паэта, напісаныя ў 20-я гады.

У кнізе **«НАША, ПОЛАЦКАЯ ПРАФЕСІЯ»** журналіст **Валянцін ЛУКША** расказвае пра цікавыя падзеі і факты з жыцця нашых маладых сучаснікаў — будаўнікоў, шафёраў, геолагаў, якія па закліку ленінскага камсамола прыйшлі будаваць першы на беларускай зямлі Нафтаград.







**«П'ЕСЫ ДЛЯ НАРОДНЫХ АРКЕСТРАЎ», «БЕЛАРУСКІЯ ТАНЦЫ», «ЭСТРАДНЫЯ ПЕСНІ»** — гэта тры асобныя зборнікі, якія выйшлі ў серыі **«Мастацкай самадзейнасці».** Не толькі аматары самадзейнай творчасці, але і кожны, хто любіць песню, танец, музыку, з цікавасцю сустрэнуць выхад гэтых кніжак, дзе сабраны самыя новыя творы як народныя, так і напісаныя беларускімі кампазітарамі.

У новай кнізе вершаў **Марка СМАГАРОВІЧА «КРОКІ»** паэт славіць родны край, дабрату чалавечай душы і веліч спраў свайго народа. Вершы вельмі выразныя па думцы і напісаны з уласцівай паэту стрыманасцю лірычнага пачуцця. У кніжку ўключана і невялічкая паэма «Марыта», у якой раскрыт лёс маладой літоўскай дзяўчыны, што паехала на вялікую будоўлю ў Казахстан.




Узнімуць іншы раз
У нас
Пытанне
І ну спрачацца, ну галасаваць,
Хаця, каб вырашыць яго, не трэба раздзімаць
Ні спрэчак, ні галасавання,
Бо могуць вырашыць пытанне тое
Двое.

Гэта мараль з байкі «Галасаванне», змешчанай у новай кнізе **Уладзіміра КОРБАНА «НЕ НА СВАІМ МЕСЦЫ».** У сваіх новых творах У. Корбан сілаю вострага слова вые з перажыткамі мінулага ў свядомасці савецкіх людзей, з усім тым, што перашкаджае ім будаваць новае грамадства.

# ПЕРАД ЭКЗАМЕНАМІ

Кароткая газетная інфармацыя: «22 верасня на матчы ў Сочы валейбалісты мінскага «Буравесніка» выйгралі ў «Калева» — 3 : 0 і разам з эстонцамі перайшлі ў першую групу класа «А».

Такога, каб выступаць у вышэйшай лізе, побач з лепшымі майстрамі краіны, беларускія валейбалісты дабіліся ўпершыню.

Шлях не быў усыпаны кветкамі. Праз нялёгкія выпрабаванні прайшла студэнцкая каманда. Былі і радасці перамог, і засмучэнні паражэнняў. І пошукі, пошукі...

Мінчанам, між іншым, доўга не шанцавала. Здаецца, і трэніраваліся шмат і падабраліся добрыя спартсмены, а пачнуць спаборніцтвы — абавязкова праграюць. У 1962 годзе на першынстве краіны мужчынская валейбольная каманда Беларусі заняла дваццатае месца. Праз год згуляла яшчэ горш — дваццаць другое месца.

У 1964 годзе каманда амаладзіла свой склад, многа трэніравалася, але ўсё роўна вышэй дваццаць першага месца заняць не здолела.

Невясёлыя і злосныя, вярнуліся хлопцы ў Мінск. Пачаўся навучальны год — лекцыі, семінары, практыка... Часу ў студэнта, як вядома, мала. Але амаль кожны дзень яны збіраліся разам, трэніраваліся, рыхтуючыся да новых паядынкаў.

Трэба сказаць, што ў тым годзе камандзе пашанцавала — яе трэнерам стаў майстар спорту заслужаны трэнер БССР Міхаіл Аркадзевіч Зумерград. Вопытны педагог, ён ведаў кожнага ігрока, бачыў яго станоўчыя і адмоўныя якасці. Хлопцы былі здольныя, валодалі тэхнікай, а вось гульня не ладзілася.

Пачалі параўноўваць якасці кожнага валейбаліста нашага «Буравесніка» і каманды, якой толькі што мінчане праігралі. І што ж выявілася? Індывідуальныя здольнасці, тэхніка, клас гульні мінчан былі лепшыя. А ў цэлым каманда наша была слабейшая. Яе гульні былі аднастайныя, падобныя адна на адну. Праціўнік хутка разгадваў любы манеўр і наносіў сур'ёзныя ўдары.

Трэба было тэрмінова перавучвацца. Не кожны здолеў перамагчы сябе, авалодаць новымі прыёмамі. Прыйшлося мяняць ігракоў, папаўняць калектыў маладымі, здольнымі спартсменамі.

У каманду ўвайшлі Валеры Кварцхава, Ігар Нісаеў, Георгі Маліноўскі — людзі, розныя і па фізічнай падрыхтоўцы, і па тэмпераменту, і па характару. Але ўсе яны па-сапраўднаму захапляюцца валейболам.

Ядром каманды засталіся ўсё ж ветэраны, тыя, што нямала зрабілі для згуртавання калектыву. Гэта — майстар спорту Леў Яркін, ігрок высокага класа, асноўны нападаючы; Генадзь Янаў, капітан каманды, асноўны разводзячы ігрок; Адольф Шадзько — нападаючы, які наносіць удары левай рукой, чым часта ўводзіць у зман саперніка.

Трэнер доўга прыглядаўся да Юрыя Васільева. Гэта дужы і вынослівы юнак. Некалькі год назад ён захапляўся барацьбой, выступаў напорыста, тэхнічна. Быў чэмпіёнам Мінска сярод юнакоў. Яму прадказвалі вялікую будучыню. А ён узяў ды і кінуў барацьбу, а захапіўся валейболам. Захапіўся моцна і аддана. Пры сваім зусім «невалейбольным» росце дамогся таго, што яго ўключылі ў вядучую каманду рэспублікі.

Юры стаў нападаючым. Свае абавязкі выконваў добра. Але ў камандзе не было разводзячага з высокай тэхнікай. Тады прапанавалі Юрыю стаць на гэтае месца. І не памыліліся. Не адзін дзесятак разоў ён выходзіў на пляцоўку і сваю ролю заўжды выконваў выдатна.

Той жа, 1964 год з'явіўся як бы стартавай пляцоўкай для «Буравесніка» і ў фармаванні каманды, і ва ўмацаванні спартыўнай базы. Да гэтага года ў яе склад уваходзілі студэнты з многіх навучальных устаноў сталіцы, што часта перашкаджала нармальным трэніроўкам. Зусім інакш пайшлі справы, калі базай валейбалістаў стаў Беларускі політэхнічны інстытут.

На Усесаюзных студэнцкіх гульнях 1964 года мінскі «Буравеснік» займае чацвёртае месца. Праз год каманда заняла трэцяе месца ў другой групе класа «А». Толькі аднаго ачка не хапіла ёй для пераходу ў вышэйшую лігу.

Першыя поспехі не ўскружылі галаву ні трэнеру, ні калектыву. Усе зразумелі, што каманда на правільным шляху.

І зноў трэніроўкі, трэніроўкі... Індывідуальная работа з кожным спартсменам стала асноўным метадам падрыхтоўкі каманды. Непазнавальнымі рабіліся нават тыя, што раней не вызначаліся актыўнасцю.

Павагай і любоўю ў калектыве карыстаецца Валеры Кварцхава — студэнт інжынерна-педагагічнага факультэта. Ён выконвае ролю абаронцы, па-майстэрску валодае індывідуальным блакіраваннем. І цяжка цяпер пазнаць у ім таго юнака, які тры гады назад прыйшоў да трэнера, маючы толькі жаданне стаць валейбалістам ды свой высокі рост — 194 сантыметры. Валейбаліст жа ў першую чаргу павінен быць вынослівым, валодаць вялікай стартавай хуткасцю, добра скакаць. А гэтыя якасці ў Валерыя якраз і адсутнічалі. Прыйшлося пачынаць з фізічнай падрыхтоўкі.

Ды хіба Валеры быў адзіны, каго давялося як бы занава перавыхоўваць, знаходзіць яму месца ў камандзе. Студэнт механіка-тэхналагічнага факультэта Георгі Маліноўскі ў камандзе ўжо трэці год. Захапляўся лёгкай атлетыкай, боксам. Не адразу знайшоў сябе Георгі і ў мінскім «Буравесніку». Пры добрай тэхніцы яму не заўсёды хапала настырнасці, каб давесці пачатую камбінацыю да канца. І ўсё ж, дзякуючы сваёй працаздольнасці, стаў іграком асноўнага складу, стабільным і ў нападзе, і ў абароне.

— Гэта надзвычай энергічны спартсмен,— гаворыць пра Георгія Міхаіл Аркадзевіч.— Сваёй энергічнасцю ён заражае і астатніх. Калі гуляеш разам з ім, нельга быць пасіўным.

Наступная задача, якая паўстала перад валейбалістамі, гэта — правільна ўкамплектаваць звенні. Напрыклад, у Адольфа Шадзько, Ігара Нісаева і Генадзя Янава выходзіць добра, калі яны гуляюць у адной лініі. Неяк здарылася, што на адной адказнай сустрэчы Шадзько не мог выступаць. Замест яго стаў Кварцхава. Гуляў добра, але адчувалася, што ён не заўсёды правільна разумее партнёраў, а тыя яго. Гэта падказала трэнеру, што кожнаму іграку трэба мець раўназначнага дублёра.

Звычайна, кожнае звяно, нават кожнага ігрока, трэнер экзаменаваў на вучэбных гульнях, на таварысцкіх сустрэчах з мацнейшымі камандамі краіны. Напярэдадні сёлетняга чэмпіянату мінчане сустракаліся з валейбалістамі Масквы, Ленінграда, Кіева, Адэсы, Алма-Аты, прыбалтыйскіх рэспублік. На гульнях



**Каманда «Буравеснік» у гульні.**
Фота **Д. Церахава.**

**Члены каманды ўважлівыя да свайго трэнера Міхаіла Зумерграда** (другі справа).



склад каманды мяняўся, мяняліся звенні і дублёры. Гэта дало магчымасць праверыць кожнага валейбаліста ў гульні. Так цэментаваўся *калектыў*.

Своеасаблівай «абаронай дыпломнага праекта» з'явілася для «Буравесніка» першынство краіны 1966 года. Каб даказаць, *што каманда вырасла, што яна сапраўды* моцная, трэба было заваяваць права перайсці ў першую групу класа «А». За яго змагаліся шаснаццаць *калектываў краіны*.

Спаборніцтвы праводзіліся ў тры туры. Мінчанам пашанцавала: першы тур праходзіў у беларускай сталіцы. Дома, *як кажуць, і сцены памагаюць*. Беларусы ўпэўнена выйшлі на пляцоўку. Іх сапернікамі былі дынамаўцы Іркуцка, навічкі ў класе «А». У той час у іхняй *камандзе не было ніводнага майстра спорту*, усе ігракі маладзей за дваццаць год. Студэнты спадзяваліся на лёгкую перамогу. Госці змагаліся мужна, з энтузіязмам. *Толькі воля і вопыт памаглі* нашым землякам выйграць 3 : 2.

Сустрэча з'явілася добрым экзаменам для мінчан. Яны яшчэ раз зразумелі, што фанабэрыя ў спорце не памочнік. Астатнія гульні яны правялі добра: набралі максімальную колькасць — сем ачкоў. Першы этап спаборніцтваў прайшлі *без паражэнняў*. Героем тура стаў Леў Яркін. Яго прызналі лепшым нападаючым і ўзнагародзілі прызам.

Другі тур адбыўся ў Іжэўску. І тут беларусы прадоўжылі сваё пераможнае шэсце: узначалілі фінішную табліцу. Перамога ў Мінску не ўскружыла ім галавы. Наадварот, яны мабілізавалі сілы і гулялі стабільна. Усе паядынкі, нават са слабейшымі сапернікамі, правялі роўна, аднолькава моцна.

Цяжкія абставіны склаліся на трэцім туры ў Тбілісі. Перад гэтым мінчане не зусім удала выступілі на універсіядзе. Але трэнер і ўвесь калектыў зрабілі ўсё, каб вярнуць сабе працаздольнасць, і дабіліся перамогі.

Разам з вопытнымі спартсменамі ў Тбілісі выступаў яшчэ амаль не «абстраляны» Аляксандр Пімахін.

Ці было рызыкай уключэнне Аляксандра Пімахіна ў асноўны склад? Пімахіну толькі васемнаццаць гадоў. У той час, *калі каманда выступала ў першых двух турах*, ён яшчэ нават не жыў у Мінску. Аляксандр, як і Маліноўскі, пачынаў займацца валейболам у гродзенскага *трэнера Васіля Аляксеевіча Князева*. Праўда, у яго быў ужо некаторы вопыт удзелу ва ўсесаюзных спаборніцтвах — ён выступаў у Варонежы на занальным першынстве краіны сярод юнакоў і на фінальных спаборніцтвах у Львове, дзе атрымаў добрую ацэнку і стаў кандыдатам у юнацкую зборную краіны.

І ўсё ж, уключаючы Пімахіна ў асноўны склад каманды, трэнер Міхаіл Аркадзевіч ішоў на рызыку. Але вера ў здольнага спартсмена, памножаная на дружны ансамбль каманды, перамаглі. Беларусы выступілі добра, малады ігрок прайшоў баявое хрышчэнне і разам з тым набыў першы бал для атрымання звання майстра спорту СССР.

16 верасня пачаўся фінальны турнір, на якім сустрэліся шэсць лепшых каманд другой падгрупы, каб выявіць двух пераможцаў — заняць месца ў вышэйшай лізе. З розным багажом прыехалі сюды спартсмены. Эстонскі «Калеў» не меў ні аднаго паражэння — пяць ачкоў. Беларусы з пятнаццаці гульняў мелі адзін пройгрыш (эстонцам) — чатыры ачкі. Тры перамогі мелі дынамаўцы Іркуцка і дзве — Луганскі «Авангард».

Пяць дзён праходзілі напружаныя сустрэчы ў Сочы. Беларускія валейбалісты даказалі, што яны па праву мацнейшыя ў сваёй падгрупе.

Цяпер у студэнтаў гарачая пара — хутка пачнецца зімовая экзаменацыйная сесія. Студэнты — у аўдыторыях, бібліятэках, лабараторыях... Але валейбалісты мінскага «Буравесніка» рыхтуюцца і да першынства краіны. Вышэйшая ліга патрабуе добрай падрыхтоўкі...

Вытрымаць абодва экзамены ў студэнтаў ёсць усе магчымасці.

**Георгі ФІЛОНЧЫК.**

# СПАРТЫЎНАЯ МАЗАІКА

●

Бразілец Пенайга — вельмі добры футбаліст: за адзін сезон яму ўдалося забіць пятнаццаць мячоў. Але некаторыя з іх трапілі ў свае вароты. Трэнер каманды перавёў яго з абароны ў нападзенне, каб ён быў далей ад сваіх варот. *А таварышы па камандзе падарылі Пенайгу ў дзень нараджэння компас з надпісам*: «Працўнік насупраць».



●

Трэнер французскай футбольнай каманды «Араго», пяцідзесяцігадовы Юлі Вандорэ, сказаў сваім сябрам, якія захапляліся яго стройнай пастацю: «Каб мець поспех у сваёй рабоце, трэнер павінен быць аскетам. Не разумею, як гэты таўстун Феола можа знайсці работу?» (Феола — трэнер бразільскіх футбалістаў, двухразовы чэмпіён свету.)

●

Заходнегерманскі спартыўны фотарэпарцёр Вернер Вольмер паспрабаваў зрабіць арыгінальны здымак на спаборніцтвах па скачках у ваду ў Дортмундзе. Там побач стаялі дзве вышкі, спаборніцтвы праходзілі на адной з іх. Вольмер забраўся на другую і скочыў уніз адначасова са спартсменам. У палёце ён зрабіў здымак. Усе, нават суддзі, загледзеліся на яго. За гэта ён быў выгнаны з басейна. І ўсе яго намаганні аказаліся марнымі, бо здымак і да гэтага часу не апублікаваны.

●

Краса і гонар бразільскага футбола Пеле адправіўся ў вясельнае падарожжа па Еўропе. Перад ад'ездам ён атрымаў загад ад старшыні клуба «Сантос» не садзіцца за руль аўтамабіля. Пеле не здзівіўся: гэта для яго не першая забарона такога роду. Перад першынством свету ў Чылі ў 1962 годзе гэтага ж патрабаваў ад Пеле ў спецыяльным распараджэнні глава ўрада.

●

Хакей пад вадою — новы і даволі незвычайны від спорту — з'явіўся нядаўна ў Канадзе і ў Злучаных Штатах. Мяркуючы па газетных вестках, такая назва гульні няўдалая. Лепш было б назваць «Камандная бойка пад вадою». Улюбёны прыём ігракоў — гэта зрыванне маскі ў саперніка.

●

Вядома, што моцная воля можа кампенсаваць фізічныя недахопы. Напрыклад, аднаногая ад нараджэння Сара Ньланд стала вядомай плыўчыхай Ямайкі. У спаборніцтвах па пераплыванню Кінгстонскага заліва яна перамагла многіх мужчын і заняла шостае месца.

●

Гонкі на вярблюдах па пустыні... Такія экзатычныя спаборніцтвы адбыліся ў 1898 годзе ў Туггурце (Алжыр). Два вярблюды-пераможцы фінішыравалі праз 12 гадзін 47 мінут, пераадолеўшы адлегласць у 220 кіламетраў.

●

Бег на вялікія дыстанцыі — «прывілея» мужчын. Аднак італьянская спартсменка Эльза Паскваллі не захацела змірыцца з гэтым. Нядаўна яна ўдзельнічала ў бегу на 30 кіламетраў. Але і гэтага ёй паказалася недастаткова. Цяпер, па словах яе трэнера Марыо Ланзі, яна рыхтуецца да марафонскага бегу. Калі яна прыме ў ім удзел, то любы вынік, дасягнуты ёю, можа надоўга стаць рэкордам, бо ў Паскваллі, мусіць, не хутка знойдуцца паслядоўніцы.

●

Магелану спатрэбілася тры гады, каб аб'ехаць вакол Зямлі. А ці здолее чалавек абабегчы вакол яе (калі б, вядома, быў суцэльны пояс з сушы)? Аказваецца, можа. Вядомы румынскі лёгкаатлет Дзін Крысцеа — цяпер яму 54 гады — за час сваіх трэніровак і выступленняў на спаборніцтвах прабег адлегласць, роўную чатыром паясам вакол зямнога шара.

●

Італьянскі суддзя па футболу Паола Гуззі — па прафесіі гадзіннікавы майстар — сканструяваў вялізны судзейскі секундамер. Праз кожныя чвэрць гадзіны з секундамера даносіцца бурчанне балельшчыкаў, а праз кожныя паўгадзіны раздаецца свіст, кожная ж гадзіна суправаджаецца крыкам: «Суддзю да тэлефона!» (больш ветлівы варыянт вядомага «Суддзю на мыла!»). Апоўдні з гадзінніка выходзіць суддзя, перабінтаваны, а за ім натоўп крыклівых балельшчыкаў. Напэўна, фігурка суддзі — аўтапартрэт, таму што Гуззі адмаўляецца ад даволі выгаднай прапановы прадаць гадзіннік.

**Віктар ЛАМЕЙКА.**



**Раздзел вядзе міжнародны гросмайстар Аляксей СУЭЦІН**

# РЭПЕТЫЦЫЯ СПАРТАКІЯДЫ

Спаборніцтвы мацнейшых шахматных калектываў краіны сталі добрай традыцыяй. У будучым годзе зборныя саюзных рэспублік па ўсіх відах спорту сустрэнуцца на Юбілейнай спартакіядзе народаў СССР. Сярод іх будуць і шахматысты, якія пачалі рыхтавацца да спартакіяды загадзя. Сёлета ў Маскве сустракалася адзінаццаць мацнейшых калектываў, якія і разыгралі званне мацнейшага калектыву краіны. Кожная каманда складалася з шасці мужчын, трох юнакоў да дваццацігадовага ўзросту, дзвюх жанчын і адной дзяўчыны. Такім чынам, адбыліся баі на дванаццаці дошках. У фінале было сыграна 660 партый!

У турніры мацнейшых прымалі ўдзел лепшыя з лепшых. Дастаткова сказаць, што там было дзевятнаццаць гросмайстраў, з якіх восем самых моцных гулялі на першай дошцы. Гэта — чэмпіён свету Ц. Петрасян («Спартак»), экс-чэмпіёны свету М. Батвіннік («Праца») і М. Таль («Даўгава»), В. Смыслоў («Буравеснік»), чэмпіён СССР Л. Штэйн («Авангард»), экс-чэмпіён СССР П. Керас («Калеў») і Я. Гелер («Узброеныя сілы»). Салідным гросмайстарскім складам вызначаліся ігракі другой і трэцяй дошак. Гэта — В. Карчной («Праца»), Л. Палугаеўскі («Буравеснік»), А. Суэцін («Спартак»), Я. Васюкоў («Узброеныя сілы»), Ю. Авербах («Праца»), М. Тайманаў («Буравеснік»), Р. Холмаў («Спартак»).

Спаборніцтвы прайшлі ў напружанай спартыўнай барацьбе. Чатыры калектывы — «Праца», «Узброеныя сілы», «Спартак» і «Буравеснік» — на фінішы апярэдзілі іншыя калектывы і вялі жорсткую барацьбу за медалі. Здавалася, што найбольшыя шансы на тытул чэмпіёна краіны маюць шахматысты «Працы» на чале з М. Батвіннікам і В. Карчным. Але ў апошнім туры перамогу атрымаў «Спартак» з лікам 7 : 5. І гэта дало магчымасць згуртаванай камандзе «Узброеных сіл», якая набрала 80,5 ачка з 120 магчымых, абысці «Працу» на паўачка і заваяваць залатыя медалі. Паўачка былі ў гэтым выпадку сапраўды залатыя! У камандзе-пераможцы былі гросмайстры Я. Гелер, Я. Васюкоў, міжнародныя майстры Э. Гуфельд і В. Ліберзон, майстар В. Савон, міжнародны майстар К. Зварыкіна, майстар К. Снегіна і маладыя шахматысты.

Барацьба за наступныя тры месцы была таксама напружаная. Срэбраныя медалі атрымалі шахматысты «Працы», якія набралі восемдзесят ачкоў, бронзавыя — шахматысты «Спартака» (семдзесят дзевяць ачкоў). Не трапіў у прызёры вельмі моцны калектыў «Буравесніка» (семдзесят восем ачкоў). Наступныя месцы занялі «Даўгава», «Лакаматыў», «Авангард».

Вялікую цікавасць выклікалі гросмайстарскія паядынкі на першай дошцы. Тут тон задаў ветэран савецкіх шахмат Міхаіл Батвіннік. Сваіх маствітых партнёраў аднаго за другім «вучыў» ён у першай палове гульні, калі гулялі яны не на поўную сілу. Добрыя ўрокі атрымалі Смыслоў, Керас, Спаскі і другія.

Вельмі цяжкі быў рэгламент турніру. Гуляць прыходзілася і раніцай і вечарам. Вялікае напружанне, відаць, адбілася і на фінішы Батвінніка: ён прайграў у дзесятым і адзінаццатым турах Талю і Петрасяну. Тым не менш, набраўшы 6 ачкоў з 9 магчымых, Батвіннік быў прызнаны пераможцам турніру на першай дошцы. У Гелера 6,5 з 10, Петрасян і Таль набралі па 6 з 10, у Смыслова 5,5 з 10, а ў Кераса — 5. Няўдала выступілі Спаскі і Штэйн, якія набралі менш палавіны. Але гульню вядучых майстроў цяжка ацэньваць колькі-небудзь катэгарычна: вялікая колькасць іх паядынкаў працягвалася не больш паўгадзіны па дарэшты вывучаных нічыйных варыянтах. Трэба сказаць, што турнір на першай дошцы наогул не атрымаўся, хоць гульня М. Батвінніка пакінула вялікае ўражанне, таксама як і яго сур'ёзныя адносіны да гульні.

На другой дошцы перамог нястомны В. Карчной — 7,5 з 10 магчымых. На трэцяй першынствавалі Р. Холмаў і Э. Гуфельд — па 8 з 10. У жанчын мацнейшай на першай дошцы стала майстар В. Барысенка («Лакаматыў»). У юнакоў на першай дошцы першым быў Віталіньш («Узброеныя сілы») — 7 з 10. Абсалютна ж лепшы вынік на трэцяй юначай дошцы паказаў Косікаў («Авангард») — 9 з 10.



На турніры было сыграна нямала цікавых партый. Вось некалькі прыкладаў.

**Батвіннік — Керас.** Англійскі пачатак: 1. c4 Kf6, 2. Kc3 e5, 3. Kf3 Kc6, 4. g3 Cc5, 5. K:e5 C:f2+, 6. Kp:f2 K:e5, 7. e4 c5, 8. d3 d6, 9. h3.

Дэбютная барацьба склалася ў карысць белых, якія атрымалі перавагу на два сланы і добрыя віды на далейшую ініцыятыву. Далей Батвіннік з вялікім уздымам нарошчвае ініцыятыву.

9. ...h5, 10. Ce2 Kh7, 11. Kpg2 h4, 12. g4 Kg5, 13. Ce3 Cd7, 14. Фd2 Ke6, 15. b4 b6, 16. Лab1 Cc6, 17. Лhf1 Cb7, 18. Kpg1 Kc6, 19. Kd5 Kcd4, 20. Cd1 f6, 21. Kph2 Cc6, 22. a4 a5.

Сур'ёзны пралік! Чорныя маглі яшчэ ўпарта абараняцца, але цяпер яны неасцярожна дапускаюць ускрыццё лініі «b» і трапляюць пад сакрушальную атаку.

23. ba ba, 24. Фf2 Лa7, 25. g5 0—0, 26. gb f5, 27. Лb8!, і чорныя здаліся.

Няцяжка пераканацца, што на 27. ... Ф : b8 вырашае 28. Ф : h4!

**Батвіннік — Петрасян.** Англійскі пачатак: 1. c4 g6, 2. g3 Cg7, 3. Cg2 d6, 4. Kc3 c5, 5. d3 Ke7, 6. e4 0—0, 7. Kge2 Kbc6, 8. 0—0 f5, 9. Kd5 Kph8, 10. Ce3 Ce6, 11. Фd2 Фd7, 12. Лae1 Лae8, 13. f4 ef, 14. K:f4 Cg8, 15. K:e7 K:e7, 16. Ch3.

Батвіннік віртуозна трактуе такія пазіцыі. Непрыкметна чорныя трапляюць у паласу вялікіх цяжкасцей.

16. ...b5, 17. b3 c5, 18. d4 Фc6, 19. cb Ф:b5, 20. dc, dc, 21. Лc1 Лd8, 22. Фe2 Ф:e2, 23. K:e2 c4.

Шукаючы ўскладненні, Петрасян ахвяруе пешку. Пачынаецца жывая фігурная гульня.

24. bc Kc6, 25. Cg5 fe.

Чорныя ідуць на ахвяраванне якасцю, лічачы гэта лепшым практычным шансам. Заслугоўвала ўвагі і 25. ...Kd4, і калі 26. K:d4 Cd4+, 27. Kph1 Лc8, або 26. Kc3 Лc8, захоўваючы шансы на раўнавагу.

26. C:d8 Л:d8, 27. Cg2 Kd4, 28. K:d4 C:d4+, 29. Kph1 e3, 30. Лfe1 Cc5, 31. Cf3 Ce6, 32. Kpg2 Лd2+, 33. Лe2 Cf5, 34. Лc3? (Грубы пралік. Робячы 34. Л:d2, белыя захоўвалі перавагу.) 34. ...Ce4!, і белыя здаліся.

**Штэйн — Гелер.** Стараіндыйская абарона: 1. d4 Kf6, 2. c4 g6, 3. Kc3 Cg7, 4. e4 d6, 5. Cg5 h6, 6. Ch4 c5, 7. d5 Фa5, 8. Cd3 g5, 9. Cg3 K:e4, 10. C:e4, C:c3+, 11. bc Ф:c3+, 12. Kpf1 f5.

Цікавая канцэпцыя. Чорныя задумалі доўгую фарсіраваную гульню. Ужо тут ад белых патрабавалася дакладнасць і яшчэ раз дакладнасць дзеянняў. Правільна толькі 13. Лc1!



**Яны змагаліся за славу савецкіх шахматыстак на чэмпіянаце свету: Нона Гапрындашвілі, Таццяна Затулоўская, Валянціна Казлоўская.**
Фота **А. Кляйменавай.**

Наступны натуральны ход белых — магчыма, ужо рашаючая памылка.

13. Ke2? Фf6, 14. Cc2 f4, 15. h4 Лf8! (Вельмі хітры ход! На 16. Ch2 вырашае 16. ...f3!) 16. hg hg, 17. K:f4 gf, 18. Ch2 Kd7, 19. g3 Ke5, 20. Фh5+ Kpd8, 21. gf Kg4, 22. Лe1 Лh8, 23. Ch7 Фg7!, і белыя здаліся.

Павучальна хуткі разгром.

У часе каманднага першынства СССР адбыўся агляд юных талентаў.

На першай юначай дошцы будучыя гросмайстры вялі жорсткую, упартую барацьбу. Перамога дасталася дзевятнаццацігадоваму рыжаніну Віталіньшу («Узброеныя сілы»), які набраў сем ачкоў з дзесяці магчымых і апярэдзіў такіх вядомых юных шахматыстаў, як Тукмакоў, Балашоў і іншых. Было, праўда, абмежаванне ўзростам: не ўдзельнічалі самыя юныя чатырнаццацігадовыя майстры Толя Карпаў з Тулы і Міша Штэйнберг з Харкава. Заўважым, што ў такім юным узросце яшчэ ніхто да іх не пераступаў майстарскі рубеж.

На жаночых дошках таксама ішлі цікавыя баі. К. Зварыкіна вярнулася ў Мінск з залатым медалем за першую дошку ў камандзе «Узброеных сіл».

Своеасаблівую размінку перад Сусветнай жаночай алімпіядай правялі нашы вядучыя шахматысткі Нона Гапрындашвілі, Таццяна Затулоўская і Валянціна Казлоўская. Яны згулялі за свае калектывы толькі па тры партыі і паехалі змагацца за медалі чэмпіянату свету ў Оберхаўзен (ФРГ). Намаганні іх не прапалі дарэмна — яны паспяхова пранеслі сцяг савецкіх шахмат і трэці раз (запар) узялі залатыя медалі чэмпіёнак свету.

«Залатую восень» савецкія шахматысты правялі як належыць.

## Усмешкі маладосці

# СЯБРОЎСКІЯ ШАРЖЫ

Эпіграмы **Міхася ДРОЦІКА**
і **Максіма НЯБАЧНАГА**
Малюнкі **Міхася ЛІСОЎСКАГА**




### Петрусю МАКАЛЮ

Вачэй да ранку не змыкаў.
Удзень хаджу разбіты...
Нібыта ў стропах,—
я, Макаль,
Заблытаўся ў арбітах.
Што ні паэт —
то новы шлях.
Арбітаў столькі новых!
Хоць ты ўжо,
родная Зямля,
Трымайся Макалёвай.



### Рыгору БАРАДУЛІНУ

Я выверыў, верна вершачы
верш:
Парнас —
вяршыня амаль касмічная.
Таму я і ўзброіўся перш-
наперш
Сучаснай тэхнікай
паэтычнаю.
Зрываючы з дрэўцаў
выцвілы шоўк
Былых паэтычных штандартаў,
Я ляскаю рыфмамі —
шчоўк ды шчоўк —
На ўзроўні сучасных
стандартаў.



### Веры ВЯРБЕ

Я клянуся — ніколі, ніколі
На адным не спыняюся колеры.
Я, Вярба, зелянею ў маі,
Колер снегу зімой прымаю,
А ў сярэдзіне верасня недзе
Чырванею полымем медзі...
Маё сэрца, як ліст асенні,
Упадзе... Ды скажу па
шчырасці,
Я не плачу: парой вясенняй
Зноў яно для кахання вырасце.

### Анатолю СЕРБАНТОВІЧУ

Праклюнуўшыся з гучным
крыкам,
Я слоў крупу дзяўбу няспынна
І стаў бы ўжо даўно вялікім,
Калі б не гэта шкарлупіна...








— Цяпер я кожную вольную хвіліну прысвячаю атлетызму.

Мал. В. Дземідзюка.

Што ты, любая! Гэта ж ланцугі для колаў нашага аўтамабіля!



# ЗМЕСТ

## ЧАСОПІСА «МАЛАДОСЦЬ» ЗА 1966 ГОД

### ПРОЗА





### ПАЭЗІЯ





## 50 ГОД ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА



## ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ — ДЗЕНЬ ЗАЎТРАШНІ







## ПІСЬМЕННІКІ, КНІГІ, ЧАС

## З ДАЛЁКІХ І БЛІЗКІХ ДАРОГ



## ПУБЛІЦЫСТЫКА



## СУР'ЁЗНАЕ І КУР'ЁЗНАЕ



## СТАРТЫ І ФІНІШЫ



## ШАХМАТЫ



## ШАШКІ





## УСМЕШКІ МАЛАДОСЦІ



**ФОТА:** У. Адарыча (III), В. Бараноўскага (IV, V, VI, XI, XII), В. Бараноўскага і В. Ждановіча (VI), В. Бараноўскага і Д. Прэса (V), П. Белавуса (I), А. Бушылы (VII), М. Бяляева (VIII), У. Вяхоткі (VIII), А. Дзітлава (V, VI, VIII), П. Дзюбіна (IX), В. Ждановіча (I, II, III, IV, VI, VIII, IX, X, XI, XII), з фондаў Дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва БССР (XI), з фондаў Літаратурнага музея Якуба Коласа (X, XII), з фондаў Літаратурнага музея Янкі Купалы (VII), Ю. Іванова (VIII), Ю. Іванова і А. Каляды (III), Р. Кадзета (V), А. Кляйменавай (VII, XII), С. Кохана (II, XII), У. Крука (V, XI, XII), В. Луцэнкі (I, VI), Э. Мазайскага (IX), Я. Майстарса (III), Т. Мечанка (III), Г. Меншыкава (V), У. Мяжэвіча (VII), Я. Мяцеліцы (II), Д. Прэса (V), М. Смольскага (VII), Т. Старчанкі (X), Э. Трапачука (VII), фотахронікі БЕЛТА (VII), фотахронікі ТАСС (VII), Д. Церахава (I, II, VIII), Ф. Чаховіча (IV), С. Чырэшкіна (IV, VI, VIII, XI, XII), І. Шаблоўскай і В. Янкоўскага (II), Л. Эйдзіна (V).

**МАЛЮНКІ:** Л. Агафоненкі (I), Ю. Архіпава (II, XI, XII), Л. Асецкага (II, V, XI), А. Бараноўскага (VIII, XI), Ф. Бараноўскага (II, V, X, XI), А. Волкава (IV, IX, XI, XII), С. Геруса (V), В. Губара (X), Э. Гусейнава (III), І. Давідовіча (VII, VIII, XII), В. Дзямідзюка (XI, XII), В. Долгава (V, VIII), П. Драчова (XII), Р. Дубяліра (VIII), А. Жыхарэвіча (I), з Рэспубліканскай выстаўкі дзіцячай творчасці (IX), В. Кандзера (I, IV, IX), І. Капеляна (IV), Я. Кібрыка (I), М. Лісоўскага (III, VII, XII), Я. Пакаташкіна (IV), Г. Паплаўскага (I), Л. Пастэрнака (VII), У. Пашчасцева (II), Ю. Пучынскага (I, VII), А. Райнашвілі (IX), Я. Рамаоўскага (III, XII), П. Свентухоўскага (II), Г. Скамарохава (III, V, VI, IX, X, XII), У. Філіпенкі (II), К. Ціхановіча (XII), А. Чуркіна (I, IV, X), Л. Чурко (I), М. Чэпіка (VI, VII, VIII), В. Шаранговіча (I, III, VI, IX), В. Швяцова (I), В. Шрамякова (II, IV, VI, IX, X).

**РЭПРАДУКЦЫІ З РАБОТ МАСТАКОЎ:** Р. Аптэкіна (XI), В. Бараўко (XI), В. Бялыніцкага-Бірулі (VII), В. Васільева (IV), Г. Гафуравай (X), Б. Герлавана (XI), І. Голубева (XII), Н. Голышавай (X), П. Дурчына (VIII), В. Жоўтак (V), П. Канчалоўскага (II), А. Краўчука (X), П. Крохалева (VII), У. Кузьменкі. (II), М. Куйчыка (I), Ф. Мадорава (V), Я. Майсеенкі (II), Р. Маліноўскага (XI), М. Меранкова (X), У. Мінейкі (VI), М. Міхайлава (II), Б. Няпомняшчага і Б. Уса (V). Я. Нячаевай (XI), Л. і Я. Пакаташкіных (IV), Ю. Пучынскага (IV), А. Санькова (X), П. Свентухоўскага (XII), Б. Уса (I), І. Ціхановіча (II), Я. Ціхановіча (VIII), В. Шаранговіча (XI), Л. Шчэмелева (VIII), Я. Ясвіна (XII).

**РАБОТЫ СКУЛЬПТАРАЎ:** А. Анікейчыка (VII), А. Арцімовіча (X), С. Вакара (XII), І. Краўчанкі (X), Б. Лазарэвіча (VII), І. Міско (XII).

## Нашы аўтары

**БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА Данута** нарадзілася ў 1938 годзе ў Лідскім раёне. Скончыла Гродзенскі педагагічны інстытут імя Янкі Купалы і настаўнічае ў Гродна.

Выйшлі два зборнікі вершаў — «Дзявочае сэрца» і «Нёман ідзе».

**КІРЭЕНКА Кастусь** нарадзіўся ў 1919 годзе на Слаўгарадчыне. Скончыў літаратурны факультэт Гомельскага педагагічнага інстытута.

Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.

Пісаць і друкавацца пачаў у 1939 годзе. Першы зборнік вершаў «Ранак ідзе» выйшаў з друку ў 1945 годзе. З таго часу плённа працуе ў літаратуры.

Кастусь Кірэенка — лаўрэат Рэспубліканскай літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы.

**ВАГЕР Зінові** нарадзіўся ў 1917 годзе ў Тураве. Скончыў Віцебскае мастацкае вучылішча. Служыў у Савецкай Арміі. Цяпер працуе выкладчыкам малявання ў Пінскім педагагічным вучылішчы імя А. С. Пушкіна.

**БЫКАЎ Васіль** нарадзіўся на Полаччыне ў 1924 годзе. З першых дзён вайны і да перамогі ваяваў на фронце, камандаваў узводам супрацьтанкавай артылерыі.

Друкавацца пачаў у 1955 годзе. Вядомы як аўтар аповесцей «Жураўліны крык», «Здрада», «Трэцяя ракета» «Альпійская балада», «Мёртвым не баліць» і апавяданняў, сабраных у кнігу «Адна ноч».

**ЗАРЫЦКІ Аляксей** нарадзіўся ў 1911 годзе ў Хоцімску. Скончыў Маскоўскі інстытут замежных моў. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Аўтар кніг: «Эпічныя фрагменты», «Арліная крыніца», «Залатое дно», «Вершы і паэмы» і многіх іншых.

**ПАЛЬЧЭЎСКІ Алесь** — адзін са старэйшых беларускіх пісьменнікаў. Нарадзіўся ў 1905 годзе ў вёсцы Прусінава на Уздзеншчыне. Аўтар пяці кніжак для дзяцей: «Беражанкі», «Аля і Галя», «Ты не адзін», «Дым над лесам», «Данеўцы — нашы знаёмыя» і трох — для дарослага чытача: «Родныя берагі», «Жнівеньская раніца», «Мора на камені» (выбранае).

Асобныя кнігі Алеся Пальчэўскага выйшлі ў перакладах на рускую і ўкраінскую мовы.


Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Ігар КРАЎЧАНКА.**
Карэктары **Лідзія ТАЎЛАЙ** і **Ніна КУЛАКОЎСКАЯ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **93-854** — сакратарыят і аддзел крытыкі, **93-592** — аддзелы паэзіі і прозы, **93-892** — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **93-775** — аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 1/XI-66 г. Падпісана да друку 25/XI-66 г.
АТ 08932. Тыраж 7772 экз. Зак. 604. Цана 40 кап. Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10.
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі прасп. 79.**




І лягла ж цішына
У бары за гарой,—
Каб дравінка адна
Хоць кіўнула сабой.
Снег пушаны залёг
На галінах сасон,
І чарнобель, і мох
Атуліў сабой ён.
Сокат птушак замёр,
Як бы поўнач была,
Адно свісне тапор
Ды зазвоне піла.

**Янка КУПАЛА**

**Фота Віталя Бараноўскага**